АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ЛЕКСІЧНЫ АТЛАС беларускіх народных гаворак

у пяці тамах

## Том I

## РАСЛІННЫ І ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ

ФОНД ФУНДАМЕНТАЛЬНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
КАМІТЭТ ГЕАДЭЗІІ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МІНСК 1993

Пад рэдакцыяй М.В. БІРЫЛЫ і Ю.Ф. МАЦКЕВІЧ.
Навуковыя рэдактары тома: Ф.Д. КЛІМЧУК, Я.М. РАМАНОВІЧ, І.Я. ЯШКІН.
Вялікую працу выканаў І.Я. ЯШКІН па арганізацыі і ажыццяўленні выдання тома.
Рэдакцыйная калегія тома: Ф.Д. КЛІМЧУК, А.А. КРЫВІЦКІ, Ю.Ф. МАЦКЕВІЧ, П.А. МІХАЙЛАЎ, Я.М. РАМАНОВІЧ, А.І. ЧАБЯРУК, І.Я. ЯШКІН.
Рэцэнзенты: С. ГЛІНКА (Варшава), А.Ф. МАНАЕНКАВА (Мінск), А.І. ГРЫНАВЕЦКЕНЕ (Вільнюс).

## АЎТАРСКІ КАЛЕКТЫЎ

АРАШОНКАВА Г.У., кандыдат філалагічных навук–карты № 41–53, 76, 79, 81–87.

БІРЫЛА М.В., доктар філалагічных навук, акадэмік (сумесна з ЛЕМЦЮГОВАЙ В.П.) –карты № 5, 38–40, 54–57, 60–68, 74.

ГРУЦО А.П., доктар філалагічных навук–карты № 212, 216, 217, 222, 225; Спіс абследаваных населеных пунктаў (сумесна з МІХАЙЛАВЫМ П.А.); Алфавітны паказальнік абследаваных населеных пунктаў (сумесна з МІХАЙЛАВЫМ П.А.); Алфавітны паказальнік абследаваных раёнаў (сумесна з МІХАЙЛАВЫМ П.А.).

ІСАЕНКА У. Ф., кандыдат гістарычных навук–карты № III–VI.

КЛІМЧУК Ф.Д., кандыдат філалагічных навук–карты № VII–XV, XVII–XIX, № 58, 59, 138–168, 170–172, 173 (сумесна з РАМАНОВІЧ Я.М.), 174–179, 203–206, 213, 232, 237, 238, 243, 244, 255, 256, 259, 262, 268, 272, 273, 278.

КРАЎЧАНКА З.Ф., кандыдат філалагічных навук–карты № 214, 215, 218–221, 223, 224, 226, 227.

КРЫВІЦКІ А.А., кандыдат філалагічных навук–карты № 320–339, 345–348, 353–355, 362, 365.

ЛОБАЧ С.Г., малодшы навуковы супрацоўнік–карты № 297, 298, 300–306, 307 (сумесна з ЧАБЯРУК А.І.), 308–313, 315–317, 319, 352, 360, 363, 364, 366–368.

ЛЕМЦЮГОВА В.П., доктар філалагічных навук (сумесна з БІРЫЛАМ М.В.)–карты № 5, 38–40, 54–57, 60–68, 74.

МАЦКЕВІЧ Ю.Ф., доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН Беларусі–карты № 1–4, 69–73, 75, 77, 78, 80, 88, 91, 228–231, 233–236, 239–242, 245–254, 257, 258, 260, 261, 263–267, 269–271, 274 –277, 299, 314, 318, 349–351; Прадмова; Спіс збіральнікаў; Індэкс.

МІХАЙЛАЎ П.А., кандыдат філалагічных навук –карты № 340–344, 356–359, 361; Спіс абследаваных населеных пунктаў (сумесна з ГРУЦО А.П); Алфавітны паказальнік абследаваных населеных пунктаў (сумесна з ГРУЦО А.П); Алфавітны паказальнік абследаваных раёнаў (сумесна з ГРУЦО А.П.).

РАМАНОВІЧ Я.М., кандыдат філалагічных навук –карты № 6–23, 117–137, 169, 173 (сумесна з КЛІМЧУКОМ Ф.Д.), 180–190.

СТАРЫЧОНАК В.Дз., кандыдат філалагічных навук –карты № 201, 207–211.

ЦІТОЎ В.С., доктар гістарычных навук–карта № XVI.

ЧАБЯРУК А.І., кандыдат філалагічных навук–карты № 24–37, 89, 90, 92–116, 307 (сумесна з ЛОБАЧ С.Г.).

ЯШКІН І.Я., кандыдат філалагічных навук–карты № 191–200, 202, 279 –296.

Вялікую працу па падрыхтоўцы да выдання гэтага тома атласа выканалі малодшыя навуковыя супрацоўнікі БЫКАВА Н.У., ЛОБАЧ С.Г., ТРУХАН Т.М., старшыя лабаранты ІВАНОВА Ж.П., МАРКУШЭЎСКАЯ Г.П.

Выданне атласа фінансавалі: Фонд фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь, Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі, Беларускі фонд культуры, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларуская праваслаўная царква, Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў, Брэсцкі дзяржаўны пединстытут, выдавецтва „Мастацкая літаратура", Аддзел навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках Акадэміі навук Беларусі, Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, Таварыства беларускай мовы, былыя арганізацыі КПБ Акадэміі навук БССР.

Асабісты ўклад у выданне Атласа зрабілі: Г.У. Анцыпаў, П.У. Бондар, А.М. Валяшкевіч, І.М. Валяшкевіч, Э.І. Васільеў, В.В. Высеўка, В.К. Гутарава, С.А. Гутараў, Г.М. Дашкевіч, В. Ермалёнак, А.А. Кавалёў, П.Я. Казіна, В.Ф. Каліноўскі, І.М. Камендаў, А.Я. Каспяровіч, А.Я. Касяк, М.У. Касяк, Л.М. Касяк, Н.М. Касяк, М.П. Клімовіч, Э.Ц. Круцько (Ціханава), М.А. Крыловіч, А.В. Мальдзіс, В.У. Мулярчык, Г.С. Нагорная, Л.А. Пашкун, Г.П. Пашкоў, М.М. Рудзенка, І.В. Саверчанка, З.Санько, Н.Санько, М.А. Саскевіч, В.К. Смалячкоў, У.І. Содаль, П.У. Сцяцко, Л.В. Тарасюк, Д.І. Траццякоў, А.П. Фурс, М.М. Фядзеня, Л.Р. Чуйко, І.П. Чыгрын, В.Я. Яшкін, М.Я. Яшкіна (Паўлоўская), Н.К. Яшкіна.

Падтрымалі выданне Атласа асабістым укладам таксама А. Надсан (Вялікабрытанія) і Э. Смулкова (Польшча).

Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел дадзены на 1 сакавіка 1993 г.

Атлас укладзены і выдадзены на Мінскай картаграфічнай фабрыцы Белгеадэзіі ў 1993 г.

Старшыя рэдактары: І.В. АРЦЮХ, М.П. ЗУБЧАНКА
Рэдактары: А.І. РУЛЬКЕВІЧ, Г.В. ВЕШНЯКОВА, А.В. ТРОІЦКАЯ
Тэхнічныя рэдактары: Н.В. ДАНІЛЕНКАВА, Г.В. ЯКУШАВА

Падпісана да друку 2. 08. 93
Фармат 72×101 Друк. арк. 55,0 Умоўны друк. арк. 74,0
Тыраж 1550 экз. Заказ №2751
Фонд фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь.
220072, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 66/424
Мінская картаграфічная фабрыка Белгеадэзіі
220050, Мінск, вул. Валадарскага, 3.

# П Р А Д М О В А

§ 1. Уступныя заўвагі. Новы этап у распрацоўцы дыялекталогіі непасрэдна звязаны з вывучэннем народных гаворак метадамі лінгвістычнай геаграфіі. Вялікі размах гэта работа атрымала ў пасляваенны перыяд, які азнаменаваўся выхадам у свет такіх грунтоўных прац, як «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» (ДАБМ)[1], «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак»[2], якія былі створаны аб'яднанымі сіламі ўсіх філолагаў нашай рэспублікі.

Лінгвістычныя карты ДАБМ далі магчымасць апісаць фанетычны і марфалагічны ўзроўні беларускіх народных гаворак, абгрунтаваць новы варыянт групоўкі іх, выдзеліць не толькі асноўныя дыялектныя масівы, але і размежаваць іх на групы, абаснаваць занальны падзел беларускай моўнай тэрыторыі, што ўказвае не толькі на ўнутранае арэальнае чляненне ў межах беларускай дыялектнай сістэмы, але і адлюстроўвае гісторыка-генетычныя і кантактныя моўныя сувязі ва ўмовах тэрытарыяльнай сумежнасці.

«Лексічны атлас беларускіх народных гаворак» з'яўляецца працягам Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы[3]

На картах Лексічнага атласа прадстаўлена ў асноўным лексіка розных прадметна-тэматычных груп беларускай дыялектнай мовы. Акрамя таго, яны змяшчаюць новыя цікавыя дадзеныя па фанетыцы (асабліва нерэгулярных фанетычных з'явах), акцэнталогіі, словаўтварэнню і семантыцы.

Графічнымі сродкамі на картах абазначаны структурныя ўзаемаадносіны агульных і прыватных элементаў моўнай сістэмы на лексіка-семантычным і словаўтваральным узроўнях у іх тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі.

Слова як элемент лексічнай сістэмы арганічна звязана з рознымі ўзроўнямі мовы. Велізарная колькасць зафіксаванай і прадстаўленай у атласе лексікі шырока адлюстроўвае фанетычную сістэму, акцэнтныя адрозненні, разнастайнасць словаўтваральных мадэлей, шматлікія семантычныя адценні.

Лексічныя і словаўтваральныя адрозненні выразна лакалізуюцца і нярэдка супадаюць з ізаглосамі фанетычных, марфалагічных і лексічных з'яў ДАБМ, што выдзяляюць паўднёва-заходні, паўночна-ўсходні дыялекты беларускай мовы і палескую групу гаворак. На вялікай колькасці карт акрэсліваюць дыялектныя масівы лексічных з'яў, якія па сваіх маштабах і канфігурацыі супадаюць з арэаламі дыялектных зон у іх супрацьстаўленні: паўднева-ўсходняй, паўночна-заходняй, усходняй, заходняй і сярэдняй зонамі[4]. Такім чынам, карты Лексічнага атласа пацвярджаюць аб'ектыўнасць, правамернасць і навуковую абгрунтаванасць занальнага падзелу беларускіх гаворак, зробленага на аснове ДАБМ. Акрамя вышэй пералічаных макраарэалаў пэўнай лакалізацыі, выдзяляюцца і мікраарэалы — невялічкія астраўкі лексіка-семантычных і словаўтваральных варыянтаў.

У межах картаграфуемай моўнай тэрыторыі выдзяляюцца розных маштабаў і канфігурацый арэалы лексіка-семантычных моўных з'яў. Большасць з іх адносіцца да агульнай усходнеславянскай асновы, некаторыя ж складаюць спецыфіку беларускага моўнага арэалу. Больш дробныя лакальныя асаблівасці, што выдзяляюцца замкнутымі ізаглосамі, абумоўлены, на наш погляд, самымі рознымі прычынамі: неаднароднасцю племяннога саставу на дадзенай тэрыторыі ў мінулым, асіміляцыяй мясцовым насельніцтвам іншамоўных носьбітаў або больш познімі ўплывамі дыялектаў і моў суседніх тэрыторый.

Вывучэнне тэрытарыяльнага вар'іравання лексікі ў плане супастаўлення яе з данымі акаляючых дыялектаў блізкароднасных моў, а таксама ў спалучэнні з гістарычнымі фактамі пісьмовых помнікаў адкрывае перад даследчыкам новую гісторыка-лінгвістычную панараму. Лексічныя матэрыялы атласа дазваляюць вывучаць моўныя з'явы як у сінхронным плане, так і ў іх гістарычным развіцці. Яны з'яўляюцца надзейнай базай для вызначэння адноснай храналогіі многіх дыялектных з'яў, для даследавання гісторыі слоў і розных лексічных пластоў.

Накоплены і адлюстраваны на картах атласа лексічны матэрыял адкрывае шырокія магчымасці для даследаванняў у галіне арэальнай і тыпалагічнай лінгвістыкі, якая з'яўляецца адным з асноўных напрамкаў у сучасным мовазнаўстве.

Лексічны атлас беларускіх народных гаворак у пяці тамах — першы найбольш поўны лінгвістычны атлас у айчынным мовазнаўстве. З ім будзе звязаны новы этап у распрацоўцы беларускай лінгвістычнай геаграфіі, даследаванні дыялектнай лексікі. Навуковае і агульнакультурнае значэнне гэтай працы значна выходзіць за межы мовазнаўства. Матэрыялы атласа могуць служыць навуковай базай для даследчыкаў сумежных навук — гісторыкаў, археолагаў і этнографаў.

Цыкл гістарычных карт, змешчаных у першым томе Лексічнага атласа, можа аказаць важную дапамогу пры інтэрпрытацыі складаных працэсаў развіцця беларускіх народных гаворак у розныя перыяды гісторыі беларускага народа.

За час работы над Лексічным атласам беларускіх народных гаворак (1971—1985 гг.) славянская лінгвістычная геаграфія ўзбагацілася серыяй рэгіянальных і агульнанацыянальных атласаў, у тым ліку і атласаў, звязаных з усходнеславянскай моўнай тэрыторыяй, якія ўносяць вялікі ўклад у тэорыю і практыку лінгвагеаграфіі[1]. Беларуская моўная тэрыторыя прадстаўлена і ў такіх абагульняючых лінгвагеаграфічных выданнях, як Агульнаславянскі лінгвістычны атлас і Лінгвістычны атлас Еўропы, якія адносяцца да трэцяга і чацвёртага пакаленняў лінгвістычных атласаў[2]. Яны прадстаўляюць вышэйшыя ступені дасягненняў у гісторыі развіцця сусветнай лінгвістычнай геаграфіі. І Лексічны атлас як састаўная частка сучаснай агульнаславянскай лінгвістычнай геаграфіі ўносіць новую і цікавую лінгвістычную інфармацыю ў гэту агульную скарбніцу лінгвістычных ведаў.

§ 2. Інструкцыя па збіранню матэрыялаў. Праца над Лексічным атласам беларускіх народных гаворак распачата ў 1971 годзе пасля складання і апублікавання спецыяльнай праграмы[3] і вызначэння для абследавання сеткі населеных пунктаў. Асноўнай крыніцай пры яе складанні паслужыла выдадзеная ў трох выпусках «Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы»[4]. Акрамя таго, выяўленне лексічных адпаведнасцей для праграмы праводзілася з выкарыстаннем шматлікіх беларускіх абласных слоўнікаў, матэрыялаў Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, картатэкі Дыялектнага слоўніка Тураўшчыны[5].

Інструкцыя па збіранню матэрыялаў складаецца з 56 прадметна-тэматычных груп дыялектнай лексікі, а таксама двух невялікіх раздзелаў «Семантыка» і «Словаўтварэнне і націск», усяго 3972 пытанні. Кожная асобная тэма складаецца з раду пытанняў, якія пачынаюцца, як правіла, фармуліроўкай «Я. н. (як называецца) прадмет, з'ява, паняцце». Пасля кожнага пытання прыведзены вядомыя складальнікам праграмы лексічныя і семантычныя адпаведнікі з розных груп беларускіх гаворак.

У канцы прадметна-тэматычнага раздзелу Інструкцыі змешчаны семантычныя пытанні, у якія ўключаны мнагазначныя ў гаворках словы. Пасля кожнага такога слова прыведзены найбольш тыповыя яго значэнні, вядомыя складальнікам праграмы з беларускіх дыялектных слоўнікаў і розных неапублікаваных лексічных збораў. Некаторая колькасць пытанняў ад слова да значэння змешчана і ў прадметна-тэматычным раздзеле Інструкцыі. Гэта зроблена ў тых выпадках, калі «асобныя словы па семантыцы цесна звязаны з тым ці іншым прадметам, паняццем, аб якім ідзе гутарка ў дадзенай тэме, і таму тут лягчэй выявіць іх значэнні»[6].

---

[1] Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963.— 338 карт; Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і каментарыі да карт. Мінск, 1963.— 971 с.

[2] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1968.— 318 с.; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1969.— 80 карт.

[3] Аванесаў Р. І. Да тэарэтычных пытанняў лінгвістычнай геаграфіі // Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Уступныя артыкулы. . . Мінск, 1963 .С 5 — 20.

[4] Гл.: Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1968 . С 179 — 200; Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мінск, 1969, карты 71 — 75.

---

[1] Диалектологический атлас русского языка (Центр Европейской части СССР). Карты. Вып. 1. Фонетика. М., 1986.— 98 карт; Диалектологический атлас русского языка. Центр Европейской части СССР. В трёх выпусках. Вып. 1. Вступительные статьи. Справочные материалы. Фонетика. М., Наука, 1986.— 215 с.; Атлас української мови. Том перший. Полісся, Середня Наддніпрянщина і суміжні землі. Київ. Наукова думка, 1984.— 498 с.; Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. Prace Slawistyczne nr 14. Wrocław — Warszawa — Kraków — Gdańsk Wyd.— PAN, tom 1.1980.— 230s. і інш.

[2] Общеславянский лингвистический атлас. Материалы и исследования. М., Наука, 1971.— 107 с.; Общеславянский лингвистический атлас. Серия лексико-словообразовательная. Вып.1. Животный мир. М., Наука, 1988.— 188с.; Общеславянский лингвистический атлас. Серия фонетико-грамматическая. Вып. 1. Рефлексы * ě. Белград, 1988.— 159с.; Atlas Linguarum Europae, cartes, Volume 1, premier fascicule, Van Gorcum, Assen, Pays-Bas, 1983; Volume 11, 1986; Atlas Linguarum Europae, Volume 1, commentaires, premier fas fascicule, Van Gorcum, Assen, Pays-Bas, 1983; Volume 11, 1986 і інш.

[3] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1971. — 164с.

[4] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання абласных слоўнікаў беларускай мовы. Вып. І. Мінск, 1959.—128с.; Вып. ІІ . Мінск, 1960.—128с.; Вып. ІІІ. Мінск, 1966.— 171с.

[5] Картатэкі дыялектных матэрыялаў Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча і Тураўскага слоўніка захоўваюцца ў аддзеле дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі.

[6] Інструкцыя па збіранню матэрыялаў для складання лексічнага атласа беларускай мовы. Мінск, 1971. С.4.

У канцы Інструкцыі змешчаны невялікі марфалагічны раздзел, які прызначаны для выяўлення і фіксацыі асаблівасцей словаўтварэння, формаўтварэння і націску ў парадыгмах скланення і спражэння.

Прадметна-тэматычны прынцып пабудовы Інструкцыі дазволіў збіральнікам больш поўна выявіць і занатаваць беларускую дыялектную лексіку, у тым ліку лексіку розных тэрміналагічных груп, а таксама яе разнастайнае семантычнае вар'іраванне. Зразумела, што матэрыялы Інструкцыі, разлічанай на такое глыбокае і ўсебаковае выяўленне асаблівасцей беларускіх народных гаворак, не маглі быць поўнасцю выкарыстаны пры складанні Лексічнага атласа. Таму яе аўтары пытанні, намечаныя для картаграфавання ў атласе, пазначылі вялікай літарай А. Гэтыя пытанні былі абавязковымі для высвятлення ў кожным асобным пункце намечанай сеткі і, як правіла, пракартаграфаваны ў атласе. Усяго такіх пытанняў каля 1700. Дастаткова ж дэталёвая і шырокая распрацоўка разнастайных тэматычных груп лексікі ў Інструкцыі, якая значна выходзіць за межы запланаванага атласа, прадугледжвала адначасова і стварэне неабходных магчымасцей для больш поўнага збору дыялектных матэрыялаў з мэтай выкарыстання яго ў будучым для складання дыялектных слоўнікаў, напісання манаграфічных даследаванняў па беларускаму народнаму словаўтварэнню, прасодыі і іншых моваведчых праблемах.

§ 3. Сетка абследаваных населеных пунктаў. Асноўная сетка Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак уключае 142 населеныя пункты, абследаваныя па спецыяльнай Інструкцыі для складання атласа. Сем дадатковых пунктаў, якія былі вызначаны пазней, у час палявых даследаванняў, не маюць самастойных лічбавых абазначэнняў на карце. Яны пазначаны нумарам аднаго з суседніх населеных пунктаў з літарай а, напрыклад, 25а, 49а, 96а і інш. Сярэдняя нагрузка сеткі — адзін населены пункт на 1600 км² пры сярэдняй адлегласці паміж імі 30-40 км.

Значная колькасць карт сумяшчае сеткі двух атласаў—Лексічнага і Агульнаславянскага. Сярэдняя нагрузка апошняга—адзін населены пункт на 3600 км² пры сярэдняй адлегласці паміж пунктамі 60 км. Абследаваныя населеныя пункты Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа маюць на картах сваю асобную нумарацыю і абазначаны лічбай з ініцыяльнай літарай А, напрыклад, 1А, 15А і г.д.

Агульны спіс абследаваных населеных пунктаў для складання Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак і Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа з неабходнымі фактычнымі данымі (парадкавы нумар, раён, вобласць, звесткі пра час запісаў, збіральнікаў і інфарматараў) змешчаны адразу за прадмовай.

§ 4. Фанетычная транскрыпцыя. Для запісу лексічных матэрыялаў складальнікі Інструкцыі рэкамендавалі сістэму фанетычнай транскрыпцыі, якая была выпрацавана і апрабіравана ў палявых умовах пры збіранні звестак для Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы.

У каментарыях, спісах і індэксах адказаў да карт Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак дыялектны матэрыял падаецца ў арфаграфічным запісу. Мяккасць зычных перад галоснымі перадаецца: а (пры дапамозе галосных літар е, ё, і, ю, я) лес, лён, лісце, людзі месяц ; б) мяккім знакам у сярэдзіне перад зычным і на канцы слова (пальцы, маленькі, конь, цень ).

Цвёрдасць зычных перадаецца пры дапамозе галосных а, о, у, ы, э (вада, сонца, ручай, сыны, сэрца ).

Пры абследаванні гаворак Брэсцка-Пінскага Палесся Ф. Д. Клімчук для больш дакладнай перадачы гукавога складу занатаванай лексікі дапоўніў прынятую сістэму транскрыпцыйных знакаў яшчэ двума: й абазначае гук сярэдні паміж *і* і *ю* (кйнь), але бліжэйшы да *і*, и абазначае гук *і* пасля цвёрдых зычных (бачимо ).[1]

Літара ъ абазначае рэдуцыраваны галосны сярэдняга, а ў некаторых гаворках задняга раду сярэдняга пад'ёму пасля цвёрдых зычных, які вымаўляецца невыразна і можа мець у паасобных гаворках розную рэалізацыю (въда, выда, вада ).[2]

У якасці раздзельнага значка пасля мяккага зычнага перад галосным ужываецца мяккі знак (насеньне, смецьё), пасля цвёрдых зычных у той жа пазіцыі — апостраф (п'е, зрэб'е).

Падоўжаныя зычныя перадаюцца падвойным напісаннем адпаведнай літары (насе́нне, ралля́, зацішша).

Націск абазначаецца значком грaвіса ( ́) над галоснай (мазо́ль, муля́к, сло́та, слата́).

§ 5. Збіранне матэрыялаў. Абследаванне населеных пунктаў па скарочанай Інструкцыі (пытанні з індэксам А) праведзена ў 1971-1975 гг. Запісы дыялектнай лексікі і іншых асаблівасцей народнай мовы праводзіліся часцей за ўсё шляхам разгорнутай гутаркі па вызначаных Інструкцыяй тэмах з элементамі прамога апытвання, а таксама часткова шляхам пасіўнага назірання над мовай мясцовага насельніцтва. Тэрміналагічная лексіка запісвалася звычайна ад асоб, што добра ведаюць тое ці іншае рамяство, якім займаюцца або займаліся ў мінулым самі. Пры збіранні матэрыялаў апытваліся прадстаўнікі старшага і сярэдняга пакаленняў — прыкладна чатыры-шэсць інфарматараў у кожным населеным пункце. У адказах на ўсе пытанні Інструкцыі адзначаўся націск і даваліся граматычныя паметы, у асобных выпадках для больш поўнага раскрыцця значэння слова або яго семантычных адценняў запісваўся адпаведны ілюстрацыйны матэрыял: асобныя сказы і словазлучэнні, некаторыя прыказкі, прымаўкі, фразеалагічныя выразы.

Дыялектныя матэрыялы для складання Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа па спецыяльнай праграме сабраны ў 1964—1974 гг.[1]

§ 6. Агульная характарыстыка сабранага лексічнага матэрыялу. Матэрыял, сабраны для Лексічнага атласа, у асноўным задавальняе тым патрабаванням, якія прад'яўляюцца да картаграфуемых звестак, аб чым сведчаць і лінгвістычныя карты, складзеныя на яго аснове. Аднак частка матэрыялаў, сабраная студэнтамі філалагічных факультэтаў педінстытутаў, мела істотныя недахопы: недакладнасць адказаў, а ў некаторых камплектах — пропуск цэлых раздзелаў, асабліва па назвах траў і семантыцы, што выклікала неабходнасць даабследавання і праверкі такіх матэрыялаў. Для гэтай мэты былі накіраваны экспедыцыі з удзелам супрацоўнікаў сектара дыялекталогіі ў Брэсцкую, Гомельскую і Магілёўскую вобласці. У выніку гэтых праверак былі зроблены неабходныя ўдакладненні і дапаўненні.

У абследаванні населеных пунктаў, акрамя супрацоўнікаў сектара дыялекталогіі і іншых сектароў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, прымалі ўдзел члены кафедр мовы і студэнты педагагічных інстытутаў рэспублікі — Брэсцкага, Гродзенскага, Магілёўскага, Мазырскага і Мінскага, а таксама Гомельскага ўніверсітэта. Аказаная значная дапамога з боку выкладчыцкага саставу і студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў забяспечыла выкананне ў сціслы тэрмін вялізнай працы — збор фактычнага матэрыялу экспедыцыйным шляхам у ста сарака дзевяці населеных пунктах, у тым ліку ў сямі дадатковых пунктах да апорнай сеткі.

Дырэкцыя Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа выказвае глыбокую падзяку прафесарска-выкладчыцкаму саставу кафедр мовы ВНУ рэспублікі і асабіста У. В. Анічэнку, В. А. Гуліцкай, Т. С. Янковай (Гомельскі універсітэт), А. П. Груцо, З. Ф. Краўчанка, Г. М. Аляксейчык, К. М. Панюціч (Мінскі педінстытут), Т. Ф. Сцяшковіч (Гродзенскі педінстытут), М. В. Абабурку, С. Я. Кечык (Магілёўскі педінстытут), Р. І. Карлаву, Г. М. Малажай, М. В. Дабрыян, А. Я. Петручуку (Брэсцкі педінстытут), І. М. Клімчуку, Л. А. Кацапаву, А. К. Малюку, Л. В. Анішчанку, В. В. Шуру (Мазырскі педінстытут), а таксама студэнтам указаных устаноў за вялікую дапамогу, аказаную ў зборы і сістэматызацыі дыялектных матэрыялаў для Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак.

§ 7. Лінгвістычная карта. Тэма кожнай карты раскрываецца ў яе назве. Асноўныя ўзроўні карт — лексічны і словаўтваральны. Толькі некаторыя карты адлюстроўваюць выключна фанетычную рэалізацыю лексем, як, напрыклад, асобныя карты, прысвечаныя назвам раслін: верасу, асакі, аеру (№№ 259, 266, 272). На лексічных картах дадаткова ўлічваецца словаўтваральная праблематыка, а таксама лексікалізаваныя і марфалагізаваныя фанетычныя адрозненні.

Размяшчэнне лексіка-словаўтваральных карт у атласе падпарадкавана паслядоўнасці нумарацыі пытанняў Інструкцыі, па якой збіраўся матэрыял для Лексічнага атласа. Карты, складзеныя на аснове матэрыялаў праграмы Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, уключаны ў адпаведную лексіка-тэматычную групу карт Лексічнага атласа.

Асноўным спосабам лінгвістычнага картаграфавання ў атласе з'яўляюцца геаметрычныя фігуры з розным унутраным напаўненнем. Паслядоўнасць іх выкарыстання ў легендзе наступная: круг, трохвугольнік, квадрат, ромб, прамавугольнік. Астатнія фігуры, пры неабходнасці выкарыстання іх на карце, у легендзе мелі адвольны парадак размяшчэння.

З'явы рэгулярнай фанетыкі на картах Лексічнага атласа не ўлічаны. (Фанетычныя варыянты слоў, у якіх адзначаны розныя тыпы ненаціскнога вакалізму — дысімілятыўнае або моцнае аканне, яканне, оканне, а ў галіне кансанантызму — аглушэнне, вынікі асіміляцыі па мяккасці зычных). Гэта тлумачыцца той акалічнасцю, што карты, на якіх картаграфуецца ўся сукупнасць фанетычных адзнак кожнага слова, трацяць выразнасць, чытанне і разуменне такіх карт ускладняецца. Акрамя таго, сістэмныя фанетычныя супрацьпастаўленні беларускіх гаворак атрымалі даволі поўнае адлюстраванне на картах ДАБМ (карты № 1—64).

Важным кампанентам карты з'яўляецца легенда, у якой раскрываецца значэнне кожнай геаметрычнай фігуры, што адлюстроўвае пашырэнне і супрацьпастаўленне асобных элементаў дыялектнай з'явы. У легендзе кожны з іх абазначаны асобнай фігурай. Расшыфроўка кожнага знака падаецца справа ад яго. У легендах да карт нельга было змясціць усе фанетычныя варыянты картаграфуемых слоў, а таму ўносіўся найбольш пашыраны або зближаны з літаратурнай мовай варыянт слова. Да карт, прысвечаных словаўтварэнню, у легендах пералічваюцца ўсе аднакаранёвыя суфіксальныя дэрываты.

§ 8. Каментарый і даведачныя матэрыялы. Да кожнай карты ў атласе змяшчаецца каментарый, які ўдакладняе і раскрывае змест карты. Ён умоўна падзяляецца на дзве часткі.

Першая частка пачынаецца з літаратурнай назвы тэмы карты, да якой, у асобных выпадках

---

[1] Падрабязней характарыстыку гэтых гукаў і іх рэфлексы ў паасобных гаворках Брэсцка-Пінскага Палесся гл. Клімчук Ф.Д.Гаворкі Заходняга Палесся: Фанетычны нарыс. Мінск: Навука і тэхніка, 1983. — 128с.

[2] Гл. падрабязней: Вайтовіч Н.Т. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі. Мінск: Навука і тэхніка, 1968, —219 с.

[1] Вопросник Общеславянского лингвистического атласа. М.: Наука, 1965.— 270с.

дададзены лацінскі адпаведнік (напрыклад, для батанічных або заалагічных назваў і інш.). Потым прыводзяцца адно або некалькі пытанняў Інструкцыі ЛАБНГ ці Апытальніка АЛА, на падставе адказаў на якія складзена дадзеная карта. Далей указваюцца дадаткова выкарыстаны матэрыял, аб'ект картаграфавання і графічныя сродкі адлюстравання яго на карце, раскрываюцца некаторыя знакі, якія аб'ядноўваюць два або некалькі блізкіх варыянтаў картаграфуемай з'явы. Тут жа тлумачыцца адвод ад картаграфавання асобных з'яў( не адпавядаюць тэме карты, з'яўляюцца агульнапашыранымі або новымі, запазычанымі з літаратурнай мовы і г.д.).

Другая частка каментарыяў змяшчае фактычны матэрыял у выглядзе спісаў або індэксаў адказаў на адпаведныя пытанні праграм. У спісе адказаў пасля слова ідзе пералік нумароў населеных пунктаў, у якіх занатавана гэта слова. Загаловачнай у спісе з'яўляецца форма, прыведзеная ў легендзе. Астатнія зафіксаваныя дыялектныя формы з рознымі фанетычнымі адрозненнямі рэгулярнага характару, аб'яднаныя пры картаграфаванні ў загаловачнай форме, прыводзяцца ў тым жа гняздзе. Усе дыялектныя з'явы адна ад другой аддзелены кропкай. Кожнае новае гняздо назваў пачынаецца з чырвонага радка. Спіс назваў падаецца ў парадку следавання абагульненых дыялектных форм у легендзе. У канцы спісаў па парадку нумароў населеных пунктаў прыводзяцца адзінкавыя назвы, а таксама адведзены матэрыял і звесткі аб адсутнасці адказаў у асобных пунктах сеткі атласа. У індэксах адказаў фактычны матэрыял падаецца па парадку следавання нумароў населеных пунктаў. Часам да некаторых адказаў у дужках даецца ілюстрацыйны матэрыял, а таксама рознага характару заўвагі да слоў інфарматараў або збіральнікаў, якія заключаюць у сабе цікавую дадатковую інфармацыю. Сустракаюцца і камбініраваныя спосабы прывядзення фактычнага матэрыялу, якія спалучаюць спісы і індэксы: найбольш пашыраныяаднатыпныя адказы падаюцца ў форме спісаў, а тыя, што адрозніваюцца вялікай фанетычнай або марфалагічнай варыятыўнасцю прыводзяцца ў выглядзе індэкса.

§9. Структура атласа. У адпаведнасці са складзеным праспектам Лексічны атлас беларускіх народных гаворак падрыхтаваны ў пяці тамах. Першы том прысвечаны лексіцы расліннага і жывёльнага свету. Змяшчае том 368 лінгвістычных карт, на якіх адлюстравана лексіка дзесяці тэматычных груп: 1. Свойскія жывёлы. 2. Дзікія жывёлы, звяры, грызуны.3.Свойскія і дзікія птушкі.4.Лес.5.Пладовыя дрэвы, ягады.6.Кветкі, травы.7.Грыбы.8.Пчалярства.9.Рыбы і рыбалоўства.10.Гады, ніжэйшыя жывёлы, насякомыя.

Лінгвістычныя карты другога тома ахопліваюць лексіку пятнаццаці тэматычных груп, звязаных з сельскай гаспадаркай, транспартам, атмасферай і рэльефам мясцовасці: 1.Нябесныя свяцілы, час. 2. Надвор'е. 3.Паверхня зямлі. 4.Вадаёмы. 5.Шляхі зносін. 6.Рух, перамяшчэнне ў прасторы. 7.Сельская гаспадарка, поле, глеба. 8.Сяўба, догляд за пасевамі, уборка. 9.Агародніцтва. 10.Бульба. 11.Малацьба і ачыстка збожжа. 12.Сенакос. 13.Кармы. 14.Прылады працы і іх часткі. 15.Воз, сані.

Трэці том прысвячаецца лексіцы дзесяці тэм, згрупаваных вакол агульнай тэмы — чалавек: 1.Назвы асобы па роду заняткаў, прадпрыемства. 2.Маёмасныя адносіны, гандаль. 3.Знешні выгляд і рысы характару чалавека. 4.Арганізм чалавека, хваробы. 5.Моўныя зносіны. 6.Назвы роднасці і сваяцтва. 7.Дзеці. 8.Вытворча-бытавыя святкаванні. 9.Старажытныя вераванні, традыцыйныя і рэлігійныя святкаванні. 10.Гігіена.

Чацвёрты том прысвечаны адзінаццаці лексічным тэмам побыту вясковых людзей: 1.Будаўніцтва, будынкі. 2.Хата. 3.Печ і яе часткі. 4.Агонь, асвятленне. 5.Мэбля. 6.Сядзіба, населеныя пункты, агароджа. 7.Апрацоўка ільну. 8.Ткацтва. 9.Адзенне, упрыгожанні. 10.Шыццё. 11.Абутак.

Пяты том будзе змяшчаць карты па колерах, семантыцы, словаўтварэнню і акцэнтуацыі.

У першым выпуску першага тома Лексічнага атласа акрамя гісторыка-адміністрацыйных і лінгвістычных карт, змяшчаюцца наступныя матэрыялы: спіс абследаваных населеных пунктаў, у якім змешчаны звесткі аб сучасным адміністрацыйным падзеле і ў мінулыя часы, звесткі аб тым, хто і калі збіраў матэрыялы для атласа, спіс раёнаў, каментарыі да карт, аформленыя ў выглядзе індэксаў і спісаў, фактычны матэрыял да лінгвістычных карт.

У канцы апошняга пятага тома будзе змешчана бібліяграфія, звязаная з тэматыкай Лексічнага атласа.

Пасля карт і даведачных матэрыялаў да іх у канцы кожнага тома змяшчаецца алфавітны паказчык картаграфуемых слоў.

На ўсіх лінгвістычных картах не даюцца нумары населеных пунктаў, па якіх у фармулярах адсутнічалі адказы.

# З М Е С Т

160 Ліпа
161 Ільм
162 Клён
163 Ясень
164 Таполя
165 Амяла (Viscum album L.)
166 Сукаватае дрэва
167 Драўляны
168 Драўляны (*-н-*, *-нн-* у суфіксе)
169 Макушка дрэва
170 Дрэва
171 Маладняк
172 Гушчар
173 Цень ад дрэў
174 Цень ад чалавека
175 Галіна лісцёвага дрэва
176 Галіна хвойнага дрэва
177 Тонкая галінка
178 Тоўстая галіна
179 Ігліца
180 Нізка лісцяў
181 Старчуковы (галоўны) корань дрэва
182 Бервяно
183 Дупло
184 Дуплаватае (дрэва)
185 Дуплаватая (бручка)
186 Сухастоіна
187 Паворысты
188 Выварацень
189 Хлыст
190 Кругляк
191 Лоўж (куча галля)
192 Высечаны ўчастак лесу
193 Сячы лес (сякерай)
194 Пілаваць дровы
195 Валіць лес (пілой)
196 Пілавінне
197 Хваёвы корч, які выкопваюць на апал
198 Падпал
199 Налоць дровы
200 Выкапаны пень з карэннем
201 Дрывотня
202 Калодка
203 Куст
204 Палянка
205 Кудра
206 Мязга
207 Касцёр дроў
208 Стажок дроў
209 Ахапак дроў
210 Галавешка
211 Касцёр (вогнішча )
212 Прышчапіць
213 Чарэшня
214 Плады дзікай яблыні
215 Рабіна
216 Арэшнік
217 Арэшына
218 Рваць (арэхі)
219 Гронка арэхаў
220 Лузаць (пра арэхі)
221 Шыпшына
222 Ажыны
223 Чорныя парэчкі
224 Буякі
225 Суніцы
226 Журавіны
227 Ягады браць
228 Кветка
229 Васілёк (Centaurea cyanus L.)
230 Лотаць (Caltha palustris L.)
231 Ландыш (Convallaria majalis L.)
232 Незабудка (Myosotis L.)
233 Казялец (Ranunculus acer L.)
234 Святаяннік (Hypericum perforatum L.)
235 Кмен (Carum carvi L.)
236 Драсён (Polygonum hydropiper L.)
237 Гарлянка (Prunella vulgaris L.)
238 Зябер (Galeopsis L.)
239 Чабор (Thymus serpyllum L.)
240 Ваўчкі (Bidens tripartita L.)
241 Крываўнік (Achillea millefolim L.)
242 Піжма (Tanacetum vulgare L.)
243 Малачай (Sonchus L.)
244 Адуванчык (Taraxacum officinale Wigg.)
245 Палын (Artemisia absinthium L.)
246 Канюшына чырвоная (Trifolium pratense L. )
247 Дзяцеліна (Trifolium repens L.)
248 Пырнік (Agropyron repens L.)
249 Брыца (Echinochloa crusgalli L.)
250 Каласоўнік (Bromus mollus L.)
251 Трыпутнік (Plantago major L.)
252 Спарыш (Polygonum aviculare L.)
253 Сівец (Nardus stricta L.)
254 Лопух вялікі (Arctium lappa L.)
255 Асот (Carduus L.; Cirsium Adans)
256 Агатні (Antennaria dioica (L.) Gaertn)
257 Крапіва (Urtica dioica L.)
258 Жыгучка (Urtica urens L.)
259 Верас (Calluna vulgaris (L.) Hill.)
260 Багун (Ledum palustre L.)
261 Шчаўе (Rumex acetosa L.)
262 Снітка (Aegopodium L.)
263 Макрыца (Stellaria media (L.) Cyr.)
264 Свірэпа (Barbarea vulgaris R. Br.)
265 Палявы хвошч (Equisetum arvense L.)
266 Асака (Carex L.)
267 Яджджаль
268 Разак (Stratiotes L.)
269 Бабоўнік (Menyanthes trifoliata L.)
270 Дзедзвель (Sonchus paluster L.)
271 Раска (Lemna minor L.)
272 Аер (Acorus calamus L.)
273 Плюшчай (Sparganium L.)
274 Рагоз (Typha latifolia L.)
275 Катахі рагозу
276 Чарот (Phragmites communis Trin.)
277 Капытнік (Calla palustris L.)
278 Віш
279 Баравік (Boletus edulis Fr.)
280 Смаржок звычайны
281 Смаржок канічны
282 Падасінавік (Leccinum aurantiacum (Fr.) S.F. Gray f. auranti-acumi) і іншыя формы
283 Абабак (Leccinum scabrum (Fr.) S.F. Gray f. scabrum)
284 Масляк (Suillus luteus (Fr.) S.F. Gray, Suillus granulatus (Fr.) O. Kuntze)
285 Ваўнянка (Lactarius torminosus (Fr.) S.F. Gray)
286 Сыраежка (Russula S.F. Gray)
287 Шампіньён [ Agaricus campester Fr., Agaricus arvensis (Secr.)]
288 Восеньская і веснавая апенька (Armillariella mellea (Fr.) Karst., Marasmius oreades Fr.)
289 Апенькі растуць шышакамі
290 Порхаўка (Bovista plumbea Pers., Lycoperdon perlatum Pers.)
291 Ядомыя грыбы
292 Неядомыя грыбы
293 Мухамор (Amanita muscaria (Fr.) Hooker)
294 Збіраць грыбы
295 Губа (трутавы грыб)
296 Нізка грыбоў
297 Пчала
298 Дзікія пчолы
299 Джала ў пчалы
300 Ношка на лапках пчалы
301 Мядовая раса
302 Дупло, дзе жывуць пчолы
303 Пчаляр
304 Вулей
305 Круглы ляжачы вулей
306 Круглы стаячы вулей
307 Невялікі вулей на дрэве для прываблівання пчол
308 Ляток
309 Дзверцы ў стаячым вулеі
310 Пчолы-разведчыкі (пры раенні)
311 Шукаць вулей (пры раенні)
312 Памост пад вулей на дрэве
313 Прыстасаванне для лазення на дрэва
314 Раёўня
315 Мёд запячатаны
316 Пчол падглядаць
317 Мёд з сотаў выціскаць
318 Дымар
319 Чмель (Bombus)
320 Шчупак (Esox lucius L.)
321 Мянтуз (Lota lota L.)
322 Ёрш (Acerina cernua L.)
323 Уюн (Misgurnus fossilis L.)
324 Вугор (Anguilla anguilla S.)
325 Жабры
326 Пухір у рыбы
327 Нераст у рыбы; рыба нерастуе
328 Луска ў рыбы
329 Рыбу лавіць
330 Нізка (рыбы)
331 Чысціць (рыбу)
332 Рыбалоўная крыга
333 Венцер
334 Кручок у вудцы
335 Жак
336 Абруч у венцеры
337 Рыбалоўная прылада буч, буча
338 Палатно для рыбалоўных сетак
339 Палонка
340 Гадзюка
341 Гадзюка шыпіць
342 Вуж
343 Яшчарка
344 П'яўка
345 Жаба (Rana)
346 Рапуха (Bufo)
347 Жабурэнне
348 Апалонік
349 Авадзень [Oestridae (Hypodermatinae)]
350 Здрок (Gasterophilidae)
351 Сляпень (Tabanidae)
352 Куслівыя (авадні, мухі)
353 Божая кароўка (Coccinella)
354 Страказа
355 Матылёк
356 Вусень
357 Павуціна
358 Павук снуе
359 Клоп
360 Блыха
361 Лясны клоп
362 Цвыркун
363 Мурашнік
364 Сараканожка (Oniscoidea)
365 Кузуркі
366 Аса
367 Шэршань (Vespa)
368 Вымаўленне слова *паскуства*

## 1. СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

**У спісе назвы населеных пунктаў падаюцца ў чарговасці іх нумарацыі на картах атласа. У першай графе табліцы запісан парадкавы нумар абследаванага населенага пункта. Назва населенага пункта па даных збіральнікаў, а таксама па спісах населеных месц пачатку XX стагоддзя і тапанімічных працах змяшчаюцца ў другой графе. У трэцяй графе ўказваюцца вобласць і раён абследаванага населенага пункта паводле адміністрацыйнага падзелу Беларускай ССР 1971 года. Год абследавання населенага пункта, а таксама ўстанова і яе прадстаўнікі, якія ўдзельнічалі ў збіранні лексічных матэрыялаў для атласа, пададзены ў чацвёртай графе. Пятая графа змяшчае звесткі аб інфарматарах, прозвішчы якіх прыводзяцца звычайна ў алфавітным парадку.**

**Прынятыя скарачэнні выкарыстаных крыніц для другой графы табліцы**

**АСКГ — Алфавитный список населённых мест Ковенской губернии. Ковна, 1903.**
**КТСБ — В.А. Жучкевич. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Минск: Изд-во БГУ, 1974.**
**РапБ — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1980.**
**РапВ — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1977.**
**РапГ — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гомельскай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1986.**
**РапГр — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1982.**
**РапМ — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1981.**
**РапМг — Я.Н. Рапановіч. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Мінск: Навука і тэхніка, 1983.**
**СВГ — Список населённых мест Витебской губернии. Витебск, 1906.**
**СВилГ — И.И. Гошкевич. Виленская губерния. Полный список населённых мест со статистическими данными о каждом поселении. Вильня, 1905.**
**СМГ — Список населённых мест Минской губернии. Минск, 1909.**
**СМгГ — Список населённых мест Могилёвской губернии. Могилёв, 1910.**
**СНМБ — Список населённых мест БССР (б. Минской губернии). Минск, 1924.**
**СНМГ — Список населённых мест Гомельского округа. Гомель, 1927.**
**УГрГ — Указатель населённых мест Гродненской губернии с относящимися к ним необходимыми сведениями. Гродно, 1905.**

| Нумар на карце | Назва населенага пункта па спісах населеных месц XX ст. | Вобласць, раён | Год абследавання, установа, прозвішча збіральніка | Ад каго запісана |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 1 | Лісна<br>КТСБ, 240; с. Лисно, СВГ, 170; РапВ, 230 | Віцебская, Верхнядзвінскі | 1974; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Гламаздзюк А.А., 1909; Дзянісёнак Н.Н., 1910; Дзянісёнак Н.П., 1909; Зунда Л.В., 1900; Латошка Э.Б., 1924; Марачкоўская Я.І., 1914 |
| 1А | Лукшы<br>д. Лукши, АСКГ, 225; РапВ, 234 | Віцебская, Браслаўскі | 1963, 1967; Інстытут мовазнаўства; Навальчук І.П., Крывіцкі А.А., Шаталава Л.Ф. | |
| 2 | Нураполле<br>КТСБ, 191; д. Нурополье, СВилГ, 170; РапВ, 216 | Віцебская, Пастаўскі | 1974; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Бароўка М.Н., 1914; Дзеравянка М.М., 1909; Пронька М., 1909; Рожка М.А., 1910; Рожка П.В., 1918; Сарока Г., 1909; Хадкевіч М.М., 1899 |
| 2А | Казлы<br>д. Козлы, СВилГ, 177; РапВ, 178 | Віцебская, Міёрскі | 1963, 1967; Інстытут мовазнаўства; Навальчук І.П., Крывіцкі А.А., Шаталава Л.Ф. | |
| 3 | Магуны, Мягуны<br>КТСБ, 218; д. Мягуны, СВилГ, 282; РапВ, 240 | Віцебская, Пастаўскі | 1975; Інстытут мовазнаўства; Рамановіч Я.М., Чабярук А.І. | Руткоўскі О.А., 1905; Урбанайць І.Ю., 1907; Урбанайць С.І., 1913 |
| 3А | Пялікі<br>д. Пялики, СВилГ, 147; РапВ, 319 | Віцебская, Шаркаўшчынскі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Груцо А.П., Грыгор'ева Л.М., Навальчук І.П., Краўчук Р.У. | |
| 4 | Ахрэмаўцы<br>РапВ, 34 | Віцебская, Браслаўскі | 1975; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Вітальд А.М., 1911; Мацук А., 1902; Піровіч А.А., 1897; Піровіч Н.Н., 1900; Пятроўская М.В., 1897; Пятроўская С.В., 1918; Шакура І.А., 1935 |
| 4А | Якубава<br>им. Якубово, СВГ, 154; Якубова, РапВ, 428 | Віцебская, Расонскі | 1969; Інстытут мовазнаўства; Лобач С.Г., Шаталава Л.Ф. | Гваздова В.Н., 1919; Марозава А.Н., 1910; Палавэчна В.П., 1919; Палавэчна Х.П., 1925 |
| 5 | Лугі, Лужкі<br>КТСБ, 211; д. Луги, м. Лужки, СВилГ, 154; РапВ, 233–234 | Віцебская, Шаркаўшчынскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А., Цыхун Г.А. | Аніськевіч Г., 1904; Андзілена М.П., 1914; Аніськовіч А.Н., 1910; Аніськовіч Е.С., 1912; Хрол М.П., 1913 |
| 5А | Лабуноўшчына<br>д. Лабуновщина, СВГ, 181, РапВ, няма | Віцебская, Полацкі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Груцо А.П., Грыгор'ева Л.М., Навальчук І.П., Краўчук Р.У. | Ільіных О.Ф., 1907; Малькова А.Ф., 1911; Чарняхоўская П.В., 1902; Коршун Л.Ф., 1913 |
| 6 | Мярэцкія<br>КТСБ, 229; д. Мерецкіе, СВилГ, 139; РапВ, 271 | Віцебская, Глыбоцкі | 1971; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Гарачка А.У., 1901; Прытыка П., 1891; Стахоўская І.А., 1898; Фянько Б.В., 1908; Філіторын А.А., 1898 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 6А | Бабовікі<br>РапВ, 36 | Віцебская, Полацкі | 1970; Інстытут мовазнаўства; Бандарэнка Т.П., Наўрус А.А., Тумас Г.Д. | |
| 7 | Сляўшчына<br>КТСБ, 340: РапВ, 374 | Віцебская. Расонскі | 1973; Інстытут мовазнаўства; Шаталава Л.Ф. | Карнілава Я.В., 1909; Ніжнікава А.Р., 1896; Парфёнаў Р.Г., 1897; Усцінава А.А., 1892; Чапуль Е.Ц., 1900 |
| 7А | Паташня<br>РапВ, 299 | Віцебская. Гарадоцкі | 1969; Інстытут мовазнаўства; Чэкман В.М., Падлужны А.І. | Ягорава Е.В., 1899; Заяц Р.Д., 1891; Шлаганава Е.Ф., 1910; Ягорава В.А., 1937 |
| 8 | Валынцы<br>КТСБ, 59; м. Волынцы, СВГ, 168; РапВ, 70 | Віцебская, Верхнядзвінскі | 1974; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Вярыга М.І., 1894; Дадзена А., 1899; Наськовіч М.В., 1909; Красоўская Л.І., 1896; Лохан А.А., 1900; Лохан Ф.П., 1903; Малей Т.Н., 1895; Малей І.М., 1906 |
| 8А | Дворышча<br>д. Дворище, СВГ, 313; РапВ, 124 | Віцебская, Бешанковіцкі | 1970; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А. | Яцук П.В., 1890; Яцук В.М., 1909 |
| 8а | Манякова<br>КТСБ, 241; РапВ, 251 | Віцебская, Міёрскі | 1975; Інстытут мовазнаўства; Крыўко М.Н. | Аляшкевіч А.С., 1894; Аляшкевіч З.С., 1897; Крыўко П. М., 1872; Крыўко Н.П., 1920; Крыўко В.П., 1928; Зімніцкі С.С., 1904; Мядзелец С.С., 1936 |
| 9 | Вераб'і<br>КТСБ, 60; д. Воробьи, СВГ 296; РапВ, 76 —77 | Віцебская, Полацкі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Лучыц-Федарэц І.І. | Бушунова П.Р., 1897; Гваздзёва В.С., 1926; Гваздзёва М.А., 1911; Гваздзёва Н.В., 1922; Гваздзёў В.Т., 1923; Гваздзёў С.А., 1895; Гваздзёў Ф.А., 1896 |
| 9А | Загараднае<br>Загарадна, РапВ, 149 | Віцебская. Лёзненскі | 1969; Інстытут мовазнаўства; Вайтовіч Н.Т., Яшкін І.Я. | Бондарава А.С., 1898; Дарожкіна А.Ф., 1923; Ігнатовіч А.А., 1898; Конарава М.П., 1911 |
| 10 | Арэхаўна<br>КТСБ, 272; им. Ореховно, СВГ, 206; РапВ, 28 | Віцебская, Ушацкі | 1975; Мінскі педінстытут; Панюціч Н.М. | Арцямёнак З., 1919; Кулік М.С., 1922; Міцкевіч А.А., 1911 |
| 10А | Прывалкі<br>д. Привалки, УГрГ, 15; Прывалка, РапГр, 199 | Гродзенская. Гродзенскі | 1966; Інстытут мовазнаўства; Гапановіч П.М., Груцо А.П., Краўчанка З.Ф. | |
| 11 | Вялікія Дольцы<br>РапВ, 90; с. Дольцы Великие. СМГ, 53; РапВ, 90 | Віцебская. Ушацкі | 1974, 1975; Мінскі педінстытут; Панюціч Н.М. | Абрадэвіч А.П., 1898; Грышкевіч В.А., 1906; Клопава А.М., 1923 |
| 11А | Паляцкішкі<br>д. Полецкишки, СВилГ, 185; РапГр, 186 | Гродзенская, Воранаўскі | 1966; Інстытут мовазнаўства; Кавальчук І.П., Мацкевіч Ю.Ф., Шаталава Л.Ф. | Пракаповіч Л.І., 1918; Пракаповіч А.Т., 1923 |
| 12 | Бярнова<br>РапВ, 66; д. Берново, СВГ, 72, РапВ, 66 | Віцебская, Гарадоцкі | 1974; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А. | Петрусь М.А., 1907; Петрусь Я.Г., 1910 |
| 12А | Груздава<br>с. Груздово. СВилГ, 114; РапВ, 113 | Віцебская, Пастаўскі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф., Шаталава Л.Ф. | Падгайскі І.І., 1897; Падгайская Е.В., 1900; Мацкевіч М.Н., 1898; Крывенька Б.К., 1912; Падгайская Я.А., 1904 |
| 13 | Грыбна<br>д. Грибно, СВГ, 73; РапВ, 114 | Віцебская, Полацкі | 1973; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А. | Канстанцінаў У.А., 1919; Коласаў М.Т., 1900; Юшкова М.Т., 1898; Юшкоў В.А., 1897 |
| 13А | Ністанішкі<br>м. Нестанишки, д. Ністанишки. СВилГ, 264; РапГр, няма | Гродзенская, Смаргонскі | 1966; Інстытут мовазнаўства; Кавальчук І.П., Мацкевіч Ю.Ф., Шаталава Л.Ф. | Кавалеўская Ю.М., 1890; Кавалеўскі Б.М., 1897; Ключнік Г.М., 1913; Радзюш Я.С., 1917 |
| 14 | Мішневічы<br>КТСБ, 237; с. Мишневичи, СВГ, 86, 399; РапВ, 266 | Віцебская, Шумілінскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Лобач С.Г. | Іванова В.Л., 1920; Іванова М.В., 1990; Паўлаў І.Ф., Сямёнаў П.Д., Якаўлеў С.Я. |
| 14А | Лоск<br>с. Лосск І-е, с. Лосск 2-е, СВилГ, 233; РапМ, 156 | Мінская, Валожынскі | 1965; Інстытут мовазнаўства; Кавальчук І.П., Лучыц-Федарэц І.І., Мацкевіч Ю.Ф. | |
| 15 | Узрэчча<br>КТСБ, 384; д. Узречье, СВГ, 313; РапВ. 385 | Віцебская, Бешанковіцкі | 1974; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А. | Яцук В.М., 1900; Яцук П.В., 1890 |
| 15А | Асавец<br>д. Осовец, СВилГ, 107, 125; РапМ, 22 | Мінская. Вілейскі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Кавальчук І.П., Рамановіч Я.М. | Барташэвіч О.І., 1908; Мартынава О.Д., 1908 |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| 16 | Зайкава<br>КТСБ, 130; РапВ, 152 | Віцебская, Гарадоцкі | 1973; Інстытут мовазнаўства; Яшкін І.Я. | Валхонскі А.С., 1890; Герасімава Т.Л.,1927; Кандрацева П.П.,1895; Капусціна М.Я., 1892; Кулакоўская В.М., 1896; Ласьянава М.В.,1910, Ласьянаў М.А., 1907; Лукацёнак А.І., 1926; Насавёнак А.Ф., 1895; Патапенка С.П.; Себрыкава П.М., 1891; Семяноўская А.І.,1889; Себрыкава П.М., 1904; Сілёнак Е.М., 1896; Уласенка Т.Ф., 1896; Уласенка Е.І.,1908; Фаменка Я.Ф.,1913; Яфімаў В.Я., 1913 |
| 16А | Валодзькі<br>д. Володьки, СНМБ, 161; д. Володьки, СМГ, 30; РапМ, 45 | Мінская, Маладзечанскі | 1964; Інстытут мовазнаўства; Вярэніч В.Л., Груцо А.П., Лемцюгова В.П., Вайтовіч Н.Т. | Бакун У.В., 1894; Бальчунас Л.П.,1915; Дварэцкая Г.І.,1942 |
| 17 | Курына<br>КТСБ, 191; д.Курино, СВГ, 24; РапВ, 217 | Віцебская, Віцебскі | 1973; Інстытут мовазнаўства; Лобач С.Г. | Бекешава Ф.І.,1889; Карповіч В.П., 1901; Карповіч Е.Я., 1902; Салдаценка М.І., 1915; Фанкевіч В.Я., 1907; Шварноў В.Я.,1897 |
| 17А | Адрубак<br>РапВ, 17 | Віцебская, Докшыцкі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Бірыла М.В., Краўчанка З.Ф., Кузьмянкова Т.В., Лемцюгова В.П. | Абымаха Н.Т.,1915; Абымаха Н.С., 1911; Каляга Т.Ф., 1886; Стома Т.І.,1935; Сценік А.І., 1906 |
| 18 | Быстрыца<br>КТСБ, 42; с. Быстрица, СВилГ, 28; РапГр, 43 | Гродзенская, Астравецкі | 1975; Інстытут мовазнаўства; Рамановіч Я.М., Чабярук А.І. | Вярбовіч А.А.,1900; Вярбовіч К.А., 1919; Лаўрыновіч І.С.,1911; Сімановіч Б.І., 1912; Сімановіч І.А., 1895 |
| 18А | Чарніца<br>д. Черница, СНМБ, 46; д. Черница, СМГ, 215; Чарніцы, РапВ, 404 | Віцебская, Лепельскі | 1967; Інстытут мовазнаўства; Бірыла М.В., Краўчанка З.Ф., Кузьмянкова Т.В., Лемцюгова В.П. | Домка Е.І., 1912; Садоўская М.І., 1941; Сімака А.П., 1879; Сімака В.П., 1940 |
| 19 | Граўжышкі<br>КТСБ, 84; с. Гряужишки, СВилГ, 228; РапГр, 73 | Гродзенская, Ашмянскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф. | Шукяловіч Т.Т., 1907; Юркойць Г.І., 1930; Юркойць Ю.Б.,1923; Ятрэмская М.Т., 1904; Ятрэмскі А.І., 1893 |
| 19А | Рудня<br>д. Рудня, СНМБ, 49; д. Рудня, СМГ, 173; РапМ, 231 | Мінская, Лагойскі | 1965; Інстытут мовазнаўства; Бірыла М.В., Лемцюгова В.П., Рамановіч Я.М., Чабярук А.І. | |
| 20 | Жылі<br>КТСБ, 123; д. Жили, СВилГ, 252; РапГр, 94 | Гродзенская, Іўеўскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Мацкевіч Ю.Ф., Грынавецкене А.І. | Каржанеўская М.І., 1905; Кульніс М.М.,1932; Міцкевіч Б.М., 1897; Міцкевіч Т.Б., 1943; Міхневіч Л.А., 1920 |
| 20А | Стайкі<br>с. Стайки, СНМБ, 68; д. Стайки, СМГ, 191; РапМ, 249 | Мінская, Барысаўскі | 1965; Інстытут мовазнаўства; Вайтовіч Н.Т., Чэкман В.М., Шаталава Л.Ф. | Бабіцкая В.М., 1911; Слайкоўская В.М., 1898; Слайкоўскі К.Н., 1895 |
| 21 | Брусы<br>КТСБ, 38; д. Брусы, СВилГ, 117; РапМ, 39 | Мінская, Мядзельскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Каўрус А.А. | Біцар Я.М., 1884; Валаховіч З.В., 1884; Дрозд А.Ф., 1907; Казак К.І., 1903; Каўрус А.К.,1902; Каўрус В.К.,1900; Каўрус І.В., 1928; Мураўскі А., 1896; Мурза С.С.,1906; Русак С.Р., 1910; Тачыцкая Т.Ф.,1893; Тачыцкая С.Ф.,1895; Тачыцкая Г.М., 1923; Тачыцкі К.В., 1915; Ходзін М.С., 1908; Ходзін П.В., 1910 |
| 21А | Лядзінкі<br>д. Лядинки, СМгГ, 177; Лядзенкі, РапВ, 238 | Віцебская, Віцебскі | 1969; Інстытут мовазнаўства; Рамановіч Я.М., Чабярук А.І. | Грышанкова М.Ф., 1902; Лядзінкаў І.Р., 1892; Сёмачкін Ф., 1897 |
| 22 | Жодзішкі<br>КТСБ, 124; м. Жодишки, СВилГ, 270; РапГр, 93 | Гродзенская, Смаргонскі | 1972; Інстытут мовазнаўства; Рамановіч Я.М., Чабярук А.І. | Голяк М.А.,1908; Голяк М.А.,1939; Дудзінская А.А., 1913; Дудзінскі А.А., 1897 |
| 22А | Абчуга<br>м. Обчуга, СМгГ, 179; РапМ, 14 | Мінская, Крупскі | 1970; Інстытут мовазнаўства; Бірыла М.В., Лемцюгова В.П., Нажура Н.Ц., Чыкілеўская Т.Ф. | Чайкін А.Н., 1893; Чайкіна Е.Ф., 1903 |
| 23 | Петрашунцы<br>д. Петрашунцы, СВилГ, 225; РапМ, 212 | Мінская, Валожынскі | 1971; Інстытут мовазнаўства; Крывіцкі А.А. | Сухадолец В.А.,1913; Сухадолец Г.Е., 1896 |
| 23А | Слатаўшчына<br>д. Слатовщина, СМгГ, 53; РапВ, 356 | Віцебская, Дубровенскі | 1964, 1968; Інстытут мовазнаўства; Груцо А.П., Сігеда П.І., Шадурскі І.В., Яшкін І.Я. | Брытанава М.К., 1899; Рабцоў С.М., 1916; Ярмошкін М.М., 1893; Ярмошкін М.М., 1937 |

*рабрына* 7, 35, 37, 50, 55, 59—62, 65—67, 72, 78—81, 99, 105, 111, 112, 115, 118—120а, 124, 127, 128, 130, 135, 137, 138. *рыбрына* 95, 103, 108, 109, 132. *рэбрына* 94, 94а, 101, 107, 133, 134. *рэбрiна* 102. *рiбрына* 85. *рябрына* 39, 40, 42, 43. *рябрiна* 16, 41, 84.

*рабрына́* 8а, 10, 11, 30, 34, 38, 69—71, 73, 75—77. *рэбрына́* 9. *рiбрiна́* 12 (у каня, каровы).

*жабрына́* 3, 18—20 *(жэ́бры)*, 22 *(жабе́ркi)*, 57.

*пары́брына* 82, 121, 126, 141. *пяры́брына* 124.

*ска́ба* 2, 5, 10, 11 (у свiней, авечак), 21, 23, 25, 45—49а, 51, 52, 52а, 54, 57, 58, 63 (у свiней, авечак).

*ска́бiна* 4 (у свiней, авечак), 6 (у каня, каровы), 8а (у свiней, авечак), 21 (у каня, каровы), 24, 25 (у каня, каровы), 54, 56 (у свiней, авечак), 62 (у свiней, авечак).

*ска́бка* (у свiней, авечак) 28. *ска́пка* 6, 26, 27, 29, 64.

Адзiнкавыя: *скабуры́на* 54.

## Карта № 16

# КАПЫТ (у парнакапытных)

№ 513 «Я. н. капыт у парнакапытных жывёл: капыта, капыт, ракопуцень, ракочыца...»

На карце паказаны лексiка-словаўтваральныя адрозненнi назваў капыта. Назва *ко́пыт* картаграфуецца як *капыт*, назва *ра́котнi* як *ракотнi*, назвы *пазюрi*, *пажурi* — як *пазурi*. Не картаграфуецца адказ *пазуры́* (кончыкi капытоў) 52.

*капы́т* 1—46, 50—89, 99—101, 104, 105, 110, 111, 115, 118, 119, 120а—130. *копы́т* 97, 103, 106, 107. *капу́т* 112, 116, 120, 135—142. *ко́пыт* 68, 85.

*капы́то* 47, 49. *капы́та* 48. *капы́ты* 49а.

*пазуры́* 52 (кончыкi капытоў; *пазу́р*), 94, 131. *пазурi* 90—92, 96. *пазурэ́* 93. *пазуры́* 94а. *пазюрi* 95. *пазюрэ́* 102. *пажуi* 98.

*ракотнi* 136, 137. *ра́котнi* 134.

*ра́потыцы* 108, 109, 132.

*ра́пыця* 96а *(вона́ расхыля́iця, за то́го ïйï называ́ють ра́пыця. ра́коцiца)*. *ра́коцiцы* 113. *рака́тка* 114. *ра́поткi* 133.

Адзiнкавыя: *па́льцi* 90 *(у каро́вы копы́т ра́зом з ного́ю, а одны́ оно́ — пазурi i па́льцi в коровы)*. *ра́ковiны* 94 (у каровы, казы). *па́рожнi* 103 *(па́рожэнь)*.

## Карта № 17

# РАКАВIНА КАПЫТА

№ 514 «Я. н. прамежнасць мiж капытоў у каровы i iншых парнакапытных жывёл: ракавiна, рала, рало...»

На карце паказаны лексiка-словаўтваральныя адрозненнi назваў ракавiны капыта. Назвы *ра́тыца, ра́пыця* картаграфуюцца як *ра́твiца*, назва *рашчэ́па* — як *рашчэ́п*, назва *шпар* — як *шпа́ра*, назва *мiжкапы́цця* — як *мiж капыта*. Назва *мiжракоцiца, ра́коцiца, междура́коцiца* i *междура́копуцень* картаграфуюцца адным знакам. Адводзяцца ад картаграфавання словы, якiя не адносяцца да тэмы карты: *жыве́ц, перьсьць, шчо́тка, м'якiш*.

*ра́кавiна* 6—8, 10, 11, 17, 19—21, 23, 25—31, 35, 37, 38, 45, 46, 50, 51, 52а—72, 74—77, 80—82, 86, 93, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—129, 139—142. *ра́кывiна* 85, 89. *ра́кървiна* 32, 73, 86. *ра́квiна* 84. *ра́ковiна* 94. *ря́кавiна* 88.

*рако́уня* 33. *ра́кървiшкi* 34. *ра́кавiца* 130. *рако́пыж* 107. *ра́кушкi* 137. *ра́котнi* 137. *ра́коцень* 138.

*ра́твiця* 97, 98, 131. *ра́тыца* 94а. *ря́пыця* 96.

*рапо́цiна* 102.

*шпа́ра* 3, 18, 22, 47—49а, 52, 91, 105. *шпар* 36.

*рашчэ́п* 4. *рашчэ́па* 15.

*межра́коцiца* 113. *ра́коцiца* 114. *междура́коцiца* 113 (нов.) *междура́копуцень* 106. *мыз ра́потыцою* 108, 109. *мыж ра́потыцами* 132, 133.

*мiш капы́та* 24. *мiш капыто́ў* 2. *памiш капы́та* 29. *мiжа капыта́* 16. *меж капыто́ў* 135. *ме́жду капыта́* 16. *ме́жду капыто́ў* 5. *ме́жду капыта́мi* 83. *ме́жда капыто́ў* 1. *мыз капы́тамы* 103. *мiжкапы́цця* 81.

*между пазуро́ў* 52. *по́мыж пазуря́мы* 95. *ра́капатня, ра́капуцень*. (пярэдняя частка капытоў, дзiрка памiж iмi), *мiз ра́капутня* 112.

Адзiнкавыя: *про́рась* 9. *стрэ́лка* 14. *шчыпа́ны капыт* 15. *шчэ́лiна* 79. *мэ́жы па́льцямы* 90. *руздво́iна* 92.

Адведзены: *жыве́ц* 18. *перьсьць* 41. *шчо́тка* 78. *м'якiш* 134.

Адсутнiчае назва: 12, 13, 39—44, 87, 96а.

## Карта № 18

# ВЫМЯ

№ 516 «Я. н. вымя: вым'е, лым'я, вымя, ем'е, iм'я...»

На карце паказаны нерэгулярныя фанетычныя i лексiка-словаўтваральныя адрозненнi назваў *вымені*. На аснове матэрыялаў «Слоўнiка беларускiх гаворак паўночна-заходняй Беларусi i яе пагранiчча» нанесена назва *до́йла* ў н. п. 66 (т. 2, с. 78). Назва *ву́м'я* картаграфуецца як *вымя*, назва *вэ́мне* — як *вымне*. назвы *вымыне, выманэ, выменё* картаграфуюцца як *ву́меня*.

*вымя* 3, 4, 8, 10—14, 16, 17, 19—21, 24, 25а, 29, 31, 32, 37, 40—42, 44, 51, 52, 66, 76—81, 83—89, 115, 116, 119, 125, 130. *выме* 28. *вым'я* 22—25, 26, 27, 30, 52а, 57, 59, 63, 65, 67—72, 96а, 104 (трад.), 105, 110, 111, 118, 121, 123, 124, 126. *вым'е* 61, 62, 96, 96а, 106, 112, 128, 129, 139. *ву́м'я* 100, 127. *ву́м'е* 141. *вым'ё* 18. *ву́м'ё* 99.

*выма* 5, 6. *вымо* 91, 92, 131. *вымэ* 90.

*вiмя* 7, 9, 34, 39, 41—43, 73, 75, 82.

*вiма* 1, 2, 8а, 15, 33 (нов.), 35, 36, 38, 74.

*лымя* 45—49а, 58.

*iмя* 122. *iм'я* 117. *iме* 120. *iм'е* 108, 109, 113, 114, 120а, 132, 133, 135—137, 140, 142.

*е́м'е* 107, 134, 138.

*вымне* 94, 94а, 95, 97, 101—103. *вэ́мне* 98.

*ву́меня* 59, 60. *ву́мяня* 54. *ву́мянё* 53, 55 (трад.), 56, 106. *ву́мяно* 50. *вымыне* 92. *выманэ* 93. *выменё* 131.

*судно́* 32, 33, 36, 39.

*до́йла* 64, 66, 67, 104.

## Карта № 19

# ЦЫЦКА Ў КАРОВЫ

№ 517 «Я. н. сасок у каровы: цыцка, сiська, дойка...»

На карце паказаны лексiчныя адрозненнi назваў саска ў каровы i акцэнталагiчныя варыянты слоў цыцка i сiська: *цы́цка* i *цыцка́, сíська* i *сiська́*.

*цы́цка* 18, 20, 26—28, 31, 37, 43, 45—48, 49 *(цыцкi)*, 49а—65, 67—69, 72—74, 86, 87, 92—96, 99—112, 114—122, 124—127, 129, 130, 132, 140. *цы́цька* 96, 96а, 131. *цíцька* 90 *(цiцькы́)*, 97 *(цiцкы́)*, 103, 113. *тíтька* 91. *цэ́цка* 98 *(цыцкэ́)*.

*цыцка́* 19, 22, 23, 25а, 30, 35, 36, 40—42, 44, 66, 70, 71, 75—79, 81—85, 89, 126, 141, 142.
*сіська* 5, 13—15, 17, 29, 34, 39.
*сіська́* 1, 2, 3 *(ка́жуць і до́йка)*, 4 (трад.), 6—8а, 11, 12, 16, 21, 24, 25.
*со́ска* 9, 15, 32, 33, 35, 36, 38, 39, 42, 43, 75, 77 (нов.), 80, 82—85 (нов.), 88, 123, 124, 128—130.
*до́йка* 3, 4, 18, 29, 84, 86. *ды́йка* 95 (рэдк.), 96 (рэдк.), 124—126, 129. *ді́йка* 96 (рэдк.), 103. *ду́йка* 132.

## Карта № 20

# ЖВАЧКА

№ 518 «Я. н. жвачка: жуйка, жвака, жвачка...»
На карце паказаны словаўтваральныя адрозненні назвы жвачкі. Назвы *зва́ка, жава́ка, жва́йка* картаграфуюцца як *жва́ка*, назвы *жуя́ка, жувя́ка* — як *жу́йка*.
*жва́ка* 2—6, 8, 8а, 9, 12, 13, 15, 21—23, 25—28, 30—40, 42, 43 (рэдк.), 57, 59, 61, 63, 64, 67, 69, 70, 72—74, 78, 80, 110, 115, 118, 119, 121, 128, 130, 142. *жвя́ка* 7, 16, 17. *зва́ка* 36. *жава́ка* 120. *жва́йка* 24, 65, 71. 116.
*жва́чка* 1, 8а, 10, 11, 14, 29, 41, 43, 44, 75—77, 79, 81—89, 111—113, 115, 118, 119. 122—127, 129, 139—141.
*жу́йка* 18—20, 45—56, 58, 60, 62, 90—109, 113, 114, 131—138. *жуя́ка* 117. *жувя́ка* 122.
*жуя́чка* 51.
Адзінкавыя: *жма́ка* 68.

## Карта № 21

# ЖУЕ (жвачку)

№ 519 «Як кажуць: жвачку жуе, жве...»
На карце паказана ўжыванне дзеяслова жаваць у форме 3-яй асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу. Дзеясловы *жуве́, жуе́ць, жуве́ць* картаграфуюцца як *жуе́*, дзеясловы *жвець, іжве́, звець* — як *жве*.
*жуе* 45—56, 59—62, 66—69, 71, 72, 76, 90—121, 126, 127, 129, 131—142. *жуве́* 122, 126. *жуе́ць* 1, 3, 6, 7, 9—13, 16, 17, 28. *жуве́ць* 83.
*жве* 5, 14, 25—27, 37, 38, 70, 74, 75, 77, 80—82, 123—125, 128—130. *іжве́* 31. *жвець* 2, 4, 8, 8а, 15, 21, 24, 29, 30, 32—36, 39—44, 73, 78, 79, 83—89. *звець* 36.
*жваку́е* 23, 57, 58. *жваку́я* 63—65, 69.

## Карта № 22

# ПРАЖЭРЛІВАЯ (карова)

№ 520 «Я. н. прагавітую карову: лапчывая, лапшывая, прагная, жоркая, едкая, ежчая, жыравітая...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў у значэнні 'прагавітая' (пра карову). На аснове матэрыялаў «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» (т. 2, с. 624) знакі пастаўлены: *лапшы́вая* ў н. пп. 24, 25, 47, 48, 100, 106; *лапчы́вая* ў н. пп. 20, 52а, 68; на аснове матэрыялаў таго ж слоўніка (т. 3, с. 280) нанесена назва *паві́длівая* ў н. п. 74. Пры картаграфаванні прыметнікаў з коранем *жор-* не ўлічваліся суфіксы і прыстаўкі. Адным знакам наносіліся на карту ўтварэнні: *жо́ркая, жо́рлівая, абжо́рлівая, пражо́рлівая, абжо́рыстая, пражо́рыстая, убжо́рыстая.* Таксама адным знакам картаграфаваліся ўтварэнні: *жы́рная, абжы́рная, абжы́рыстая, пражы́рная.* Як *жыраві́тая* картаграфаваўся прыметнік *прыжыраві́тая*, як *прагаві́тая* — *пра́гная, прaго́тная.* Назва *ёткая* картаграфуецца як *едка́я.*
Не нанесены на карту назоўнікавыя ўтварэнні з коранем *жор-, жыр-: пражо́ра* 73, 104, 120а, 125. *прожо́ра* 96, 96а, 109, 113, 114. *абжо́ра* 55, 83, 87, 99, 139. *обжо́ра* 108. *во́бжыр* 50. Адведзены ад картаграфавання словы, якія не маюць адносін да тэмы карты: *шко́дная, збро́длівая, збро́да, злыдзёная, шкідлы́ва.*
*-жор-: жо́ркая* 2. *жо́рлівая* 122. *абжо́рлівая* 21, 24, 31, 69, 105, 118, 126. *абжо́рлівыя* 12, 14, 16. *абжо́рліва* 50, 51. *обжо́рліва* 90. *абжо́рыстая* 4. *обжо́рыста* 95, 108. *убжо́рыста* 92. *пражо́рлівая* 8, 8а, 9, 17, 23, 29, 30, 33, 37, 39, 58, 61, 67, 73, 76, 77, 79—82, 85, 111, 112, 118, 119, 127, 128, 130. *пражо́рлівыя* 15, 79. *прожо́рлівая* 120. *пряжо́рлівая* 32. *пражо́рліва* 74, 104. *прожо́рліва* 90, 91, 95, 101, 106, 107. *пражо́рліве* 141. *прожо́рліве* 106, 123, 124, 138. *пражо́рыстая* 54. *пражо́рыста* 142.
*жы́рная* 5, 25а, 26, 52, 52а, 53, 66 *(каро́ва жы́рная, усё яна́ есь)*, 116. *жы́рна* 20 *(жы́рна каро́ва мно́га есць)*, 45, 49 *(жы́рна каро́ва есць што папада́я)*, 49а, 51, 93, 94, 95 (часцей), 96—98, 101—103, 107, 135. *жі́рна* 113, 114, 132. *обжі́рна* 113. *обжы́рыста* 94а. *пражы́рная* 56. *пражы́рна* 110, 115. *прожы́рна* 117, 120.
*жыровна́я* 109. *жіроўна́* 134.
*жыраві́тая* 29, 36, 75. *жыраві́тыя* 35. *прыжыраві́тая* 29, 36.
*пражы́рлівая* 80, 84, 86, 89. *прожы́рлівая* 120.
*жырка́я* 103. *жараўна́я* 38 *(жараўна́я каро́ва жра́ла п і жра́ла)*. *прожэ́рліва* 137. *прожэ́рна* 102.
*лапшы́вая* 3, 6, 8а, 24—28, 47, 48, 53, 54, 59, 60, 62, 63, 100 *(лапшы́вая каро́ва што папа́ла есць)*, 106. *лапчы́вая* 2 *(лапчы́вая каро́ва есь аш ло́пнiць)*, 22 52а, 57, 68, 69, 94. *лапчы́ва* 46, 104. *лакчы́вая* 4 *(лакчы́вая каро́ва мно́га есь)*, 19.
*е́шчая* 1, 4—7, 8а—11, 14, 21 *(е́шчая — до́брая да яды́)*, 24, 29. *е́шчыя* 13, 16, 34, 35, 41—43.
*едка́я* 88. *ідка́я* 85, 87. *ятка́я* 118.
*едові́тая* 122.
*пра́гная* 8а, 18, 65. *пра́гна (пра́гна мая́ каро́ва да се́чкі)* 47. *прагаві́тая* 25, 57. *праго́тная* 22.
*жа́дная* 70, 129. *жа́дныя* 44, 85.
*бра́жная* 72 *(бра́жная каро́ва жарэ́ мно́га)*. *бра́жна* 121, 135.
*паві́длівая* 70, 74.
*хырчаві́тая* 29. *хырчаві́тыя* 40.
Адзінкавыя: *непераборлівая* 2, 81. *нінасы́тная* 79. *нынасы́тна* 131. *лако́ма* 93 *спа́сная* 132. *до́бро есць* 133.
Адведзены: *шко́дная* 48 *(шко́дная каро́ва, ця́шка па́свіць)*. *збро́длівая* 78. *збро́да* 78. *злыдзёная* 129. *шкідлы́ва* 131.

## Карта № 23

# ЧЭРАВА

№ 521 «Я. н. чэрава ў жывёлы: бруха, чэрава, трыбух...»
На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў чэрава ў каровы.
*трыбу́х* 1—5, 8—10 *(трыбу́х вісіць, нае́лася каро́ва)*, 11, 12, 14, 15, 20 *(трыбу́х аш да зямлі)*, 22, 23, 25а, 26, 28, 29, 31, 33, 35—37, 43, 45—51, 52а, 54, 55, 58, 62—64, 68, 70, 71, 94, 99, 101, 102. *трабу́х* 40, 42. *трібу́х* 16. *трябу́х* 17, 39, 44, 84, 88.
*бру́ха* 5, 6, 8а—10, 21, 24, 25, 27, 30, 34, 35, 37, 42, 43, 57, 70, 73—75, 77—82, 118—120, 123, 124, 126, 141, 142. *брю́ха* 13, 32, 41, 83, 85—87, 89.
*брух* 18, 19, 52.
*чэ́рава* 61, 65—67, 72, 100, 110, 120а, 127, 141. *чэ́раво* 53, 54, 56, 59, 60, 62, 93,

104—106, 111, 112, 115—117, 122, 136—138, 140. *чэ́рэво* 94а, 98, 103, 108, 109, 113, 114, 133—135. *чэ́рыво* 90, 91, 95—97, 132. *чэ́рво* 131.
*жыво́т* 125, 129, 130, 139, 142. *жыві́т* 92.
*пу́за* 7, 69, 76, 128. *пу́зо* 92.
*ковду́н* 92, 96а.
*тэ́льбух* 95 (зневаж., вельмі вялікі), 96.
*трубло́* 7. *каўбу́х* 38.

## Карта № 24

# СТРАЎНІК У СВІННІ

№ 531 «Я. н. страўнік: а) у свіней: кіндзюк, каўбух, коўбік, б) у каровы: трыбух, каўбух, в) у цялят?»

На карце адлюстравана пашырэнне назвы страўніка ў свіней. Паказваюцца толькі асновы, ад якіх утвараюцца гэтыя назвы. У спісе слоў да карты лексема падаецца ў рэгіянальным фанетыка-марфалагічным варыянце.

У некаторых адказах ёсць заўвагі аб тым, што існуе розніца ў назве страўніка як анатамічнай адзінкі і страўніка як стравы. На карту наносіліся абедзве назвы. Магчыма, што і ў іншых пунктах, дзе адзначаны дзве назвы, ёсць такая дыферэнцыяцыя лексем, але яна не ўлічана збіральнікамі.

Аналагічную тэрыторыю пашырэння маюць і назвы страўніка ў каровы і цяляці. Новых лексем для назвы страўніка ў гэтых жывёл не адзначана, за выключэннем лексем *мало́чнік* і *сычу́г* — у цяляці. Аднак, на наш погляд, прыведзеныя лексемы называюць страўнік толькі цяляці, якое яшчэ ссе.

Пасля спіса слоў, якімі называецца страўнік у свінні, падаюцца назвы страўніка ў каровы і цяляці. Тэрытарыяльнае пашырэнне варыянтаў назвы страўніка ў каровы і цяляці некалькі адрозніваецца ад адпаведных назваў у свінні. Звужаецца пашырэнне адных назваў за лік другіх.

На карту не нанесена лексема *жалу́дак*, якую мы лічым познім запазычаннем з рускай мовы.

№ 531 а): *трыбу́х* 2—7, 9, 12, 13, 15, 18, 19, 21—29, 35, 46, 49, 50, 52, 55, 61, 64, 71, 104, 106, 108, 116, 125, 132, 134. *трі́бух* 16. *трабу́х* 42. *трябу́х* 17, 32, 39—41, 44, 83, 86, 89. *трубу́х* 33. *трыбушо́к* 8, 14, 52, 57. *тръбу́х* 8а.
*кіндзю́к* 10, 11, 20, 32 *(як трябу́х начы́ніш)*, 37, 39 *(з мя́сам)*, 40 *(трябу́х чы́сціць і начыня́юць яго́ мя́сым і тады́ называ́юць кіндзюко́м)*, 45, 46, 51, 52а, 55, 58—60, 63, 65—67, 71, 72, 74, 94, 99—102, 104, 105, 110, 111, 115. *кундзю́к* 47 *(напха́ла два кундзюкі, як свіню закало́лі)*, 48, 52 *(начы́нены мя́сам свіны́ трыбу́х)*, 53, 54. *кіндзю́х* 62, 104, 113. *кэндзю́х* 94а, 95 (зневаж.), 103 *(вылы́кый)*. *кэ́ньдюх* 98. *клундзю́к* 8а. *кэлэ́ндзюх* 97 (ва ўсіх жывёл).
*каўбу́х* 34, 36—38, 43, 68, 69 (ва ўсіх жывёл), 73—75, 79—82, 85, 86, 88, 124, 128, 129. *каўбу́к* 70. *коўбу́к* 130. *калбу́х* 123. *ко́ўбік* 117, 118, 120, 120а, 126, 127, 135 *(а ра́зам з усімі кішкамі — трыбу́х)*, 136, 137, 141, 142. *ко́ўбык* 76, 77, 122. *ко́ўбак* 126. *куўбушо́к* 44. *ке́ўбух* 119. *ке́льбух* 121. *каўбу́н* 85. *коўб* 137. *коўп* 30, 31.
*каўду́н* 93. *кавду́н* 90, 96. *ковду́н* 91, 92. *калду́н* 131.
*юць* 95. *юц* 103 *(ма́лый, бы кышка́ с пырыва́лкамы)*. *ючь* 97.
*тэ́льбух* 94а *(у ко́жного жывёлы)*. *цяльбу́х* 127.
*стра́ўнік* 86, 139.
*беню́к* 133, *біню́к* 112.
Адзінкавыя: *бэ́бух* 12. *кучу́к* 49а. *куты́рь* 84. *кутэ́нь* 96. *га́пка* 107. *бочу́к* 109. *кару́к* 114.
Адведзены: *жалу́дак* 9, 129. *жалу́дык* 87. *жэлу́док* 93 (ва ўсякай скаціны), 94а (нов.).

№ 531 б): *трыбу́х* 1—6, 8, 10—15, 18, 19, 21—29, 31, 34, 35, 45, 46, 49, 50—52, 53 *(трыбу́х — стра́ўнік то́лькі ў жывой каро́вы, не забітай)*, 55, 57—59, 61—66, 70, 71, 79, 91, 92, 96 (рэдк.), 99, 100, 102, 104, 106, 108, 109, 111, 114—116, 118, 119, 125 *(трыбу́х таксама мы́юць і набіва́юць мя́сам)*, 126, 132, 134, 142. *трі́бух* 16, 113. *трабу́х* 40, 42, 43. *трябу́х* 17, 32, 39, 41, 44, 85, 86, 88, 89. *тръбу́х* 8а, 9. *трубу́х* 17, 32, 39, 41, 44. *трыбу́шша* 81. *тырбу́х* 127. *трэ́нбух* 130.
*кіндзю́к* 60, 67, 72, 105, 110, 120. *кіньдзю́к* 4, 52а. *кіндзю́х* 101, 104. *кіньдзю́х* 114. *кундзю́к* 48, 53, 54. *ке́ндюх* 94а, 95. *кэлэ́ндюх* 97. *кэ́ндюх* 103 *(вылы́кый)*.
*каўбу́х* 36—38, 68, 69, 73, 75, 80—83, 86, 128, 129. *коўбу́х* 74. *куўбу́х* 78. *ке́ўбух* 119. *ке́льбух* 121. *ко́лбух* 123. *коўп* 30. *ко́ўбак* 126. *ко́ўбык* 76, 77, 122. *ко́ўбік* 117, 135, 136, 141.
*каўду́н* 46, 93. *кавду́н* 90, 96. *ковду́н* 92. *калду́н* 92, 94, 96, 131.
*юць* 95, 96. *юц* 103.
*тэ́льбух* 94а, 96 (рэдк.). *цяльбу́х* 127. *цельбу́х* 130.
*стра́ўнік* 86, 139.
*беню́к* 133. *біню́к* 112.
*бэ́бух* 12. *бэ́бэх* 107.
Адзінкавыя: *кучу́к* 49а. *куты́рь* 84. *сычу́г* 124. *трубло́* 7. *стравіця́ль* 19.
Адведзены: *рубе́ц* 35, 52, 124 (што не з'яўляецца адказам на пытанне). *жалу́дак* 31. *жалу́дык* 87. *жалу́док* 93. *желу́док* 94а.

531 в): *трыбу́х* 2, 3, 6, 9, 12—18, 24, 25а, 27, 28, 34, 45, 49, 50, 55, 61, 64, 91, 92, 102, 109, 111, 114, 116, 125, 132, 134, 135 *(ко́ўбік,* а разам з усімі кішкамі — *трыбу́х)*, 142. *трі́бух* 113. *трабу́х* 32, 40, 42. 43, 79. *трябу́х* 39, 41, 86, 89. *трубу́х* 33. *трыбушо́к* 7, 19, 23, 26, 35, 46, 57—59, 62, 63, 65, 66, 70, 71, 102, 104, 132. *трі́бушок* 44.
*кіндзю́к* 60, 62, 67, 72, 110, 120. *кіньдзю́к* 52а. *кіндзю́х* 101, 114 *(у мале́нькіх мало́чнікаў)*. *кіндзючо́к* 104. *кундзю́к* 48, 54. *кэ́ндюх* 94а, 103 *(вылы́кай)*. *кэ́ньдюх* 98. *кэ́ндзюх* 95 (зневаж.). *кэлэ́ндюх* 97.
*каўбу́х* 37, 38, 56, 68, 69, 73, 75, 81, 82, 86, 124, 128, 129. *калбу́х* 123. *коўбу́х* 74. *куўбу́х* 78. *ке́ўбух* 119. *ке́льбух* 121. *ке́ньбух* 138. *каўбушо́к* 37, 73, 80, 82. *кеўбушо́к* 119. *ко́ўбык* 76, 77, 122. *ко́ўбік* 117, 135, 136, 141.
*каўду́н* 93. *колду́н* 94, 131. *кавду́н* 90. *ковду́н* 92.
*юць* 95. *юц* 103 *(малы́, бы кышка́ с пырыва́лкамы)*.
*тэ́льбух* 94а. *це́льбух* 127. *цельбушо́к* 126.
*мало́чнік* 1, 4, 10, 11, 29, 38 *(мало́чнік кыла куўбука́)*, 57 (у вельмі малога цяляці), 66. *мало́шнік* 35, 82 (асобы). *мле́чнік* 5, 8, 22. *мало́чны пузы́р* 118.
*беню́к* 133. *біню́к* 112.
*бэ́бух* 12. *бэ́бэшок* 107.
*сычу́г* 108. *сычу́х* 115.
Адзінкавыя: *кучу́к* 49а. *кутырёк* 84. *сачо́к* 51.
Адведзены: *жалу́дак* 9, 31, 124. *жалу́дык* 87. *жалу́дычык* 35. *жэлу́док* 93, 94а (нов.).

## Карта № 25

# ЖЫВЁЛА З ВЯЛІКІМ ЧЭРАВАМ

№ 522 «Я. н. жывёла з вялікім чэравам: брухатая, чараватая, трыбухатая...»

На карце адлюстравана пашырэнне лексічных варыянтаў назвы жывёлы з вялікім чэравам. Акрамя таго, улічаны некаторыя словаўтваральныя варыянты лексем, што распаўсюджаны ў гаворках і ўтвараюць выразна акрэсленыя арэалы. Як *бруха́тая* картаграфуюцца *бурха́та* і *брухла́та*. Як *каўба́тая* картаграфуюцца: *каўбава́тая, каўбуха́тая, каўбухава́тая, каўбіля́стая*. Як *тэльбухава́та* картаграфуецца *тэльба́та*, як *чапава́тая — ача́пістая*.
*трыбуха́тая* 19, 22, 23, 27, 29, 36, 37, 50, 51, 55, 57—64, 67, 71, 82, 94, 99. *трыбуха́тъя* 15. *трыбуха́тыя* 35, 40, 42, 43, 52а. *трыбуха́та* 20, 46—49а, 94, 101, 102, 104, 106. *трабуха́тая* 82. *трябуха́тая* 88. *трі́буха́тъя* 39, 41. *трі́буха́тыя* 44, 84, 85. *трьбуха́тыя* 79.
*трыбухава́тая* 1, 2, 4, 6, 8, 10, 11, 21, 24, 25а. *трыбухыва́тая* 7. *трыбухова́тая* 108. *трыбухова́та* 90, 97, 109. *трыбухуўа́тая* 9. *тръбухува́тъя* 8а. *трубухува́тъя* 33. *трябухава́тая* 17.
*трыбушы́стая* 3, 124. *трыбушы́ста*. *трабушы́стая* 129.

*трыбла́тая* 14. *трыбла́тъя* 12. *трыбла́та* 107, 133, 134. *трубла́та* 138. *тріблатая* 32. *тріблатъя* 39. *тріблатыя* 16.

*бруха́тая* 5, 6, 18, 24, 25, 26, 28, 30, 31, 37, 52, 66—68, 73, 77, 80, 81, 111 113, 116, 118, 119, 123, 124, 128, 130, 136, 140—142. *бруха́тъя* 8а, 34. *бруха́тыя* 42 43, 78. *бруха́та* 74, 115. 120, 120а, 121, 135, 137. *бруха́ты* 13, 126. *брюха́тая* 86. *брюха́тъя* 41. *брюха́тыя* 35, 83, 85, 87, 89. *брюха́та* 117. *брухла́та* 133. *бурха́тая* 127.

*чарава́тая* 53, 54, 57, 72, 100, 124, 127. *чэраватая* 93, 137. *чэрэва́тая* 108, 113. *чарава́та* 49, 56, 61, 104, 105, 110, 112. *чэрава́ты* 65. *чэрэва́та* 94, 94а, 114, 117, 120а, 133, 134. *чэрава́та* 131. *чырыва́та* 132.

*каўба́тая* 70, 75. *каўбава́тая* 75. *каўбуха́тая* 38. *каўбухава́тая* 81. *каўбухава́тъя* 69. *каўбіля́стая* 30.

*тэльбухова́та* 96. *тыльбухова́та* 95. *тэльба́та* 98.

*чэпава́тая* 1, 2. *ача́пістая* 6.

*пуза́тая* 76, 122. *пуза́та* 91, 96а.

*бабаха́тая* 58, 59.

Адзінкавыя: *каро́ва з трыбухо́м вялікім* 45. *ковдунова́та* 92. *жываці́стая* 94. *ла́нтух* 94а. *бука́та* (нов.) 94а. *юкла́та* 95. *апу́шчана* 95. *кульбухова́та* 121. *бука́тая* 125. *вантухова́та* 131. *жывата́тая* 139.

## Карта № 26

# СХУДНЕЛАЯ ЖЫВЁЛА (з упалымі бакамі)

№ 524 «Я. н. жывёла з апаўшымі бакамі: перахлябістая, ахлябшая, тошчая, плоская...»

Картаграфуюцца толькі корані слоў. Для данай групы лексем прыстаўкі, суфіксы і граматычны статус слова не з'яўляюцца дыферэнцыяльнай тэрытарыяльнай адзнакай і таму на карце не адзначаюцца.

*хляб-: хля́бістая* 54, 56, 60, 62, 67, 113. *хля́біста* 104, 105.

*хлябова́та* 91. хлябовы́та 95. *хля́бы опусты́лысь* 96. *як хля́ба* 64 *(бакі пустыя, як хля́ба)*.

*перахля́бістая* 19—22, 25, 37, 51, 52, 52а, 57, 63, 71, 75, 77, 80, 81, 94, 94а, 100, 115, 120а, 124, 126, 127, 129, 139—141. *перахля́біста* 46. *піpахля́бістая* 73. *пірълхя́бістъя* 34. *пяpахля́бістая* 50, 72, 76, 110, 112. *парахля́бістая* 59, 118, 119. *парахля́біста* 93, 138. *пырыхля́біста* 132. *пырыхля́бъиста* 96, 96а. *перэхля́бістая* 114, 136. *пэрэхля́бістая* 108. *пэрэхля́біста* 107. *пэрэхле́біста* 98. *перахля́бленая* 137. *перахля́бляная* 55. *перахля́блена* 47, 117. *перахля́блёна* 103. *перахля́б'яна* 95. *пырыхле́бляна* 97. *піpыхля́бшыя* 35. *прахля́бістая* 58. *пахля́біста* 49. *патхля́біста* 74. *захля́бістая* 61. *ахля́ўшая* 81, 84.

*перахля́білася* 25, 69, 122. *перахля́білась* 82. *піpахля́білась* 38. *перахля́біліся бакі* 24. *пырыхля́бла* 96. *схля́бла* 90, 96.

*тошч-: атышча́ўшыя* 41.

*то́шчая* 6—8, 9—11, 14, 17—19, 25—29, 31—34, 36, 38, 81, 82, 86, 88, 111, 116, 121, 123, 125, 128—130. *то́шчъя* 5, 8а, 12, 15. *то́шчыя* 13, 16, 35, 40—44, 78, 79, 83, 85. *то́шча* 94а, 101, 140. *то́шчы* 1, 4, 66 (конь), 126. *то́шчава коро́ва* 107. *то́шчыя бакі* 24. *ташча́к* 19.

*худ-: худа́я* 30, 41, 49а, 78, 79, 87, 89, 94а, 97, 106, 111, 115, 127, 129. *худа́* 134, 140.

*пад-, паў-: перапа́ўшая* 52. *перапа́ўшыся каро́ва* 2. *перапа́ўшымі бакамі* 3. *пэрэпа́ла* 134. *пазапада́лі бакі* 128. *запа́дыста* 109. *запа́ўшая* 23. *каро́ва перапа́лася* 66. *бакі ўпа́ўшы* 24. *бакі запа́дзістыя* 24. *жывёла з апа́ўшымі бака́мі* 53.

Адзінкавыя: *хі́жая* 11. *пло́ская* 22. *бакі ўцягну́ла* 38. *патшчу́пістая* 39. *падга́лы* 45. *здэ́ба* 48. *су́шчава* 49а. *пахві́ніста* 53. *ляда́штая* 65. *пада́лістая* 70. *паджа́рая, падстру́нъватая* 86. *пудця́глая* 92. *плёскла* 95. *сту́ляна, подо́рвана, підсу́кана* 102. *ко́шчава* 106. *подця́глая* 113. *няпе́йна, шчу́пла, хлёстка коро́ва* 120. *дыхавы́ста* 131. *хлёстка коро́ва* 133. *падсу́кана* 135.

## Карта № 27

# СТРАВАВОД

№ 527 «Я. н. стрававод: горла, еча, яча...»

Карта прысвечана лексічным і словаўтваральным варыянтам назвы стрававода. У матэрыялах прыведзены два тыпы адказаў: слова і словазлучэнне. Апошняе характарызуецца тым, што да адной з лексем, якая называе стрававод, даецца азначэнне. Усе такія словазлучэнні картаграфуюцца тым жа знакам, што і апорная лексема: як *го́рла — пітацельное го́рло, піта́цельна го́рло, піта́цельная го́рла, го́рло піта́цельнэ, ідо́мэ го́рло, го́рло едо́мэе, го́рла вадзяно́я;* як *гарля́к — гарля́к страва́вы*, як *гардзёла — клыкава́я гардзёла*, як *кішка́ — гарлава́я кішка, пішчава́я кішка́, е́жная кішка́*, як *гло́тка — гло́тка пішчыва́я*. Як *гардзёла* картаграфуюцца *гардзёлка, гардзілка, гардзе́ль едавы́*; як *е́ча — ечая*.

Ад картаграфавання адводзяцца лексемы, якія, на нашу думку, называюць іншыя рэаліі: *каўбу́х, кэ́ньдзюх, чараво́*. Акрамя таго, адводзяцца ад картаграфавання лексемы *пішчаво́д* і *пішчаві́к*, якія мы лічым новым запазычаннем.

*го́рла* 3—5, 7, 10—18, 21, 26, 28—33, 35—37, 39, 49, 49а, 52а, 58, 64, 65, 67, 71—76, 80, 82, 84, 85, 88, 99, 100, 104—106, 111, 116, 118—120а, 122—127, 141, 142. *го́рло* 46, 47, 50, 51, 53—56, 60, 90—92, 94, 94а, 96 (рэдк., нов.), 96а—98, 101—103, 107—110, 114, 115, 132—139. *гырла́* 89. *піта́цельное го́рло* 51. *піта́цельно го́рло* 62. *піта́цельная го́рла* 77. *го́рла піта́целнэ* 113. *го́рла пішчаво́я* 66. *го́рла вадзяно́я* 121. *ідо́мэ го́рло* 95, 132. *го́рло едо́мэе* 113 (трад.).

*гарля́к* 22, 68, 70. *гарля́к страва́вы* 59.

*гарля́нка* 63, 74, 77, 117. *гърля́нка* 34. *гырля́нка* 82.

*гардзёлка* 48. *гардзі́лка* 131. *гардзе́ль едавы́* 19. *клыкова́я гардзёла* 96.

*е́ча* 6, 23—25а, 27, 41—44, 55 (рэдк.), 86, 141. *яча́я* 69.

*кішка́* 4, 8, 20. *кы́шка* 96. *кі́шічка* 90. *гарлава́я кішка́* 1. е́жная кішка́ 9. *пішчава́я кішка́* 54, 93.

*гло́тка* 38, 78, 112, 118, 141. *гло́тка пішчыва́я* 40.

Адзінкавыя: *чараво́* 2. *е́чнае чараво́* 25. *страваво́д* 45. *стрывае́д* 84.

Адведзены: *пішчаво́д* 61, 79, 86, 129. *пішчаво́т* 83, 93. *пішчаві́к* 77. *каўбу́х* 81, 87. *кэ́ньдюх* 131.

## Карта № 28

# ПРАМАЯ КІШКА

№ 535 «Я. н. прамая кішка: кутніца, гудзечніца, гузечніца...»

На карце паказана лексічнае супрацьпастаўленне назваў прамой кішкі. Назвы перадаюцца словам і словазлучэннем. Пры картаграфаванні ўлічваецца толькі аснова слова. Аб'яднаны адным знакам: *серава́я кішка́, сра́чная кішка́* 91, 99, *сера́янка* 47, *сяру́ха* 121. Як *гузе́чніца* картаграфуецца *ўздзе́шніца* 9.

*ку́тніца* 19, 20, 23, 25—27, 30, 31, 46, 49, 49а, 50, 52—54, 55 (рэдк.), 56—63, 65, 67—72, 76, 77, 94, 100—102, 104, 106, 107, 110, 112, 114—119, 120а, 121, 122, 124, 127, 135—139, 141. *ку́тныця* 97. *ку́тныца* 103.

*ку́тняя кішка* 135. *ку́тня кы́шка* 94а, 95, 108, 109, 132. *кутава́я кішка́* 19. *ку́тня* 134. *ку́тна* 98.

*кут* 24, 74. *куто́к* 8а, 54. *куть́цніца* 64. *кутэ́нь* 131.

*гузе́чніца* 9—11, 36, 41. *гузе́шніца* 35, 40. *гузе́тніца* 37, 38, 73. *гудзе́чніца* 32. *гудзе́шніца* 40, 84. *гузёшніца* 43, 85, 89. *гузётніца* 75, 82, 86, 123. *гудзёшніца* 43, 83. *гузённіца* 128. *гужэ́тніца* 29, 33. *уздзе́шніца* 9.

*гузе́шная кішка́* 7, 13, 14. *гузе́шнъя* 12. *гузе́шныя* 15, 42. *вузе́шная кішка́* 2.

*гузно́* 21.

*сярава́я кішка* 3. *серава́я кішка́* 5. *сірава́я кішка́* 2, 4, 6. *серама́я кішка́* 18. *сяро́мая* 19. *сра́чная кішка́* 93. *сра́чна кі́шка* 99. *сра́чня кі́шка* 91. *сяра́янка* 47. *сяруха́* 121.

*прамáя кішкá* 1, 8, 51, 66, 78, 80, 81, 90, 111, 125, 129, 130. *прíмая кішкá* 16, 79, 85, 87. *прамáя кішка* 90, 120. *прамáя кышка* 92.
*прахóдная кішка* 6, 22, 126. *праходнáя кішкá* 17.
*зáдняя кішка* 113. *зáднія кішкá* 24. *зáдня кішкá* 90. *зáдня кышка* 96 (часцей).
Адзінкавыя: *кужэ́чніца* 28. *вужэ́ўніца* 30. *прóста кішкá* 90. *тóвста кышка* (радзей) 96. *пляха, кніжэ́тніца* 142.

### Карта № 29

## ДЫЯФРАГМА (мышачная перагародка)

№ 536 «Я. н. дыяфрагма: плява, плеўка, балона...»
На карце адлюстраваны лексічныя варыянты назвы дыяфрагмы ў жывёлы. Акрамя таго, паказаны суфіксальныя варыянты лексемы плявá. Як *затвóр* картаграфуюцца *затвóры, затвóрыны, затверáлы*, як *запóна — запóня, запóны, перапóна, пэрэпóн, папынка, балóна* картаграфуецца як *балóнь*, як *плявá* картаграфуецца *плéва*.
*плявá* 22, 24, 25, 27, 36, 45, 47—49, 54, 58, 59, 61—72, 76, 77, 81, 82, 93, 99, 104—106, 110—112, 115, 116, 118—121, 124, 125, 127, 128, 130, 135, 139—142. *плевá* 5, 29, 57, 80, 102, 107, 113, 120а, 126, 133, 137, 138. *плéва* 24, 28. *плівá* 6, 9, 13, 14, 17, 26, 29—31, 33, 34, 37, 38, 40, 43, 44, 73—75, 78, 79, 85, 87, 89, 114. *плíва* 94а—96, 103, 109, 132. *плывá* 108. *плёвá* 129.
*плéўка* 10, 11, 17, 29, 38, 50, 55, 56, 60, 79, 87—89, 94, 111, 116, 117, 122, 123, 130, 134, 136, 137. *плíўка* 114. *плíвка* 90—92, 96, 96а, 108. *плывка* 97.
*плéнка* 12. *плéнкі* 14. *плéўра* 46, 124.
*затвóр* 15, 29, 32, 39. *затвóра* 2. *затвóры* 1, 4 (адзін — *затвóр*), 7, 8. *затвóрына* 40. *затверáлы* 52.
*запóна* 19. *запóня* 18. *запóны* 3, 19, 20. *перапóна* 51. *пэрэпóн* 101. *папынка* 16.
*пірыгарóтка* 32, 42. *пірігарóдка* 84. *пірігарóтка* 83. *пырыгарóтка* 95. *пэрэгорóдка* 108. *парагарýтка* 93.
*балóна* 84. *балóнь* 86.
Адзінкавыя: *вуздýха* 28. *кумóра* 98. *чыпэ́ць* 131.

### Карта № 30

## ЗНАХОДЗІЦЦА Ў СТАНЕ ЦЕЧКІ (пра карову)

№ 537 «Якімі словамі абазначаецца перыяд цечкі ў жывёл: карова ўзнімаецца, бегае, палюе, карова быкоў, карова за быкамі... Карова пабегалася, адбегалася, папалявала...» АЛА 186 'находится в состоянии течки' (о корове)... диал. бьется — vodi — latuje sii. Матэрыял ЛАБНГ сабраны па рэдкай сетцы абследавання. Як *карóва быкóў* картаграфуюцца *карóві быка нáда* 2А. Адведзена ад картаграфавання спалучэнне *пахадзіла карóва*, таму што яно не адпавядае паняццю, якое занатавана на карце.
*бéгая* 52, 58, 60—62, 66, 122. *бéгае* 51, 93, 94, 102, 107, 135, 136. *бéгыя* 78, 79. *бíгае* 90, 92, 94а—98, 103, 108, 109, 131, 132. *бéгаіць* 21. *бéгаець* 88.
*бéгаецца* 54. *бéгыіцца* 87. *пабéгалась* 86.
*палюе* 45, 109, 114, 133, 135. *палюя* 20, 62, 69.
*быдлýе* 51.
*гуляць* 130.
*карóва ламáецца* 9. *карóва лъмáецца* 8а.
*карóва пыднілáся* 85. *карóўка ўзнілáся* 79. *знялáся* 58.
*узбурылася* 58.
*карóва быкóў* 8а. *карóва на быкóў* 10, 11, 29. *карóва за быкáмі* 83, 85.
*карóва паднялáся на быкі* 21. *карóва паднялáся пад валы* 26. *карóва на быка ўзнілáся* 8. *карóва ўзнімецца на быкі* 21. *карова ўзнілася пад быкі* 24. *карóва знялáся да быкóў* 58.
*зъ быкáмі бéгаіцца* 86. *бéгыіць зы быкáмі* 89.
Адзінкавыя: *стадýя* 19. *узбурылася* 58.
АЛА: *бéгае* 10А, 14А, 30А, 34А, 45А — 47А, 50А, 53А, 55А, 57А, 62А, 115. *бéгая* 26А — 29А, 33А, 44А, 49А, 51А, 60А, 50, 61. *бéгыя* 36А. *бíгае* 43А, 48А, 52А, 64А.
*бéгаяцца* 29А, 70. *бéгаіцца* 37А. *бéгыіцца* 23А.
*палюе* 10А, 31А, 54А, 57А. *палюя* 11А, 32А, 35А, 39А, 59А.
*быдлýе* 46А. *быдлýя* 44А.
*гуляе* 61А.
*іграе* 66А. *граé* 67А.
*паднілáся* 17А. *пыднілáся* 25А. *паднялáся* 40А. *узнілáся* 22А. *знімáецца* 65А.
*карóва быкóў* 24А. *да быкá* 15А. *за быкóм* 6А, 7А. *за быкáмі* 8А, 9А, 21А, 23А, 39А, 41А, 63А. *на быкóў* 18А. *пад быкіі* 19А. *карóві быкá нáда* 2А.
*паднілáся быкóў* 41А. *паднялáся на быкі* 3А. *узнілáся на быкóў* 4А. *узнілáся на быкі* 5А, 12А, 13А. *паднілáся к быкáм* 58А.
*бéгае за быкáмі* 20А.
Адзінкавыя: *карóва крýціцца да быкóў* 1А. *захацéла к быкáм* 42А. *бéгаць паднялáся* 55А. *прыгая* 60А.
Адведзена: *пыхадзілася карóва* 9А..

### Карта № 31

## ДАЧАСНА АЦЯЛІЦЦА

№ 542 «Я. н. дачасны ацёл, апарос, акот: карова, кабыла звергла, скінула...»
Картаграфуюцца дзеясловы, якія абазначаюць дачаснае пазбаўленне ад цяжарнасці каровы і кабылы. Не картаграфуюцца лексемы *абарціравала, абарціравалася*, таму што яны з'яўляюцца неалагізмамі. Зафіксавана адрозненне ў абазначэнні разглядаемага паняцця ў каровы і кабылы: 98 *курóва скэ́нула, кобэ́ла звэ́ргла.* 122, 128 *корóва скінула, кобыла звéргла лашá.* 141 *іскінула цяля, кобыла звéргла лашá.* У 130 нас. пункце адказам з'яўляецца лексема *неданéсла*, якую пры картаграфаванні не ўлічвалі. Як *звéргла* картаграфуецца *звярглá*.
*скінула* 1, 3—7, 9—12, 18, 21—27, 29, 31, 34, 36—44, 47, 48, 52а, 55, 58, 70, 72, 73, 75, 78—80, 82, 83, 85—89, 99, 106, 107, 112, 116, 119, 120а — 123, 127, 128, 134, 136, 137, 140, 142 (рэдк.). *іскінула* 141. *скінала* 2, 14, 28, 33, 74, 82. *скінъла* 8, 8а, 15. *скіныла* 16, 30, 35, 84. *скынула* 92, 96а, 131. *скэ́нула* 98. *зкінуць* 117.
*скінулася* 52. *скінулась* 20.
*скідала* 45, 49.
*скідалася* 46, 50, 51, 91. *скідаласа* 93. *скыдалась* 90.
*звéргла* 53, 54, 55 (рэдк.), 56, 57, 59—71, 75—77, 81, 82, 94—96, 100, 102—105, 110—116, 118, 119, 122, 124—129, 135, 137—142. *звэ́ргла* 96а — 98, 101, 107—109, 132, 133. *звярглá* 115.
*збрóсіла* 17, 36. *сбрóсіла* 32.
Адзінкавыя: *жывацёл* 114.
Адведзена: *неданéсла* 130. *абарціравала* 28. *абарцірывала* 40, 42, 84 (нов.). *абарцірывалася* 35 (нов.), 75, 81, 120. *абарцірървалась* 86. *абарціралася* 123. *сабарціравалася* 142.

### Карта № 32

## ПЛАЦЭНТА Ў ЖЫВЁЛЫ

№ 544 «Я. н. плацэнта ў жывёлы: места, пасцель, ачыстка... Жывёла ачысцілася, счысцілася...»

Картаграфуюцца адказы на першую палову пытання — назвы плацэнты. Дзеясловы, якія абазначаюць працэс пазбаўлення ад плацэнты пасля родаў, на карце не паказаны. Яны прыводзяцца ніжэй у спісе слоў. Аднак, на карту нанесена лексема схарашылася — аднакарэнная з адным варыянтам назвы плацэнты — хорошыло. У 23 п. плацэнта розных жывёл называецца па-рознаму: *пасцéль* — у каровы, *мех* — у кабылы. Як *пасцéль* картаграфуецца *пасцéлька, пасцéля,* як *паслéт — опослід,* як *мéста — мéсцішча.*

*мéста* 1, 5, 7, 8 (трад.), 8а — 17, 25, 25а, 28—30, 33—44, 61, 63, 64, 66—69, 71—86, 89, 111, 112, 115, 116, 118—130, 139—142. *мéсто* 60, 62, 94, 102, 105, 107, 110, 113, 114, 117, 134—138. *мéсца* 31, 54, 55, 70. *мéсцо* 50, 53. *мéсцэ* 93, 133. *місцэ* 97, 131. *місьце* 90, 95, 96, 108. *мéсціщча* 2. *мéйсца* 3.

*пасцéль* 4, 18—20, 22. 23 *(пасцéль у карóвы),* 24, 26, 27, 45—49, 51, 52, 52а, 54 (рэдк.), 56—59, 99, 100, 104. *посцéль* 101, 102, 106. *постіль* 94а, 103, 108, 109, 132. *пасцéля* 6. *пасцéлька* 25.

*паслéт* 8 (суч.), 25а, 32. *пусліт* 98. *опослід* 91.

*хорошыло* 95, 96.

Адзінкавыя: *мех* 23 (у кабылы). *гайнó* 87. *шыстыло* 92.

*счысцілася* 14, 17, 25а, 28, 32, 36, 47, 48, 54. *счысцілася* 137. *счыстылась* 94а, 97. *счыстылася* 96а. *счыстылас* 108. *счыстылаcа* 132. *шчысцілася* 2, 4, 6, 8, 9, 18, 20, 29, 31, 38, 62, 63, 65, 74, 75, 82. *шчысцілася* 93. *шчысцілъся* 83. *шчысцілыся* 40, 78, 85. *шчысцілъсь* 39. *шчысцілысь* 16, 35. *шчыстылась* 91, 92, 95. *шчыстылаcа* 109. *шчэстылася* 98. *ачысцілася* 10, 11, 30, 37, 45, 49, 57—59, 66—68, 70—73, 76, 81, 82, 99, 104, 118—120, 124, 127, 139, 142. *ачысцілаcа* 115—117. *ачысцілъся* 41, 42. *ачысцілыся* 87, 89. *ачысцілаcё* 60. *ачысцілась* 86, 88, 126. *ачысцілысь* 84. *ачысцiцца* 46. *очысцілася* 101, 133. *очысцілаcа* 113—114. *очысцілас* 94, 102. *очысцілос* 107. *очыстылася* 90. *очыстылаcа* 109. *очыстылась* 95 (рэдк.), 103, 131. *очыстылас* 108. *очістілас* 134. *ачышчáецца* 128.

*схарашылаcа* 115. *схарашылас* 135.

## Карта № 33

## КАРОВА ПЕРШАГА АЦЁЛУ

№ 547 «Я. н. карова, якая першы раз цялілася: першачка, первацёл, пярвостка, пярвусценка...»

На карце супрацьпастаўлены лексічныя варыянты назвы каровы, якая цялілася першы раз. Картаграфуюцца толькі асновы слоў — простыя і складаныя *(пярвáчка, первацёлка..., першáчка, першацёлка...).* У спісе слоў да карты лексема падаецца ў мясцовых фанетычных і марфалагічных варыянтах. Пры картаграфаванні не ўлічаны лексемы *нéціль* 34, *цёлка* 93, *выпусток* 94, якія называюць іншы стан жывёліны. У 114 пункце назва дыферэнцыруецца ў залежнасці ад таго, на якім годзе цялілася карова: *первацёлка* (на трэцім), *дрóвіцка* (на другім годзе). Відаць, таксама трэба разумець і запіс 38 пункта: *першáчка, траццяк* — першы раз цялілася на трэці год. Апошняя лексема на карце не паказана. Адным знакам аб'яднаны *первацёлка* і *первацёл; першацёлка* і *першацёл; пéршым цéлем* і *пéршым целя́цем (тыля́том).* Як *пярвóсцінка* картаграфуецца *пярёсцінка.*

*пярвóсцінка* 13, 15, 17, 32, 35, 39—41, 43, 44, 75, 80. *пярвóсценка* 81. *пярвýсцінка* 12, 79, 86, 89, 118. *пярвýсценка* 82, 88, 123. *пярвісцінка* 4. *первісенка* 7. *первысенка* 16. *пярвýсцiнык* 85. *пярёсцінка* 83.

*первáчка* 1, 8, 126, 127, 141, 142. *первя́чка* 120а.

*пярвýшчанка* 121, 124, 125, 128. *первýшчанка* 129.

*первацёлка* 7, 19, 25—27, 31, 37, 42, 48, 51, 53, 57—59, 64, 67, 71, 78, 79, 81, 82, 99, 112, 115—117, 120, 122, 124, 129, 135, 140, 142. *пірвацёлка* 35 (нов.). *первоцёлка* 110, 136, 138, 139. *первотёлка* 134 (нов.). *пэрвоцёлка* 101, 102 (нов.), 113, 114 (на трэцім гóдзе). *пэрвотёлка* 131. *первацёл* 65.

*пéрвым цéлям* 58. *пéрвым цéлем* 105, 106.

*пярвýстка* 84. *первечáтка* 119. *первадóйка* 135.

*пяршáчка* 3, 18, 47, 53, 61, 68—70, 72, 81. *першáчка* 5, 9, 20—22, 28, 29, 36, 52, 74, 75, 81. *піршáчка* 2, 6, 8а, 10, 11, 30, 33, 37, 38, 73. *пэршáчка* 133. *пэршэчка* 98.

*пяршáтка* 56, 76, 77. *пыршáтка* 90. *пэршáтка* 91, 92.

*першынка* 108, 109, 132.

*першацёлка* 9, 23, 24, 52а, 55 (нов.), 63, 111, 142. *першотёлка* 108. *першыцёлка* 14. *першацёл* 62, 104. *пяршацёл* 60.

*пéршым цéлем* 45, 46, 87. *пéршым целя́цем* 102. *с пéршым цéлям* 50, 55. *пэ́ршым тэля́том* 94, 103. *с пэ́ршым тыля́том* 96. *з пэ́ршым тылéтам* 97. *пэ́ршым цёлам* 94. *пэ́ршым тёлам* 94а, 95, 96 (нов., рэдк.), 103, 108.

*дрóўка* 75, 130, 136, 137. *дрóвачка* 75. *дрóвіца* 134. *дрóвіцка* 114 (на другім годзе).

*лашчáк* 53. *лашчачóк* 53. *лашчáчка* 54.

Адзінкавыя: *ярýшачка* 28.

Адведзены: *траццяк* 38 *(першы рас цялілася на трэці год).*

## Карта № 34

## ВЕСНАВОЕ ЦЯЛЯ

№ 550 «Я. н. цяля гэтага года: сёлетнік, гэтарашне цяля...»

Назвы цяляці на першым годзе жыцця перадаюцца простымі або складанымі словамі. Апошнія ўтвораны пры дапамозе складання асноў. Картаграфуюцца толькі асновы, як простых, так і складаных слоў.

Словы, якія прыводзяцца ў адказах, некалькі адрозніваюцца па сваёй семантыцы. Вылучаецца група слоў, якая аб'яднана значэннем 'той, што нарадзіўся ў гэтым годзе': *сёлетнік, гэтарóчнік, цяпéрашняе* і г. д.; слова *сысýн,* дзе матывацыяй назвы з'яўляецца значэнне 'той, што ссе'; словы *выпустак, гумéнак і кучак* аб'яднанны значэннем 'той, што абмежаваны ў руху'. Такім чынам, асобныя лексемы паказваюць пэўны перыяд жыцця на першым годзе, яго стан, другія гавораць толькі аб тым, што жывёліна нарадзілася ў гэтым годзе.

У 132 п. адказ *гадовэ́е тыля́* разумеем, як *цяля гэтага году.*

Ад картаграфавання адведзены лексема *цяля́-перазімак,* т. я. яна не з'яўляецца адказам на пытанне. Як *сёлетнік* картаграфуецца *сялéтніца,* як *сёлетак — селятóк, сёлетка, сялётка, сялéтка.* Як *сёлешнік* картаграфуецца *сёлешні,* як *сёгорочное — сёгорошок;* як *сёлятняе — сялéтняе,* як *сягóлетак — сегалéтак, сяголéтка сегалéтка, сюголéтак.* Як *гэ́тарашне* картаграфуецца *гэторóчное, гэ́тага рóку, этаўрóчні, рóчно (рíчнэ) цяля́,* як *гэтагóдняе — гэ́тага гóду,* як *гумянóе* картаграфуецца *гумнíшчаваe, гумёначак.* Як *сысýн* картаграфуецца *сусунóк, сысýнчык, сысýнка, сысýначка, сысачка, сыска, атсóсак.* Як *цяля́* картаграфуюцца ўсе словаўтваральныя варыянты з гэтым коранем.

*сёлетак* 82, 86, 125, 128. *сёлятак* 31. *сёлітак* 73, 75, 76, 81. *сёлітык* 78, 79, 83, 85, 89. *селятóк* 80, 81, 86. *сілятóк* 75, 84. *сёлетка* 30, 118, 119. *сялётка* 18. *сёлітка* 82. *ся́летка* 74.

*сёлетнік* 29, 35—37, 88, 116, 129. *сёлітнік* 6, 34, 38, 41—44, 87. *сялéтніца* 2.

*сёлятняе* 23, 28, 57, 111. *сёлятне цялё* 58. *сёлетні* 9, 21, 24, 121. *сёлітні* 8а. *сёлятняя* 25. *сялéтняя (цёлачка)* 2, 3, 18, 24.

*сігалéтак* 1, 4, 7, 10, 11, 32. *сягалéтак* 14. *сігалéтка* 4, 5, 7, 10—12, 39. *сягóлетак* 77, 123. *сегóлеток* *113.* *сеголéтък* 112. *сягóлетка* 77, 124, 126, 127, 142. *сегóлетка* 126. *сягóлятка* 68. *сягóлітка* 82. *сюгóлеток* 109.

*сягóлетнік* 122, 141. *сігалéтнік* 13, 15, 16.

*сягалéтні* 8, 15. *сягóлетне* 112. *сягóлетня* 65, 120. *сягóлетні цялёнак* 127. *сягóлетняе цяля́* 59, 70. *сягóлетняя цялё* 69, 71. *сягóлетне цяля́* 115. *сягóлетны цялёнак* 120а.

*сёлешнік* 24. *сёлішні бычóк, сёлішняя цялýшка* 24.

*сёгорóчнэ тыля́* 96, 96а. *сігорíчня* 91. *сюгорýчнэ* 98. *сёгорíчнэ* 92. *сёгорóшок* 90.

*гэ́тарашняя* 52а. *гэ́тарашня* 46. *гэтарóшняе цяля́* 93. *гэторóчное теля́* 94. *гэ́торочнэ* 94а, 97, 102, 103. *гэ́торíчнэ* 95, 108. *цяля́ гэ́тага року* 50. *этаўрóчні цялюк* 52. *цяля́ гэ́таго рóку* 50. *рóчно цяля́* 47. *рíчнэ цяля́* 101.

*гэтогóдняя целя́* 114. *гэ́тага гóду цяля́* 62, 63. *гэ́того гóду* 101. *у гэ́тым годý родзілаcа* 107. *éтага гóду* 120.

*цяпéрашняе цяля́* 104. *цяпéрашне* 105, 138. *цяпéрашнё* 56. *цяпéрашняя цёлка* 136.

*сысýн* 20, 45, 48, 53—55, 72, 90, 95, 99, 102, 110, 139. *сосýн* 95. *сусýн* 67. *сусунóк* 49. *сысýнчык* 133. *сысýньчык* 49а. *сысýнка* 45. *сысýначка* 49. *атсóсак* 60. *сысачка* 51. *сыска* 51.

*вы́пустак* 66, 67 (к восені).
*гумянно́е* 26. *гумні́шчавое* 57. *гуме́начак* 64.
*цяля́* 61, 117. *целя́* 135. *цялё* 22, 25а, 27. *тэля́* 134. *цёлка* 124. *цяло́к* 17. *целю́к* 133 *(як по па́жы шчэ нэ ходзі́ў). цялі́цка* 117. *цялёнак* 130.
Адзінкавыя: *агаро́дняя целя́* 59. *адналётак* 69. *первого́дне целя́* 114. *куча́к* 131. *годовэ́е тыля́* 132.
Адведзены: *цялё-пералётак* 19.

## Карта № 35

# ЦЯЛЯ-ПЕРАЗІМАК

№ 552 «Я. н. цяля, якое перазімавала: перазімак, падцёлак, падцёлка, такрошняе цяля...»
Картаграфуецца назва цяляці, якое нарадзілася ў мінулым годзе. На карце адлюстраваны лексічныя варыянты назвы незалежна ад полу жывёлы. Улічана толькі аснова слова і граматычная катэгорыя (назоўнік — прыметнік). Адведзены ад картаграфавання лексемы *цялёнак, цялу́шка, цёлка,* таму што яны называюць маладую жывёліну незалежна ад таго, калі яна нарадзілася — у гэтым годзе, ці ў мінулым.
Як *пералётак* картаграфуецца *пералётка.* Як *лёташнік* картаграфуюцца: *лёташніца, лёташак, лёташка, літушок, лёташачак,* як *падцёлак — падцёлка.* Як *першапа́шнік* картаграфуецца *цяля́ ў першу па́шу* і *первапа́жа;* як *выпустак — выпу́стак, ву́пустачак.*
*перазі́мак* 1, 4, 5, 8, 9, 19, 21, 22, 24—27, 29, 37, 57, 59, 73, 116. *пяразі́мак* 3. *перезі́мак* 14. *перьзі́мак* 86. *перязі́мак* 36. *піразі́мак* 75, 84. *піразі́мык* 35, 40—43, 85, 87. *піразі́мък* 8а, 39, 83. *паразі́мак* 119. *паразі́мок* 138. *пэрэзі́мок* 107. *перазі́мачак* 17, 74. *перазі́мка* 18.
*пярэ́зімак* 20, 25а, 45, 48, 49а —51, 52а —56, 58, 60, 61, 67, 69, 99, 100, 104, 127. *перэ́зімак* 57, 62, 136. *пэрэ́зымок* 109. *піре́зімак* 88. *пэрэ́зымак* 91. *пярэ́зімка* 46, 47, 63. *пярэ́зімачка* 49. *пярэ́зімучка* 45.
*перазімо́вак* 31.
*пырызымо́ванэ* 96а. *перэзімова́на* 103. *пырызы́мкуванэ* 95.
*зімаві́чка* 82.
*зімаво́е* 74, 141. *зымо́вэе* 132. *зымо́вэ* 131.
*перале́так* 73, 80, 118. *піралётък* 12. *пералётачак* 28. *пералётка* 126. *пэрэлёток* 113. *пэрэлі́ток* 94а.
*пярэ́літак* 75. *перэ́летак* 129.
*лёташнік* 2, 6, 32, 33. *лётышнік* 40. *лёташніца* 2. *лётышніца* 15. *лёташак* 70, 75, 80, 125. *лётъшък* 86. *лёташка* 7, 23, 68, 76, 77, 124, 126, 130, 142. *лёташачак* 123. *літушо́к* 90.
*лёташняя* 122. *лёташняе* 105, 128. *лёташнёё* 30. *лі́тушнэ* 90.
*падцёлак* 118. *падцёлык* 42. *падцёлък* 41. *патцёлак* 10, 11, 25, 28. *патцёлык* 44, 78, 79, 89. *патцёлычак* 38. *паццёлак* 29, 81, 127. *паццёлык* 16, 35. *паццёлък* 8а. *паццёлка* 16, 81.
*выпустак* 64, 65, 67, 71, 72, 122. *выпу́стак* 96. *выпусток* 90, 93 (ад года да двух), 94 (два гады), 95, 97, 107, 108, 131, *ву́пустак* 139. *ву́пусток* 112, 114, 117, 120, 135. *ву́пустачак* 115, 116. *ві́пусток* 102.
*пэршопа́шнік* 101, 102. *первапа́жа* 116. *цяля́ ў пе́рву па́шу* 106.
*елоўчу́к* 134, 137.
*мякі́ннік* 105, 110.
Адзінкавыя: *гадо́вы цялёнак* 4. *пръшлаго́тка* 13. *такро́чні цялю́к* 52. *гадуне́ц* 66. *аднаго́дак* 82. *гыдаві́к* 85. *гадаві́к* 120а. *гадаво́я* 121. *го́да цяля́* 123. *прашлаго́дня цяля́* 136. *другі́ год* 141.
Адведзены: *цялёнак* 5. *цялу́шка* 34. *цёлка* 81.

## Карта № 36

# АВЕЧКА

№ 556 «Як скажуць: авечка, аўца, гаўца...» АЛА 234 'овечка'.
У 50 пункце адказы ЛАБНГ і АЛА не супадаюць. У матэрыялах АЛА зафіксавана адна форма — *аве́чка.*
На карце супрацьпастаўляюцца словаўтваральныя варыянты назвы авечкі, а таксама наяўнасць пратэтычных *в* і *г* у слове і адпадзенне *а* ў пачатку слова. У 13 пункце знак пастаўлен на падставе формы мн. ліку *аве́чкі.* Як *аўца́* картаграфуецца *ўца́* (39А). Ад картаграфавання адводзіцца адказ у 16А пункце: *аўца́* (гэта па-руску).
*аве́чка* 1—11, 14, 15, 16 (нов.), 17—31, 33—38, 40, 42, 43 (рэдк.), 45—48, 50 (рэдк., нов.), 51—66, 67 (часцей), 68—89, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118—123, 124 (часцей), 125—130, 135, 137, 139—142. *ове́чка* 117, 134, 136. *овэ́чка* 90, 91, 93—97, 101—109, 113, 114, 131—133. *увэ́чка* 92. *аве́чкі* 13. *аве́цка* 16 (трад.).
*гаве́чка* 46, 58 (трад.), *говэ́чка* 95, 103.
*вове́чка* 138.
*ве́чка* 87. *вэ́чка* 98, 133, 134.
*аўца́* 9, 12, 16, 17, 29, 32, 35, 40—44, 46, 49, 50, 55 (рэдк.), 67, 75, 76, 77 (пераважна), 81, 82, 84, 88, 89, 111, 112, 115, 116, 118, 124, 127, 129, 142 (рэдк.).
*гаўца́* 50 (рэдк., трад.), 51.
АЛА: *аве́чка* 1А — 8А, 10А — 22А, 24А, 28А — 40А, 42А, 46А, 50А, 53А, 55А, 57А, 58А, 60А — 62А, 63А (без знач. памяншальнасці), 66А, 67А, 50.
*ове́чка* 52А, 54А, 65А. *авэ́чка* 49А, 51А. *овэ́чка* 43А, 45А, 52А, 64А.
*гаве́чка* 26А, 28А. *говэ́чка* 48А.
*ве́чка* 39А, 54А, 57А, *вэ́чка* 47А.
*аўца́* 7А, 9А, 10А (гэта па-руску), 23А, 25А, 39А, 41А, 53А, 56А, 59А, 61А, 62А. *оўца́* 22А (рэдк.). *ўца́* 39А.
*гаўца́* 27А.
*ваўца́* 44А.

## Карта № 37

# АСЕННЯЕ ЯГНЯ

№ 558 «Я. н. асенняе ягня: асянюк, асяньчук...»
На карце супрацьпастаўляюцца назвы ягняці, якое нарадзілася ўвосень. Назва перадаецца словамі або словазлучэннямі. У склад словазлучэння ўваходзіць прыметнік і назоўнік.
Не картаграфавалася лексема *ягня́* і яе варыянты, якія адзначаны ў 38 *(ягнёнък),* 86 *(ягнёнък),* 88. 128 *(ягнёнак),* 89 *(ягнёнык),* 92 *(ягне́)* пп, лексема *мало́душачка* 49 п., якая называе наогул маладое ягня.
*асянчу́к* 19, 20, 22, 23, 25а —27, 47, 48, 50—55, 57—72, 110, 112, 115, 116, 118, 127. *асяньчу́к* 99, 104, 105. *асенчу́к* 100. *осенчу́к* 133, 136. *осеньчу́к* 107, 134. *осінчу́к* 103.
*осенча́к* 109, 114. *осеньча́к* 102, 113.
*асяню́к* 46. *асе́ньчык* 67. *асе́ннік* 82. *асі́нка* 97.
*во́сеньскае ягня́* 31, 73, 74. *во́сеньскае ягнё* 29. *во́сеньскае ягня́тка* 5. *во́сенская ягня́* 119, 124. *во́сенскі ягнёнак* 9. *во́сеньскі ягнёнак* 123, 129. во́сінскі 33. *во́сінскія ягня́ты* 2. *во́сінскі ягнёнак* 6, 75. *во́сінскій ягнёнък* 15, 41, *во́сінскі(й) ягнёнък* 8а. *во́сеньскі ягнёнак* 118. *во́сіньскі* 82. *во́сіньскі ягнёнык* 35, 78, 84. *во́сінскі ягнёнык* 43. *во́сенскія ягня́ты* 42. *во́сенская, во́сеньская* 81. *во́сінскія ягня́ты* 2.
*асе́нскія ігня́ты, асе́нскі ягнёнак* 4. *осіньскій ягнёнак* 79. *осіньскэ ягне́* 98.
*во́сенны ягнёнак* 1. *во́сінны ягнёнак* 8, 10, 11. *во́сенный ягнёнак* 7. *во́сінный* 16. *во́сінныя ягня́ты* 12. *о́сенныя ягня́ты* 14.
*асе́нная* 18. *осы́ннэ ягня́* 90. *осіннэ ягня́* 94а, 96. *осіннэ ягне́* 97. *госіннэ ягня́* 95. *осі́нный ягню́к* 108, 132.
*асе́ннія ягня́ты* 2, 21. *асе́нні ягню́к* 3. *асе́нній* 16. *асе́нняе ягнёнка* 24. *асе́нняя ягнё* 25, 68, 69. *асе́нняя ягня́* 37, 119. *асе́нні* 32. *асе́нні ягнёнак* 79. *асенё* 56. *асе́ння ягня́* 45, 121. *асе́нній ягнёнык* 40, 85. *асе́ннія ігня́* 87. *осе́нне ягня́* 101. *асе́ння аве́чка* 120а. *асе́нняе ягня́* 93, 132, 141. *асінні ягнёнык* 35. *асе́нія ігня* 87. *асе́нняе егня́* 94. *асе́ннее ягня́* 135. *осі́нне* 91. *осіінне ягня́* 96а. *асе́няе ягня́* 142. *восе́нея ягня́* 122. *восе́нне егня́* 138.
*ягня́ асе́нняга ако́ту* 76. *ягня́ (ягнёнак) асе́нняга ако́ту* 140.
Адзінкавыя: *я́рочка* 108 *(ове́чэчка чы бара́нчык осі́нный). по́зняя ягня́* 139.

## Карта № 38

# МАРКА́Ч

АЛА 225 «некастрированный самец овцы баран — ovan — skop»
На карце знакамі (круг і трохкутнік) паказаны супрацьпастаўленні *баран* і *марка́ч (маркаль, мархаль, мархатун, маргаль, смаркач, смаркаль)*. Назвы баран некастрыраваны 10А, баран няложаны 13А, баран нікладзены 15А картаграфуюцца як баран.
Ад картаграфавання адведзены (як памылкова запісаныя) *кно́рыс* 7А. *кно́рэз* 42А.
*бара́н* 1А, 3А, 6А, 11А, 12А, 14А, 17А — 19А, 22А, 27А, 28А, 34А, 35А, 37А, 40А, 43А, 44А, 49А, 50, 51А, 55А, 58А, 60А, 63А — 65А, 70, 115. *быра́н* 2А — 5А, 9А, 23А — 25А, 36А, 38А, 39А, 41А, *бэра́н* 7А, 8А, 20А, 21А, 42А. *баран некастрыраваны* 10А. баран няложаны 13А. *баран нікла́дзены* 15А.
*марка́ч* 26А, 28А — 30А, 32А, 45А, 46А, 50А, 53А, 61. *морка́ч* 47А. *мырка́ч* 52А.
*марка́ль* 31А, 33А, 57А, 59А, 115 (рэдк.).
*марха́ль* 56А, 61А, 62А, 66А.
*мархату́н* 54А. *марга́ль* 67А. *смарка́ч* 48А. *смарка́ль* 48А.
Адзінкавыя: *цяк* 16А.
Адведзены: *кно́рыс* 7А. *кно́рэз* 42А.

## Карта № 39

# БАРАН

АЛА 226 «кастрированный самец овцы баран — ovan — ckop»
На карце супрацьпастаўляюцца назвы *бара́н* і дэрываты ад *скоп- (скапе́ц, шкапе́ц, скоп). Бара́н паклада́ны, бара́н ло́жаны, бара́н кла́дзены, бара́н лягча́ны, бара́н вы́лажаны, бара́н вы́пакладаны* картаграфуецца як *бара́н.*
*бара́н* 7А, 10А, 17А, 18А, 20А, 26А — 31А, 34А, 35А, 37А, 40А, 44А — 46А, 48А, 50А, 51А, 54А — 66А, 70, 115. *бора́н* 52А. *бъра́н* 42А. *быра́н* 9А, 24А, 25А, 36А, 38А, 39А, 41А. *бара́н ло́жаны* 13А. *бара́н паклада́ны* 14А. *бара́н кла́дзены* 15А. *бара́н вы́лажаны* 15А, 17А. *бара́н вы́пакладаны* 33А, 49А, 50. *быра́н лігча́ный* 23А.
*скапе́ц* 1А — 6А, 11А, 21А, 22А, 28А.
*шкапе́ц* 3А, 12А.
*скоп* 11А, 43А.

## Карта № 40

# КАЗЛЯНЯ

АЛА 245 ’Детеныш козы’ козленок — jare — koźlę
На карце супрацьпастаўляюцца фігурамі (круг і трохкутнік, квадрат) дэрываты ад *казл — (казляня, казлянё, казлёнак, казлянёнак, казлянятка, казлюк), каз- (казяня, казянё, казянятка)* і *(казёл- (казёлчык, казялюк).*
Назвы з суфіксамі *-ятка, -ётка, (казляня(ё)тка, казянятка), -ок, -ак (казялок, казючок, казьлёнэчэк, казілянёначык), -чык (казёлчык, казельчык),* з’яўляюцца памяншальна-ласкальнымі, але ў сувязі з тым, што ў запісах гэта не адначана, яны картаграфуюцца нейтральнымі назвамі: казлянятка — як і іншыя дэрываты ад *казл- казянятка* — як і іншыя дэрываты ад *каз-, казлёначак, казлянёначак* — як адзінкавыя назвы ад *казл-, казёлчык, казялок* — як дэрываты ад *казёл-.*
У ДАБМ картаграфаваны назвы маладых істот *цяля, парася, ягня* на карце № 84.
*казьляня́* 27А, 34А, 35, 55А, 59А, 61, 67А, 115.
*казьлянё* 14А, 27А, 32А, 33А, 37А, 115.
*казьлёнак* 3А, 6А, 13А, 19А, 46А, 58А, 60А, 61А, 63А. *казьлёнык* 1А, 9А, 17А, 22А, 23А, 25А, 41А. *казьлёнък* 7А, 18А, 20А, 24А, 38А, 42А. *касьлёнак* 40А.
*казьлянёнак* 3А. *казьлянёнык* 4А. *казьлянёнэк* 21А. *казьлянёнык* 39А. *кызьлянёнэк* 41А. *кызлянёнык* 9А. *кысьлянёнак* 40А.
*казьляня́тка* 28А. *казьлянётка* 31А.
*казьлю́к* 11А, 12А, 52А.
*казьля́* 64А. *казьлёнэчэк* 8А. *казьлянёначык* 5А. *казяня́* 29А, 44А, 49А, 50А, 50, 62А, 66А. *казеня́* 47А, 53А, 54А, 57А. *козыня́* 45А. *козеня́* 48А. *козене́* 48А.
*казянё* 16А, 29А, 30А, 70.
*казяня́тка* 15А, 26А. *казяня́тко* 29А. *казеня́тка* 26А. *казене́тко* 48А. *козяня́тка* 51А. *козеня́тко* 65А. *козыня́тко* 43А, 45А.
*кызянёнык* 36А. *казяню́к* 10А. *казючо́к* 52А. *казёлчык* 10А. *казе́льчык* 39А, 42А, 56А. *казе́лчык* 63А. *казяло́к* 12А. *кузяло́к* 2А.

## Карта № 41

# ЖАРАБЕЦ

АЛА № 156 ’некастрированный самец лошади’ жеребец — pastuh, pastuv — ogier
Картаграфуюцца назвы жарабца і суфіксальныя адрозненні ў назвах.
Адведзены ад картаграфавання словы *жарабёнак, жарабя,* якія з’яўляюцца назвай дзіцяняці каня.
*жарабе́ц* 1А, 3А, 10А — 12А, 14А — 16А, 20А, 28А — 30А, 32А — 35А, 46А, 49А, 50А, 53А, 55А, 57А, 59А, 61А — 63А, 66А, 67А, 50, 61, 115. *жірібе́ц* 7А. *жырабе́ц* 36А. *жърабе́ц* 38А. *жърябе́ц* 42А. *жырыбэ́ць* 43А, *жэрэбэ́ц* 47А, 52А, 64А, 65А. *жэрэбэ́ц’* 48А. *жарабэ́ц* 50А. *жоробэ́ц* 51А; *жэрэбе́ц* 54А.
*жарабо́к* 12А, 13А, 17А, 18А, 27А, 28А, 31А, 37А, 40А, 58А, 60А, 70. *жырабо́к* 2А, 5А, 6А, 24А, 39А. *жърабо́к* 8А. *жырябо́к* 9А, 21А, 25А, 41А. *жэрабо́к* 19А. *жырыбо́к* 60А.
*во́гер* 26А, 44А, 54А, *во́гір* 9А (у выразе *«ходзіць як вогір»*), 39А; *огэр* 45А. *о́гер* 50А, 53А, 62А (толькі ў выразе ’*ходзе вогерам*’ *у знач.* ’сярдзіты’). *во́гар* 51А.

## Карта № 42

# ГАДУН (аднагадовае жарабя)

№ 561 «Я. н. жарабя аднаго года: гадун, выпуск, адналетак...»
На карце прадстаўлены лексіка-словаўтваральныя варыянты назвы аднагадовага жарабяці. Адрозненні па каранёвай частцы паказаны фігурамі рознай формы. Словаўтваральныя адрозненні паказаны на карце шляхам рознага запаўнення ўнутры фігуры. Картаграфуемыя назвы па словаўтваральнай структуры прадстаўляюць сабой два тыпы: 1) назвы, утвораныя шляхам суфіксацыі, і 2) назвы, утвораныя суфіксальна-прэфіксальным спосабам ці спосабам складання асноў.
Акрамя агульнапашыраных назваў у форме мужчынскага роду, адзначаны формы жаночага роду, якія картаграфаваліся як адпаведныя формы мужчынскага роду (нас. пп. 4, 16, 52а, 99, 104).
Назва *адно́летак* (н. п. 110) картаграфуецца як *аднале́так.* Назва *выпуста́к* (н. п. 136) картаграфуецца як *вы́пустак.*
Памяншальна-ласкальныя формы картаграфуюцца як адпаведныя нейтральныя формы (нас. пп. 19, 31, 43, 51, 83, 116).
Магчыма, не зусім удала сфармулявана пытанне. Сведчаннем гэтаму з’яўляюцца матэрыялы з раду нас. пп., дзе ў якасці адказаў падаюцца словы тыпу *сегале́так, сёлетак, сёлетнік* і пад. Як бачым, у аснове гэтых назваў заключана паняцце ’у гэтым годзе’, ’гэтым летам’, г. зн., прыведзеныя вышэй словы з’яўляюцца назвамі жарабяці, якому няма яшчэ года. Гэту думку падцвярджаюць і некаторыя адказы: 1 *сягале́так; як пера-*

*зімўіць — перазімак.* 70 *сяголетак, леташак; як перазімўя — выпустак.* 82 *сёлетак* (да года). У сувязі з гэтым словы *сегалетак, сёлетак* і пад. адведзены ад картаграфавання (пп. 1, 5, 14, 18, 32, 40, 70, 73, 80, 82, 86). Падобную ацэнку можна даць і словам *сысун, адсосак*, якія таксама называюць жарабя да года (параўн. адказ з нас. п. 71 *сысун да году звалі).* Гэтыя словы таксама не картаграфаваліся (пп. 6, 29, 42, 71, 100).

Адведзены ад картаграфавання словы *жарабя, жарабё, жарабёнак* і інш., якія з'яўляюцца назвай дэсігната незалежна ад узросту, таксама з паяснялынымі словамі, якія ўказваюць на ўзрост жарабяці (нас. пп. 8а, 13, 15, 17, 22, 23, 25, 26, 28, 30, 33—35, 38, 42, 49, 50, 59, 62, 63, 72, 85, 88, 92, 93, 94, 97, 98, 101, 105, 106—108, 112, 114, 129, 130, 132, 135, 142).

Адведзены ад картаграфавання таксама *касюля, касюлёнак* у нас. пп. 77, 124; *кусюлёк* у нас. п. 131; *цяпёрашняе* ў нас. п. 105.

1 *сягалетак, а як перазімўіць — перазімак.* 2. *гадавік.* 3. *пяразімак.* 4 *перазімка (і жаробачка і жарэпчык).* 5 *сёлетнік.* 6 *сысўн.* 7 *адназімак.* 8 *перазімак.* 8а *жърабёнък аднаго году.* 9 *аднагодак, перазімак.* 10—11 *адналетак.* 12 *піралетък.* 13 *жырябёнък.* 14 *сягалетак.* 15 *жырабёнък.* 16 *адналетка, аднагодык.* 17 *жерябёнак.* 18 *сялетняя, сялетка.* 19 *перазімачак.* 20 *пяръзімак.* 21 *перазімак.* 22—23 *жарабё.* 24 *перазімак.* 25 *гадавоя жарабё.* 25а *пяръзімак, перазімак.* 26 *жарабё.* 27 *перазімак.* 28 *жарабёнак.* 29 *сысўн.* 30 *жырабёнак.* 31 *гадунок.* 32 *сігалетак.* 33 *гъдавы жърябёнаък.* 34 *жърабёнък.* 35 *жырабёнык, аднагодык.* 36 *гадавік.* 37 *адназімак.* 38 *жарабёнък.* 39. 40 *сёлітнік.* 41 *аднагодык.* 42. *жырабёнък, сусўн, съсўн.* 43 *гудунок.* 44 *стрыгўн.* 45 *пяръзімак.* 46 *рачняк, жарабя.* 47 *адназімак.* 48 *жарабок* (Спецыяльнай назвы няма). 49 *жарабя да року.* 49а *аднагодак.* 50 *аднарочно жарабя.* 51 *пяръзімачак.* 52 *пяръзімак, адной зімкі.* 52а *аднаготка.* 53 *аднагодак.* 54 *адналетак, гадўн, пяръзімак.* 55 *гадавік* (рэдк.). 56 *выпустак.* 57 *стрыгўн.* 58 *пяръзімак.* 59 *жарабё, гадўн, гадўнчык.* 60 *адназімак.* 61 *пяръзімак.* 62 *пяръзімак, выпустак, поджарабак.* 63 *жарабё першага года.* 64 *стрыгўн.* 65 *выпустак.* 66 *гадунец.* 67 *выпустак.* 68 *гадўн, гадунок* (памянш.). 69 *гадўн.* 70 *сяголетак, а як перазімўя — леташак, выпустак.* 71 *сысўн да году звалі.* 72 *жарабья.* 73 *сёлітак.* 74 *гадўн.* 75. 76 *выпустак.* 77 *кусюляк, кусюля была ля кабылы.* 78 *стрыгунок.* 79 *гыдавік.* 80 *селяток.* 81 *аднагодак, лашак, лашонак.* 82 *сёлетак* (да года). 83 *стрыгунок.* 84 *піразімык.* 85 *аднагадовый жырябёнык.* 86 *селяток, сёлетак.* 87 *гадўн.* 88 *жарябёнку адзін год.* 89 *адназімык.* 90 *выпусток, жыраб'яты одён ры^у^к.* 91 *рочняк.* 92 *жырэбўк.* 93 *жэраб'я.* 94 *гэторочнэе жэрэбя.* 94а — 95 *рочняк.* 96 *лончяк.* 96а *выпусток, лончак.* 97 *выпусток, адноро́чнэ.* 98 *жэ^а^рэ^а^бле пэ^а^рэ^а^зімованэ^а^.* 99 *жарэбятко аднаготка.* 100 *адсосок.* 101 *жэрэбёнок.* 102 *жэрэб'я рочняк, год жэрэб'яці, адзін рэк.* 103 *рочняк.* 104 *аднагодка.* 105 *цяпёрашняе.* 106 *жэрэбья.* 107 *жэраб'я годовэ.* 108 *жэрэбўк.* 109 *рочняк.* 110 *адно́летак.* 111 *аднагодак.* 112 *жараб'я.* 113 *годўн.* 114 *жэрэбя.* 115 *гадўн.* 116 *вўпустачак.* 117 *вўпустак.* 118—120 *аднагодак.* 120а *гадавік.* 121 *лашонак да трох гадоў, пакуль і ні запрагўць.* 122 *лашаня.* 123 *гадавічок.* 124 *кусюлёначак, кусюлёнак.* 125. 126 *аднагодак (аднагодак гуляе, а тады его абучаюць у санях, уздэчку адзеюць).* 127 *лаша, лашонак.* 128 *леташак.* 129 *аднагадовы жарабёнак.* 130 *жырыбятко.* 131 *кусюлёк.* 132 *годовый жыраб'юк, выпусток.* 133 *годовік.* 134 *вўпусток.* 135 *жараб'я, лаша* (наогул); *лашачок* (м. р.), *лашыцка* (ж. р.). 136 *выпустак.* 137 *лошаня.* 138 *лошак* (жарабя 1-га года). 139 *адназімак.* 140. 141 *лаша.* 142 *каня да года наз. жарэбчыкам, кабы́лу аднаго года наз. лашонак.*

## Карта № 43

## СТРЫГУН (двухгадовае жарабя)

№ 562 «Я. н. конь ва ўзросце двух год: лашак, стрыгун...»

Карта прысвечана лексіка-словаўтваральным варыянтам назвы двухгадовага каня. Адрозненні па каранёвай частцы паказаны фігурамі рознай формы. Словаўтваральныя адрозненні паказаны на карце шляхам рознага запаўнення ўнутры фігуры. Картаграфуемыя назвы па словаўтваральнай структуры падзяляюцца на два асноўныя тыпы: 1) назвы, утвораныя шляхам суфіксацыі і 2) назвы, утвораныя пры дапамозе складання асноў. У адзінкавых выпадках адзначаны суфіксальна-прэфіксальны спосаб утварэння картаграфуемых назваў. Акрамя агульнапашыраных назваў у форме мужчынскага роду, адзначаны назвы ў форме жаночага роду, якія картаграфаваліся як адпаведныя формы мужчынскага роду (п.п. 16, 19, 23, 67, 81, 99, 105, 110). У п.п. 114, 128 знак пастаўлены на падставе адказу — *лашыца, двухгадовая лашыца.*

У некаторых адказах даюцца назвы двухгадовага каня ў залежнасці ад полу. У такіх выпадках на карту наносілася толькі назва асобіны мужчынскага полу (пп. 15, 21, 34, 39, 44, 95, 104, 108, 113, 114, 118, 128, 133, 135).

Формы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі картаграфаваліся як адпаведныя нейтральныя формы. (пп. 25а, 34, 43).

Як *стрыгўн* картаграфуецца *стрыгўн* у п. 71.

У тых нас. пп., дзе ў адказах указвалася на адсутнасць спецыяльнай назвы, прыводзілася апісальнае тлумачэнне або агульная назва *конь* ці *жарабёнак, лашаня* ставіўся знак — (2, 4, 7—11, 13, 17, 26, 28, 29, 35—37, 49, 50, 52, 52а, 58, 64, 68, 72, 73, 79, 80, 85—87, 90, 94, 94а, 96, 97, 100—103, 107, 109, 112, 115—117, 119, 132, 134, 137, 138, 141).

Калі ў адказах акрамя спецыяльнай назвы прыводзіліся назвы апісальныя або агульная назва *конь*, на карту наносіліся толькі спецыяльныя назвы (пп. 31, 37, 56, 81, 84, 104, 106, 142).

Адведзены ад картаграфавання *гъдавік* у нас. п. 12, *перазімак* у нас. п. 5.

1 *трацяк.* 2 *двухгадовы конік.* 3 *жарабўк.* 4 — ; *два гады жырабёнку.* 5. *перазімак, тръцяк.* 6— (няма назвы, малады конь). 7 *два гады жырабёнку.* 8 *два гады каню.* 8а —. 9—11 *двухгадовы конь.* 12 *гъдавік.* 13 *жырябёнък.* 14 *жэрэбок.* 15 *жырабёнък, жарэпчык, жаропка.* 16 *двухлетка.* 17 *конь.* 18 *двухзімак.* 19 *двуготка.* 20 —. 21 *жарабўк, жаропка.* 22 *жарэпчык, жаробачка.* 23 *стрыгўнка.* 24 *трацяк.* 25—; *малады конь, яшчэ не запрагаюць.* 25а *жарабочак.* 26 *конь.* 27 *паджаробак.* 28 *конь.* 29 *жарабёнак, малады конь.* 30 *двугодні жарабок.* 31 *конь, жарабок.* 32 *конь леташнік.* 33 *жърабок.* 34 *жаробка, жърабочык.* 35 *жырабёнык двухгадовы.* 36 *конь.* 37 *жарабок, конь.* 38 *стрыгўн.* 39 *жарепчык, жарёпка.* 40 *летышнік.* 41—42 *стрыгўн.* 43 *стрыгўн, стрыгунок.* 44 *жарёбка* (кабылка), *жарэбчык* (конік). 45 *двузімак.* 46 *стрыгўн, двулетак* (рэдк.). 47 *двазімак.* 48 *жарабок* (спецыяльнай назвы няма). 49 *малады конь, яму два рокі.* 49а *двухлетак.* 50 *каню два рокі.* 51 *двазімак.* 52 *конь двух гадоў.* 52а *двугодні конік.* 53—. 54 *двухлетак.* 55. *двохгодак.* 56 *малады конь, двазімак.* 57 *паджаробак.* 58 *двохгодні жарабок.* 59 *стрыгўн.* 60 *двалêтак, двухлêтак.* 61. *двухлетак.* 62 *лашак, стрыгўн* (як абстрыгуць грыву). 63 *паджаробак.* 64 *конь.* 65—66 *стрыгўн.* 67 *трацяка (на трэйці год).* 68 *двухлетняя жарабё.* 69 *стрыгўн.* 70 *двухлетак.* 71 *стрыгўль (гот кончыцца — стрыгулём называюць).* 72 *конь, малады конь.* 73 *жарабёнак 2 гады, жарабёнак двухгадовы.* 74 *стрыгўн, жарабок.* 75 *двухлетак, леташак.* 76—. 77 *лашонак.* 78 *стрыгўн.* 79 *двухлетній жырябёнык.* 80 *двухгадовый.* 81 *двухгадовы, двухлетка, лашак.* 82 *леташак.* 83 *стрыгўн.* 84 *лышак (двухгадовый жырябёнык).*85 *двухгадовый, два гады.* 86 *мъладзэ конь, двухгадовый, лошадзь* (нов., рэдк.). 87 *двухгадовый конь.* 88—. 89 *лышак.* 90 *молодый кы^у^нь; два-тры рокы конёвы.* 91 *двулíток.* 92 *жырэбўк.* 93 *ланчак* (як на пашу выпускаеш). 94 *летошнее жэрэбя.* 94а *конюк, два рокы конюк.* 95 *трытяк, трытячка.* 96 *молодый кынь, конюк.* 96а —. 97 *два годы конёвы.* 98 *стрыгўн.* 99 *двухготка.* 100 *двухгадовы.* 101 *кэнь два годы.* 102 *два годы коню.* 103 *молодый кынь; молодняк)* (зборн.). 104 *малады конь, жарабічка* (кабылка), *жарэбчык.* 105 *двухготка.* 106 *конь, жарэбчык.* 107 *жэрэб'я другій гѣэд.* 108 *молодый конык; кобылка, жарэбычка.* 109 *два рокы конык.* 110 *двухгôтка.* 11—. 112 *кôнь два гады.* 113 *жэрэбец* альбо *жаропка, жэрэбіца два годы.* 114 *жэрэбчўк; жэрэбіца, лошыца.* 115 *двух гадоў кобылу купіў.* 116—117 *конь.* 118 *жарабок, лашыца* (яна). 119 *двухгадовы.* 120—120а *лашак.* 121 *лашонак.* 122—123 *лашак.* 124 *лашак, лашонак.* 125 *лашак.* 126 *лашак (лашака нікуды не патрабляюць, только кормяць).* 127 *двугодні лашонак.* 128 *двухгадовая лашыца.* 129 *лашак.* 130 *лашак.* 131—. 132 *кунь; два годы коню.* 133 *лошак; лошыца* (кабыла). 134 *конік.* 135 *лашак* (м. р.), *лашыца* (ж. р.). 136 *жарэбчык, лошак.* 137 *лошаня.* 138 *конь.* 139 *лашак.* 140. 141 *конь.* 142 *конь, лашак.*

## Карта № 44

## СТРЫЖЭ (конь вушамі)

№ 566 «Я. н. «Конь вушамі стрыжэ, кратае, прадзе...»

Картаграфуюцца дзеясловы, якія маюць значэнне 'паводзіць вушамі, адчуваючы небяспеку (пра каня)'.

Асноўнае супрацьпастаўленне — лексічнае, якое паказана пры дапамозе розных фігур.
Як *прадзе́* картаграфуецца *пражэ́*, як *хло́пае* картаграфуецца *ло́пае*, як *тапы́рыць* картаграфуюцца іншыя граматычныя формы гэтага дзеяслова.
Адведзены ад картаграфавання дзеясловы *уту́льваць, пло́шчыт, прыкладаць*, якія маюць значэнне 'прытульваць'.
*стрыжэ́* 19, 20, 23, 25, 25а *(стрыжэ́ вушамі, як чага́ баіцца)*, 27, 31, 37, 38, 43, 46—50, 51 *(стрыжэ́ ушамі, як чу́е во́ўка ці чаго́ баіцца)*, 52—57, 59—63, 65, 67—71, 74—79, 82, 90—92, 94, 96а, 97, 99, 101, 102 *(стрыжэ́ вушамі, як пачуе опасносць, воўка)*, 104, 105, 107, 110, 116, 118, 120а, 125, 128, 136, 137, 139. *стрыжэ̂* 100. *стрыжэ́ць* 1,2 *(стрыжэ́ць — стрык-стрык)*, 3—6, 8—11, 14—16, 18, 21, 22, 24 *(нешта конь вушамі стрыжэ́ць, ці пачу́ў што)*, 26, 28—30, 33—36, 39, 40 *(конь каго-небудзь чу́іць — стрыжэ́ць вушамі)*, 41, 44, 83. *стръжэ́ць* 8а. *стріжэ́ць* 12, 85 *(конь стріжэ́ць вушамі — не́кыга чу́іць)* 88. *стрыге́ць* 7, 17.
*стружэ* 114. *стрігъіць* 13.
*прадзе́* 53, 124. *прадэ́* 94а, 95, 103, 108, 109, 132. *прадэ*[а] 98. *пражэ́* 113.
*хло́пае* 119, 129, 133. *хло́пая* 121. *хло́пыіць* 85 (трад.). *ло́пае* 73 (больш часта), *ло́пыя* 87. *лыпае* 131.
*тро́пае* 73, 123. *тро́пая* 80. *трёпъіць* 86.
*стрэ́пая* 58. *трапе́чыць* 84. *трапе́ча* 117 *трэ́пліць* 89. *траплэе* 142.
*кра́тая* 72, 127. *кра́таіць* 29.
*тапы́ра* 77. *нътупу́рыў* 38. *натапы́рыў, нъдыбуры́ў* 42. *натапы́рыў, натупу́рая* 81. *натапы́рвае* 111. *натапу́рыўса* 135.
Адзінкавыя: *пірэбіра́іць вушамі* 32. *махае вушамі, яг нервуецца, баіцца* 45. *хмыліць вушамі* 64. *ворушыць вушамі* 106. *нашарэ́піўся конь, наставіў ву́шы* 112. *ківа́е* 115. *ківае* 119, 120, 138. *мата́е* 122. *паста́віць ву́шы, штось чу́е* 126. *то́ркае* 134. *маха́е* 141.
Адсутнічае матэрыял: 66, 130, 140.
Адведзены: *пло́шчыт ву́шы* 93, *уту́львае* 102, *прыклада́е ву́шы* 135.

## Карта № 45

# ПУЖЛІВЫ (пра каня)

№ 570 «Я. н. конь, які палохаецца: пужлівы, палахлівы...»
На карце адлюстраваны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў, якія абазначаюць палахлівага каня. Фігурамі абазначаны проціпастаўленні па каранёвай частцы. Словаўтваральныя адрозненні паказаны розным запаўненнем фігур. У матэрыялах некаторых населеных пунктаў для абазначэння картаграфуемай з'явы прыводзяцца дзеясловы. Пры адсутнасці прыметнікавай формы картаграфаваліся дзеяслоўныя формы пры дапамозе адпаведнай контурнай фігуры з адсылачным знакам унутры: 97 *наполо́хався*. 101 *боіцца*. 131 *злякався*. Як *пудлівы* картаграфуецца *пу́длівы*, як *палахлівы — полохлівый*, як *пуглівы — пуглівы*.
*пужлівы* 2—6, 8а, 9—11, 18, 22, 23, 25—31, 34—38, 43, 44, 49, 52а, 53, 54, 57, 58, 63, 65, 71, 73—76, 78, 79, 81, 82, 84, 88, 99, 112, 115, 118, 120а, 122, 124—128, 130, 134, 137—139, 142. *пужлівый* 1, 8а, 14, 16, 17, 39, 40, 42, 80, 83, 85, 86, 89. *пужлівъй* 12, 15, *пужліві* 133. *пужліву* 136.
*пуглівы* 8, 13, 81, 129. *пуглывый* 108. *пуглівый* 7. *пухлівы* 111.
*пудлівы* 21, 33, 56, 59, 60, 61, 64, 67—70, 72, 77, 81, 84, 104, 110, 114, 118, 119. *пу́длівы* 66, 123. *пудлівый* 41, 85, 86, 107.
*пу́дкі* 100, 102, 106, 116, 119, 120, 120а (часцей), 121, 135. *пу́дкый* 109, 132. *пу́ткі* 113. *пу́дкій* 117. *пу́д*[т]*кый* 94а.
*страхопу́длывый* 103. *страпаху́длывый* 95.
*палахлівы* 19, 20, 45—48, 49а — 52, 54, 55, 59, 62, 93, 105. *пылахлівы* 87. *пылахлівый* 87. *полохлівый* 90, 91. *полохлівы* 94. *полохлывый* 96. *пуло́хлывый* 96а.
*пуло́хуватый* 98. *наполо́хався* 97.
*баязлівы* 24, 93. *бъязлівы* 32. *быязлівы* 87. *быязлівый* 87. *буязлывый* 92. *боязлывый* 96.
*боіцца* 101.
Адзінкавыя: *злякався* 131.

## Карта № 46

# НАРАВІСТЫ (пра каня)

№ 568 «Я. н. конь з норавам: наравісты, натурлівы, свірэпы, зацінглівы, анартны...»
На карце адлюстраваны лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў, якія абазначаюць наравістага каня. Фігурамі на карце абазначана проціпастаўленне па каранёвай частцы. Словаўтваральныя адрозненні паказаны на карце шляхам рознага запаўнення ўнутры фігур.
У нас. п. 107 знак (квадрат) пастаўлены на падставе адказа на пытанне 569. «Конь дыбіцца, становіцца дубка, падымаецца на дыбы...»: *зацеллівый кыэнь стаў дуба.*
Як *зацінглівы* картаграфаваліся *заціндлівы, заце́нглівы.*

*наравісты* 2—6, 8, 10, 11, 18—22, 24 *(дуба́ стано́віцца)*, 25—29, 31, 37, 45—49, 50 (рэдка, новае), 51—54, 55 (рэдка), 56—67, 68 *(яг знаро́віцца, нізашто́ не паго́ніш)*, 69—72, 74, 81, 93, 104, 110, 111, 115, 118—120а, 126, 127, 142. *нъравісты* 8а, 9. *нъравістый* 8а, 42. *ныравісты* 35, 78, 87. *ныравістый* 79, 85, 87. *нырявістый* 88. *наро́выстый* 96а. *норовісты* 113, 114, 134, 138.
*нараўлівый* 7.
*нату́рысты* 37, 81, 94, 101, 102, 106, 112, 113, 116, 117, 133, 135, 136, 141, 142. *нату́рістый* 12, 41, 79. *нату́рыстый* 42, 103, 108, 137.
*нату́рлівы* 13, 30, 32—36, 38, 43, 73, 75—78, 81, 82, 84, 93, 118, 121—125, 127, 129, 130, 135, 139. *нату́рлівый* 1, 14, 15, 17, 39, 40, 44, 79, 80, 83, 86, 90, 107, 122. *нату́рлывый* 92, 96—98, 131, 132.
*нату́рлістый* 42.
*зацінлівы* 57 (упарты, цяжка павярнуць), 105. *зацінълівы* 50, 55. *заце́нлівы* 93. *заты́нлывый* 108 *(затына́ецца)*.
*зацінг'лівы* 100. *заціндлівы* 99. *зацёнглівы* 113, 133.
*зато́нлівъй* 12. *зато́нлівый* 16 *(конь з зато́ным)*.
*заце́нг'ліваты* 54.
*зацінiстый* 86 *(з зацінкъй, у таго каня зацінка)*. *затына́стый* 109.
*зацюллевый* 91.
Адзінкавыя: *уро́длівъй* 12. *ганары́сты* 75. *на́ртны* 84. *сьвіре́пый* 89. *свірэ́пы* 111, 142. *упірлівы* 128. *старынува́тый* 131. *уе́дны* 142.

## Карта № 47

# БАДЛІВАЯ (пра карову)

№ 572 «Я. н. карова, якая бадзецца: бадучая, бадушчая, барушчая, калюшчая...»
На карце прадстаўлены лексіка-словаўтваральныя адрозненні прыметнікаў, якія абазначаюць бадлівую карову. Адрозненні па каранёвай частцы паказаны фігурамі. Супроцьпастаўленні на словаўтваральным узроўні паказаны шляхам рознага запаўнення ўнутры фігуры. У тых нас. пп., дзе замест прыметніка адзначана дзеяслоўная форма, наносілася частка адпаведнага контурнага знака. Калі дзеяслоўная форма адзначана побач з прыметнікам, на карту яна не наносілася: 36, 109, 112, 124, 141.
Адведзены ад картаграфавання прыметнік *урэ́дная*, адзначаны побач з *калючая, гітная.*
Не нанесены на карту назоўнікі, якія ў некаторых нас. п. п. прыводзяцца ў якасці адказаў: 6 *каро́ва-баду́ля*. 25 *бадзюка*. 38 *бадзю́лька*. 37 *калю́чка*. 42 *баду́чка*. 58 *баду́шка*. 83 *баду́н*.
Як *бау́шчая* картаграфуецца *баду́чая*, як *калю́шчая* картаграфуецца *колю́ча, кулю́ча, калю́чыя, калю́чая, колю́чая*, як *бару́шчая* картаграфуецца *бару́чая*.
*бадлівая* 1, 3—5, 7, 8, 9—11, 14, 19 (дзяцей бадзе), 29, 31, 36, 71, 77, 81, 86 (вельмі рэдка), *бадлівъя* 13, 15, 34, 39. *бадлівыя* 16, 35, 43, 85.

*бадýшчая* 2, 17, 21, 26, 62, 70. *бадýшчыя* 40, 41, 44, 84. *бадýчыя* 41, 42, 78, 79, 83, 85. *бадýчая* 10, 22, 24, 25, 25а, 28, 30, 37, 38, 68, 73, 75, 80, 88. *будýчъя* 8а, 12. *бадýшча* 23.

*бадзéцца* 18, 29, 33, 36, 57, 112.

*карóва-бадýля* 6. *бадзюка* 25. *бадзюлька* 33. *бадýчка* 42. *бадýшка* 58. *бадýн* 83.

*калю́шчая* 20, 32, 52, 52а, 54, 56, 60, 72, 86, 102, 104, 116, 120а, 123. *калюшча* 47, 48, 49а, 55. *калю́шчыя* 84. *кулю́шча* 92. *колю́шчая* 132. *колю́шча* 95, 96, 97, 103, 106, 117, 132. *колю́ча* 94а, 96а, 101, 109, 133. *кулю́ча* 92. *калю́чыя* 85, 87, 89, 126. *калю́чая* 37, 69, 76, 77, 82, 115, 118, 120, 122, 125, 128—131, 139, 141. *калю́чая* 108, 114, 136.

*калю́шчава* 90. *калю́шчэва* 91.

*кóлкая* 119, 121, 124, 127.

*кóлецца* 74, 98, 141, 142. *кóлэцца* 109. *кóліцца* 124.

*калючка* 37. *калостая* 123.

*барлíвая* 67. *барлíва* 51.

*барýшчая* 50, 66, 67. *борýшчая* 94. *барýшча* 45, 46, 49—51, 93, 99, 105, 110. *борýшча* (якая дужаецца з іншымі каровамі) 96. *бурýшчая* 92. *барýчая* 111.

*бóрацца* 65.

*б'ю́шчая* 57, 107. *б'ю́шча* 103.

*бóйкая* 112, 113, 135, 138.

*бíтая* 134.

*б'éцца* 59, 100, 137.

*парýшчая* 27, 63, 64.

Адзінкавыя: *збрóйная* 19 (другіх кароў бадзе), 53. *бушлíвая* 61. *бýйная* 108.

Адведзены: *гíткая* 98. *урэ́дная* 122.

## Карта № 48

## БАДЗЕЦЦА

№ 573 «Як гавораць аб бадлівай карове: бадаецца, бадзецца, колецца, порацца, б'ецца... Басці, бадаць, басціся, бадацца...» АЛА 206 'бодает' (корова) бодает — bode — bodzie

Карта складзена на падставе матэрыялаў Лексічнага атласа беларускай мовы і Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа. Пры картаграфаванні не ўлічвалася такая граматычная катэгорыя як стан дзеяслова, таму на карце зваротныя і незваротныя дзеясловы картаграфаваліся адным знакам.

На карце паказана лексічнае проціпастаўленне назваў са значэннем 'бадацца, басціся'.

Не картаграфавалася лексема *б'éцца* ў тых выпадках, калі была заўвага аб тым, што карова *б'éцца нагáмі:* 90, 94а, 95, 109, 132.

*бадзéцца* 1—19, 21, 23—25а, 28, 29, 31, 33—36, 37—42, 44, 57, 58, 68, 69, 73, 75, 78—81, 83, 88. *бадзéць* 22.

*бадáецца* 9, 31. *бадáіцца* 129. *быдáйіцца* 43. *бадáіцца* 75. *бадáць* 70. *быдáць* 43, 79. *бъдáць* 83. *быдáцца* 79. *бадáцца* 9, 36. *быдáцца* 35. *бъдáцца* 37.

*кóлецца* 20, 48, 49а, 52, 67, 70, 74, 82, 86, 88, 94а *(рогáмы),* 104, 106, 107, 113 (трад.), 114, 115, 116, 117, 118—120а, 122, 123, 125—128, 133, 139, 141, 142. *кóліцца* 32, 37, 42, 75, 77, 84, 85, 87, 89, 90. *кóляцца* 47, 52а, 54—56, 60, 69, 71, 72, 76, 101, 102, 112, 121, 124, 129. *кóліцьця* 91. *кóлыцьця* 92, 95 *(рогáмы),* 96, 96а, 97, 131. *кóлеᵃця* 98. *кóлыᵉцца* 103. *кóлэцца* 108, 109. *кóлыцца* 132. *калóць* 130.

*б'éцца* 26, 29, 54, 57, 59, 60, 62, 103, 104, 108, 113, 114, 120а, 129, 134—138.

*бóрацца* 30, 45, 46, 49—51, 65, 66, 67 (трад.), 99, 105, 110, 111. *бóрыцьця* 92. *бóрэцца* 93, 94, 107.

*пóрацца* 54, 62—64. *пóрыцца* 27.

Адзінкавая: *сьценáецца* 53.

АЛА: *бадзéцца* 3А, 14А, 15А, 17А—20А, 23А, 25А, 31А, 36А, 38А, 41А, 64А, 67А. *бадзéца* 1А. *бадзéць* 1А, 2А, 5А—9А, 12А, 13А, 22А, 24А, 41А, 42А, 64А. *бадзé* 39А. *бадзíць* 16А.

*бадáіцца* 40А. *быдáіць* 4А, 22А. *бъдáіць* 42А. *бадáя* 29А.

*кóлецца* 26А, 32А, 54А, 63А, 67А, 70, 115. *кóлэцця* 48А. *кóляцца* 49А. *кóлыцця* 52А. *кóліцца* 37А, 60А, 61А. *кóле* 10А, 11А, 30А, 43А, 45А, 47А, 50А, 56А, 57А, 66А, 115. *кóля* 28А, 29А, 35А, 46А, 55А, 50. *кóліць* 21А, 53А, 62А. *кóлэ* 52А.

*б'éцца* 16А, 51А, 59А, 61. *б'е* 30А, 65А.

*бóрацца* 34А, 61. *бóра* 27А, 29А, 34А, 44А.

*пóрыцца* 58А. *пóра* 14А, 33А.

## Карта № 49

## ШРАМ (на скуры жывёліны)

№ 574 «Я. н. шрам ад рога на скуры ў жывёлы: шнары, шнарэ, пісягі, пісакі...»

Асноўнае проціпастаўленне на карце — лексічнае,— перадаецца пры дапамозе фігур. Словаўтваральныя, марфалагічныя адрозненні адлюстраваны пры дапамозе рознага запаўнення ўнутры фігуры і дадатковых значкоў, размешчаных унутры фігуры.

У некаторых адказах даецца толькі форма множнага ліку. На падставе форм множнага ліку пастаўлены знакі ў наступных нас. пп.: *рубцы́* 14, 78. *шрáмы* 43, 123. *пісакé* 49а, 53. *шпаракí* 59. *шнарэ́* 62, 99. *пісагé* 64. *пісягí* 74, 116, 117, 127, 136. *пíсягі* 82, 139. *шарáмы* 82. *пісýгі* 110. *пісагí* 75, 115.

Як *шпар* картаграфуецца *шпарáк,* як *шрам* картаграфуецца *шырáм.*

Адведзены ад картаграфавання *рáна* і *прабóжына.*

*шрам* 1—4, 6—8а, 10—12, 15—17, 21, 22, 24—26, 29, 31—34, 36—42, 58, 63, 68—71, 73, 74, 77, 80, 83, 85, 86, 89—94, 96а, 102, 104, 108, 113, 117, 119, 120, 124—126, 130, 132, 134, 137, 141, 142. *шрям* 88. *шырáм* 79, 84. *шрамы́* 1—3, 11, 43, 70, 86, 108, 123. *шрáмы* 7, 10. *шарáмы* 82.

*шнар* 18, 19, 45—47, 50, 52а, 53, 54 (рэдк.), 55—57. *шнарэ́* 62, 99, 101.

*пісáг* 64, 66. *пісагí* 75, 115.

*пісáга* 23, 57, 65.

*пісяг* 69, 76, 111, 112, 114, 121, 138. *пісягí* 74, 114, 116, 117, 127, 136.

*пісяга* 44, 118, 119, 120а, 128, 129, 141, 142. *пісягí* 82, 118, 139.

*пісýга* 105. *пісýгі* 110.

*пісáк* 47, 49, 49а, 100. *пісакé* 53.

*пісю́г* 72. *пісýг* 67. *пісóгі* 27. *пісумáны* 35. *пасагí* 81. *пісáр* 60. *пôтпіска* 61.

*пас* 94а, 95, 98, 103, 106, 109, 122, 135. *пáсы* 94а. *пасы́* 95, 103, 135. *пáска* 107, 132. *пáсак* 21. *пáсок* 131.

*паз* 92, 94а, 96, 97, 113, 133. *пазы́* 94а, 96.

*швáнка* 20, 51, 52, 58.

*рубéц* 5, 9, 13, 124. *рубцы́* 14, 78.

*шпар* 44, 77. *шпаракí* 59.

Адзінкавыя: *дзюх* 69. *дзя́га* 54. *кальцó* 30. *паласá* 38. *палóса* 62. *сóйка* 48. *шнур* 87.

Адведзены: *прабóжына* 12. *рáна* 129, 130.

## Карта № 50

## БЯЗРОГАЯ (пра карову)

№ 575 «Я. н. бязрогая карова: галуза, галамоўза, лабатая...»

Асноўная тэма карты — лексічнае супрацьпастаўленне прыметнікаў, якія абазначаюць бязрогую карову. Гэты план супрацьпастаўлення рэалізуецца на карце пры дапамозе фігур. Калі для наймення бязрогай каровы выкарыстоўваюцца назоўнікі, матываваныя прыметнікамі, то на карце ставіўся адпаведны знак з дадатковым значком унутры фігуры (кропка).

Цяжкасці сустрэліся пры вызначэнні граматычнай формы такіх назваў як *галуза* і *галамоўза (галамоза)*, якія адзначаны ў паўднёва-заходніх гаворках. У тых выпадках, калі гэтыя формы адзначаны ў гаворцы, у якой прыметнікі звычайна ўжываюцца ў поўнай форме, на карту наносіўся знак, адпаведны назоўніку. Калі ж у гаворцы бытуюць сцягнутыя формы прыметнікаў тыпу *пагана, шкадліва, калюшча, тоўста* і пад., формы *галуза, галамоза,* картаграфаваліся знакам, які адпавядае прыметніку.

Як *куксатая* картаграфуецца *куцатая.*

*лабатая* 1—6, 9, 10, 16—19, 21—28, 31, 36, 40, 49а, 57, 58, 64, 65, 70, 71, 73, 75, 80—82, 88, 123. *лыбатая* 7, 30. *лабатыя* 38. *лъбатъя* 8а, 15, 32, 34, 39. *лъбатыя* 13, 42, 83. *лъбатая* 37. *лыбатыя* 35, 43, 84, 85. *лубатая* 86. *лабата* 74, 110, 116. *лабаста* 105.

*лабатка* 1, 8, 29, 81. *лъбатка* 12. *лыбатка* 33, 35, 78. *лабутка* 21. *лабыр* 6. *лабырка* 10, 11. *лабоня* 14. *лабіца* 136. *лабук 24, 48. лыбан* 42. *лабан* 54. *лэбка* 44. *лабач* 51.

*бязрогая* 49, 51, 52а, 54, 60—62, 76, 77, 104, 119, 120а, 125, 126, 128—130, 138, 139, 141, 142. *бязрогыя* 41, 44, 78, 79, 83, 87, 89. *базрогая* 59. *безрогая* 113, 120. *бэзрогая* 92, 131. *бізрогыя* 40, *бязрога* 47, 99, 106, 112. *бызрога* 90, 95, 96а, 132. *быэзрога* 97, 103. *беэзрога* 98. безрога 91, 102, 107—109, 114, 116, 133, 134, 135, 138. *бэзрога* 101.

*галамоўзая* 93, 119. *галамозая* 67.

*галамоўза* 46, 50, 63, 111. *галамоўза* 72. *голомоўза* 94. *голомоўза* 114, 134. *голомоза* 94а.

*галузая* 100.

*галуза* 55, 56, 111.

*куксатая* 61, 113. *куцатая* 132.

*кукса* 52, 53, 90, 96.

*шутая* 117, 118, 119, 120а, 122, 124, 136, 137.

*мылатая* 66, 68, 69.

*буксавата* 20.

*букса* 20, 52, 121.

Адзінкавыя: *кычма* 95. *амола* 115. *манголка* 127. *тоўкач* 138.

## Карта № 51

# ШКАДЛІВАЯ (жывёліна)

№ 576 «Я. н. збрадлівая жывёла: шкадлівая, памаўзлівая, збродная, збройная, збрадлівая...»

Асноўнае проціпастаўленне на карце — лексічнае,— перадаецца пры дапамозе розных фігур.

На карце атрымалі таксама адлюстраванне суфіксальныя і акцэнталагічныя адрозненні, а таксама частковыя адрозненні ў корані *(зброд- — зброй-).*

У наступных населеных пунктах адзначаны адзінкавыя ўтварэнні ад картаграфуемых кораняў: 86, 124, 130 *брадзячая.*

Як *збрадлівая* картаграфуецца *брадлівая* ў нас. пп. 8а, 124, 127.

Адведзены ад картаграфавання адказы, у якіх прыведзены замест прыметнікавых форм назоўнікі.

*шкадлівая* 1—3, 6, 31, 46, 81, 86, 120а, 121, 127, 129, 135, 136, 142. *шкадлівыя* 84, 87. *шкодлівая* 94, 134. *шкодліва* 106, 107, 117, 138. *шкадліва* 47, 110, 112, 115, 120. *шкодлыва* 94а, 109. *шкудлева* 98.

*шкодлівая* 50, 58, 82, 83, 100, 113, 116. *шкудлывая* 132. *шкодліва* 49, 49а, 55, 56, 99, 114, 123. *шкôдліва* 90, 93, 94. *шкудліва* 91. *шкыдлыва* 95. *шкідлыва* 96, 97, 103, 108, 109, 131. *шкыдліва* 101. *шкудлыва* 132.

*шкодная* 4, 53, 66, 133. *шкêдная* 102.

*шкодніца* 19, 22, 46.

*збрадлівая* 7, 9, 14, 17, 31, 32, 37, 68, 69. *збрыдлівая* 6 (адлучаецца ад стада). *збрадлівъя* 12, 13, 39, 81. *збрадлівыя* 15, 16, 40, 42, 87. *збродлівая* 94. *брадлівая* 8а, 124, 127.

*збродлівая* 21, 23, 26—29, 33, 36, 38, 59, 61, 64, 70—72, 75, 76, 80, 111, 116, 119, 128. *збродлівыя* 34, 35, 43, 44, 78, 79, 83—85, 89. *збрудлівыя* 67. *збродлівая* 67, 105. *збродліва* 74, 77.

*збродная* 37, 57, 63, 73, 88, 118, 119. *збродныя* 16, 41.

*збройная* 3, 18, 52, 54. *збройна* 48.

*збройлівая* 25.

*зброд* 9, 41, *зброда* 78, 82. *збродзень* 25а.

*памаўзлівая* 7, 8, 10, 11, 21, 24, 29, 30, 53, 54, 60, 61, 65, 104. *пъмаўзьлівъя* 8а. *памаўза* 10, 11.

Адзінкавыя: *бадзялая* 2. *блудная* 121. *блудзяшчая* 126, 127, 139. *брадзячая* 86, 124, 130. *брадзяга* 125. *валачашчая* 141, 142. *врэдна* 96а. *даходная* 20, 52а. *дурная* 5, 9. *дуронъя* 8а. *ласа* 45, 51. *ліхая* 134. *ліха* 107. *негодная* 53. *нігодная* 62. *нягодная* 30. *пагана* 120. *погана* 94а. *падка* 106. *потягушчая* 92. *пралётная* 4. *прамзельная* 129. *урэдная* 122. *урэдна* 90, 117. *утрауная* 137.

Адведзены: *зладзейка* 5, 8. *зброд* 9, 41. *памаўза* 10, 11. *шкодніца* 19, 22, 46. *збродзень* 25а. *зброда* 78, 82. *брадзяга* 125.

## Карта № 52

# ПАНАДЗІЦЦА Ў ШКОДУ

№ 577 «Як кажуць: скаціна звыкла хадзіць у шкоду, паваджілася, панадзілася...»

Адказы на гэта пытанне далі разнастайны матэрыял як на лексічным, так і на словаўтваральным узроўні. Лексічныя адрозненні на карце паказаны фігурамі і запаўненнем унутры іх. Што датычыцца словаўтварэння назваў, то тут багата прадстаўлены розныя прыстаўкі: *у-, па-, пры-, за-, з-* і інш. Аднак у сувязі з тым, што тыя ці іншыя словаўтваральныя мадэлі не даюць пэўнай кампактнай тэрыторыі, на карце яны не атрымалі адлюстравання. Па гэтай жа прычыне не паказана на карце і проціпастаўленне дзеясловаў зваротных і незваротных.

У сувязі з тым, што адзіным супроцьпастаўленнем на карце з'яўляецца супроцьпастаўленне каранёвай часткі слова, адпаведныя знакі пастаўлены на падставе дзеепрыметнікавых форм у нас. п.п. 94, 94а і 135.

Як *панадзілася* картаграфуецца *унадзілася* (і фанетычныя варыянты) у нас. п.п.: 12, 15, 19, 25а, 30, 31, 32, 33, 37, 41, 43, 47, 48, 50, 53, 54, 58, 60, 61, 68, 73, 79, 80, 81, 82, 86, 95, 97, 102, 107, 112, 113, 115, 122, 129, 132, 138, 142. *занадзілася* ў нас. п.п. 20, 45, 49, 90, 91, 96а, 133. *абнадзілася* ў нас. п.п. 26, 57, 59, 64, 65. *знадзілася* ў нас. п.п. 35, 84, 114. *спонадзілас* у п. 134. *панадзіла* ў п.п. 24, 38. *занадзіла* ў п. 45.

Як *звыкла* картаграфуецца *прывыкла* ў нас. п.п. 2, 4, 7, 16, 25, 34, 35, 45, 49а, 51, 66, 87, 110, 120, 125, 127.

Як *прыладзілася* картаграфуецца *паладзілася* ў нас. п.п. 3, 8а, 9. *праладзілася* ў п. 18. *уладзілася* ў п. 21. *паладзіла* ў п.п. 6, 8а. *зладзіла* ў п. 8а.

Як *утравілася* картаграфуецца *роствавылаca* ў нас. п. 103. *затраўлёны* ў нас. п. 94а.

1 *павадзілася хадзіць у шкоду.* 2 *прывыкла па шкодах лётаць.* 3 *праладзілася.* 4 *прывыкла, паладзілася хадзіць у шкоду.* 5 *скаціна здурэла* (-панадзілася ў шкоду хадзіць). 6 *паладзіла ў шкоду хадзіць.* 7 *пувадзілася, прывыкла хадзіць у шкоду.* 8 *карова панадзілася хадзіць у шкоду.* 8а *пъладзіла, зладзіла, пъладзілъся, пъвадзілъся хадзіць у шкоду.* 9 *паладзілася хадзіць.* 10 *карова панадзілася хадзіць у шкоду.* 11 *панадзілася хадзіць у шкоду.* 12 *унадзілася ў шкоду.* 13 *пънадзіліся куры у гарот.* 14 *панадзілася карова хадзіць у шкоду.* 15 *унадзіліся ў шкоду.* 16 *прівыкла, пувадзілысь.* 17 *звыкла, панадзілася хадзіць у шкоду.* 18 *праладзілася хадзіць у шкоду.* 19 *унадзілась хадзіць у шкоду.* 20 *панадзіцца, занадзілася.* 21 *карова уладзілася ў авёс.* 22 *упадабала лазіць у шкоду.* 23. 24 *панадзіла моду хадзіць у шкоду, здурэла, панадзілася.* 25 *прывыкла.* 25а *унадзілася.* 26 *абнадзілася хадзіць у шкоду.* 27—29 *панадзілася.* 30 *унадзілася.* 31 *унадзіцца.* 32—34 *унадзілася.* 34 *прывыкла.* 35 *скаціна прывыкла, звыкла, знадзілася хадзіць у шкоду.* 36 *панадзілася хадзіць у шкоду.* 37 *звыкла хадзіць у шкоду, унадзілася.* 38 *панадзіла ў шкоду.* 39 *унадзілъсь.* 40 *пынадзілыся.* 41 *унадзілъся.* 42 *пънадзілысь хадзіць у шкоду.* 43 *унадзілыся.* 44 *спунутрувалыся хадзіць у шкоду.* 45 *распушчана карова, прывыкла па шкодзе хадзіць, занадзіла да шкоды.* 46 *панадзілася хадзіць карова ў шкоду.* 47 *унадзілася лазіць у жыта, ні выпараць аттуль.* 48 *унадзілася.* 49 *занадзілася.* 49а *прывыкла хадзіць у шкоду.* 50 *унадзілася карова ў шкоду.* 51 *карова прывыкла хадзіць у шкоду.* 52—52а *панадзілася хадзіць у шкоду.* 53—54 *скаціна панадзілася, унадзілася ў шкоду.* 55—56 *унадзілася ў шкоду*

*хадзіць.* 57 *абнáдзілася, абнáдзілася бéгаць — цэлая бядá.* 58 *панáдзілася хадзіць у шкóду; як унáдзіцца хадзіць.* 59 *абнáдзілася.* 60—61 *унáдзілася.* 62—63 *панáдзілася.* 64—65 *абнáдзілася.* 66 *прывыкла хадзіць у шкóду.* 67 *панáдзілася.* 68 *унáдзіцца, унáдзілася свіння ў бýльбу.* 69 *карóва панáдзілася хадзіць у шкóду.* 70—71 *павáдзілася.* 72 *панáдзілася.* 73 *унáдзілася ў шкóду, звыкла хадзіць у жытá.* 74 *скаціна раздурэла і ў шкóду лáзе.* 75 *панáдзілася, звыкла.* 76 *панáдзілася хадзіць у шкóду.* 77 *спанатравáлася бéгаць у шкóду.* 78 *пынáдзілася ў шкóду.* 79 *унáдзілыся.* 80 *унáдзілася, звыкла хадзіць у шкóду.* 81 *панáдзілася, унáдзілася, павáдзілася, звыкла.* 82 *спатвóрылася, унáдзілася.* 83 *пънáдзілъся.* 84 *знáдзілыся.* 85 *пынáдзілыся хадзіць.* 86 *збáлъвалась, унáдзілаъсь.* 87 *павыкла хадзіць у шкóду.* 88 *пунáдзілася.* 89 *пынáдзіцца.* 90—91 *занáдылась.* 92 *пувáдылась.* 93 *затравілася.* 94 *занáджаная.* 94а *звыклы, затрáвлёны ходыты в шкóду.* 95 *звыкла, внáдылась.* 96 *внáдылась* (часцей), *звыкла* (радзей). 96а *понáдылася.* 97 *унáдылася.* 98 *скутэна втравэлася ў шкóду.* 99 *занáдзілася.* 100 *занáдзілася.* 100 *звыкла хадзіць.* 101 *карóва повáдзіласа бéгаці ў шкóду.* 102 *понáдзіласа, улáпіласа.* 103 *рострáвлёна, рострав ыласа корóва; внáдылас, унáдылас.* 104 *панáдзілася.* 105 *панáдзілася.* 106 *корóва звыкла ходзіць у шкóду.* 107 *унáдзіласа.* 108 *звыкла ходыты у шкóду.* 109 *звыкла, втяглáса в шкóду ходыты.* 110 *прывыкла хадзіць у шкóду.* 111 *панáдзілася.* 112—113 *унáдзіласа.* 114 *знáдзіласа, звыкла.* 115 *унáдзіласа.* 116 *карóва панáдзіласа ў авёс хадзіць.* 117 *корóва звýкла ходзіць у шкóду.* 118 *звыкла, панáдзілася.* 119 *панáдзілася.* 120 *прывýкла, панáдзіласа хадзіць у шкóду.* 120а *панáдзілася.* 121 *панáдзілася.* 122 *унáдзілася.* 123 *звыкла па шкóдзе хадзіць.* 124 *панáдзілася.* 125 *прывыкла ў шкóду хадзіць.* 126 *панáдзілася.* 127 *панáдзілася, прывыкла.* 128 *збáлаваная карóва, не даць рáды удзержаць.* 129 *унáдзілась.* 130 *звікла.* 131 *понáдылася.* 132 *звыкла, внáдыласа в шкóду.* 133 *занадзілася.* 134 *спонáдзілас, звýкла, звучілас.* 135 *утрáўлена.* 136 *унáдзілася ў шкóду.* 137 *понáдзіласа ў шкóду.* 138 *унáдзіласа.* 139 *панáдзілася.* 140. 141 *панáдзілася ў шкóду бéгаць* 142 *унáдзілася і хóдзіць у шкóду.*

## Карта № 53

# ЛАНЦУГ

№ 578 «Я. н. прыстасаванне для навязвання жывёлы: а) з пянькі; лёну: вяроўка, вужышча, б) з жалеза: ланцуг, цэп...»

Карта складзена на матэрыяле адказаў на пункт б. Асноўнае супрацьпастаўленне — лексічнае. У матэрыялах, за выключэннем двух (нас. пп. 13, 43), няма ўказання аб родзе назоўніка *цэп,* таму гэта слова картаграфавалася без уліку яго родавай прыналежнасці.

Назвы *ланцýк, ламцýх,* дэмінутыўная форма *ланцужóк* картаграфуюцца як *ланцýг.* На падставе формы ўскоснага склону пастаўлен знак у нас. п. 128 *на цапі.*

Адведзена ад картаграфавання назва *вярóўка,* якая не адпавядае тэме карты.
*ланцýг* 5, 37, 40 (мала), 44—48, 57, 59, 61, 67, 75, 81 (трад.), 82—84, 86 (трад., рэдк.), 91, 94, 94а, 96, 101—104, 106—108, 114, 117, 118, 124 (раней, трад.), 127, 132—135, 137, 138, 142. *ланцýх* 3, 4, 6, 8 (трад.), 8а, 14, 16 (трад.), 18—27, 29 (трад.), 30, 33, 35, 38, 41, 42, 49—54, 56—59, 62—66, 68, 69 (стар.), 93, 99, 100, 104, 105, 109—112, 118, 119. *лыньцюг* 92, 96а. *ланцюг 95 (трад.). лінцюг* 90. *лынцюг* 95 (трад.). *ламцýх* 55. *ланцýк* 52. *ланцужóк* 120а.

*цэп* 1, 7, 8 (суч.), 9—12, 13 (м. р.), 14, 15, 16 (нов.), 17, 28, 29 (нов.), 31, 32, 34—37, 39, 40, 41 (часцей), 42, 43 (м. р.), 44, 69 (цяпер), 70, 71, 73—80, 81 (нов.), 82, 86, 89, 95 (нов.), 96, 97, 102 (нов.), 103 (нов.), 108, 115, 116, 118—123, 124 (нов.), 125, 126, 127 (нов.), 129—131, 135, 139, 141, 142. *цэп* 72, 85, 113, 114 (нов.). *цыэп* 107. *цэап* 98. *на цапі* 128.

*цэпка* 83, 88.

Адведзена: *вярóўка* 87.

## Карта № 54

# ГІЗУЮЦЬ (каровы)

№ 580 «Якімі словамі абазначаецца стан узбуджэння жывёлы ў час спёкі, калі паяўляюцца авадні, мухі: каровы гізуюць, гілюють, зікаюць, зыкаюць, стракацяцца, здракуюць...»

Супрацьпастаўляюцца і картаграфіруюцца рознымі фігурамі словы, утвораныя ад *гіз- (гізуюць, гізуюцца; гілазуюць),* ад *строк — (стракуюць, строкаюць, стракочуць, страчацца, строчацца),* ад *гіль- (гілюють),* ад *здрок- (здракуюць, здрочацца, здрачацца),* ад *зык- (зыкаюць, зікуюць, зыкаюць, зыкаюцца, зікаюцца, зыкаюцца),* ад *бзык- (бзыкаюць, бзікаюць),* ад *бег- (бегае).* Слова *здрагуюць* картаграфіруецца як *здракуюць,* словы *зыгуюць, зыкуюцца,* як *зыкуюць.*

Словазлучэнне *здрочыцца тавар* картаграфіруецца як *здрочацца; стракуе жывіна* 45 — як *стракуюць; карова языкуе* 140 — як зыкуюць; строка бігають 95, 103, *люльке бігають* 98 — як *бегаюць.*

*Як адзінкавыя словазлучэнні знакам* + картаграфіруюцца: *зік нъпаў, гіль хватае, быгуть у здрокы, здрокі напалі, у бзыкалкі пабеглі, кідаецца ад аваднёў.*

Адведзены ад картаграфіравання словазлучэнні апісальнага тыпу: *залупіла хвост і паперла* 105; *дзяруць хвосты* 106, *коровы залупілі хвосты і пабеглі* 107; *каровы бунтуюцца* 108, *корова задрала хвост і пабегла; здрокі напалі і коровы побеглі* 113.

*гізýюць* 1, 4—11, 23, 52а, 53, 54, 56, 60—64, 66, 72, 81, 104, 126, *гізýяць* 2, *гызýюць* 131. *гізýюцца* 131.

*гілазýюць* 47, 48

*страчáцца* 50, *строчáцца* 51, 99. *стракóчуць* 54, *стрóкаюць* 102. *стракýе жывіна* 45. *здракýюць* 120а, 136, 137.

*здрыкýюць* 65. *здрокýють* 133. *здрагýюць* 120, *здрыкáваць* (інф.) 126, *здрочáцца* 67, 110, 116, 117, 122, 134, 138, 140. *здрачáцца* 114, 120 *здрочыцьця* адз. л. 96. *здрóчуць* 141. *здрочыцца тавар* 135. *быгýть у здрокы* 97.

*гілюють* 12, 18—20, 22, 49А, 52, 57—59. *гілýюць* 133. *гілюяць* 3. *гілюя* адз. л. 27.

*зыкаюць* 14, 16, 55, 86, 88, 127. *зыкуюць* 43, 79. *зыкыюць* 44, 78, 83—85, 89. *зыкъюць* 12, 13. *зікуюць* 35, 42. *зыкáюць* 28, 29, *зыкыя* адз. 87.

*зыкаюцца* 25а, 32, 71. *зыкъюцца* 15, 39. *зікаюцца* 33. *зікыюцца* 35. *зікáюцца* 40, 41. *зыкáюцца* 17, 24.

*зыкýюць* 30, 31, 34, 36—38, 68—70, 73—75, 77, 80—82, 119, 121, 123—125, 128, 130. *зыкýюцца* зваротн. 25. *зыгуюць* 25.

*бзыкаюць* 49, 100. *бзыкáють* 90. *бзыкýюць* 76, 118. *бзікають* 94

*бéгаюць* 106, 111, 112. *бігають* 108, 132. *бэжать* 109. *бегае* адз. л. 129. *бігають строкá* 95.

Адзінкавыя словы: бздрыкýюць 65. *брыкыюць* 83. *бышýюць* 94. *выбрыкують* 97. *вызбрыквают* 101. *гзяцца* 91. *гізяцца* 92. *гілазýюць* 47, 48. *здрогаецця* адз. л. 96А. *злуéцца* адз. л. 87. *наравяцца* 46. *таўкýцца* 142. *чмыхаюць* 46.

Адзінкавыя словазлучэнні: *зік нъпаў* 42. *гіль хватáе* 49а. *бігають строкá* 95. *быгýть у здрокы* 97. *здрокі напáлі* 113. *у бзыкалкі пабеглі* 115. *кідáецца ад аваднёў* 129.

## Карта № 55

# РАСПАЎСЮДЖАННЕ СЛОВА *ЗДРОК (СТРОК)*

№ 584 «Што абазначае слова строк (здрок): авадзень, вялікая муха...»

Картаграфіруецца распаўсюджанне слоў *здрок, строк* і вытворных ад іх *здракач, здрач, стракач, страка. здрок* 65—67, 72, 90, 100, 104, 105, 107, 110—115, 117, 120—122, 133—140. *здрык* 96, 108, 126. *здрэк* 90. *здракі* мн. л. 116, 120, 140, 141. *здракі* мн. л. 142. *здрокы* мн. л. 97. *строк* 45, 47—51, 54, 55, 60, 71, 76, 92—94, 99, 102. *стрык* 95, 103, 109. *струк* 94А, 132.

Адсутнасць назвы: 1А—3А, 7А—9А, 12А—25А, 28А, 31А—36А, 38А, 39А, 42А, 52А, 54А, 58А, 60А, 63А, 65А, 70, 115.

ЛАБНГ: а) кустарнік амялы: *амялá* 49а. *амілá* 8а. *омылá* 95. *омэлá* 132. *гымылá* 132.

*йімяло* 53, 60. *íмыла* 90.

Адзінкавыя: *зюмазялён* 127. *росá* 132.

б) від травы: *емелá* 119.

Карта № 166

## СУКАВАТАЕ ДРЭВА

№ 1417 «Я. н. дрэва з вялікімі бакавымі галінамі: сукаватае, расахатае, разгатае...»

Картаграфуюцца назвы дрэва з вялікімі бакавымі галінамі. Галоўныя супроцьпастаўленні, якія паказаны на карце,— гэта адрозненні па каранях. Адзначаны таксама супроцьпастаўленні па суфіксах і некаторых фанетычных рысах. Не картаграфуецца назва *сукавáтае дрэва* ў тых выпадках, дзе яно мае значэнне 'дрэва з унутранымі сучкамі' (у пэўных гаворках слова сук мае значэнне 'унутраны сучок').

1 *сучлíвая, каркалíстая.* 2 *расахáтая.* 3 *разлажы́стая, рассахáтая, расклáдзістая.* 4 *сукавáтая.* 5 *расхілістая.* 6 *сукувáтая, рагáтая.* 7—8 *сукувáтая.* 8а *сукъвáтъя, ръгатъя, ръзгáлістъя.* 9 *сукувáтае,* 10—11 *сукавáтая.* 12 *сукувáтъя.* 13 *сукувáстъя.* 14 *сукавáтое.* 15 *сукувáтъя.* 16 *рыгáтыя, сукувáтыя.* 17 *вясíстае.* 18 *каранжáк,* 19 *сукавáтая ёлка.* 20 *сукаватáя дравіна.* 21 *расахáстае.* 22 *рассахáтая.* 23 *сукавáтая хвóя.* 24 *бахмáтае.* 25 *расахáтая.* 25а *разлóжыстая.* 26 *сукавáтая.* 27 *вілавáтая.* 28 *сукавáтае.* 29—30 *сукавáтая.* 31 *развíсістае.* 32 *сукувáтъя.* 33 *развéсістая.* 34 *сукувáтъё.* 35 *сукувáтыя.* 36 *сукувáтае.* 37 *сукавáтае.* 38 *сукувáтая сасн́á.* 39 *сукувáтъя.* 40 *сукывáтыя ёлка ці бярёза.* 41 *сукъвáтыя.* 42—43 *сукувáтыя.* 44 *сукувáтыя сысн́á.* 45 *гамлісто дрэ́во, гамлíста хвóя, з разлажы́стым гальлём.* 46 *разгáліста, сукувáта дрэ́ва.* 47 *сукавáто дзéраво папáласо, лéдво распілавáлі.* 48 *сукавáтае дзерава, ніяк не пойдзе на дошкі.* 49 *галíста.* 49а *вілкавáтае.* 50 *разлóжысто.* 51 *рагáтая.* 52 *галэ́ндзістая.* 52а *сукавáта.* 53 *сукавáтаё, каржакавáтаё, карчавáтаё, разгáлістаё.* 54 *гáлістае, сукавáтае.* 55 *сукавáто.* 56 *разгáтоё.* 57 *сукавáтае.* 58 *сукавáтая.* 59 *сукавáтая, лáпістая.* 60 *разгáлістаё.* 61 *развíлістае.* 62 *сукавáтае, пархáтае, ралавáтае.* 63 *сукавáтая, вілавáтая.* 64 *сукáтая.* 65 *разлóжыстая, разгáтая.* 66 *раскáтае (галля шмат і вялікія).* 67 *сукавáтае.* 68 *кунáтая бярóза.* 69 *расахáтая хвóя, карамзáтая* (і інш. дрэвы). 70 *расахáте.* 71 *гальлíстая.* 72 *расамáтае.* 73 *сукувáтае, рагáтае.* 74 *сукавáта.* 75 *сукавáтая, рагазá.* 76 *разгáлістая.* 77 *сукавáтая.* 78 *сукоавáтыя.* 79 *сукувáтыя.* 80 *сукувáтая.* 81 *сукавáтая.* 82 *сукавáтая, кучарáвае.* 83 *сукывáтыя.* 84 *сукувáтыя, рыгызáтыя.* 85 *сукывáтыя, разгáлістыя.* 86 *сукувáтае.* 87 *сукувáтыя.* 88 *сукувáтае.* 89 *кучурáвыя, сукувáтыя. (сысна кучурáвыя).* 90 *байрáк, байраковáтэ.* 91 *голя́стэ.* 92 *рузлóжыстэ, раля́стэ, лахмáтэ, курчы́стэ, лузувáтэ.* 93 *грушы́стэе, рагáта сасн́á, елка, гальйісты лес.* 94 *коркóмазное.* 94а *ралёватэе.* 95 *карачуновáтэ (ны́сько гольлé), раля́стэ.* 96 *голынáстэ, рогáтэ, раля́стэ.* 96а *ракáтэ.* 97 *росохáтнэ.* 98 *кулэ́сэ́стэ.* 99 *кóркамась (дзéраво ні вы́расло высóко, янó раскíдзісто), сукавáто.* 100 *разгáтае.* 101 *роловáта дзеравіна.* 102 *сучковáтэ, гольлíстэ* (радзей). 103 *бапковáтэе, ны́зькэ.* 104 *сукавáта.* 105 *рáліста.* 106 *голля́стое.* 107 *суковáта дзерэ́віна.* 108 *бабковáтэе.* 109 *обрóслэ, ралёвáтэ.* 110 *галяніста.* 111 *разгáтае.* 112 *сукавáтае.* 113 *кучэрáвое.* 114 *кучэрáвэ.* 115 *сукавáтае, карамзáтае* (невялікае, з сучкамі). 116 *сукавáтае.* 117 *роловáтое.* 118—119 *сукавáтая.* 120 *галянáтае.* 120а *сукавáтая, раскáтая.* 121 *раскíдзістая.* 122 *сукавáтае.* 123 *какатлíвае, галля́стае.* 124 *кудлáтая, сукавáтая.* 125 *маркóўнік.* 126 *сукавáтае.* 127 *сукавáтая.* 128. 129 *кашлáтае.* 130 *кучарáвае.* 131 *голяковáтэ, купáтэ.* 132 *раловáтэе.* 133 *карáч.* 134 *ралáтое, рáлістое, рэлáтое.* 135 *карамзавáтэ, гальевáтэ.* 136 *сукавáтэ.* 137. 138 *суковáтэ.* 139 *рáлістае.* 140 *кучарáвае.* 141 *галістае.* 142 *сукавáтае, кудрáвае* (нов.)

Карта № 167

## ДРАЎЛЯНЫ

№ 3795 «Драўляны, дзеравяны, дзеравянны...»

Картаграфуюцца формы прыметніка *драўля́ны.* Першы план супроцьпастаўленняў на карце — гэта каранёвыя формы *драў-* і *дзерaў-*. Адзначаны таксама некаторыя фанетычныя асаблівасці і суфіксы. У п. 17 *дзерьвéнны* картаграфуецца як *дзеравя́нны.*

1 *дзіравя́нный.* 2 *драўля́ны, дзіраўля́ны.* 3 *драўля́ны.* 4 *дзераўны́.* 5 *дзіръвя́нны.* 6 *драўля́ны.* 7 *дзірывя́нный.* 8 дзеравянны. 8а *дзіръўля́ны, дзіръўля́ный.* 9 *дзераўя́нный.* 10 *дзірывя́нны.* 11 *дзіравя́нны.* 12 *дзірівя́ннъй.* 13 *дзірівя́нны.* 14 *дзірывя́нный.* 15 *дзіръвя́ннъй.* 16 *дзірьвя́нный.* 17 *дзерьвéнны.* 18. 19 *драўля́нная* ж. 20 *дзеравя́нны.* 21 *дрыўля́ны.* 22—24 *драўля́ны.* 25 *дзеравя́нны.* 25а *драўля́ны, дзеравя́ны.* 26 *дзераўля́ны.* 27 *дзіравя́нны.* 28 *драўля́ны.* 29 *дзеравя́нны.* 30 *дзірыўля́ны.* 31 *драўля́ны, дзеравя́ны.* 32 *дзіравя́нный.* 33 *дзеравя́нны.* 34 *дзірывя́нны.* 35 *дзірвя́нны.* 36 *дзервя́нны.* 37 *дзірывя́нны.* 38 *дзеравя́нны.* 39 *дзеравя́нныя* ж. 40 *дзірывя́нный.* 41 *дзірівя́нный.* 42 *дзірывя́нный.* 43 *дзірывя́нны.* 44 *дзірівя́нный.* 45—47 *дзеравя́ны.* 48 *дзеравя́нны.* 49 *дзеравя́ны.* 49а драўляны, дзеравянны. 50 *дзяравя́ны.* 51 *дзеравя́ны.* 52 *дзеравя́нны.* 52а—53 *драўля́ны, дзеравя́ны.* 54 *драўля́ны, дзеравя́ны, дзеравя́ны.* 55—56 *дзяравя́ны.* 57 *дзеравя́ны, драўля́ны.* 58 *драўля́ны.* 59 *дзеравя́ны, драўля́ны.* 60—61 *дзяравя́ны.* 62—63 *дзеравя́ны.* 64 *дзеравя́нны.* 65—66 *дзеравя́ны.* 67 *драўля́ны, дзераўя́ны.* 68 *дзераўны́.* 69 *дзеравя́нны, дзераўля́ны.* 70—71 *дзеравя́нны.* 72 *дзеравя́ны.* 73 *дзеравя́нны.* 74 *дзеравя́ны.* 75 *дзіравя́нны, дзірвя́нны.* 76 *дзяравя́нны.* 77 *дзеравя́нныя* мн. 78. *дзірывя́нны.* 79 *дзіравя́нны.* 80 *дзіръвя́нный.* 81 *драўля́ны, дзеравя́нны.* 82 *дзервя́нны.* 83 *дзірівя́нны.* 84 *дзірьвя́нный.* 85—86 *дзірівя́нный.* 87 *дрыўля́ный.* 88 *дзеревя́нны, дзеревя́нный.* 89 *дзірівя́нный.* 90 *дырыв'я́ный.* 91 *дырвя́нный.* 92 *дырыв'éный.* 93 *дзеравя́ны.* 94 *дэрэўя́ны.* 94а *дэрэв'я́ный.* 95 *дырывя́нный, дырыв'я́нный* (рэдк.). 96 *дырывя́нный.* 96а *дырывля́ный.* 97 *дэрэвéный.* 98 *дэрэвнéны.* 99 *дзеравя́нны.* 100—101 *дзеравя́нны.* 102 *дзерэўля́ны.* 103 *дырывя́нный, дырыв'я́ный.* 104 *дзеравя́ны.* 105 *дзераўя́ны.* 106 *дзераўля́ны.* 107 *дзерэвя́ный.* 108—109 *дэрэв'я́ный.* 110 *дзераўя́ны.* 111 *дзеравя́ны.* 112 *дзяраўя́ны.* 113—114 *дзерэўя́ны.* 115 *дзераўя́ны.* 116 *дзеравя́нны.* 117 *дзерэўя́ны.* 118 *дзеравя́нны, драўля́ны.* 119 *дзеравя́ны.* 120 *дзераўя́ны.* 120а *дзераўя́ны, дзераўля́ны.* 121 *дзеравя́нны.* 122 *дзеравя́ны.* 123 *дзеравя́нны.* 124 *дзеравя́нны, драўля́ны.* 125—126 *дзеравя́нны.* 127 *дзеравя́ны.* 128 *дзеравя́нны.* 129 *дзервя́нны, дзервя́ны.* 130 *дзеравя́нны.* 131 *дырывлéны.* 132 *дырыв'я́ный.* 133 *дэрэвя́ны.* 134 *дерэўя́ны.* 135—136 *дзерэўя́ны.* 137 *дзераўя́ны, дзероўя́ны.* 138 *дзерэўя́ны.* 139 *дзераўя́ны.* 140 *дзеравя́нны, дзеравя́ны, дзераўя́ны.* 141—142 *дзеравя́ны.*

Карта № 168

## ДРАЎЛЯНЫ (*-н-, -нн-* у суфіксе)

№ 3795 «Драўляны, дзеравяны, дзеравянны...» (гл. карту № 167)

Картаграфуецца пашырэнне зычных *-н-* і *-нн-* у суфіксе ў варыянтах прыметніка *драўля́ны.*

Карта № 169

## МАКУШКА ДРЭВА

№ 1415 «Я. н. макушка дрэва: вершаліна, верхаліна, верхавіна, вярховіна, макушка, шчык...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў макушкі дрэва і акцэнталагічныя варыянты слоў: *вяршына* і *вершына́*, *верхавіна* і *верхавіна́*.
*верх* 2, 4, 27, 29, 46, 47, 49, 49а, 51, 52а, 54, 56, 62, 66, 93, 99, 100, 104, 106, 133, 134, 137. *вэрх* 90, 92—94, 95 *(струпо́к — са́мый конэ́ць вырха́)*, 96—98, 103, 107, 108, 113, 131—133.
*вяршы́на* 1, 18, 23, 25а, 28—31, 34, 37, 40, 47, 48, 52, 53, 59, 61, 67, 71, 73, 77, 80, 82, 119, 120, 128, 129. *вершы́на* 88, 140.
*вершына́* 57, 58.
*вяршо́к* 6, 20, 50, 60, 74, 76, 104, 105, 110, 111. *вершо́к* 114, 138, 140. *вэршо́к* 98, 101—103, 109. *выршо́к* 91, 92, 94а—96а.
*вярхýшка* 8, 8а, 9, 11, 29, 35, 41 (рэдк.), 72, 77, 84, 89, 125, 130.
*верхаві́на* 3, 22, 24, 45, 65, 120а, 134, 137. *вярхаві́на* 63, 64. *вірхаві́на* 26, 38.
*верхавіна́* 25.
*вярша́лка* 9. *вірша́лка* 8а.
*вершалі́на* 21. *вяршалі́на* 19.
*макýшка* 5, 7, 10, 12—17, 28, 32, 33, 35—37, 39—44, 67—69, 74—76, 78, 79, 81—87, 89, 112, 118, 123, 125—127, 136. *мокýшка* 133.
*ма́каўка* 50, 53, 55 (рэдк.)
*шчык* 112, 117, 118, 121, 122, 127, 135.
*шчыт* 115, 116, 124, 139, 141, 142
*шоломо́чэк* 133.

## Карта № 170

# ДРЭВА

№ 1408 «Я. н. адно дрэва (без указання на пароду): дзерава, дзеравіна, дрэва...» АЛА 333 'растущее дерево' дерево — drvo— drzewo.
Картаграфуюцца назвы дрэва (усякай пароды, якое расце). Паказаны адрозненні па каранёвых формах *дрэв-* і *дзерав-/дзерв-*. Не картаграфуюцца назвы *дзеравіна* і *дравіна*, якія паказваюць адзінкавасць. Яны трапілі ў матэрыялы адказаў, відавочна, толькі часткова.
*дрэ́ва* 2, 3, 6, 8, 9, 15, 21—27, 29, 35, 45, 54, 59, 67 (*дрэва* — калі расце, *дзерава* — матэрыял), 69, 73, 75, 77, 80—82, 111, 118—120а, 124, 127, 130. *дре́ва* 83, 84, 86—89. *дрэ́во* 46, 50, 53, 55, 134.
*дзе́рава* 4, 7, 8, 9—11, 14, 18, 28—31, 33, 36—38, 48, 52, 52а, 54, 57—59, 63—66, 68—77, 80—82, 100, 104, 116, 118, 119, 121—126, 128—130, 139, 141, 142. *дзе́раво* 47, 49, 49а—51, 53, 55, 56, 60—62, 93, 99, 101, 105, 106, 110, 112, 115, 138. *дзе́ріва* 12, 13, 16, 32, 39, 41, 44, 79, 83—87. *дзе́рэво* 102, 113, 114, 117, 135, 136. *дзе́рыва* 17, 35, 40, 42, 43, 78. *дзе́ръва* 5, 8а, 15, 34. *де́рэво* 134. *дэ́рыво* 90, 92, 95, 96а, 103, 131, 132. *дэ́рэво* 94а, 97, 108, 109, 133.
*дэ́рво* 90, 91, 94, 96, 97, 133.
Адведзены: *дзеравіна* 1, 24, 82, 99, 101. *дзерэвіна* 107, 135. *дзіравіна* 35. *дзірявіна* 16, 84, 89. *дырывы́на* 132. *дэрэвы́на* 108. *дэрэвэ́на* 98. *дравіна* 20.
АЛА: *дрэ́ва* 3А—6А, 12А—17А, 19А, 20А, 22А, 28А, 30А, 32А, 36А, 37А, 58А, 59А, 61А, 63А, 70. *дрэва* 21А, 23А, 39А, 41А, 42А. *дрэ́во* 27А, 29А, 115. *дрэ́йца (малое)* 9А.
*дзе́рава* 1А, 10А, 11А, 18А, 19А, 24А, 26А, 30А—33А, 35А, 40А, 55А, 60А, 62А, 63А, 67А, 70. *дзе́раво* 27А, 29А, 34А, 44А, 46А, 49А, 50А, 53А, 56А, 57А, 66А, 50, 61, 115. *дзе́ріва* 7А, 9А, 25А, 39А, 42А. *дзе́рыва* 1А, 2А, 4А, 22А. *дзе́рэво* 51А, 54А. *дзе́ръва* 8А, 38А. *дэ́рэво* 45А, 47А, 52А, 65А.
*дэ́рво* 43А, 48А, 64А.
Адведзены: *дзеравіна* 29А. *дзерэвіна* 51А.

## Карта № 171

# МАЛАДНЯК

№ 1379 «Я. н. густы малады лес, які вырас на месцы зрэзанага старога лесу: маложа, маладзіна, обмаладзь, маладняк...»
Картаграфуюцца назвы маладняку. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Назва *во́тмаладзь* картаграфуецца як *во́бмаладзь*, назвы *маланя́к*, *молоднячо́к* — як *маладняк*, назва *малады выцяраб* — як *выцераб*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы, якія не адносяцца да тэмы карты: *зараснік, маладню́х*.
*маладня́к* 1—3, 6, 8, 10, 11, 14, 20, 21, 23, 24, 25а—29, 31, 36, 38, 46, 49—51, 52а—56, 61—72, 74—76, 81, 82, 86, 88, 93, 99, 100, 104, 110—112, 115—123, 125—130, 135, 140, 142. *молодне́к* 97, 131. *молодня́к* 90, 94—96а, 101—103, 106—109, 113, 132—134, 136, 138. *мулудне́к* 98. *мулудня́к* 92. *мъладня́к* 9, 17, 37, 73, 80. *мълъдня́к* 8а, 12, 13, 15, 32, 34, 39, 41. *мыладня́к* 30. *мылыдня́к* 16, 40, 43, 44, 79, 83—85, 87, 89. *малання́к* 59. *мълання́к* 5. *молоднячо́к* 109, 117.
*маладня́х* 19, 22, 58.
*маладні́к* 4, 47, 52.
*мало́жа* 15, 33, 35. *мало́шка* 35.
*во́бмаладзь* 115. *во́тмолодзь* 114.
*малады́ лес* 25, 49, 57, 66, 83, 105, 118, 124, 125, 141. *малады́й лес* 7. *маладэ́ лес* 105. *мало́ды лес* 4. *молоды́й ліс* 90, 95, 96, 103, 109, 131, 132. *мулуды́й ліс* 91. *мылады́ лес* 87. *мылады́й лес* 87. *моло́дзенькій лес* 107.
*малазьня́к* 18.
*па́рыснік* 42, 78.
*по́расля* 118.
*выцерап* 51. *малады́ выцяраб* 45.
*кýдра* 48, 53.
Адведзены: *за́раснік* 24, 77. *за́рыснік* 84. *маладню́х* (індывідуальнае) 64.

## Карта № 172

# ГУШЧАР

АЛА 374 'густые заросли в лесу' чаща — čestar, gustara, gušta— gąszcz, gęstwina.
Картаграфуюцца назвы гушчару. Паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ.
1А *гусця́р*. 2А—3А *гушча́р*. 4А *за́рысцень, гушча́р, гусця́р*. 5А *гусця́р*. 6А *чашчо́ба*. 7А *густэ́й лес*. 8А *гусце́р*. 9А *гýшча*. 10А *густы́ лес*. 11А *зарасня́к*. 12А *гусця́р*. 13А *хмызня́к*. 14А *кушча́рнік, кушча́р, пýшча* (зараслі ў забалочанай мясцовасці). 15А—17А *гушча́р*. 18А. 19А *за́раслі, за́раснік*. 20А *гушча́р*. 21А *за́рась*. 22А *гушча́р*. 23А *за́рысць, мяре́ча*. 24А—25А *гушча́р*. 26А *за́раснікі*. 27А *гушча́р*. 28А *гушча́рня*. 29А *гушча́р, гушчэ́ча, гушча́рня*. 30А—31А *гушча́р*. 32А *за́раснік, гушчэ́р*. 33А *гушча́р*. 34А *за́раснік*. 35А *гушча́р*. 36А *пýшча*. 37А *гушча́р*. 38А *за́рысь*. 39А *чашчо́ба, гушча́р*. 40А *густы́й лес*. 41А *за́ръсцінь*. 42А *за́рысць*. 43А *гушча́р, гушчы́р*. 44А *але́с, зарасліна, гушчара́, гушч*. 45А *гушчэ́вына*. 46А *гушчэ́рнік*. 47А *корчэ́ (от корчэ́, шчо нэ вбы́тіса, убы́тіса)*. 48А *гушчэ́вына*. 49А *за́раснікі*. 50А *гушча́рня*. 51А *гушча́р*. 52А *гýшча*. 53А *часце́ш, часце́р, гушча́р*. 54А *чага́рнік, гýшча*. 55А *гушчэ́ж, гушчэ́ш*. 56А *гушчэ́р*. 57А—58А *гушча́р*. 59А *гусце́жнік*. 60А *гушча́р*. 61А *густы лес*. 62А—63А *гушча́р*. 64А *гушча́вына, гушчэле́вына*. 65А. 66А *гушча́р*. 67А *гусці́р*. 50 *гушчэ́р*. 61 *гушчэ́р, гушчарня́*. 70 *гушча́р, хмызня́к, за́расцень*. 115 *гушча́р*.
ЛАБНГ: 8а *гусця́р*. 95 *гушчя́вына*. 96 *гушчылэ́вына*. 132 *гýшча*.

## Карта № 173

# ЦЕНЬ АД ДРЭЎ

АЛА 359 'место под деревом, куда не проникает солнце' тень, холодок — hladovina, hlad — cień 951 «Я. н. цень ад будынкаў, дрэў: цень, цянёк...»

Картаграфуюцца назвы ценю ад дрэў. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах. У назве цень адзначаны род. Назва *засцень* картаграфуецца як *сцень*, назва *холодочок* картаграфуецца як *халадок*.

*цень* м. 1А, 2А, 4А, 11А—19А, 21А, 23А, 25А, 27А, 29А, 31А, 32А, 35А, 37А, 40А, 44А, 46А, 49А, 50А, 53А—58А, 61А—63А, 66А, 67А, 61, 70, 115. *тень* м. 45А. тінь м. 52А. *тэнь* м. 47А.

*цень* ж. 9А, 10А, 20А, 22А, 24А, 25А, 33А, 34А, 36А, 38А, 39А, 42А, 65А, 50. *тінь* ж. 48А. *тынь* ж. 43А *тэнь* ж. 64А.

*цянёк* 3А, 5А, 6А, 8А, 26А, 27А, 30А, 59А, 60А, 50, 70. *тенёк* 45А. *тынёк* 52А. *тэнёк* 47А. *ценёк* 54А.

*цяня́к* 11А, 28А. *ценячо́к* 28А.

*падцённіца* 39А.

*сцень* 2А, 39А. *за́сцень* 41А.

*за́сень* 6А. *за́сінь* 2А. *засён* 30А. *за́сенак* 21А. *за́сенка* 6А, 7А.

*халадо́к* 11А, 12А, 25А, 29А, 53А, 63А. *холодо́к* 51А. *хъладо́к* 3А, 41А. *хыладо́к* 39А. *холодо́чок* 48А.

Адзінкавыя: *хмаро́к* 30А.

№ 951. *цень* 1, 4, 8а (м.), 9, 11, 19, 23 (м.), 24 (м.), 26, 34 (м.), 38 (м.), 44 (м., ж.), 45 (м., ж.), 46 (м.), 48 (м.), 51 (м.), 54, 57, 58 (м.), 60, 62, 66, 67 (ж.), 68 (м.), 71 (м.), 73 (м.), 77 (м.), 79 *(зрэ́зыла я сваé кляны́, ду́жа ж цень даюць ны гаро́д, нічагéнька ні расцéць пъд іймі)*, 80 (м.), 83, 85, 87—89, 93 (м.), 100 (м.), 110 (м.), 112 (м.), 115 (м.), 122 (м.), 125 (м.), 126 (м.), 128 (м.), 130, 135 (м.). *тін* м. 94а. *тінь* 92 (ж.), 95 (ж.), 96 (ж.), 96а, 98 (м.), 103 (м.), 108, 109 (м.), 132 (м.). *цыэнь* 107 *(цыэнь стоі́йіць, немá со́нейка)*.

*цянёк* 8а (м.), 10, 11, 53, 60 *(у цяньку́ бывáло пат хáтаю нядзелькаю пасядуць бабы і пра ўсё ўспомняць)*, 77 (м.), 78, 79 *(сядзіць сабé ў цяньку́ цэлый дзень, а мы дурнэйі смáлімся ны жарé)*, 83, 87, 128, 136. *тінёк* 96. *тынёк* 95 *(в тыньку́)*. *тэнёк* 133. *цяно́к* 49.

*цяня́к* 20, 52.

*заты́нок* 97.

## Карта № 174

# ЦЕНЬ АД ЧАЛАВЕКА

№ 950 «Я. н. цень ад чалавека: цень, сцень, цяняк...» АЛА 360 'тень человека' тень — sena, senka —cień.

Картаграфуюцца назвы ценю ад чалавека. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах, родзе. Назва *цянёк* картаграфуецца як *цень* м. Назва *по́стаць* не картаграфуецца (не адносіцца да тэмы карты).

*цень* 2, 3, 4 (нов.), 5 (м.), 8, 8а (м.), 9, 10 *(цень до́ўгі ў пайдзён)*, 11, 16—18, 19 (м.), 21—23 (м.), 24, 27—30, 32, 33, 34 (м.), 35—37, 38 (м.), 39—43, 44 (м. ж.), 45 (м. ж.), 46 (м.), 48 (м.), 49а, 50, 51 (м.), 52а, 54—56, 57, 58 (м.), 59—65, 66 (ж., *цень вялікая, парá гнаць, нéкалі па сонцы пазнавáлі)*, 67 (ж.), 68 (м.), 69, 70, 71 (м), 72, 73, 74—76, 77 (м.), 78—80 (м.), 81—85, 86 (м.), 87—89, 93 (м.), 94, 99, 100 (м.), 101, 102 (м.), 104—106, 110 (м.), 111, 112—115 (м.), 116—121, 122 (м.), 123, 124, 125 *(ты ўсё сваім цéнём зазасці́ў)*, 126 (м.), 127, 128 *(ідзеш, калі ўбачыш чалавеччы цень, ды перапужаесся)*, 129 *(ко́лькі хадзіць бу́дзяш, за табо́ю цень бу́дзя валачы́цца)*, 130, 133, 135 (м.), 136—138 (ж.), 139, 141, 142. *тень* 134. *тін* (м.) 94а. *тінь* 92 (ж.), 95 (ж.), 96 (ж.), 96а *(вы́сох, як тінь)*, 97, 98 (м.), 103 (м.), 108, 109 (м.), 132 (м.). *тынь* 90, 91, 131. *тэнь* 134. *цен* 49, 94. *цыэнь* 107 *(цыэнь попэ́рэд ідзе, як цыэнь восім шагоў, посту́х коб угэ́ вэчэ́ру кудло́шый)*. цэн 47 (м.). *цянёк* 53, 83.

*цяня́к* 20, 53.

*сцень* 1, 4 (м.), 6, 7, 8а (м.), 9 (трад.), 10 *(сцень* — худы чалавек; *сцень* — і міфалагічная істота; *адны́ ко́сці асталіся, ні чалавéк, а сцень стаў; як сцень хо́дзіць, схварэ́ў за зіму́)*, 12—15, 25 (м.).

Адведзена: *по́стаць* (у цемры) 102.

АЛА: *цень* м. 1А—3А, 5А, 6А, 8А, 12А—14А, 16А—19А, 21А, 23А, 25А—27А, 29А—32А, 35А, 37А, 40А, 44А, 46А, 49А, 50А, 53А—63А, 66А, 67А, 61, 70, 115. *тен* м. 45А. *тінь* м. 52А. *тэнь* м. 47А.

*цень* ж. 7А, 10А, 20А, 22А, 25А, 33А, 34А, 36А, 38А, 42А, 65А, 50. *тінь* ж. 48А. *тынь* ж. 43А. *тэнь* ж. 64А. *цен* 51А.

*ценя́к* 11А. *цяня́к* 28А.

*сцень* 4А, 9А, 12А, 15А, 24А, 39А, 41А.

## Карта № 175

# ГАЛІНА ЛІСЦЁВАГА ДРЭВА

АЛА 358 'ветвь лиственного дерева' ветвь, ветка — grana — gałąź

Картаграфуюцца назвы галіны лісцёвага дрэва. На карце паказаны адрозненні па каранях і суфіксах. Назвы *вéтачка, гáлінка, гуля́чка, сучо́к, лáпка* картаграфуюцца адпаведна як *вéтка, галіна, галя́ка, сук, лáпа*.

Не картаграфуюцца назвы: *галлё, галéйко, вéцце, вішшо́, су́чча, хварасцінка* (не адносяцца да тэмы карты). Дадаткова выкарыстаны ўскосныя звесткі з адказаў на розныя пытанні Інструкцыі ЛАБНГ.

*галіна* 27А, 29А, 30А, 34А, 39А, 46А, 53А, 55А, 59А, 62А, 63А, 66А, 70, 115. *голіна* 47А, 51А, 54А, 65А. *голына* 48А, 52А. *галінка* 27А—29А, 31А, 32А, 44А, 57А, 63А, 50, 70. *голінка* 45А.

*галінá* 14А, 17А, 32А, 37А, 58А.

*голя́ка* 43А, 64А.

*галю́ка* 60А, 63А (вялікая галіна).

галэ́ндзь 11А. *галя́* 61А.

*вéтка* 6А, 9А *(на канцы́ сукá)*, 16А, 18А—20А, 22А—25А, 35А, 39А—42А, 62А, 63А, 50, 61. *вéтачка* 12А.

*сук* 1А, 3А—5А, 7А, 8А, 15А, 26А, 33А, 36А, 40А, 41А. *сучо́к* 12А.

*лáпа* 30А, 49А, 50А. *лáпка* 2А. *лáп'е* 50А.

Адведзены: *гальé ці бярозавае, ці сасновае* 10А. *гальлé* 67А. *гольé* 56А. *галéйко* 57А. *вéцця* 21А. *су́чча* 38А. *вішшо́ (нáда наламáць вішшá на вéнік)* 13А. *хварасцінка* 44А.

ЛАБНГ: *голына* 95, 108, 109.

*голя́ка* 96. *гулéка* 98. *гулéчка* 92.

*вéтка* 8а.

*сук* 8а.

## Карта № 176

# ГАЛІНА ХВОЙНАГА ДРЭВА

АЛА 357 'ветвь хвойного дерева' ветвь, ветка — grana — gałąź 1420 «Я. н. галінкі хваёвых дрэў: лапы, лапкі, лапіны... Адз. лік: лапа, лапка, лапіна...»

Картаграфуюцца назвы галіны хвойнага дрэва. Паказаны адрозненні па каранях і суфіксах. Адказы на пытанне 1420 няпоўныя (пытанне не абавязковае для выканання). Назвы *галінка, галя́чка, вéтачка, сучо́к* картаграфуюцца адпаведна як

*галіна, галяка, ве́тка, сук.* Формы множнага ліку картаграфуюцца як адпаведныя формы адзіночнага ліку. Не картаграфуюцца назвы: *галлё, гале́йко, галя́ччэ, су́чча* (не адносяцца да тэмы карты).
*галіна* 27А, 30А, 34А, 37А, 39А, 53А, 55А, 59А, 62А, 66А, 50, 115. *голіна* 45А, 47А, 51А, 54А, 65А. *голына* 48А, 52А. *галінка* 19А, 26А—28А, 57А, 50. *голінка* 45А.
*галіна́* 14А, 37А, 58А.
*голя́ка* 43А, 64А.
*галю́ка* 60А.
*галэ́ндзь* 11А. *галя́* 61А. го́лька 62А.
*ла́па* 29А, 30А, 42А, 46А, 49А, 50А, 63А, 70. *ла́піна* 42А.
*ла́пка* 2А, 3А, 6А, 8А, 9А, 12А, 16А, 19А—21А, 23А, 25А, 29А, 31А, 32А, 35А, 41А, 42А, 44А, 47А, 63А, 70.
*ве́тка* 18А, 22А, 24А, 39А, 62А, 67А, 61. ве́тачка 12А.
*сук* 1А, 3А—5А, 7А, 15А, 17А, 33А, 36А, 40А. *сучо́к* 12А, 13А, 28А.
Адведзены: *галье́* 10А. *голье́* 56А. *гале́йко* 57А. *голя́ччэ* 64А. *су́чча* 38А, 40А.
№ 1420. *галіна* 93. *голіна* 133. *голіны* (мн.) 133. *голінка* 113. *голынка* 95, 103. *галінкі* (мн.) 45. *голынкы́* (мн.) 95.
*гуле́чка* 98. *голля́чкы* (мн.) 90. *гуле́чкэ* (мн.) 98. *гуля́чка* 92.
*галлю́чка* 130.
*ла́па* 20, 51, 60, 62, 88, 92. *ла́пы* 20, 51, 54 (вялікія), 60, 62, 88, 92, 96а.
*ла́пка* 4, 8а, 10, 11, 20, 58, 66, 78, 83, 85, 87, 107, 140, 142. *ла́пкі* (мн.), 4, 8—11, 19, 20, 26, 54, 58, 60, 66, 69, 78, 79, 83, 85, 87, 89, 107, 136, 140, 142. *ла́пкы* 131. *ла́пкэ* 96а.
Адзінкавыя: *хво́я* 9.
Адведзены: *галье́* 93. *голлечко́* 103, 108, 109, 132. *голлічко́* 96.

## Карта № 177

# ТОНКАЯ ГАЛІНКА

№ 1418 «Я. н. тонкая галінка дрэва: галуза, гук, галіна, ветка...»
Картаграфуюцца назвы тонкай галінкі. На карце паказаны адрозненні па каранях і суфіксах. У назве *галіна* адзначаны націск.
Назвы і формы множнага ліку картаграфуюцца: *галіна, галіны* (мн.) — як *галінка; галяка* — як *галя́чка; галю́чка* — як *галю́ка; го́лечка* — як *го́лька; сук, сучкі* (мн.) — як *сучо́к; гучо́к* — як *гук; ла́пы* (мн.) — як *ла́пка*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы, якія не адносяцца да тэмы карты.
*ве́тка* 5 *(з лістамі)* 7, 9, 11—14, 15 *(з ліста́мі)*, 16, 17, 30 *(на лісцвяной паро́дзе)*, 34, 37, 39—43, 44 (з самымі дробнымі адростачкамі), 73, 75, 76, 78—80, 82 (гнуткая і лісцястая частка сука), 85, 86, 88, 89, 124, 127, 128.
*галінка* 10, 18, 31, 38, 49, 51, 53, 54, 67, 74—76, 82 *(з бярозы)*, 84, 86, 89, 104, 105, 111, 115, 117, 118, 135, 142. *голінка* 94, 96 *(то́нынька голінка)*, 113, 114, 122, 133. *голы́нка* 94а, 95, 103, 108, 109, 132. *галіна* 9 (нов.), 18, 22, 23, 28 (на бярозе), 29, 30 *(на сасне́ і ёлкі)*, 36, 45 *(галіна то́нка)*, 47—50, 52а, 54, 55, 59, 60, 64, 67 72, 76, 81, 85, 93, 99, 100, 110, 115, 116, 118, 119 *(то́ўстая і то́нкая)*, 120, 121, 123, 124, 127—129, 136. *голіна* 101, 102 *(то́нкая голіна)*, 106, 107, 114. *гулы́на* 27. *галіны* (мн.) 46, 48, 120а.
*галіна́* 21, 24, 25, 25а, 53, 57, 65, 71.
*галля́* 141, 142.
*голля́чка* 90, 96, 131. *гуллячка* 91, 92. *голе́чка* 131. *гуле́чка* 98. *голля́ка* 90. *гуля́ка* 92.
*галю́ка* 120а, 123, 125, 126, 130. *галю́чка* 126.
*го́лька* 121, 126. го́лечка 140.
*галэ́ндзя* 52 *(галэ́ндзі це́нкія)*.
*сучо́к* 1—4, 5 (без лістоў), 6 (на лісцёвых дрэвах), 12, 15, 20, 27, 32—34, 40, 44, 58, 68—70, 86. *сучкі* 19, 68. *сук* (сук тонкі), 2 (тонкі сук), 12, 15, 28, 55, 86 (парастак 2—3 год).
*гук* 61—63, 71 *(во гукі якія пашлі па я́блыні)*. *гучо́к* 63, 69.
*галу́за* 19 *(галузы́ на лазе́)*, 20, 83 (тонкая галінка), 134, 138, 140.
*ла́пка* 6 *(ла́пкі на е́лцы)*, 54, 86. *ла́пы* 77 (у хвойных).
Адзінкавыя: *тэніна́* 8а. *ато́грыш* 66 *(ато́грышы вялікія парасли за ле́та)*. *хлю́ба* 96а. *по́хвіст тонкі* 139.
Адведзены: *смальнячкі* (маладыя пабегі хвоі) 6. *пруто́к, пру́цця* 7. *атуро́стак, атуро́сткі* 8. *атро́стак* 84. *хлуд* (зб.) 9, 87. *галлё* 25. *то́нкэ голье́* 93. *дубе́ц* 35. *дубэ́ц (з лісцястых дрэў, шо і пагіна́ецца)* 93. *ра́ла* (тоўсты сук) 65. *па́растак* (без сучкоў) 75. *ро́скі* (таўсцейшае галлё) 112. *ко́кат* (тоўстая галіна) 123. *ро́зка* 124. *прыро́сток* (з кораня) 133. *політок* (за 1 год) 133.

## Карта № 178

# ТОЎСТАЯ ГАЛІНА

№ 1419 «Я. н. тоўстая галіна: сук, галуза...»
Картаграфуюцца назвы тоўстай галіны. На карце паказаны адрозненні па каранях і суфіксах. Складаныя назвы картаграфуюцца як адпаведныя простыя без азначэння. У пунктах 49, 51, 53, 72, 90, 93, 95, 110, 114, 119 назва *сук* не картаграфуецца, таму што яна абазначае іншую рэалію.
*сук* 2, 3, 5—45, 46 (мн. *суке́*), 47, 48, 49 *(сук — адломак ад галіны)*, 49а, 51 *(сук —* зламаная частка, астаецца пры ствале), 52а, 53 *(тоўсты, на дрэві — галіна; сук — кароткі, атсечаны,* мн. *суке́)*, 55—65, 66 *(з лісцем — галіна, а без лісця — сук)*, 67—70, 72 *(галіна абламаецца, астаецца сук)*, 73—75, 77—89, 90 *(сук — ныжня часть голлякы)*, 92 *(як зла́маный)*, 93 *(сук — абламаная галіна)*, 95 *(сук — як зламныцця голына, то остаецця, і в сырэдыны дэрыва сук)*, 100, 101, 104, 106, 107, 110 *(сук — пасохшы, абламаны)*, 114 *(сук — як голіна одломіцца)*, 116—118, 119 *(сук — без галіны, абсечаны)*, 120, 120а, 122—124, 126, 127, 133, 136, 140. *таўсты́ сук* 2, 4, 139. *сук таўсты́й* 1.
*гук* 25 (мн. *гукі*), 65 (трад.), 69.
*галіна* 45, 46, 49, 51, 53, 54, 66, 72, 77, 87, 99, 110—112, 115, 119, 121, 126, 128, 135. *голіна* 94, 106, 113, 114. *голына* 94а, 95, 97, 103, 108, 132. *то́ўстая галіна* 87. *голіна то́ўстая* 102. *то́вста голына* 109.
*галіна́* 71, 76, 77.
*галля́* 142. *галя́* 141. *голля́* 96. *то́вста голля́* 96. *груба́ гуля́* 91.
*голля́ка* 90, 96, 96а. *гуле́ка* 98. *голе́ка* 131. *то́вста голляка́* 96. *гуля́ка* 92.
*галю́ка* 125, 129, 130.
*гру́ба галэ́ндзя* 52.
*галуза́* 135, 138, 140. *голу́за* 134.
*ла́па* 51, 54, 77 (у хвойных).
*ра́лья* 105.
Адведзены: *галле́* 112. *тоўста галье́* 93.

## Карта № 179

# ІГЛІЦА

№ 1421 «Я. н. калючкі хвоі: калюкі, шэпка, шыгалле, шакаліны, igліца, пыльнік...» 1422 «Я. н. яловыя калючкі: igліца, калюкі...»
Картаграфуюцца назвы хваёвых і яловых калючак (igліцы). Назвы для яловых калючак і для калючак хвоі на Беларусі пераважна адны і тыя, таму картаграфуюцца яны на адной карце. У тых выпадках, калі адказы на пытанні 1421 і 1422 адрозніваюцца, у індэксе пасля адказа ставіцца нумар адпаведнага пытання. Розныя адказы на пытанні 1421 (igліца хвоі) і 1422 (igліца елкі) могуць быць вынікам наступных прычын: 1) частковае адрозніванне абазначэнняў igліцы хвоі і елкі (напр., *хваёвая igліца і яловая*

*ігліца*), 2) адрозніванне па каранях (напр., *бадзюкі і калючкі*), 3) адсутнасць елкі ў некаторых месцах, нарэшце, 4) не ўсе назвы для ігліцы елкі або ігліцы хвоі маглі трапіць у адказы.

Пры картаграфаванні паказаны адрозненні па каранях і словаўтваральных элементах. Назвы *ігліцы, гліцы, гліца* картаграфуюцца як *ігліца*, назвы *гóлкі, гóлачкі, ігóлачкі* — як *ігóлкі*, назвы *калю́чка, калю́шка*, — як *калю́чкі*, назва *шыллё* — як *шы́льнік*, назва *шыпулé* — як *шыпу́лькі*, назва *шы́галь* — як *шы́галле*, назва *шпіллé* — як *шпількі*, назва *шы́пка* — як *шыпата* назва *шыкá* — як *шыкатá*.

1 *чашчá (адна чашчы́на)* (1421), *ялóвая чашчá* (1422), 2 *ігліцы ад сосны, саснóвыя ігліцы; яловыя ігліцы*. 3 *калю́шкі*. 4 *калючкі сасновыя, калючкі яловыя, ігліца*. 5 *ігóлкі*. 6 *саснóвыя калю́чкі, ялóвыя калючкі*. 7 *чáшча, ігóлкі*. 8 *саснóвыя калю́чкі, ялóвыя калючкі*. 8а *ігóлкі*. 9 *ігóлкі* (1421); *калю́чкі, ігóлкі, ялéнец, кóлцы* (1422). 10 *йігóлкі, йігліца* (1421), *йіголкі* (1422). 11 *йігліца, йігóлкі* (1421), *йіголкі* (1422). 12 *чъшчá*. 13 *хвоя́*. 14 *гóлкі*. 15 *чъшчá*. 16 *калю́цкі*. 17—18 *калю́чкі*. 19 *калю́шка на лапках* (1421), *ялóвыя калюшкі* (1422). 20 *шы́льнік*. 21 *іглá, шпíлькі*. 22 *ігліца*. 23 *шы́льнік*. 24 *саснóвыя ігóлкі, ялóвыя іголкі*. 25 *шыллё ад сасны, шыллё ад елкі*. 25а *гóлкі*. 26 *ігліца*. 27 *шы́льнік*. 28 *ігліца*. 29 *калю́чкі*. 30 *гóльнік*. 31 *ігліца*. 32 *калючка, хвой, чашчá*. 33 *калю́чкі, ігліца*. 34 *калю́чкі*. 35 *йігóлкі*. 36 *калю́чкі*. 37 *ігліца*. 38 *ігóлкі, калю́чкі* (1421), *іголкі* (1422). 39 *калю́чкі*. 40 *іглá сасновыя, ігла яловыя*. 41 *ігóлкі; іглá* (зборн.). 42 *ігóлкі*. 43 *хвайнá, йігліцы* (1421), *йігліца* (1422). 44 *ігліца*. 45 *бэ́ткі, бэткі яловыя, бэткі с хвайны (грабяць на потсціл жывіне)*. 46 *калю́чкі (засну́ў і на калючках)* (1421), *калю́чкі, гóлкі* (1422). 47 *ігліца*. 48 *шы́льнік*, 49—49а *кастры́ца*. 50 *гóлкі, калючкé* (рэдк.). 51 *калю́шкі, ігóлкі, гóлкі; кастры́ца (сухія, асыпаныя)* (1421), *гóлкі; кастры́ца (асыпаныя сухія)* (1422). 52 *сцібіклі (на дрэве), шы́льнік (як ападае)*. 52а *шы́льнік*. 53 *шы́льнік, ігліца* (1421), *ігліца, яловы шыльнік* (1422). 54 *кастры́ца, скуё́тнік* (1421), *скуё́тнік* (1422). 55 *гóлкі* (адз. *гóлка*). 56 *шы́льнік (асыпаны, увосень)*. 57 *шы́льнік*. 58 *шы́шальнік (хваёвы, яловы)*. 59—60 *ігліца, йігліца*. 61 *ігліца, гóлкі* (1421), *голкі* (1422). 62 *шы́шкі* 'калючкі', *(каткé на елцы і на хвойцы* 'шышкі'). 63 *калю́чкі; насыпалася многа ёлкі*. 64 *шыпу́лькі*. 65 *шыпулé*. 66 *шыпу́лькі* (адз. *шыпу́лька*) (1421), *яловыя шыпулькі* (1422). 67 *ігліца* (1421), *ігліца, шыпу́лькі* (1422). 68 *гліца*. 69 *бадзю́кі, бадзю́чкі хваёвыя, яловыя* (адз. *бадзюк*), *гліца (на зямлі)*. 70 *ігліца, як асыпляцца, а так — калючка*. 71 *йігліца*. 72—74 *ігліца*. 75 *ігóлкі, шы́галля, ігліца (якое апала з хвоі, елкі)*. 76 *ігліца*. 77 *яловая ігліца і хваёвая ігліца*. 78 *йігліца*. 79 *йігóлкі*. 80 *ігліца, гліца*. 81 *йігóлкі, шы́галля* (1421), *іголкі* (1422). 82 *ігóлкі, калю́чкі*. 83 *калю́чкі, йігліцы* (1421), *йігліцы* (1422). 84 *гліца*. 85 *калю́кі, калю́чкі* (1421), *йігліцы* (1422). 86 *шы́галь, шыгалíна* (зб.), *шыгалíнка (адна)*. 87 *шы́гылля*. 88 *калю́чкі* (1421), *калючкі, ігліца* (1422). 89 *калю́чкі, шы́гулля, шы́гылля* (1421), *ігліца* (1422). 90 *шы́пка*. 91 *шыпутá*. 92 *шыпутá, остякы́*. 93 *шыкатá, шыпатá*. 94 *шпыльé, гóлкі* (1421), *шпыльé* (1422). 94а *колю́чкы*. 95 *шпылькы́* (адз. *шпылька*). 96 *бóдя (зылёны, на дэрывы), шыпотá (жовты, осыпающьця), шыбодá, колю́чка (одна)*. 96а *шыпотá*, 97 *шыбудá, бодякы́* (1421), *колюкы* (1422). 98 *лáсучнык*. 99 *шпільé*. 100 *калю́шкі*. 101 *ободкі*. 102 *колюкі с хвоі, з елкі, хвоёві і елові лічнік, лічнік — як опадзе (лічнік лежыт, лічнік грэбсці)*. 103 *шпылькы́* (адз. *шпылька*). 104—105 *калю́шкі*, 106 *гліцы, ігліца*. 107 *гліца*. 108 *бодькы́* (адз. *бу́чка*). 109 *бодкы́* (адз. *бíдка*). 110 *ігóлкі*. 111 *йігóлкі*. 112 *йігліцы*. 113 *хвоя́* (на дрэве), *ігліца* (рэдка — калі на дрэве, у асноўным — калі ляжыць на зямлі), *ігóлка* (адна). 114 *шыкá* (1421),— (1422). 115—116 *ігліца (хваёва і ялова)*. 117 *гліца*. 118 *гліца* (1421), *ігліца* (1422). 119 *ігóлкі* (радзей), *сасновая і яловая гліца (асыпаная)*. 120 *гліца*. 120а *калю́кі*. 121 *ігліца* (1421),—(1422). 122 *гліца*. 123 *ігóлкі, ігліца*. 124 *шы́галля*. 125 *ігóлкі, ігліца* (1421), *іголкі* (1422). 126 *ігóлкі, ігóлачкі*. 127 *гліца* (1421), *гліца ёлашна* (1422). 128—129 *ігóлкі*. 130 *ігóлкі, ігóлачкі*. 131 *колючкы́*. 132 *шпылькы́*. 133 *ігліца* (1421),—(1422). 134 *гóлочкі, гліца*. 135 *йігліца*. 136 *ігліца*. 137. 138 *гліца*. 139 *гóлкі, гліца* (1421), *голкі* (1422). 140 *калю́чкі, гліцы*. 141 *ігóлкі*. 142 *ігóлкі, калючкі, ігліца (ігліца ападая, насыпалася ігліца)* (1421), *ігліца* (1422).

## Карта № 180

# НІЗКА ЛІСЦЯЎ

№ 1423 «Я. н. звязка кляновых (дубовых) лісцяў: вітка, вясло, бунт, папуша, папушка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў нізкі лістоў і акцэнталагічныя варыянты слова *вясла: вя́сла* і *вясло́*. На аснове матэрыялаў «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» І. К. Бялькевіча (С. 129) нанесена на карту назва *вясла* ў н. п. 44. Адводзяцца ад картаграфавання назвы ў значэнні 'пук, звязка': *вя́зка, звя́зка, вязáнка, пу́к, пучóк, бунт, пачачóк*, у значэнні 'скрутак (тытуну)': *папу́ша, папу́шка, папу́шына*. Не картаграфуецца таксама назва *май*, што абазначае галінкі з лістамі, якімі ўпрыгожвалі хату на традыцыйнае свята сёмуху (параўн. таксама карту № 296 «Нізка грыбоў»).

*вя́нок* 14, 18, 22, 25, 25а, 26, 31, 37, 49, 49а, 51, 53, 54, 56, 59—62, 64, 69, 77, 99, 100, 104, 105. *венóк* 101, 102, 106. *вынóк* 90, 96, 96а, 97.

*матóк* 1—6, 8—11, 15, 16, 24, 28—30, 34, 35, 37, 73, 75.

*мату́шка* 7.

*вя́сла* 27, 34, 43, 44, 68, 79—82, 115.

*вясло́* 119, 123.

*хаму́т* 93—95, 98, 103, 107—109, 112—114, 117, 120а, 132—135.

*нізка* 82, 118, 119, 121, 124, 127, 136—138. *ны́зка* 92. *ніска* 45, 66, 70, 72, 122.

*нізо́ўка* 111. *нізло́* 110.

*вéнцерка* 20. *вінцярка* 52а *(ліпу даўнéй дрáлі, сушы́лі, круцілі ў скру́ткі і паніжа цэ́ла вінцярка скру́ткаў)*. *вінцірка* 58.

*вірціна* 47, 48.

*маніста* 57, 63, 65.

*вітка* 31, 48, 74, 89, 116, 120.

*вéтка* 40—42.

Адзінкавыя: *тузень* 23. *вясёлко* 56. *казёл* 71 *(два казлы́ лісця дубóвых)*. *оборóмок* 94а. *ключ* 131. *вéшала* 133.

Адсутнічае назва: 12, 13, 38, 39, 76, 87, 91.

Адведзены: *вя́зка* 78, 79. *вя́ска* 67. *уя́зка* 141. *вязáначка* 142. *звя́зка* 83, 88, 125. *вязáнка* 16. *пук* 49, 60, 139. *пучóк* 17, 21, 32, 33, 36, 46, 125, 140. *бунт* 55, 99. *пачачóк* 52. *папу́ша* 25, 64, 81, 86, 129, 136. *папу́жа* 19. *папу́шка* 20 *(папу́шка* — скрутак тытуновых лістоў, скручаных у трубку), 29, 53, *(папу́шка — гэто звязка тутня́)*, 84, 85, 98 *(папу́шка малэ́йка, складáють, а ны нэ́жуть)*. *пампу́шка* 50. *папу́шына* 64 *(папу́шына табаку́)*. *май* 5, 14, 15.

## Карта № 181

# СТАРЧКОВЫ (галоўны) КОРАНЬ ДРЭВА

№ 1424 «Я. н. галоўны корань дрэва; старчак, маціца...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў старчковага кораня дрэва і акцэнталагічныя варыянты слоў: *стрыжань* і *старчовы*. Назва *пастарня́к* картаграфуецца як *пастарнáк*, назва *старцавы́ кóрань* — як *старчавы́ кóрань*, назвы *аснаўны́ кóрань, галóўны кóрань* і *цэнтрáльны кóрань* картаграфуюцца як *аснóўны кóрань*, назвы *дóўгі кóрань, бальшóй кóрань, здарóвы кóрань, тóўсты кóрань* — як *кóрань*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы: *корч, шмаля́к, смаля́к*, якія не маюць адносін да тэмы карты.

*старчáк* 19, 20, 35, 49а, 50, 52а—56, 58, 60—62, 93, 94, 99, 100, 110—112, 117, 120, 120а, 122. *сторчáк* 90, 92, 96, 96а, 97, 101, 102, 106—109, 132, 134—136, 138. *стырчáк* 40, 41, 44

*тарчáк* 2. *тарчмáк* 38.

*сторчóвый корэнь* 94а, 95, 103. *сторчóвы кóрэнь* 133.

*старчавы́ кóрань* 121, 124, 130, 139. *сторчовы́ кóрэнь* 113. *старцавы́ кóрань* 126.

*стрыжань* 82. *стрыжынь* 35, 78, 85, 86. *стрыжэнь* 36, 116, 128, 129. *стріжынь* 81, 83. *стрэжань* 14.
*стрыжэнь* 17, 29.
*аснойны коранъ* 10, 11. *асноўны коранъ* 9. *глаўны коранъ* 8а, 47, 48. *глаўный коранъ* 42. *цэнтральны коранъ* 30, 33.
*ствол* 68, 75—77, 79.
*ствалавы коранъ* 4—6, 23—25. *ствалавый* коранъ 1.
*пастарнак* 31, 57, 59, 64, 65, 71, 74, 118. *пыстырнак* 37. *пастарняк* 21.
*стаяк* 66, 115.
*коранъ* 3, 15, 16, 18, 26 (усторч коранъ ідзе), 34, 43, 45, 70, 84, 89, 119, 125, 131, 137 *(коранъ буракóм, коранъ, як бурак)*. *доўгі коранъ* 7, 142. *бальшой коранъ* 80. *здаровы коранъ* 141. *тоўсты коранъ* 27.
Адзінкавыя: *стацявы коранъ* 22. *штыль* 28. *сцяблавы коранъ* 49. *сыраткóвы коранъ* 51. *мацéчны коранъ* 52. *тоўмак* 67. *сцéбяль* 69. *стаўмаваты коранъ* 72. *сярдзéшнік* 73. *свічка* 98. *свёкло* 105. *свердзёл* 114. *штыляк* 120. *стаяк* 123.

## Карта № 182

# БЕРВЯНО

№ 1437 «Я. н. павалены і ачышчаны ад сукоў ствол дрэва: калода, хлыст, бервяно, бярно...»
На карце паказаны словаўтваральныя адрозненні назвы ад кораня *бер/в/- // бр-// браў-: бервянó, браўнó, бярнó.*
*бервянó* 3, 20, 22, 23, 27, 31, 46, 48 *(хату склалі з бервянóў)*, 49, 52—54, 57, 61, 63—70, 74, 80, 86, 100, 104, 105, 112, 117, 118, 121, 122, 127. *берўянó* 107, 114, 133, 134, 137. *бервінó* 66. *бірвянó* 26, 34, 35, 37, 73, 76. *бярвянó* 58, 60, 76 (рэдк.), 111. *бярвінó* 110. *барвінó* 59; *бырвынó* 113, 132 (рэдк.). *бэрванó* 138.
*бервянё* 19. *бярвянё* 18.
*бярнó* 2, 6, 7, 8а — 14, 16, 21, 24, 25, 25а, 28—30, 32, 33, 35, 36, 38—44, 72, 75, 78, 79, 81—89, 115, 123, 126, 139.
*браўнó* 1, 4, 5, 8, 15, 17, 71, 75, 77, 78, 116, 118—120а, 124, 125, 127—130, 140, 141. *брэўнó* 135.
Адсутнасць назвы: 47, 49а, 50, 55, 56, 62, 90, 92, 94а — 99, 102, 103, 106, 108, 109, 136, 142.

## Карта № 183

# ДУПЛО

№ 1429 «Я. н. дупло: дуплё, дупло...»
На карце паказана проціпастаўленне па цвёрдасці-мяккасці суфікса *-л-* у слове *дупло (дупló, дуплá: дуплé, дупля)* і род слова *дупló: дупló, дуплё, дуплé* — н. р., *дупля, дуплá* — ж. р., *дупéль* — м. р. Назва *дуплá* картаграфуецца як *дупля*.
*дупló* 2—4, 6—8, 9—11, 20 (нов.), 26—28, 37, 42, 43, 45—48, 50, 51, 53—56, 60—63, 65, 67, 71, 72, 75, 79—81, 88, 90—109, 111—113, 116, 122, 123, 125, 127, 129, 131—142.
*дуплё* 1, 5, 8, 8а, 12—17, 21, 23—25а, 29—36, 38, 39, 41, 42, 44, 49, 49а, 52, 52а, 57—59, 64, 66, 68—70, 73, 74, 76—78, 80—87, 89, 114, 115, 118, 119, 121, 124, 126, 128, 130.
*дуплé* 110, 117, 120.
*дупля* 18, 19. *дуплá* 20 (трад.).
*дупéль* 22.

## Карта № 184

# ДУПЛАВАТАЕ (дрэва)

№ 1429 «Дрэва дуплаватае, дуплістае...»
На карце паказаны прыметнікавыя ўтварэнні ад кораня *дупл-*. Як *дуплянае* картаграфуецца *дуплянóе*.
*дуплаватае* 28, 49а, 67, 88, 99, 100, 111, 112, 116, 139, 141, 142. *дуплаватая* 3, 10, 11, 27, 29, 60, 61, 63, 82. *дуплаватаё* 53. *дупловатое* 94, 134. *дупловатэе* 94а, 108, 113. *дуплуватае* 17. *дуплуватыя* 42, 43, 78, 79, 89. *дуплуватъя* 4. *дуплъватъя* 41. *дуплыватая* 7. *дуплыватыя* 83, 85. *дуплавата* 46, 50, 51, 62, 104. *дуплавато* 55. *дуплована* 107. *дупловатэ* 91, 96, 96а, 133. *дуплыватэ* 109. *дуплована* 98.
*дуплявата*е 18, 106. *дуплявата*я 5, 19, 22, 25, 124. *дуплеватае* 36. *дупліватъя* 33. *дупліватыя* 42. *дуплюватыя* 40, 44, *дуплявато* 56.
*дупляна*тае 120а, 140. *дуплянатая* 58, 65, 69, 71, 76, 77, 126. *дупленатае* 30, 128, 138. *дуплінатае* 31, 37. *дуплінатая* 38, 73, 74, 81, 118. *дуплынатэе* 132. *дупляната* 121. *дуплянато* 110. *дупленатэ* 135.
*дупляня*тае 115, 122, 123. *дупляня*тая 66, 68, 119. *дупліняты*я 84.
*дупланаватая* 2. *дуплыноватэ* 109.
*дуплінаватае* 9. *дуплінаватая* 25а, 26. *дуплянаватая* 24.
*дуплястае* 57, 86. *дуплястая* 14. *дуплястъя* 15, 39. *дуплястэ* 90.
*дуплістае* 9, 80, 129, 137, 140. *дуплістая* 1, 124. *дуплістое* 134. *дуплістыя* 41, 79, 83, 87.
*дуплявая* 52, 54. *дуплява* 48, 52а. *дуплява* 47, 49.
*дупляная* 59, 70. *дуплянóе* 125.
*дупнатэ(е)* 101—103. *дупнатэ* 95.
Адзінкавыя: *дуплёвыя* 16. *дуплінуваcтыя* 35. *дупластэ* 97. *дупланатая* 127. *дэрэво з дуплóм* 131.

## Карта № 185

# ДУПЛАВАТАЯ (бручка)

№ 331 «Я. н. бручка з дуплом: дуплявая, дупляна, дуплястая, дуплаватая...»
На карце паказаны прыметнікавыя ўтварэнні жаночага роду ад кораня *дупл-*. Слова *дупляная* картаграфуецца як *дупляная*.
*дуплаватая* 3, 9, 28, 59, 60, 61, 63, 88, 99, 116, 127. *дупловатая* 108. *дуплаватыя* 83. *дуплуватая* 6, 17, 79, 92. *дуплуватъя* 5. *дуплуватыя* 29, 43, 78. *дуплъватъя* 8а. *дуплъватыя* 41. *дуплавата* 46, 50, 51, 55. *дупловата* 91, 94, 94а, 98, 133, 137.
*дупляватая* 1, 11, 18, 19, 22, 25, 27, 53, 62, 135. *дуплеватая* 141. *дупліватыя* 33. *дупліватъя* 34. *дуплёватая* 7. *дуплюватая* 10. *дуплюватыя* 32, 87. *дуплявата* 20, 49а, 56. *дуплевата* 107.
*дуплянатая* 21, 25а, 58, 65, 68, 69, 71, 72, 76, 77, 106, 113, 118, 120, 120а, 122—124, 126, 129. *дупленатая* 30, 128. *дуплінатая* 31, 37, 73—75, 81. *дупляната* 110—112, 115, 121. *дуплената* 138, 140. *дупліната* 117.
*дупляняатая* 57, 67, 70, 82. *дупліняты*я 85.
*дуплястая* 9, 36. *дуплястыя* 35, 38, 39, 44, 84, 86.
*дуплістая* 134. *дуплістыя* 16, 41. *дупліста* 136.
*дупляністая* 82. *дуплінястая* 80; *дуплюнястыя* 13.
*дуплівастая* 4. *дуплівастыя* 89. *дуплювастъя* 15.
*дупляная* 64, 125, 130. *дупляная* 142.
*дуплявая* 45, 48, 54, 104. *дуплява* 47, 49, 52а.
*дуплянаватая* 24. *дуплінаватая* 8, 26. *дуплыновата* 109.
*дупната* 93, 95, 96, 101—103.
*дуплата* 90, 96а, 97, 132.
*дуплеваная* 141. *дуплявана* 139.
Адзінкавыя: *дупланаватая* 2. *дупланаста* 105. *з дуплём* 119. *дупласта* 131. *дупляты* 140.

## Карта № 186

# СУХАСТОІНА

№ 1430 «Я. н. засохшае стаячае дрэва: сухастоіна, сухапастоіна...

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў сухастоіны. Назвы *сухастóіна, сухапастóіна, сухастóй, сухапастóй* абазначаюць усякае сухое стаячае дрэва. Назва *вя́ліца (вéліца)* абазначае толькі сухую хвою. На поўнач ад арэала назвы *сухастóй* 'засохлае стаячае дрэва' гэтая ж назва шырока ўжываецца ў зборным значэнні. Адводзяцца ад картаграфавання назвы, якія не адносяцца да тэмы карты: *сухавéрх, сухавéршка, засмóлак.*

*сухастóіна* 2—11, 13—15, 17, 20—23, 25, 26, 28—35, 37—41, 43—45, 47, 49а — 51, 53, 55—57, 59—66, 70, 72—77, 80—88, 99, 100, 110, 118, 119, 123—130, 135 (рэдк.). *сохостóіна* 97, 103, 133, 134, 137.

*сухапастóіна* 24, 27, 48, 49, 54, 58, 69. сухопостóіна 103. *сухастой* 67, 93, 104, 105, 111, 112, 115, 116, 120а — 122, 135, 139—142. *сухостóй* 90, 92, 96а, 103, 106, 107, 113, 114, 117, 131, 136, 137, 140. *сухостьíй* 91.

*сухастóйка* 19, 68.

*сухопостóй* 94а, 95, 101—103, 108, 132. *сухопостю́й* 96.

*сухалíна* 1, 16.

*сýшка* 18, 25, 26, 36, 93.

*пастóіна* 12. *стоя́к* 94. *пасýшына* 103.

*вя́ліца* 122 (толькі сасна). *в'я́ліца* 107, 114, 120, 133, 134. *ýя́ліца* 135 (толькі хвоя), *я́ліца* 138 (толькі хвоя). *вéліца* 98.

Адзінкавыя: *чэртя́нка* 109.

Адведзены: *засмóлак* 23. *сухавéрх* 31, 60. *сухавéршка* 57.

## Карта № 187

# ПАВОРЫСТЫ

№ 1427 «У якім значэнні ўжываецца слова павóрысты (пра дрэва)?»

Слова *павóрысты (навóрысты)* ужываецца ў гаворках Заходняга Палесся і, як правіла, у значэнні 'пахіленае дрэва': п. 93 *навóрысты* — 'ствол пад нахілам': *навóрыста сасна́, дуб, ёлка.* п. 98. *навóристэ.* п. 100 *павóрысты — такі, што клон мае.* п. 106 *повóрыста дзéраво похіленое ў стóрону.* п. 113 *повóрістое — похілое дзéрэво.* У п. 94 слова *павóрысты* мае значэнне круты: *повóрыстое дéрво* — дрэва, драўніна якога не колецца прама, а круціцца.

## Карта № 188

# ВЫВАРАЦЕНЬ

№ 1433 «Я. н. вывернутае бурай дрэва: выварацень, выварат, выскідзь...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў вываратня. Адведзена ад картаграфавання слова *буралóм* 'дрэва, паламанае бурай'.

*вы́варат* 45, 47—56, 60—62, 65, 67, 99, 104, 105, 110—112, 116, 121, 129, 130. *вы́ворот* 91, 93, 94а, 101, 103, 106—109, 113, 117, 134, 137. *вýварат* 122, 127. *вэ́вурут* 98. *віворот* 102, 133.

*вы́варацень* 26, 29, 82, 118, 119, 123, 128, 142. *вы́вьръцінь* 12—14, 16, 17, 41, 42. *вы́вырыцінь* 35, 39, 40, 43, 44, 78, 79, 83—89. *вы́вьрацень* 32. *вы́верацень* 72. *вы́воротэнь* 95—97, 131. *вы́вурутэнь* 92. *вýвороцень* 114, 135, 136, 140. *вýварацень* 115. *вэ́вурутэнь* 98. *віворацень* 138.

*вы́варацьь* 29, 31, 33, 36—38, 57, 59, 63, 64, 66, 68—71, 73—76, 80, 81. *вы́вырыць* 15, 34, 40.

*вы́варацíна* 2, 5, 6, 10, 11, 21, 28. *вы́вырацíна* 1, 7—9.

*вы́варатка* 3, 4, 18, 22, 24—25а, 57.

*вы́варатня* 19, 20, 23, 27, 58.

*вы́варатак* 124.

*вы́скідзь* 85, 120а, 122. *вы́скадзь* 77. *віскідзь* 138. *вýскудзь* 120.

*вы́складзь* 134.

Адзінкавыя: *ветравáл* 30. *вы́вярнутыя дрэ́ва* 87. *ветровáк* 90. *вы́вырнутэ дэ́рыво* 92. *павáл* 116. *выворáчае вíтёр; выхровáтэ дэ́рыво; выхóр вы́вырнув, злый дух, на постро́йкы нымóжно* 132. *вýваленае дзéраво* 141.

Адведзены: *буралóм* 30, 31, 100, 123, 125, 126, 139. *бурлóм* 131.

## Карта № 189

# ХЛЫСТ

№ 1437 «Я. н. павалены і ачышчаны ад сукоў ствол дрэва: калода, хлыст, бервяно, бярно...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў хлыста. Назвы *барвінó, браўнó, бярнó, бервянё* картаграфуюцца як *бервянó* (параўн. карту № 168 «Бервяно»).

*бервянó* 3, 14, 22, 23, 25, 27, 31, 48, 58, 61, 64, 65, 69, 70. *бярвянó* 19, 20, 60, 62, 63, 105. *бірвянó* 15, 41 (рэдк.), 42, 43, 83. *бервінó* 66. *бярвінó* 68. *барвінó* 59. *бервянё* 18.

*браўнó* 5, 15, 40, 43, 74, 78, 120. *бряўнó* 17, 39, 79.

*бярнó* 6, 7, 8а, 10, 11, 16, 21, 25, 29, 38, 41, 42, 100.

*бярвéнь* 52 *(два бярвёны).*

*хлыст* 9, 12, 13, 24, 25а, 26, 28, 30—38, 44, 67, 70, 72, 73, 75—77, 80—89, 97, 110, 111, 115, 116, 118, 119, 120а, 121, 124, 126—129, 137, 142. *хліст* 138.

*калóда* 49а, 104, 112, 120, 125, 129, 130, 135, 139, 141, 142. *колóда* 102, 106—108, 114, 117, 122, 132—134, 136.

*колóдка* 91. *колíдка* 131. *кулíдка* 92. *колýтка* 140. *кулíтка* 98.

*дзеравíна* 45, 47, 49, 52, 53, 54, 56, 93, 99, 101. *дзяравíна* 50, 51, 52а, 55, 59. *дзеравíна* 113. *дэрэвíна* 94. *дэрэвы́на* 94а, 108, 109. *дырывы́на* 95, 103.

*бáлька* 1, 2 *(на хáту бáлік нарэ́заў),* 4, 8.

*штýка* 49, 50, 51, 54.

*бар'я́к* 96, 96а.

*пень* 23, 29.

Адзінкавыя: *палéно* 62. *довготён* 90. *краж* 129. *полéно* 140.

## Карта № 190

# КРУГЛЯК

№ 1441 «Я. н. кароткі адрэзак ствала дрэва: цележ, цяльпук, кругляк, калодка...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў кругляка. Як *чурбáн* картаграфуюцца *цурбáн,* як *чурбáк* картаграфуецца *цурбáк.* Адводзяцца ад картаграфавання назвы *камéль* і *плашчáк,* якія не маюць дачынення да тэмы дадзенай карты.

*калóдка* 5, 41, 80, 87, 89, 119, 120, 120а, 123, 126, 128, 130. *колóдка* 94, 101, 106, 108, 136. *колýдка* 132. *колíдка* 97, 131. *кулóдка* 91. *калóтка* 3, 4, 8а—11, 13, 15, 18, 19, 21—23, 30, 31, 34, 46—48, 50—52, 53—55, 58—60, 64, 67, 74, 76, 93, 99, 100, 105, 110, 111.

*калóда* 20, 37, 49, 52а, 56, 63, 104. *колóда* 103, 109.

*кругля́к* 1, 2, 5, 7—9, 14, 20, 26, 29, 32, 36, 42—44, 48, 51, 53, 55, 57, 59, 62, 73—78, 84—86, 89, 92, 97, 101, 116, 118, 122—124, 127, 139, 141, 142. *круглéк* 98, 131.

*цяльпух* 33, 35, 38, 75, 79, 81, 83—85, 87, 88, 118, 119, 127. *цельпу́х* 124.
*цяльпу́к* 10, 11, 43, 44, 115. *цельпу́к* 134, 138.
*цельбу́х* 129.
*цяле́ш* 69, 84, 112, 117, 120, 127. целе́ш 102, 113, 137. теле́ш 133—135.
*це́леш* 82, 86. *це́ліш* 79. *це́ляш* 25, 72.
*цяльпе́ш* 114, 140.
*чурба́н* 2, 24, 25а, 65, 66, 68, 69, 125. цурба́н 30.
*чурба́к* 27. *цурба́к* 16.
*валёк* 14, 16, 39, 40.
*катля́к* 38. *кутля́к* 35.
*о́труб* 95, 96.
*полі́но* 90, 94а.
Адзінкавыя: *ка́чурь* 6. *цу́рка* 12. *крыж* 17. *чу́рка* 28. *канча́р* 54. *уці́нок* 107 *(од комля́ одрэ́заў уці́нка)*. *кракс* 115.
Адведзены: *каме́ль* 22. *плошча́к* 106.

## Карта № 191

## ЛОЎЖ (куча галля)

№ 1446 «Я. н. куча галля, складзеная для спальвання пры ачыстцы лесу: лоўж, груд...» № 1445 «Я. н. раскіданае галлё ў лесе: хлуд, хлуз...» № 3213 «Лоўж, лаўжо: а) куча галля, хворасту ў лесе...»

Назва *ло́бж* картаграфуецца як *лоўж; угру́д, вугру́д, вугру́т* — як *груд; ку́чка* — як *ку́ча; гарма́да* — як *грама́да; ку́пка* — як *ку́па; гу́ра, гу́рба* — як *го́рба; ламата́* — як *лом.*

На карце картаграфуюцца карані назваў кучы галля ў лесе. Адведзены ад картаграфавання назвы, якія не адпавядаюць тэме карты: *гальё, патто́па, гуле́ке, гаўякы, ламачча, гурт, су́чча, хмыз, шу́ркі.*

№ 1446: *лоўж* 37 (устар.), 67, 70, 74—77, 115, 116, 118—122, 124, 126, 129, 130, 134, 136, 137, 139, 140—142. *лоўш* 30, 66, 68, 69, 70, 72, 74, 112, 118, 120а, 125, 140. *лôўж* 110, 127, 134, 135. *лôўш* 65, 110. *лаўжы́* 68, 70, 71 *(у лаўжы́ злаўжава́ць)*, 115, 125. *лобж* 128. *лоўжэ* 66. *лоўжэ* 117.

*груд* 5, 9, 11, 14, 17, 28, 36, 37, 40—44, 73, 78—80, 82, 83, 87—89. *груды* 8, 10, 11, 38. *грут* 6, 7, 8а, 10, 12, 13, 15, 16, 29, 31, 33, 34, 35, 39, 64. *гру́да* 86 *(хво́расту)*. *угру́д* 81, 84, 85, *вугру́д* 85 (трад.). *вугру́т* 1. *грудо́к* 32 *(хварасту́)*.

*угру́т* 1.

*лом* 2 *(ламы́)*, 3, 19, 21, 23—25, 25а, 26, 28, 32, 49, 52а, 53, 56—59, 64, 90, 94, 98, 100, 101, 104, 106, 112, 113, 120, 136, 137, 138. *лôм* 49а, 93, 133, 134. *лэм* 102. *ламы́* 19, 57, 100. *ло́мы* 57 *(паскі́двалі ў ло́мы)*. *ламэ́* 58.

*ку́ча* 4, 6 *(ку́ча хмызы)*, 18, 20, 22, 41, 45 *(ку́ча хварасту́)*, 47, 48, 52, 53, 54, 60, 63, 83, 86, 90, 92, 96, 97, 98, 103, 105, 108, 109 (рэдк.), 111, 113, 129, 131, 132, *ку́чка* 62, 98. *ку́чкі* 38. *ку́чы* 46.

*грама́да* 94а, 95, 96, 103. *гарма́да* 96а.

*ку́па* 90, 91, 96. *ку́пка* 131.

*го́рба* 50 *(го́рба галья́)*, 51 *(хварасту́)*, 53, 54 *(го́рба ло́му)*, 55 *(го́рба галья́)*. *го́рбы* 46. *гу́рба* 108, 109. 132. *гу́ра* 102, 106, 107.

*во́рох* 114, 126 *(галлё ў воро́хі склада́юць)*.

№ 1445: *лом* 19, 54, 58 *(сукі́ у лом кі́далі і палі́лі)*. *ламэ́* 58. *ламата́* 54.

№ 3213: *лом* 106. *лôўж* 138.

№ 3213: Назва *лоўж* і ад кораня *-лоўж-* у іншых значэннях: 'месца, дзе качаўся конь' *лаўжышча* 8. 'лянівы, неахайны чалавек' *лоўж* 59. 'канава з вадой' *лоўж* 59. 'прымітыўнае жытло' *лоўж* 9. 'воўчае, мядзведжае логава (котлішча)' *лаўжо́* 9. *лаўжы́шча* 8. 'куча зваленых у беспарадку прадметаў, рэчаў' 77. 'дробныя галінкі дрэва, вецце' 98 *(лом — са́мэ гі́ткэе гулэ́)*. 'куча бруднай бялізны' 118, 130, 139.

Адзінкавыя: *рêхта* 98. *рêхточка* 98 *(рэ́хточка мале́йка* — г. зн. маленькая кучка). *гурт* 7. *сці́рта ǧалэндзе́й* 52. *сці́рта шаку́* 52 (параўн. літоўскае šâkas 'го́лле'). *шу́ркі* 123. *голя́кы* 131.

Адведзены: *гальё* 61. *патто́па* 81. *гуле́ке* 98. *лама́чча* 37. *гурт* 7. *су́чча* 37. *хмыз* 92. *шу́ркі* 123.

## Карта № 192

## ВЫСЕЧАНЫ ЎЧАСТАК ЛЕСУ

№ 1447 «Я. н. высечаны ўчастак лесу: лесасека, пасека, вырубка, ляда, валішча...»

На карце супрацьпастаўляюцца назвы высечанага ўчастка лесу. Назва *ля́да* мае два блізкія значэнні. У гаворках адных населеных пунктаў гэта 'высечаны ўчастак лесу', у другіх — 'высечаны ўчастак лесу пад пасеў (звычайна пасля спальвання голля)'. Часам гэтыя значэнні вельмі збліжаюцца, з'яўляюцца не зусім выразнымі. Назва ж дзялянка або ўжываецца паралельна, або замяняе сабой назву *ля́да*. Параўн.: ужыванне слова *ля́да* ў гаворцы в. Шаламы Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці: *пашлі сеч ля́да, пашлі валі́ць лес на ля́да, пашлі палі́ць ля́да, пашлі маты́чыць ля́да, ны дз'іля́нцы ля́да маты́чылі, на вы́рубцы пыд ля́да кусо́к узматы́чылі, ны ля́дзі про́са се́йілі, а ны пыля́дкых по́слі я́ріцу.* У п. 65 картаграфуецца назва *па́сека*, якую паведаміў К. К. Атраховіч (Крапіва).

Назвы множнага ліку картаграфуюцца як адзіночны: *пасе́кі — пасе́ка, лесасе́кі — лесасе́ка.* Форма м. р. *лесосе́к* картаграфуецца як форма ж. р. *лесасе́ка.*

Картаграфуюцца як *вы́сека* формы *прасе́ка, засе́ка, вы́січка, вы́сіцка, вы́січаный ліс;* як *вы́руб — вы́рубаны лес, вы́рубалы ліс;* як *по́тэрэб — вы́теребены лес, цяро́пка, про́тэрэб.*

*па́сека* 19, 23, 24 (высечаная дзялянка лесу), 46 (толькі рублены лес), 53, 54, 57, 67 (трад.), 70, 101, 114, 122, 127, 142; *па́сіка* 3, 22, 26 *(высечаны лес і раскарчаваны)*, 27, 28, 41. *па́сяка* 18, 20, 52а, 60, 63, 68, 69 (трад.; *церабі́ць пасеку)*, 71 (як раскарчуюць — *па́сяка)*, 100, 110, 112. *па́сяка* 100.

*пасе́ка* 44, 136. *пасе́кі* 2.

*лесасе́ка* 31, 66. *лесасе́кі* 86. *лêсасе́ка* 9. *лесосе́ка* 107. *лісасе́ка* 40, 82, 83, 85, 89. *лесосе́к* 133.

*вы́сека* 94. *прасе́к* 105. *прасе́ка* 128 *(во, як у лесе места́ вы́сякуць, то е́та прасе́ка у нас заве́цца)*, *засе́ка* 129. *вы́січка* 75. *вы́сіцка* 16. *вы́січаный ліс* 94а.

*вы́рубка* 41, 44—46, 48, 59, 62, 75, 79, 80, 85, 87, 89, 92, 102—104, 106, 107, 116, 117, 120, 125, 126, 131, 136, 141. *вы́рупка* 7, 16, 39, 49, 62, 111, 125.

*па́рубка* 104, 107, *пару́бка* 120а. *пару́пка* 61, 65. *пору́бка* 95, 108.

*вы́руб* 91. *вы́рубаны лес* 45. *вы́рубалы ліс* 94а.

*вы́цераб* 45, *вы́церап* 51, 55. *вы́цяраб* 45 *(вы́цяраб аста́ўся, адны́ пне́)*. *вы́цярап* 50. *расцяро́б* 81, 126.

*по́тэрэб* 94. *вы́теребены лес* 94. *цяро́пка* 6. *про́тэрэб* 131.

*ля́да* 7, 10, 15—17, 35, 36, 37 (даўней; урочышча), 40 *(кыгда́ ўжо́ мо́жна пасе́йіць ячме́нь ці пшані́цу)*, 43, 73 (як капаюць першы раз), 74 (трад.), 78, 82 (дзе сеялі проса), 88, 89, 121 (выкарчаваны лес), 123, 127, 140. *ля́дам* 9 *(у цябе усё ля́дам ляжы́ць* — г. зн. без парадку). *ля́ды* 8а, 9 *(лес вырубаюць, сучча пагало́ўна, запа́люць, усё згарэла, і астаюцца ля́ды, потым сеюць)*, 12.

*паля́нка* 38, 47, 139. *пыля́на, пыля́нка* 87.

*дзяля́нка* 5, 21, 24, 25, 49а, 52 *(вы́чышчаная дзяля́нка)*, 56, 64, 67 (нов.), 68 (часцей), 69 (нов.), 70, 71, 72, 74, 76, 77 *(прыбяруць лес і садзяць новы)*, 82, 88, 89, 115, 118, 119 (нов.), 121 (высечаны лес), 124, 129, 139. *дзеля́нка* 66, 101, 113, 135 *(вы́рэзана дзеля́нка)*, 137, 138. *дзіля́нка* 1 (вы́сечаная), 4, 8, 8а, 9, 10 (нов.), 11, 13, 17, 25а, 26 (высечаны лес), 38, 73 *(ля́да — як капаюць першы раз; дзіля́нка — потым называюць)*, 75, 83, 84, 89. *дзіля́нка* 98. *ды$^{е}$ля́нка* 103 *(вы́рубаная) ды$^{е}$ля́нка)*. *дыля́нка* 90, 95, 96 *(дыля́нка вы́рубана)*, 132 *(вы́рубана дыля́нка)*. *дэля́нка* 109. *дыле́нка* 97. *чы́ста деля́нка* 109, 134.

Адзінкавыя: *прэгалі́на* 8а. *дзерба́к* 17. *пас* 93 *(цэлы пас вырубалі)*. *дзя́лка* 107. *вы́чышчаны* 102. *пыйдзем на чы́стку* 102.

Адведзены: (уроч. *Пасе́ка* (месца на месцы б. хутара) 41.

## Карта № 193

# СЯЧЫ ЛЕС (сякерай)

№ 1455 «Лес сякерай: сячы, рубаць, рубіць...» АЛА 868 'рубит' (дерево в лесу)

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы, якія абазначаюць працэс высякання лесу сякерай. Дадаткова ўнесены звесткі аб дзеясловах *валіць, валя́ць* у нас. пп. 81 і 54 (паведаміў мясцовы жыхар з суседняй вёскі Пагост Жыткавіцкага раёна Саскевіч М. А.). Назва *ссячы́* картаграфуецца як *сячы, ссеч* — як *сеч,* а *січы* — як *сячы́.* Адведзены ад картаграфавання назвы: *пілюць* (як тоўсты лес), *б'ець (паколькі сякўць), рубáюць, рýбяць, валя́юць лес, дрой рубáці,* якія не адпавядаюць тэме карты. Параўн.: такое ж пашырэнне наогул дзеясловаў *сячы, сéкчы, сéчы, сеч, сéкці* на карце № 179 ДАБМ «Форма інфінітыва дзеясловаў з асновай на *к*", якая складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 116.

*сячы́* 4, 7, 8а, 10, 11, 18, 25а, 31, 43, 46, 47, 49, 54, 59, 60, 64, 65, 76, 88, 115, 129. *сечы́* 94. *січы* 94а, 103 *(дрібныңькэ).* *ссячы́* 6.

*сеч* 1, 2, 4, 5, 7, 8а. 9, 13—15 *(лес сеч* — дробна), 19, 24, 25, 27, 29, 33—35, 37, 38, 42, 44, 57, 62, 68—70, 73, 79, 81—86, 89, 106, 117, 123. *ссеч* 6. *сêч* 60.

*сéкчы* 3, 21, 26, 50, 55, 58, 61, 67, 75, 80, 104. *сêкчы* 110.

*сéкці* 72, 76, 100—102, 107, 111—114, 116—119, 120а, 121, 122, 124, 127, 133—135. *сікты* 108, 109, 132. *секць* 130.

*сячóм* 56. *высякáць* 46, 69 (кусты). *насéч* 66 *(насéч тапаром лесу на плот).*

*сякýць* 8, 22, 23, 47, 66, 77, 105. *секýць* 137.

*рубáць* 20, 45, 46, 47, 51, 52, 77, 83, 99, 113 (нов.), 120, 130, 135, 136, 138—140, 142. *рубáты* 90, 92, 95, 96, 97, 103, 108, 131, 132. *рубáці* 94, 102. *рубáть* 133, 134. *рубáтэ* 98.

*рубіць* 12, 16, 17, 28, 30, 36, 39, 40, 42 (нов.), 53, 77, 78, 80, 82—85, 87, 89, 126 *(на дрóва).* *рубы́ты* 97.

*валіць* 6, 16, 81, 121, 125, 134.

*валя́ць* 69, 81, 125.

*рэ́заць* 38 *(рэ́заць дрóвы ў лéсі),* 141. *рéзыць* 12. *рíзаты* 90.

Адведзены: *сякýць* 8, 22, 23, 47, 66, 77, 105. *рубáюць* 45. *рýбяць* 77. *валя́юць лес* 125. *пілюць* 105 (як тоўсты лес), *б'ець* 4. *кóліць* 4А. *валіць* (пілой) 71. *рубіць* (дровы) 128.

## Карта № 194

# ПІЛАВАЦЬ ДРОВЫ

№ 1456 «Дровы пілой: рэзаць, пілiць, пілаваць, валіць...», АЛА 869 'пилит' (дерево на дрова)

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы, якія абазначаюць працэс распілоўвання дрэва на дровы.

Інфінітыў *пілавáць* рэканструяваны на аснове форм 3-яй ас. мн. л. *пілýюць* 8, 22, 23, 45, 47, 65, а таксама на аснове форм 3-й ас. адз. л. па матэрыялах АЛА *пілýя, пілýіць, пілáіць,* а інфінітыў *піліць* — на аснове форм *піліць, піля, піле,* а інфінітыў *рэ́заць* — на аснове форм *рэ́жа, рэ́жыць, рэ́жэ, рэ́жуць, ріжэ, рэжэ, рыжэ, рыжуць.* Назвы *падрэ́зваць, порэ́заць, разрэ́заць* картаграфуюцца як *разрэ́заць,* а *зрэзвая* — як *рэ́жа.*

№ 1456: *пілавáць* 2—4, 18—21, 25, 45, 46, 48, 49, 49а, 50, 51, 52, 52а, 53, 54, 57—60, 66, 69, 70, 71, 77. *пілýюць* 8, 22, 23, 45, 47, 65. *пілывáць* 85, 87. *пілъвáць* 8а.

*піліць* 15, 16, 25а, 28, 29, 32, 35, 37, 40, 41 *(піліць дóскі),* 42, 53, 59, 73 (нов.), 75, 76, 81, 83, 85, 87, 99, 100, 105, 110, 111, 113 (нов.), 114 (нов.), 116, 118, 125, 127; 142 (нов.). *пілюць* 39. *піліць* 80. *піліці* 101. *пілíть* 133.

*пілыты* 97.

*рэ́заць* 1, 5—7, 9—11, 14, 21, 24, 26, 27, 29, 30, 31, 33, 35, 36, 37, 46, 53, 54, 56, 60, 61, 63, 64, 66, 68, 69, 70, 72, 73 (трад.), 74, 76, 82, 100 (трад.), 106, 107, 112, 114, 115, 118, 119, 121, 123, 126, 128, 129, 135, 136, 138, 139, 140, 142. *рíзаты* 91, 92, 94а, 95—97, 103, 108, 109. *рéзыць* 41, 44, 79, 83, 84. *рэ́зыць* 15, 35, 42, 78. *рéзъць* 12, 13, 85, 88. *рэ́заці* 93, 94, 102. *рэ́зъць* 8а, 43. *рэ́заць* 133, 134. *рэ́жуць* 39. *разрэ́заць* 46 *(пáру скíтаў* 'куча мятровак' *разрэзалі).* *рэ̂заць* 67 (трад.), 104, 113. *рэ́заць* 86. *рыжуть* 96а. *р`ізатэ* 98. *подрэ́зваць* 117. *порэ́заць* 122. *рызаты* 132.

Адведзены: *рубáць* 48 (нарыхтоўваць дровы ў лесе). *спускáць* (зразаць дрэвы пілой) 61, 62. *піляць* 130 (зрэзваць лес пілой). *пыля́ты* 131 (зрэзваць лес пілой).

АЛА 869: *пілýя* 11А, 14А, 26А — 30А, 32А, 33А, 49А, 61А, 70. *пілýе* 14А, 16А, 30А, 50А, 53А. *пілýіць* 1А — 3А, 10А, 12А, 13А, 52А. *пілáіць* 8А.

*піліць* 7А — 10А, 20А, 22А — 25А, 33А, 41А, 42А, 44А, 53А, 58А, 61А, 62А. *піля* 36А, 38А, 39А, 60А, 63А. *піле* 19А.

*рэ́жа* 29А, 31А, 33А, 35А, 37А, 38А, 40А, 49А, 55А, 59А. *рэ́жыць* 4А — 7А, 15А, 17А, 18А, 25А, 41А, 42А, 67А. *рэ́жэ* 45А, 47А, 51А, 56А, 66А, 115. *рэ́жуць* 6А, 21А, 22А, 34А. *ріжэ* 48А, 64А. *рэ̂жэ̂* 54А, 65А. *рэ́заць* 20А. *рыжэ* 43А.

Адведзены: *зрэзвая* 44А.

## Карта № 195

# ВАЛІЦЬ ЛЕС (пілой)

№ 1456 «Лес пілой рэзаць, піліць, пілаваць, валіць...»

На карце супрацьпастаўляюцца дзеясловы, якія абазначаюць пілаваць лес пілой з кораня. Назвы *пілýюць* картаграфуюцца як *пілавáць, рэ́жуць, зразáць, зрэ́заць, зрізуваты, подрэ́зваць* — як *рэ́заць, вáлюць* — як *валіць.* З той жа семантыкай 'сячы лес з кораня (пілой)' наносяцца на карту сло́вы *піля́ць* і *спускáць.*

*пілавáць* 2—4, 18—21, 25, 47, 49—55, 57—60, 66, 69, 77. *пілýюць* 8, 22, 23, 65. *пілъвáць* 8а. *пілывáць* 85.

*піліць* 16, 25а, 28, 29, 32, 35, 37, 40—42, 53, 59, 75, 76, 80, 81, 83, 85, 87, 89, 99, 100, 101, 105, 110, 111, 113 (нов.), 114 (нов.), 118, 125, 127, 142 (нов.). *пілыты* 97. *пілíть* 133 (нов.).

*піля́ць* 130 *(піляць; напіля́ць лесу бензапілой),* 131.

*рэ́заць* 5—7, 9, 21, 24, 27, 29, 30, 33, 37, 48, 53, 54, 56, 63, 64, 66 (нов.), 67 (трад.), 68, 70, 72, 74—76, 82, 100 (трад.), 106, 107, 112, 114, 118—121, 126, 129, 135, 136, 138, 139, 142. *рíзаты* 91, 92, 94а, 95—97, 103, 108, 109, *рéзыць* 15, 79, 83, 84. *рéзъць* 12, 13, 88. *рэ̂заць* 60, 104, 113, 114. *рéзаць* 14, 17, 86. *рэ́зыць* 35, 42, 78. *рэ́заці* 93, 94, 102. *рэ́зать* 133, 134. *рéзъць* 8а, 43. *рэ́жуць лес* 39. *зразáць* 69. *зрэ́заць* 80. *зрéзыць* 89. *рíзатэ* 98. *зрізуваты* 108. *подрэ́зваць* 117. *рызаты* 132. *рíзаты* 131.

*валіць* 8а, 10, 11, 29, 32, 35, 41, 42, 71, 75, 81, 84, 85, 87, 94, 118, 127. *вáлюць* 6.

*валя́ць* 75, 76, 82, 124, 134, 139.

*спускáць* 61 *(дровы пілой рэ́заць, лес спускáць),* 62.

*спускáты* 95, 108.

## Карта № 196

# ПІЛАВІННЕ

№ 1458 «Я. н. апілкі: пілавіны, пілавінне, піловіны, апілкі...»

На карце супрацьпастаўляюцца назоўнікі і іх варыянты, якія абазначаюць *пілавінне.* Назвы *апілавінкі, апілка* картаграфуюцца, як *апілкі,* назва *пільшча* картаграфуецца як *пільшч,* назва *троціна* — як *тырса.*

*апілкі* 1, 2, 4, 5, 7, 8а, 9—18, 21, 25, 28—31, 33—36, 38—47, 61, 62, 66—69, 71—77 (трад.), 78—80, 81 (нов.), 83, 85, 87—89, 93 (нов.), 97, 104, 112, 114, 116, 118—121, 126, 128, 130, 136, 139, 141. *опілкі* 92, 101, 106, 113, 114, 134. *опылкы* 131, 132 (нов.). *опілкы* 96 (нов.), *апілка* 32. *апілавінкі* 52а.

*пілавíнне* 8а, 22, 24, 25, 25а, 26, 27, 28, 48, 49, 57, 63, 64, 65, 66, 69, 70. *пыловы́нне* 95, 108. *пілавíня* 99. *пілавéне* 46. *піловене* 94. *піловéнне* 102. *піловéньe* 107. *пілавіне* 23. *палавіння* 6. *піловіння* 110, 111.

*пілавіны* 3, 19, 20, 49а, 50—55, 58, 59, 100, 104. *пыловы́ны* 94а, 109. *піло́віны* 56, 60.
*пілаўня́* 48, 49.
*пільсць* 81, 105.
*пільшч* 37 (трад.). *пільшча* 124.
*пілаві́на* 65. *піловіна* 97. *пылові́на* 103.
*рі*$^{ю}$*з* 103. *рыза́* 90, 96. *рэ́за* 96а. *рі́зка* 131.
*ты́рса* 67 (в. Гарадзішча, паведаміла Граковіч Н. М.), 82, 84, 85, 123, 134. *тырса́* 75, 81, 86, 113. *ты́рша* 122. *трыса́* 77 (нов.). *тріса́* 133 (трад.). *ды́рса* 117. *троціна* 91.
*кірса* 125, 139, 141. *кірза* 133. *кірса́* 129.
*пірса* 135, 138. *пірса́* 137. *пы́рса* 120а. *пырса́* 126, 127.
Адзінкавыя: *турыя́* 98. *турые́* 98. *тырые́* 98. *тырыя́* 98. *тур'е́* 98. *тур'я́* (родны склон адз. л.) 98. *турыйі* 98 (родны склон адз. л.). *тырыйі* 98 (родны склон адз. л.).

## Карта № 197

# ХВАЁВЫ КОРЧ, ЯКІ ВЫКОПВАЮЦЬ НА АПАЛ

№ 1465 «Я. н. хваёвы корч, які выкопваюць на апал: смаляк, асмал...»
Дадаткова выкарыстаны пытанні № 1466 «Я. н. кавалачкі сухога дрэва, трэскі, сукі прызначаныя на падпал: паджога, распал, цёска, падтопа...», № 1467 «Я. н. смалістыя кусочкі дрэва, якімі распальваюць у печы... смоль, смаляк, смальняк...» і № 1464 «Я. н. выкапаны пень з карэннем: корч, курчыга...»
На карце картаграфуюцца назвы смалістых кавалачкаў дрэва, якія выкарыстоўваюцца на апал.
Назвы *смалякі, смалячо́к, смалячкі* картаграфуюцца як *смаля́к,* назвы *смальнік, смальнячо́к* — як *смальня́к,* назвы *осмы́лок, усма́л, смал, смоль* — як *асмо́л,* назвы *смаліна, смалінкі* — як *смаліна́.* Азначэнні *смалякава́ты, осмілюва́ты* не наносіліся на карту. Адведзены ад картаграфавання адказ *пэнь баграко́вый* 91 (№ 1465).
№ 1465: *смаля́к* 1—3, 5, 10, 11, 14, 17—23, 25, 25а, 26, 27, 31, 36, 38, 45—48, 49а, 50 (палена смаляное), 52, 52а, 53, 56, 57, 58, *(смаляк смаляны́),* 59 (дрэва са смалой), 61—63, 65—68, 71, 72, 75—77, 80, 81, 86, 100, 104, 105, 110, 115, 116, 118, 119 (сасновы, са смалой), 121, 123, 124, 126, 127, 129, 131, 142. *смыля́к* 7, 29, 30, 32, 35, 40, 41, 43, 78—80, 82—87, 89. *смоля́к* 92, 94—97, 102, 106 *(смоляк сосно́вы),* 108 (кавалак), 109, 113, 122, 134, 136. *смъля́к* 8а, 12, 13 (і сасна без верху), 15, 33, 34, 37, 73, *смалякі* 88, 115.
*смальня́к* 46, 49, 51, 54, 55, 99. *смальнік* 6.
*смаліна́* 64, 82. *смаліна* 128.
*асмо́л* 28, 69, 74 (на вярху хвоі), 139. *осмо́л* 101, 113 (кусок смалістай дзеравіны), 114 (смалістая сярэдзіна ў дзераве), 117. *осмэ́л* 102 (зробіцца наверху). *осмо́л* (пакрыты смалой, участак *фо́і)* 137.
*асмо́лак* 46. *асмо́лык* 40 (пакрыты смалой участак на сасне). *осмы́лок* 107.
*смалісты корч* 4. *смальнік* 6. *смалава́ты корч* 8, 8а. *смо́лны корч* 20, 70, 105. *смалны́ корч* 24, 33, 41. *смаля́ны корч* 44, 50, 59. *смало́вы корч* 60, 74, 86, 89. *хваёвы корч* 66. *смо́льны пень* 120. *смало́вы корч* 132. *смало́вы пень* 135. *смоловы, сасновы* 133. *смало́вы пень* (на лучыну) 141. *смілный пэнь, сми́лный пынёк* 96. *смюльный пынёк* 96. *смало́вы пенёк* 135. *смёльная дзертышка* 102. *хваёвы корч* 112, 138, 139. *осмюловатый пы*$^{е}$*нёк* 103. *корні е смольны* 137.
*смала́* 82. *смолоку́р* 90 (смалістая частка дрэва). *смоль* 111.
№ 1466: *смаля́к* 24, 67. *смалячо́к* 52. *смалякі* 2, 8 (трад.), 18, 24, 25. *смалячкі* 2, 4, 19, 20, 31, 52, 86. *смалячке́* 53, 58. *смыля́к* 16.
*смольня́к* 101. *смальнякі* 51. *смальнячо́к* 54.
*смалінкі* 71.
№ 1467: *смаля́к* 9—11, 26, 62, 88. *смыля́к* 78, 79, 83, 87. *смоля́к* 107, 136. *смъля́к* 8а. *смоляке́* 45. *смоляќы* 131. *смылякі* 85. *смалячкі* 4, 19.
*осмо́л* 133. *усма́л* 93. *смал* 93. *смоль* 83, 136, 140.
*смыла́* 87, 89. *смоля́тына* 97. *пэрэсмі́л* 98 (смалісты пень).
№ 1464: *сму́льный пэнёк* 94а, 137.

## Карта № 198

# ПАДПАЛ

№ 1466 «Я. н. кавалачкі сухога дрэва, трэскі, сукі, празначаныя на падпал: паджога, распал, цёска, падтопа...»
Дадатковы матэрыял да карты ўзяты з № 1467 «Я. н. смалістыя кусочкі дрэва, якімі распальваюць у печы: смоль, смаляк, смальняк...» і А № 1465 «Я. н. хваёвы корч, які выкопваюць на апал: смаляк, асмол...»
Назвы *пыдпа́лок, пытпа́лкі* картаграфуюцца як *падпа́лка;* назвы *лучы́ны, лучы́нкі, лучы́нка* — як *лучы́на;* назва *ця́сны* картаграфуецца як *цёска;* назвы *трэ́ска, тро́ска, трэ́сочкы, трэсачкі, трасачкі, траскі* — як *трэ́скі;* назва *патпа́лкі* картаграфуецца як *патпа́лка.*
№ 1466: *падпа́лка* 28, 31, 61, 127, 128. *патпа́лка* 21, 25а, 57, 62, 75, 118. *падпа́лка* 117. *пытпа́лка* 82. *патпа́лкі* 53.
*падпа́л* 99, 104, 135. *подпа́л* 94, 106. *по̂дпа́л* 134. *пудпа́л* 92, 95, 98, 103, 108. *патпа́л* 10 (нов), 60, 72. *пыдпа́лок* 107.
*распа́лка* 22, 26, 30, 50, 52а, 55, 74, 97, 118. *ръспа́лка* 8а. *роспа́лка* 113.
*распа́л* 95, 119. *роспа́л* 108, 131 (рэдк.).
*падто́па* 37, 41, 42, 80, 86, 87. *патто́па* 16, 33, 35, 38, 40, 43, 44, 73, 75, 78 (часцей), 79, 82, 84, 89, 113. *пътто́па* 88.
*падто́пка* 14. *патто́пка* 1, 7, 10, 11, 29, 32, 34, 124.
*расто́па* 81, 123.
*расто́пка* 8а, 76.
*паджо́га* 5, 7, 8 (нов.), 8а, 9, 10, 12—17, 75, 110, 123, 127, 129. *паджо́га* 60. *поджо́ѓа* 134.
*паджо́г* 106.
*разжо́га* 7. *ражжо́га* 82.
*лучы́на* 49а, 91—93, 97, 111, 112, 114, 116, 120, 120а, 122, 125—127, 131—133, 135, 136, 138, 140—142. *лучы́ны* 3. *лучы́нкі* 77.
*дрэ́ўкі* 26, 27, 63—66, 69, 77, 127.
*загне́т* 6, 114 (лазовыя дроўкі), 133. *загню́т* 133.
*цёска* 48, 93, 105, 111, 120а. *це́ска* 101. *тю́ска* 94а. *ця́сны* 89.
*трэ́скі* 34, 46, 49, 49а, 53, 54, 56, 59, 63, 64, 68, 70, 71, 74, 77 *(трэ́сак),* 78, 100, 102, 121, 127, 130, 136, 139, 141, 142. *тре́скі* 85, 87. *траскі́* 47. *тро́скі* 120. *траске́* 45. *траскы́* 103, 132. *трэскы́* 96а. *тр'іск'е* 98. *трыскы́* 90, 95, 96, 131. *трасачкі* 47. *трэ́сачкі* 64, 71. *трэсочкы* 109. *тро́ска* 93. *трэ́ска* 68.
Адзінкавыя: *шакалі* 18. *сучкі* 27. *аскалёбкі* 36. *дра́зы* 49а. *скыпкы́* 90. *шчэпуле́* 94. *голлечко́* 102. *лома́ччэ* 102. *хрусць* 102 *(лома́ччэ).* *шчэ́пкі* 139.
№ 1467: *лучы́на* 92, 96а, 133, 138. *лучэ́на* 98. *лучы́нка* 130.
Адзінкавыя: *трэ́скі* 4. *патпа́л* 60. *дрэ́ўкі* 69.
№ 1465: *абчы́г* 40. *скіпкі* 'апал' 90.

## Карта № 199

# КАЛОЦЬ ДРОВЫ

№ 1469 «Дровы трэба калоць, рубаць, сеч, скіпаць, шчапаць, біць...»
На карце картаграфуюцца назвы, якія абазначаюць расколванне адрэзанага палена на дровы. Прыводзіцца дадатковы матэрыял з № 1455, № 1470 і АЛА № 870. Назвы *пакалоць, ко́люць* картаграфуюцца як *кало́ць,* назвы *нысячы́, насячы́, пасячы́* — як *сячы́,* назва *сяку́ць* — як *сеч, набіць, пабіць* — як *біць,* назвы *нарубаць, рубаюць* — як *руба́ць,* назвы *шчапа́юць, пашчапа́ць* — як *шчапа́ць,* назвы *паскіпа́ць, пыскіпа́ць* — як *скяпа́ць.* Назвы з дадатковых матэрыялаў пашыраны там жа. Матэрыялы паказваюць, што ўсе назвы маюць адно агульнае значэнне 'калоць дровы', але дзеясловы *сячы, се́кчы, сеч, се́кці* ў дзесяцi нас. пп. таксама дадаткова абазначаюць 'сячы ўпоперак дробныя дровы', *шчапа́ць* і *скяпа́ць* у шасці нас. пп. называюць яшчэ 'рабіць трэскі'. У нека-

торых гаворках выяўлена дакладная семантыка назваў, якія абазначаюць 'калоць дровы'. Узаемадзеянне значэнняў назваў адзначаецца, напрыклад, у гаворцы п. 95, дзе *рубáты* абазначае наогул сячы дровы, а *калóты* — толькі расколваць, а *сячы́* — толькі нарыхтаванне дробнага падпалу, дробнай падтопы. Трэба адзначыць, што дзеяслоў *калóць* адчутнічае на паўночным захадзе (па лініі: 8, 5, 28, 25а, 26, 57, 58, 52а, 48, 52), а таксама на паўднёвы захад ад р. Бярэзіны (па лініі: 118, 121, 122, 117, 114, 112, 115, 76). Толькі дзеясловы *калóць* і *сéкчы* пашыраны на тэрыторыі ад Мінска і да Прыпяці (па лініі: 59, 68, 74, 75, 77, 76, 115, 112, 114, 107, 101, 94, 99, 55, 50, 53). У дадатковых матэрыялах адводзіцца ад картаграфавання *рубіць хáту* 39, *хáту рýбя* 77 (№ 1455).

Прыводзіцца ўвесь дадатковы матэрыял з № 1455 «Лес (дровы) сякерай сячы, рубаць, рубіць...», № 1470 «Дровы наколаны, нарубаны, насечаны...», АЛА № 870 «'колет' (распиленное дерево) колет — сера, seče — rąbie».

Адводзіцца ад картаграфавання *дрáць лучы́ну* 49а, бо не адпавядаюць тэме карты.

Даецца, але не картаграфуецца матэрыял з № 1470 і АЛА № 870, бо з дзеепрыметнікаў цяжка ўзнавіць інфінітывы на корань *-сеч-,* а таксама, што гэты матэрыял на карце супадае з матэрыялам №№ 1455, 1469.

№ 1469: *калóць* 8а, 9, 12, 13, 16, 17, 29, 34, 35 (нов.), 42, 47, 49а, 54, 55, 59, 61, 62, 66—68, 73 (нов.), 74—81, 83—89, 93, 104, 112, 113, 118, 119, 124, 125, 127—129, 135, 140, 142. *колóты* 94а, 103, 109, 132. *пакалóць* 51, 53. *колóць* 126, 136. *колóть* 133, 134. *кóлюць* 50 *(кóлюць тóўстыя калóткі* ці *пáлкі). кôлóты* 90. *кулóты* 92. *калóті* 94. *кóлють* 96а, 97 (тоўстыя дровы), *колóты* (толькі, расколваць) 95. *(хвóрост рубáты* і *сíчы). колóты* (толькі расколваць) 96 *(хворост рубаты).*

*сячы́* 7, 8а, 10, 11, 56, 64, 76. *сычы́* 90 (дробныя), 103 (дробненькія). *сíчы* 94а (наогул). *сычê* 98 *(дрíбнейкê). нысячы́* 38. *насячы́* 69 (трад.), 76. *пасячы́* 57.

*сéкчы* 21, 22 (упоперак *цéнькія* — тоненькія), 26, 55 (тонкія), 56 (трад.), 61, 65, 67, 75, 78 (трад.), 104 (упоперак, тонкія), 105, 115. *сêкчы* 110. *пасéкчы* 130. *секчі* 113.

*сеч* 7, 8а, 9 (тонкія дровы і сукі), 14, 27, 29, 31—33, 34 (упоперак), 41—44, 47 (кароценькіх дроў да пліты), 49, 54 (дробныя), 57, 63, 70, 71, 73 (трад.), 79, 82, 84, 86, 87, 89, 106, 117, 120, 123, 126. *пасéч* 19, 57, 69, 82. *сякýць* 50. *(дрóва сякýць сякéраю, як тóнкія),* 77.

*сéкці* 72, 100—102, 107, 111, 113, 116, 121, 122, 135. *сíкты* 108, 109, 132 (тонкія). *сéкті* 134 *(сéкті сокéрою), секць* 129.

*біць* 1, 5, 7, 8 (трад.), 8а, 13, 15, 16, 21, 22, 25а, 29, 30, 31, 33, 35, 40—44, 82, 83, 85. *пабіць* 6, 26, 51, 53, 82. *набіць* 8 *(набíў пічнікóў; пічнікі* — буйныя дровы ў печ).

*рубáць* 18, 20, 45, 46, 48, 70, 84, 85, 89, 99, 126, 135, 136, 138, 141, 142. *рубáты* 90—92, 95 (аг. н.), 96 (аг. н.), 103, 108, 132 (наогул). *нарубáць* 130. *рубáть* 97. *рубáтэ* 98. *рубáці* 102 (рэдк.). *рубáють* 131.

*рубіць* 36, 39.

*шчапáць* 2—4, 20, 22, 24, 25, 26 (дробна), 34 (круглякі), 48, 52, 55 (на трэскі), 57, 58, 75, 82. *шчыпáць* 40 (лучыну), 41 (падтопу і дровы), 89. *шчъпáць* 8а, 73 (трад.). *шчапáюць* 50 *(на шчэ́пкі). пашчапáць* 53, 82.

*скіпáць* 10 (таней на лучыну), 11 *(лучы́ну на паттóпку),* 37, 41 (падтопу і дровы), 73 (трад.), 80. *ськіпáць* 42 *(лучы́ну* ці *падтóпу),* 43, 81, 83—85, 89. *паскіпáць* 6, 74. *скапáць* 24 (трад.), *пыскіпáць* 87.

Адведзены: *дрáць лучы́ну* 49а.

№ 1455: *калóць* 13, 71, 76. *раскáлваць* 76. *накалóці* 93. *колóть* 134.

*сеч* 5, 7, 8а, 9 (тонкія дровы і сукі), 15 *(сеч сукі),* 19, 29, 32—35, 38, 41, 42, 57, 62, 63, 70, 71, 73, 79, 82—84, 86, 117. *сêч* 60.

*сячы́* 3, 6, 7, 8а, 9—11, 18 *(трэ́ба ў лес ісці дрóвы сячы́),* 25а, 31, 43, 46, 47, 49, 60, 64, 65, 74, 76, 87, 88, 115, 120, 129. *сечы́* 94. *сы^е^чы́* 103 *(сíчы дрíбнынькэ). сíчы* 94а, 103.

*сéкчы* 21, 26, 49а, 50, 52а, 55, 58, 61, 75, 80, 104. *сêкчы* 110.

*сéкці* 76, 100—102, 107, 111—113, 116, 118, 122, 124, 126, 127, 129, 130, 134, 135. *сíкты* 108, 109. *секць* 130.

*рубáць* 18, 77, 83, 99, 113, 130, 135, 136, 139, 140—142. *рубáты* 90, 92, 95, 96, 103, 108, 132. *рубáці* 93, 94, 102. *рубáюць* 51. *рубáють* 96а. *рубáты* 97. *рубáтэ* 98. *рубáть* 134. *нарубáць* 47.

*рубíць* 16, 30, 36, 39, 40, 42 (нов.), 77 *(хáту рýбя),* 78, 80, 82—85, 87, 124 *(рубіць хáту),* 126, 128.

*біць* 13, 15, 33, 34.

*шчапáць* 52а *(шчапáць* 'сячы дровы ў даўжыню').

Адзінкавыя: *загатáўліваць* 125.

Не картаграфуюцца:

1470: *насéчаны* 11, 26, 128. *насéчыны* 78, 79, 89. *насéчаныя* 19, 130. *насêчаны* 60. *насéчыныя* 87. *насéчэные* 107.

*накóланы* 54, 62, 93, 140. *кóлаты* 54. *накóланыя* 87. *накóлыны* 79, 89. *накóлыты* 83. *накŏлытыя* 85. *накóлъты* 88. *покóлаты* 96а. *накóлены* 97. *пукóланэ* 98. *накóлаты* 133.

*нарýбаны* 45, 92, 131. *нарýбанэ* 98. *нарýбаные* 138.

*нарýбліны* 83, 89. *нарýбліныя* 87. *нарýблены* 136.

АЛА 870: *сячэ́* 24А, 29А, 33А, 39А, 40А, 49А, 55А, 58А, 59А, 61А—63А.

*сячэ́ць* 2А, 6А, 8А, 15А, 17А, 25А. *сíчэ́ць* 21А. *сéкчы* 34А.

*сечэ́* 56А. *сэчэ́* 65А.

*кóля* 27А, 29А, 30А, 32А, 35А, 37А, 38А, 40А, 44А, 50А, 60А, 63А, 70А. *кóліць* 4А, 7А—10А, 13А, 22А, 23А, 41А, 42А, 48А, 52А, 67А. *калóць* 20А. *кóле* 19А, 30А, 43А, 45А, 47А, 53А, 57А, 62А, 64А, 66А, 115. *кóле* (амаль як *і*) 51А, 54А.

*рубáе* 48А, 65А. *рубáя* 26А.

*б'ець* 2А, 4А, 7А, 8А, 15А, 18А, 25А, 41А. б'е 14А, 16А. біць 20а.

*шчапáіць* 12А, 13А. *шчыпáіць* 1А, 3А, 5А. *шчапáя* 11А, 16А, 28А. *шчэ́піць* 17А. *скіпáя* 36А.

## Карта № 200

# ВЫКАПАНЫ ПЕНЬ З КАРЭННЕМ

№ 1464 «Я. н. выкапаны пень з карэннем: корч, курчыга...», № 1465 «Я. н. хваёвы корч, які выкопваюць на апал: смаляк, асмал...»

На карце картаграфуюцца назвы выкапанага пня з карэннямі.

Назва *курчыжка* картаграфуецца як *карчыга,* назва *пянёк* — як *пень.*

*пынёк* 95, 96, 103. *пэнёк* 94а, 98, 108, 113 як *пень.*

№ 1464: *корч* 1—8, 8а, 9—15, 17—25, 25а, 26—37, 38 *(у балоці),* 40—49, 49а, 50—52, 52а, 53—64, 66, 68—89, 92, 94 (з куста), 96а, 97, 99, 100, 101, 104—111, 114—116, 118, 121—126, 128, 129, 131—133, 136, 140—142. *кôрч* 65, 67, 134. *курч* 39.

*карчы́га* 81, 85, 124. *курчы́га* 39. *курчы́жка* 82.

*карчавéшка: кърчавéшка* 8а. *кырцавéшка* 16.

*пень* 112, 115, 117, 119, 120, 127, 130, 132, 135, 139 (хмызняк з невялікім ствалом). *пэнь* 91, 93, 94, 96а, 103. *пэнёк* 94а, 98, 108, 113. *пынёк* 95, 96, 103. *пенёк* 109, 135.

*смýлный пэнёк* 94а.

Адзінкавыя: *віскідзь на лучы́ну,* мн. л. *віскідзі* 138. *лучы́на* (смаловы пень) 112. *дзерты́шка* 102.

№ 1465: *смалíсты корч* 4. *смалавáты корч* 8, 8а. смалякавáты корч 9. *смолны корч* 20, 70, 105. *смалны́ корч* 24, 33, 41. *смаля́ны корч* 44, 50, 59. *смалóвы корч* 60, 74, 86, 89. *смалóвы корч* 132. *хваёвы корч* 112, 138, 139.

*смъляны́ пень* 34. *карчóвы пень* 118. *смалóвы пень на лучы́ну* 141.

## Карта № 201

# ДРЫВОТНЯ

№ 1472 «Я. н. месца на двары, дзе сякуць дровы: дрывотня, дрывотнік...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў дрывотні.

Назвы *трывóтнік, дрывáтнік* картаграфуюцца як *дрывóтнік,* назва *двърасéка* картаграфуецца як *двърасéк.*

Адводзяцца ад картаграфавання назвы: *павéць, павéтка, клáдка, шóпка* і *пóводзь,* якія абазначаюць іншыя рэаліі.

*дрывóтня* 2, 5, 6, 10, 21, 24—25а, 27, 28, 30, 31, 48, 52а, 53, 56, 57, 59, 68, 69, 94, 94а, 95, 99, 100, 105, 110, 112, 126. *дрывутня* 139. *дрывітня* 107. *дравóтня* 51, 64, 135. *дровóтня* 113, 114, 117, 120—122, 124, 127, 133, 134. *дровýтня* 140. *дровітня* 103. *дровю́тня* 90, 103, 108. *друвóтня* 132, 136.

*дрывóтнік* 3, 19, 20, 22, 23, 26, 36, 37, 45, 47, 50, 52, 54, 55, 61—63, 65—67, 70—72, 74, 104, 106, 116, 120а, 123, 126, 130, 141. *дровóтнік* 138. *дрівóтнік* 88. *дровітнык* 109. *трывóтнік* 65. *дрывáтнік* 49.

*дрывасéк* 1, 9, 11, 12, 15, 35, 39, 41, 42, 61. *дравасéк* 14, 32. *дръвасéк* 33.

*двърасéк* 8а. *двърасéка* 13.

*дровáрня* 94а, 101.

*дрыватóння* 44, 84.

*дрывáльнік* 4. *дварасéтнік* 8. *дрыýнік* 18. *дрывóцінь* 49а. *дровільна* 96а. *друвітня* 98.

*дрыжнік* 34, 38.

*траскóўнік* 37, 73, 75, 78—82. *трэскóўнік* 129.

*трасóчнік* 23, 67.

*трэ́сьнік* 76, 77, 118.

*трасóтніца* 29. *траскóўя* 43. *трысóтнік* 75. *трусóк* 96.

Адзінкавыя: *шчапавішче* 86.

Адведзены: *клáдка* 41, *павéтка* 83, 118, *павéць* 85, 87, 89, 142. *шóпка* 93, *пóвадзь* 106.

## Карта № 202

## КАЛОДКА

№ 1473 «Я. н. калодка, на якой рубаюць дровы: калода...» АЛА № 3303 kolda колода — klada — kloda 'ствол срубленного дерева', 'толстое бревно', 'пень срубленного дерева, обрубок, чурбан'; 'предметы, сделанные из ствола дерева: улей, часть воза, корыто, часть ткацкого станка, ступа'; 'груда дров', 'тюрьма'.

На карце картаграфуюцца словы *калóдка* і *калóда.* Матэрыялы з АЛА ўзяты тыя, дзе ўказваецца значэнне 'калодка, на якой сякуць дровы'.

№ 1473: *калóда* 10, 11, 26, 30. *колóда* 131, 133, 136.

*калóдка* 78, 79, 85, 87, 89, 128, 130, 140. *калóтка* 4, 8а, 9, 19, 45, 54, 62, 83. *колóдка* 96а, 107. 138. *калóтка* 60. *кълóтка* 88. *кулóдка* 92. *колóтка* 98. *колідка* 96а. *колыдка* 97. *кулітка* 98.

АЛА 3303: *калóда* 1А, 2А, 4А, 6А, 15А, 16А, 23А, 29А, 41А, 42А, 49А, 58А—61А, 67А, 61, 70. *колóда* 54А.

*калóдка* 62А, 63А. *калóтка* 4А, 7А, 8А, 11А, 12А, 14А, 15А, 50. *колэ́дка* 47А. *колідка* 48А.

## Карта № 203

## КУСТ

АЛА 371 'куст' (о. н.) куст.— zbun, dzbun, grm— krzew, krzak. № 3199 «Корч, карчак: а) куст лазы, алешніку...» № 3208 «Куст: а) куст лазы, арэшніку...»

Картаграфуюцца назвы куста драўняных раслін. У аснову пакладзены адказы на пытанне АЛА 371. Параўнанне гэтых адказаў з адказамі на пытанні ЛАБМ 3199 і 3208 паказвае, што ў іх адсутнічаюць спецыфічныя назвы для куста раслін не драўляных. У выніку таго, што пытанні 3199 і 3208 не арыентавалі на абавязковае высвятленне назвы куста, матэрыял па іх можа быць не зусім поўны. Адводзіцца назва *корчякы́* (абазначае іншую рэалію).

АЛА: *куст* 1А—42А, 44А, 46А, 47А, 49А—51А, 53А, 55А—63А, 66А, 67А, 50, 61, 70, 115.

*корч* 29А, 43А, 45А, 47А, 48А, 52А, 54А, 56А, 64А, 65А. кэрч 47А.

№ 3199: *куст* 3, 7, 14, 16, 17, 25, 26, 30, 35, 37, 42, 49а, 50, 57, 63, 65—68, 71, 81, 84—86, 88, 89, 105, 114, 117— 119, 122, 123, 125, 129, 130, 136, 140.

*корч* 26, 29, 30, 45, 48—50, 53—55, 60—62, 67, 75, 82, 90, 92—98, 101, 102, 104, 107—109, 112—116, 119—121, 123—125, 127, 130—132, 134, 135, 137—139, 141, 142.

*карчáк* 53, 54.

Адведзены: *корчякы́* (невялікія кусты) 95.

№ 3208: *куст.* 1—89, 100, 102, 104—107, 110—112, 114—130, 133, 134, 136, 138. *корч* 90, 92—98, 101, 103, 108, 109, 113, 132, 135.

## Карта № 204

## ПАЛЯНКА

№ 1452 «Я. н. незаросшае дрэвамі, кустамі месца сярод лесу: гала, гало, галіво, прагаліна, палянка...»

Картаграфуюцца назвы палянкі ў лесе. Паказаны супроцьпастаўленні па каранях, суфіксах, канчатках, некаторых фанетычных асаблівасцях. Назва *палянa* картаграфуецца як *палянка.* назва *прогáль* — як *прагáл.* Не картаграфуюцца назвы, якія не адносяцца да тэмы карты: *пусты́р* 8, *прасéка* 25а, *гáлоё балота* 37, *гал* 38, *прытáліна* 42, 78, *кýдзярачка* 52, *церабéш* 71, *гáло* 115.

1 *прагáліна.* 2 *галіна́ (выганяйця с кустоў на галіну), палянкі (у лесі).* 3 *паляна.* 4 *палянка чыстая.* 5 *пóжня (у лесе).* 6 *чысцяк, палянка.* 7 *прыгáліна.* 8 *пусты́р, палянка, гóлая прагáліна.* 8а *пръгáліна.* 9 *палянка.* 10 *прагáліна (лось выскачыў на прагаліну), прагáл.* 11 *прагáліна (на прагаліну выйшлі).* 12 *пъляна (прасторай), пръгáліна (паласой).* 13 *пълянка.* 14 *палянка.* 15 *пръгáліна.* 16 *прыгáліна, пылянка.* 17—18 *палянка.* 19 *прагáліна (там косяць).* 20 *палянка.* 21 *прагáліна, чысціна, гáла* (трад.). 22 *палянка.* 23 *гáліва, чуў і гáла, галізна* (пусташ у лесе). 24 *палянка* (сярод лесу). 25 *чысціна, прагáліна.* 25а *прасéка.* 26 *палянка, прагáліна.* 27 *палянка (паміж лесу), паляна.* 28 *паляна.* 29 *пылянка, прыгáліна.* 30 *пыляна.* 31 *палянка, лысіна.* 32 *пълянка.* 33 *пръгáліна, пълянка.* 34 *гъляк (на бару), пълянка (на краю леса).* 35 *пылянка, прыгáліна.* 36 *пълянка.* 37 *пълянка, прагáліна, галы́н, гáлоё балóта.* 38 *палянка, гал (на балоце, дзе няма кустоў).* 39 *пъляна.* 40 *прыгáліна.* 41 *прыгáліна, пъляна, пълянка.* 42 *пълянка, прыгáліна; прытáліна.* 43 *гóлыя мéста, гóлыя пылянка.* 44 *пыляна, прыгáліна* (невялікая вузкая палянка). 45 *палянка.* 46 *палянка, прагáліна (на прагаліне трохі атпачылі), прагáл (у лесе, дзе няма дрэў).* 47 *гáло (гало вельмо стало, мусіць пацярабілі).* 48 *паляна.* 49 *прагáліна, галь (голаё место).* 49а *палянка, паляна.* 50 *прагáліна, гáло.* 51 *паляна.* 52 *кýдзярачка (як дзе бывая і вада), гóлая мéйсца.* 52а *гáліва* (месца, дзе расце багун і не растуць дрэвы і кусты, гэта на балоцістым месцы). 53 *прагáліво, гáліво, палянка.* 54 *паляна, прагáліна, прагáлак.* 55 *палянка, прагáлак, гáло.* 56 *гáліво.* 57 *прагáліна, прагáлак.* 58 *гáліва.* 59 *прагáліна (малая прасека, незаросшая паляна), паляна, галь* (вялікая лапіна ў лесе); *галь, гáліна* (высечаны лес); *гóла тут.* 60 *прагáліна, прагáліво, палянка.* 61 *палянка.* 62 *прагáліна.* 63 *палянка.* 64 *прагáліна.* 65 *палянка, прагáліна* (невялікая), *гáла,* (вялікае). 66 *гáла (на галі ягады бралі, там гала несхадзімая, журавіны растуць, там мох, буяке, хвойнічак маленькі).* 67 *палянка (у лесе), гáла (голае месца за лесам або да лесу і голая лапіна ў лесе).* 68 *палянка.* 69 *палянка, гáлая балóта, гóлая балóта (дзе расце багун, мох і маленькі хвойнік).* 70 *палянка.* 71 *церабéш (траву касіў на церабяжы, Папоўскі церабеш, Блінаў церабеш —* урочышчы). 72 *гáла (дзе лысіна без лесу).* 73 *прагáліна, пълянка.* 74 *палянка, прагáліна.* 75 *палянка, гóлая палянка.* 76 *палянка, прагáліна, гáлая (каровы вышлі на гáлая, каровы ходзяць* (пасуцца) *на гáлам).* 77

*гала (галы, дзе лес рэдка сядзіць, вышаў на гала), паляна.* 78 *прыталіна; пылянка, прыгаліна, голыя мясціна.* 79 *прыгаліна, пылянка.* 80 *прыгаліна, пълянка.* 81 *палянка, гал* (свабодная прастора ў лесе, на балоце). 82 *палянка, гала.* 83 *прыгаліна, пыляна.* 84 *гал, прыгаліна, пыляна.* 85 *пылянка, гал* (трад.), *гала, гальны лес.* 86 *паляна, прагаліна (вузенькая, малюсенькая), палянка, прагалінка.* 87 *пыляна, прыгаліна, гала.* 88 *пълянка, галь.* 89 *прыгаліна, пылянка, галіва.* 90 *гал, галь, прогалок, прогаліна.* 91 *пулянка.* 92 *пругальна.* 93 *галеч, прагаліна (гэта калі малы лес, або там балота, а ты едзеш, і тут зразу павіднее, бо меншыя дрэвы, або іх зусім няма, то гэто прагаліна), галы* (прым.). 94 *поляна, полянка, гало, прогаліна.* 94а *полянка, прогалынка.* 95 *полоня, прогалына.* 96 *прогалына, поляна, полянка, прогаль, прогалле.* 96а *лысуха.* 97 *полянка.* 98 *пругалок, пулонь.* 99 *паляна.* 100 *галіво, голя, галя.* 101 *галеч, полянка.* 102 *круговіна, кругаль, гало.* 103 *прогалына, полоня.* 104 *поляна, галіва, прагаліна, галя.* 105 *галь.* 106 *полонь, острой.* 107 *поляніца, лапік голый; лапістый быэр.* 108 *полянка, прогалына, прогал.* 109 *галявына, чыстэе.* 110 *гало.* 111 *галіна, гала.* 112 *гала, астравок, палянка* (пра разробленыя). 113 *поляна, прогаліна.* 114 *гало.* 115 *палянка, гало (вялікі кусок балота).* 116 *паляна, гала.* 117 *гало, прогаліна.* 118 *гала* (высокае месца без лесу), *палянка* (сярод лесу, дзе могуць і сеяць). 119 *паляна.* 120—121 *гала.* 122 *гала, паляна.* 123 *паляна, прагаліна.* 124 *палянка, гала.* 125 *прагаліна.* 126—127 *палянка.* 128—.129 *прагаліна, паляна.* 130 *ляда.* 131 *полянка, галь.* 132 *прогалок, полоня.* 133 *гало, галь.* 134 *полянка, прогаліна.* 135 *палянка (орана), грудочок (неораны), пеля (велікая неорана), гало, прогаліна.* 136 *гало.* 137—138 *гало, прогаліна.* 139—141 *палянка.* 142 *палянка, гала.*

**Карта № 205**

## КУДРА

№ 112 «У якім значэнні ўжываецца слова кудра: а) азярцо, сажалка, б) малады лес...»

Картаграфуюцца варыянты значэнняў назваў *кудра, кудзярка, кудзяр.* Апелятывы і мікратапонімы абазначаны рознымі фігурамі.

1 *Кудра* — назва поля: *палянку между гор называюць Кудра, у Кудры убіралі авёс* (на адлегласці 4-х км ад в. Лісна). 2 *Кудры* — назва вёскі; прозвішча *Кудра.* 3—18—.19 *кудра, за паншчызнай капаныя для вадапою, а цяпер зарошшы, бальшая кудра, вады было многа, а цяпер высыхая, ёсь крынічная кудра, белая ружа расце на вадзе.* 20 *кудра — азярцо.* 21 *кудра — сасоначак штук пяць-дзесяць-дваццаць, кружок такі.* 22 *кудра — па лесі такая суш, там ягады растуць, там якія кусточкі растуць.* 23 *кудра — пусташ, заросшая кустамі, там нічога не хоча расці.* 24—.25 *кудравыя валасы.* 25а—37—.38 *кудра — жанчына з непрыбранымі валасамі і яшчэ як быццам нейкая трава.* 39—.40 *от дзерыва харошыя, кудравыя, воласы кудравыя.* 41—47—.48 *кудра — малады кудравы лес, во тут нідалёка ад вёскі расце кудра.* 49—.49а *кудра, кудзерка, кудрачка — кусочак лесу сярод поля.* 50—51—.52 *кудра — прыродны вадаём, невялікае азярко, сярод лесу бываюць кудры, там вада і трава расце.* 52а *кудра — малады лясок, які расце кучкамі, мяста кудра, дзе зелень лесавая цененькая.* 53 *кудра — малады лес, кудра — некалькі дрэў на полі.* 54—56—.57 *кудзерка — лясок на ўзгорку і сярод палёў; дзеці на кудзярца.* 58 *кудра лесу стаіць — лапіна лесу харошая.* 59 *кудра, кудзерка — невялікі лясок сярод поля, на сажалку не кажуць.* 60—63—.64 *кудра — астатак лесу сярод поля; кудра лесу сярот поля; кудзерка асталася сярот поля.* 65 *кудра лесу — невялікая плошчадь лесу.* 66—68—.69 *кудзерачка — невялікі лапік лесу; адна кудзерачка лесу і паляначка.* 70—74—.75 *кудра — прыгожыя пышныя валасы ў дзевачкі.* 76—. 77 *кудра ты — хто кучаравы.* 78—103—.104 *Кудра — назва мясцовасці, урочышча* (мікратапонім), *зямля з лесам і азярцо, Папова кудра, кругом княжыцкі лес.* 105—107—.108 *бэроза кудрава.* 109—131—.132 *ох ты кудра — на дівчыну скажуть, як шэ вэльмы молодая, як шэ ныма чого йіты, а вона йдэ.* 133—134—. 135 *дзіця кудравае, кучаравае, бероза, хвоя кудравая, кучаравая.* 136—142—.

Адзначаны іншыя назвы, якія не адносяцца да тэмы карты: *азярцэ* 135 (а). *азірцо* 85. *азярцо* 68 (а), 86 (а), 118 (а), 124 (а). *вазярцо* 75. *возіра* 85. *возірца* 35. *вузэрцэ* 98. *гозырцэ* 95. *зяро* 16 (а). *озырцэ* 103 (а), 132 (а). *озэрце* 90. *озэрцэ* 94а, 108. *озерцо* 107. *озэрэчко* 109.

*гаршчок* 'маленькае азярцо, гектары два' 86.

*сажовка* 90, 109. *сажэлка* 113.

*балоцітка* 4. *балацянка* (забалочанае месца) 129. *выгарка* 7 (а). *купяліна, купеліна* (прыродны вадаём з вадой) 24. *луг* 93. *лух, лугі* (дзе вада стаіць, не высыхае) 51. *тапіла* (забалочанае месца) 129.

*чэць, чэч* 114.

*маложа* 35. *падлесак* 55 (б). *порасля* 118 (б).

Выкарыстаны іншыя крыніцы:

1. Матэрыялы картатэкі «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча». Нумарацыя пунктаў адпавядае нумарацыі на картах атласа. Калі пункт, матэрыяла з якога прыводзяцца вышэй, адсутнічае ў сетцы, пры картаграфаванні знак наносіцца пад бліжэйшым пунктам сеткі.

1 *кудра — забалочанае месца, скот заганяіць,* 2 *кудзяр харошы лесу; многа кудзярбў* ('кустоў'). 4 *от кудра пашла* ('пра кучаравую дзяўчыну'). 20 *у нас па кудрах мох; ідзі ў кудру надзяры моху; была кудра, ялавец рос, кусты; у кудры капалі торф.* 22 (в. Крэва Смарг. р-на) *кудра — еслі лес, бяроскі кругом кудравыя, участак леса такі.* 47 (в. Псярцы Шчуч. р-на) *уперат сенажаць у нас была, на той сенажаці быў лужок* ('вадаём'), *кудра называлі.* 52 *сярод лесу бываюць кудры, там вада і трава расце.* 52а (в. Дакудава Лід. р-на) *мы называлі мяста — кудра, дзе зелень лесавая цененькая.* 54 (в. Пацаўшчына Дзятл. р-на) *кудра паміж поля, лясок такі, кудра лесу стаіць.* 58 *кругом выразалі, адна кудра лесу стаіць, бярозавая кудра і лугавая кудра, у лугавой кудры альха расце, бывая грась.* 70 *лапінка лесу — кудра.* 11А (в. Галоўні Воран. р-на) *кудра* — ('круглы ўчастак аднародных дрэў у лесе'), *кудра — невялікі лясок, гай, дубова кудра.* 26А (в. Кіралі Шчуч. р-на) *кудру лесу купіў, кудра — балота, жураўліны, купчыстая балота, на кудрэ купіны.* 27А (в. Вострава Маст. р-на) *у кудры заўсягда лён мачылі, каменьмі накладалі.* 50А (в. Дзяніскавічы Ганц. р-на) *кудзерка — там лес, трохі балота і лушка.*

2. Матэрыялы з кнігі «Мікратапанімія Беларусі», Мінск, 1974.

8а (в. Навіны Міёрск. р-на) *Кудраўка — урочышча, дзе раньшы кустарнікі былі.* 19 (в. Відэйшы Ашм. р-на) *Кудзярачка — азярцо з крыніцай.* 20 (в. Апіта Іўеў. р-на) *Кудра — балота.* 22 (в. Ходзішкі Смарг. р-на) *Кудра — лес на сухім месцы, дзе многа ягад.* 25 (в. Рогавічы Вілейск. р-на) *Кудзяркі* — урочышча. 52 (в. Курчаўцы Радунск. р-на) *Кудра — зарослае месца на полі.* 52а (в. Сіманы Лідск. р-на) *Кудра* — поле на месцы выкарчаванага кустарніку. 58 (в. Барысаўка Іўеў. р-на) *Кудра* — палянка ў лесе. 59 (вв. Даўнаршчына і Вял. Гуменаўшчына Стаўбц. р-на) *Кудзеркі* — лес сярод поля, (в. Сцяцкі Стаўбц. р-на) *Кудра — поле, дзе расла кудзерка арэшніку, цяпер выцерабілі і расце толькі дзікая трава,* (в. Баханы Стаўбц. р-на) *Кудра — лясок,* (в. Апечкі Стаўбц. р-на) *Кудра — паша.* 60 (в. Бержано Карэліцк. р-на) *Кудра* — урочышча. 61 (в. Горкі Стаўбц. р-на) *Кудзерка* — сенажаць. 30А (в. Курачкі Стаўбц. р-на) *Кудра — поле, дзе расла кудзерка арэшніку, кудра — паша.*

**Карта № 206**

## МЯЗГА

АЛА 348 N sg mězga мезга — mezga — miazga

Картаграфуецца пашырэнне слоў *мязга, мяздра, мезак, мязок,* іх асноўныя фанетычныя варыянты і род. Назва *мазга* (п. 70) картаграфуецца як *мазга,* назва *мязок* — як *мезак.* Як паказваюць заўвагі да адказаў, картаграфуемыя назвы абазначаюць пераважна сакавіты слой пад карою дрэва. Назва *мозк (моск)* не картаграфуецца. (відаць, абазначае іншую рэалію).

*мязга* 31А, 32А (мякаць пад карою дрэва). 40А, 58А *(пад карой яна),* 61А *(у дрэві мязга; бульбу пераганяюць, астаецца мязга).* 61 (слой дрэва пад карой), 70. *мезга* 70, 115. *мізга* 9А, 17А, 19А, 24А, 39А.

*мязга́* 6А *(абдзярэш кару, а далей будзіць мязга́)*, 21А, 22А, 27А, 30А, 32А (мякаць пад карою дрэва), 33А, 44А *(на мязге)*. 49А (вільготная маса паміж карою і драўнінай дрэва), 67А *(у дзераві)*. *мезга́* 54А (мяккі сакавіты слой на дрэве паміж карой і драўнінай), 62А (частка дрэва паміж карой і драўнінай; жом), 115 (пад карою дрэва). *мізга́* 4А, 20А, 39А.

*мязка́* 66А. *мяска́* 37А *(йета пат карой у дзерава, мяска салоткая)*. 55А *(канчаецца цякці сок, тады набіраецца мяска, а з яе на следуюшчы гот слядок дзерава)*. *меска́* 115 (пад карою дрэва). *міска́* 36А.

*мазга́* 50А (паміж карой і абалонню дрэва, ад чаго павялічваецца таўшчыня дрэва), 57А *(на мазге,* 67А. *мозга́* 45А (забалонь, унутраная слізістая абалонка дрэва). *мэзга́* 47А. *мазга́* 70.

*мяздра́* 1А (мяккая сакавітая частка кары), 10А *(за карою, сама сэрца)*, 11А—13А, 15А (толькі ў ліпе, у астатніх дрэвах *абалонь* ці *стрыжань)*, 26А, 28А, 29А. *мездра́* 16А (пад карой дрэва, б. ч. у елкі, сасны). *міздра́* 2А, 3А (пат карой, як кару зрэзаць), 4А, 5А, 7А (клейкае рэчыва пад карою дрэва), 8А, 16А *(пат карой дрэва)*, 18А, 23А, 42а.

*ме́зок* 56А *(смокчуць тэй мазок)*. *мэ́зок* 51 (слой пад карою дрэва). *мязо́к* 25А *(у мязку́)*.

*мязгра́* 14А. *мяздро́* 26А.

Адзінкавыя: *ка́шка* 34А *(пат карой, у ка́шчэ)*. *было́к* 43А *(в дэрвы)*. *абало́на* 46А (у дрэве).

Адсутнасць назваў з асновай *мязг-, мязк-, мазг-, мяздр-, мяз-*: 35А, 38А, 41А, 48А, 52А, 59А, 60А, 63А—65А.

Адведзены: *мозк* 53А *(у мазкве́)*. *моск* 50 *(у моску)*.

## Карта № 207

# КАСЦЁР ДРОЎ

№ 1474 «Я. н. складзеныя дровы ў доўгую граду: сценка, града, вярста...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў *кастра* (спосаба ўкладкі) дроў. Назва *кастрэ́* (мн. лік) картаграфуецца як *касцёр.*

*касьцёр* 1, 7, 12—17, 32, 39, 47—50, 52а—55, 64, 65, 93, 99, 104, 105, 108. *косьцёр* 94, 94а, 95, 102, 103, 106, 107, 109. *кастёр* 97, 133. *костёр* 90, 96. кусьцёр 98. *кустёр* 132. *кострэ* 101.

*скірда* 40, 43, 44, 82, 85, 86, 88, 116, 142. *скірта* 42, 76—79, 81, 82, 121, 126, 127, 140.

*скірда́* 73, 75, 80, 87, 124, 139. *скірта́* 36, 38, 73, 74, 78, 89, 120, 120а, 129.

*сціpта* 20, 26, 27, 52. *сцірда́* 63.

*шкірда* 84. *скірдачка* 124.

*вярста́* 24, 25, 25а, 31, 49а, 66—71, 110, 115. *вірста́* 28.

*града́* 10, 11, 19, 30, 34, 58. *грыда́* 29, 35.

*гра́тка* 33, 35.

*гра́дзіна* 83.

*рад* 22, 134. *рат* 23, 57.

*радо́к* 51.

*шу́рка* 135, 138, 140 (рэдк.), 141.

*клётка* 49, 62, 111, 112, 114, 117.

*клад* 2, 3, 4—6, 8, 9. *клат* 21.

*склат* 18. *складня́* 37. *кла́дка* 41.

*плі́та* 72, 119.

*пліта́* 77, 118.

*сцёнка* 83, 136. *стёнка* 92. *сті́нка* 131.

*стына́* 96а.

*лёнта* 122, 123, 125.

Адзінкавыя: *го́рба* 45. *шта́бель* 46. *шарэ́ньга* 56. *шчыт* 59. *стус* 60. *шы́фта* 91. *скёпня* 100. *стажо́к* 104. *шар* 113. *стог* 138.

## Карта № 208

# СТАЖОК ДРОЎ

№ 1475 «Я. н. зложаныя дровы ў выглядзе стажка: касцёр, скірда...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назваў стажка дроў.

Назвы *скірта́* картаграфуюцца як *скірда́*, назва *сціpта* як *скі́рда*, назва *стажэк* — як *стажок.*

*стог* 46, 59, 84, 137 (*у стог* — гавораць мало, толькі пачынаюць складаць). *стох* 2, 4, 7, 8а, 12, 21, 22, 24, 52, 53, 58, 66, 105, 139, 140.

*стажо́к* 5, 6, 8, 11, 18 (нов.), 19, 20, 25а, 29, 33, 35, 36, 40, 53, 58, 65, 69, 82, 84, 100 (нов.), 104, 110—112, 120, 123, 127, 142. *стожок* 94, 94а, 101, 106, 113, 131, 133, 138. *стужок* 98. *стожэк* 133.

*стожо́чок* 108.

*касьцёр* 13, 15, 17 (рэдк.), 32, 39, 50, 52а, 54, 60—64, 83, 89, 97, 99. *косьцёр* 95—96а, 102, 107. *костёр* 103. *кустёр* 92.

*касцёр* 14, 47, 49а, 51, 57.

*костэ́рэц* 109.

*капа́* 75, 81.

*капя́к* 68, 69, 71.

*ку́ча* 48, 93.

*скірда́* 28, 31, 37 (рэдк.), 59, 87, 123, 129, 136. *скірта́* 120а. *сьскірта́* 38, 74, 78, 89.

*сьскі́рда* 43, 44, 67, 83, 85, 88, 116, 128. *скі́рта* 42, 70, 79, 82, 126, 141. *сьці́рта* 115.

*сьскі́ртка* 76.

*вярста́* 25, 115.

*коло́дяз* 95, 96. *коло́дзіж* 10.

*клётка* 45, 122. *клі́тка* 109.

Адзінкавыя: *одо́нык* 16. *ко́нус* 86. *го́рба* 93. *я́рус* 94. *во́рох* 117. *гу́рба* 132. *шу́рка* 135.

Адсутнасць назвы: 1, 26, 30, 56, 73, 77, 80, 90, 118, 119, 124, 125, 134.

## Карта № 209

# АХАПАК ДРОЎ

№ 1476 «Я. н. адзін ахапак дроў: бярэмя, бярэмянё...»

На карце паказаны лексіка-словаўтваральныя адрозненні назвы ахапка дроў. Назва *бярэ́мане* картаграфуецца як *бярэ́мяне,* назва *бэро́мак* — як *бярэ́мак,* назва *обэро́мак* — як *абярэ́мак.*

*бярэ́ма* 2—4, 6, 7, 8а, 10, 11, 19—23, 25, 33—38, 40, 42, 43, 63, 73—75, 77, 80—82, 123. *бяре́ма* 13, 15, 41, 44, 83—89. *бірэ́ма* 16. *біре́ма* 17, 39. *бярэ́мо* 60. *бырэ́мо* 92. *бере́мо* 14.

*бярэ́мя* 26, 45—49а, 51, 52, 52а, 64, 65, 67, 100. *берэ́мя* 116. *бырэ́мя* 96а. *бярэ́мё* 99. *бярэ́м'я* 27, 57, 58, 104, 105, 110. *бэрэ́м'я* 106. *бярэ́м'е* 111, 112. *бэрэ́м'е* 107, 109. *бярэ́м'ё* 56, 61, 62.

*бэрэ́мне* 94, 94а, 101, 102, 108. *бырэ́мне* 95, 96, 103, 131.

*бярэ́мяне* 59. *бырэ́мыне* 90. *бярэ́мяня* 54. *бярэ́мянё* 50, 53, 55. *берэ́мане* 93.

*бярэ́мак* 82 (в. Лужок), 120, 125, 130. *бярэ́мок* 140. *берэ́мок* 134. *барэ́мок* 138. *борэ́мок* 133. *бэрэ́мок* 113. *бырэ́мок* 132. *бэро́мок* 135.

*абярэ́мак* 118, 128, 129, 142. *аберэ́мок* 126. *абэрэ́мок* 91. *оберэ́мок* 114, 133. *абарэ́мак* 119, 121, 124, 126, 127, 139, 141, 142. *обэро́мак* 136.

*пярэ́бярання* 69 (даўней: *пярэ́бярання набра́ў дроў)*. *бырэ́мніско* 103. *абарэ́м* 141.

*аха́пак* 1, 4, 6, 7, 9, 10 (нов.), 11 (часцей), 24, 25а, 31, 58, 64, 70—72, 76, 118, 127. *ахапък* 5, 12, 30, 39. *аха́пык* 29, 78, 79, 84, 89.

*ахо́пак* 8, 9. *ахо́пък* 8а.

*аха́пка* 16. *ха́пыцка* 16. *ха́пык* 85. *охапка* 106.

*лано́* 66, 117, 120а, 122.

*уло́ння* 32, 68, 70, 71. *уло́нне* 28.

*нару́ччэ* 95 (рэдк.), 97. *нару́ч'е* 98.

Адзінкавыя: *но́шка* 85 (трад.).

нага ў слове *вéрас*. Праславянская форма гэтага слова — **версъ*. Паслянацiскны галосны ў ім пазнейшага паходжання. Як паказвае картаграфуемы матэрыял, гэты гук у адных гаворках рэалізаваўся ў *-е-*, у другіх — у *-о-*. У далейшым у большасці беларускіх гаворак, дзякуючы аканню, гэтыя гукі перайшлі ў *-а-* (недысімілятыўнае аканне) або *-ы-*, *-і-*, *-ъ-* (дысімілятыўнае аканне).

Асноўныя формы, якія наказаны на карце: *вéрас* (адлюстраваны пераход *-е-* і *-о-* у адзін гук: *-а-*, *-ы-*, *-і-*, *-ъ-*),*вéрэс* (адлюстравана захаванне *-э-*) і *вéрос* (адлюстравана захаванне *-о-*). Формы *вéрус*, *вэ́рус* картаграфуюцца як *вéрос* (у іх паслянацiскны *-у-* паходзіць з *-о-*), форма *вэ́рыс* у палескіх гаворках картаграфуецца як *вéрэс* (у ёй *-ы-* паходзіць з *-э-*). Выдзелена таксама форма *вéраст* (аб'ядноўвае формы *вéраст*, *вэ́рост*, *вэ́руст*).

*вéрас* 1—8, 10, 11, 14, 18—33, 37, 38, 45—64, 66—77, 80—82, 93, 99, 100, 104, 110, 111, 115, 116, 118, 119, 120а—126, 128—130, 135, 138, 139, 141, 142. *вêрас* 65, 105. *вéръс* 8а, 9, 15, 34, 43. *вéрыс* 35, 40, 78, 85, 87. *вéріс* 13, 16, 17, 39, 41, 44, 79, 83, 84, 86.

*вéрэс* 114, 117, 120, 127, 134, 136, 137, 140. *вéрэс* 113, 131. *вэ́рыс* 90—92, 107.

*вéрос* 101, 112. *вэ́рос* 94—97, 102, 103, 106, 108, 109, 132, 133. *вéрус* 8, 36, 42, 81, 118. *вэ́рус* 98.

*вéраст* 51. *вэ́рост* 96.

*верасён* 48. *верасáн* 88. *віряснíк* 89.

АЛА: *вéрас* 3А, 4А, 6А, 10А—21А, 24А, 27А—33А, 35А, 37А, 44А, 46А, 50А, 53А, 55А—63А, 66А, 67А, 50, 61, 70, 115. *вэ́рас* 51А. *вéръс* 8А, 9А. *вéрыс* 1А, 2А, 36А. *вéріс* 7А, 23А, 25А, 39А, 41А, 42А. *вéріс* 7А, 23А, 25А, 39А, 41А, 42А.

*вéрэс* 54А. *вэ́рэс* 65А.

*вэ́рос* 45А, 47А, 48А, 64А. *вéрус* 5А, 38А.

*вéраст* 26А. *вэ́руст* 43А.

*вéрась* 22А. *вéрасень* 34А. *верасóк* 40А.

**Карта № 260**

## БАГУН (Ledum palustre L.)

№ 1585 «Я. н. багун: багульнік, багун, багон, бахун, багно...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні ў назвах багуну. Назва *бáгань* картаграфуецца як *бáган*, назва *бáгаўнік* — як *багóўнік*, назва *бóгнік* — як *бáгнік*.

*багýн* 3, 18—20, 22, 23 *(на ройстве багýн расьце)*, 25а, 26—28, 30, 31, 35, 36, 38, 40 *(ны бару, ванючый такій)*, 41, 42 *(ны мхах)*, 43, 44, 47 *(багýн кідаюць у сьвіней, кап у загарадзі йіхней заразы не было)*, 49, 50, 52—56, 57 *(ад яго галава баліць)*, 58, 59 *(расце у амшарах, дзе круцікі і жураўліны)*, 61, 62, 63 *(у леся)*, 64, 65, 66 *(купчастымі цьвітамі цьвіце)*, 68, 69 *(ад яго ташноты, галава баліць; ад задышкі параць)*, 70—79, 80 *(у балоці, у лясу; гълава баліць дужа)*, 81—87, 89, 94а, 95, 99—101, 103—105, 109, 118, 119 *(нанюхалася багуну́)*, 123, 124, 125 *(прымяняюць ат прастуды)*, 126, 128 *(крэпка пахня)*, 129 *(ірвуць у лесе, топяць скаціне)*, 130, 136, 142.

*багóн* 51, 90, 92, 94, 96а, 112, 114—117, 120, 120а, 121, 127, 132, 133 *(на балоце; турэцкі багóн)*, 133 *(рэдкая лекавая трава ад зрыву)*, 134, 135, 137 *(просты)*, 138 *(од етого багона голова заболела)*, 139—141. *багôн* 93. *богóн* 126 *(богон ужэ адцвій; ён ад молі)*, 127.

*багнó* 45 *(балотная зелья)*, 90, 96, 97, 98, 113, 131, 132.

*бáган* 1, 4 *(галава ад яго баліць)*, 5—7, 8 *(кокліш лечылі)*, 17, 32. *бáгън* 8а, 9, 12, 13, 15, 33, 39. *бáгын* 16, 35. *бáгань* 14. *бáгънь* 14. *бáгун* 35.

*багýльнік* 2, 10 *(ад кашлю багýльнік)*, 11 *(дзе галубоні, там багульнік)*, 24, 25а, 41, 46 *(гаворaць, ад яго галава баліць)*, 48, 88.

*багýннік* 37 *(белым цвіце у балоце)*, 67 *(дурнеюць ад яго)*. *багýньнік* 41, 74, 75. *багýннык* 108...

*багóннік* 106. *багóнны́к* 90.

*багóўнік* 110, 111. *бáгаўнік* 29.

*бáгнік* 34. *бóгнік* 107.

*багýрнік* 21. *багýднік* 25. *баговы́ньне* 95 (рэдк.).

Адсутнасць назвы: 91.

**Карта № 261**

## ШЧАЎЕ (Rumex acetosa L.)

№ 1590 «Я. н. шчаўе: шчавель, шчавей, шчавер, шчаўнік, шчава, кісліца...»

Картаграфуюцца словаўтваральныя і акцэнталагічныя адрозненні ў назвах шчаўя. Як *кісліца* картаграфуецца *кіслíцка*, як *шчавýх* — *чявýх*, як *шчáвель* — *шчáбель*.

Адведзены ад картаграфавання: *макры́ца* як памылковы адказ, *шчавýшнік* (конскі шчавель), *кісліца*, дзе указана, што мае іншую форму ліста і расце ў лесе.

*шчáвель* 5, 14, 17, 28, 36, 67, 74, 75, 77, 81, 85, 86, 88, 115, 116, 118, 119 (свойскі), 120, 122—124, 125 (лугавы і палявы, але палявы — кіслейшы), 126, 127, 128 *(з яго боршч смачны вараць)*, 129, 130, 135, 136, 138 *(тре нарваць на боршч)*, 139 *(свойскі і верабейкаў)*, 140—142. *шчáвіль* 1 (сучасн.), 2, 4, 6, 8, 8а, 10, 11 *(усю вясну шчáвіль варылі)*, 15, 29, 32—35, 37—39, 40 *(па лясу расьцець і па полю)*, 41—44, 73, 78—80, 82—84, 87, 89. *шчáвяль* 72, 105, 110. *шчáбель* 117.

*шчавéль* 9, 94, 137.

*шчáвей* 120а.

*шчавéй* 45 (па балотах і па полі расце), 46 *(раней па шчавéй хадзілі усе)*, 47 *(шчавéй кіслы, вітамінаў мáя)*, 48—56, 60. *шчавэ́й* 93, 94а, 95, 99 101—103, 107 *(по попловы́х росце)*, 108, 132, 133.

*шчáўе* 23 (ядомае), 26, 30, 31, 57, 61, 62, 100, 104, 112, 120а, 126, 142. *шчáўя* 18, 21, 22, 24—25а, 58, 59, 65, 67, 68, 69 *(па сенакосах расьце)*, 106. *шчав'е* 111. *шчóўе* 63, 64, 66, 69 (трад.). *шчóўя* 27, 58, 59.

*шчаўё* 19, 20 *(назьбірала шчаўя́)*.

*шчавýх* 90—92, 96, 131. *шчав'юх* 95 (радзей), 97. *шчавьюх* 98.

*шчáвер* 114. *шчáвэр* 113.

*шчаў* 3. *шчаўя́* 106. *шчавéльнік* 115.

*кісьлíца* 7, 12, 13 *(шчавіль)*, 16, 118.

Адведзены: *зáйцава кісьлíца* 1 *(у лесе расьцець)*. *шчавýшнік* 23 (конскі шчавель). *кісьлéц* 42 *(у лясу расьцець, ліст — тры лапачкі, кіслый як шчавіль)*.

**Карта № 262**

## СНІТКА (Aegopodium L.)

№ 1589 «Я. н. снітка: шнітка, снітка, цнатка...»

Картаграфуюцца назвы сніткі (Aegopodium L.). На карце супрацьпастаўлены назвы па каранях і асноўных фанетычных асаблівасцях. Назва *сны́тачка* картаграфуецца як *сны́тка*. Азначэнні да слова *мóрква* не ўлічваюцца. Адводзяцца ад картаграфавання: *дзя́гіль*, *нюнькі*, *мідуніца*, *мукрэ́ть*, *ляскóтка* (абазначаюць іншыя расліны).

*снíтка* 20, 26, 27, 30, 45 *(расце па я́лавінах, свіням збіраюць)*, 46 *(для свіней рвуць у садзе)*, 50, 51, 52а—54, 57, 59 *(як хробуст, толькі радзей лісты)*, 62—65, 66 *(такая лапка каля куста расце, яна крохкая, як ірвеш)*, 68—70, 71 *(яе свінням збіраюць з вясны)*, 72, 76, 80, 82, 83, 93 (на балоце), 99, 100, 104 *(старэйшыя кажуць, што раней варылі снітку)*, 113, 115, 120, 124, 126.

*сны́тка* 36, 37 *(мала хто ведае; худы, як снытка)*, 41, 42, 73 (даюць свіням), 74, 75, 77, 80 (мала ведаюць; *сядзіць, як снытка)*, 81, 84—87, 89, 96, 118, 121, 123, 126, 129. *сны́тачка* 127 *(варылі ў голат)*.

*шнíтка* 1—3, 4 *(варуць некаторыя)*, 5, 6, 8, 9, 10 *(самай ранняй вясной паяўляецца, ёсць вёска Шнітко)*, 11 *(нарві шнітак свіням)*, 18, 19, 21, 22, 24, 25а, 28, 29, 31, 33, 34, 116.

*шніць* 7, 12, 14—17, 32.

*шны́тка* 35, 82.

*сныты́* 91.

*дзíкая мóрква* 102, 135. *ды́ка мóрква* 90, 92, 95, 103. *пулювáя мóркува* 98. *бýськова мóрква* 109.

*моркýвняк* 94а. *моркóўнік* 106. *морковы́нне* 132. *маркя́нік* 135.

Адзінкавыя: *гаршвá* 52. *смы́чка* 57 (ранняя трава). *смучáй* 114.

Адсутнасць назвы: 13, 23, 38—40, 47—49а, 55, 56, 58, 60, 61, 67, 78, 88, 94, 96а, 97, 101, 105, 107, 108, 110—112, 117, 119, 120а, 125, 128, 130, 131, 133, 134, 136—142.

Адведзены: *дзя́гіль* 25. *нюнькі* 44. *мідуніца* 79. *мукрэ́ть* 92. *лескóтка* 122.

## Карта № 263

# МАКРЫЦА (Stellaria media (L.) Cyr.)

э№ 1594 «Я. н. макрыца: макрэц, макрыца, цапняк...»

Картаграфуюцца суфіксальныя варыянты назвы макрыцы. Паказаны некаторыя фанетычныя асаблівасці лакальнага характару.

*макры́ца* 1—3, 4 *(яе рвеш — зноў зацягнута быта мохам)*, 5—10, 11 *(убілася у агарот)*, 14, 15, 17—31, 33—37, 38, 40 *(пляцёнкымі расьцець пад восень)*, 42, 43, 45 *(расце дробнымі лісточкамі, сцеляцца па зямлі)*, 46—58, 59 (даюць свіням), 60—65, 68—78, 80 *(дробненячкімі цвяточкамі цвіце)*, 81, 82, 88, 93, 99, 100, 104, 118, 119 (ядуць свінні), 120а, 121, 123, 124, 125 *(калі яе рвеш, яна як пена)*, 126 *(яе курам рвуць)*, 128 *(яна дужа каранастая)*, 129, 130 *(яна як п'яўка у вадзе: яе рвеш, а яна цягнецца)*, 141, 142. *макрі́ца* 12, 13, 16, 32, 39, 44, 79, 83—87, 89.

*макрэ́ц* 66, 67, 111, 112, 115, 116, 120, 122, 127, 135, 139. *макрэ́ц* 41. *мокрэ́ц* 94, 103, 108, 109, 113, 114, 117, 134, 136—140. *мокрэ́ц* 133. *мукрэ́ц* 94, 94а, 132.

*мôкрэ́ць* 90. *мокрэ́ць* 95, 96, 96а *(всі кортоплы заpoслы мокрэцём)*, 97, 131. *мукрэ́ць* 91, 98. *мукрэ́ть* 92.

*мôкрэ́з* 107.

## Карта № 264

# СВІРЭПА (Barbarea vulgaris R. Br.)

№ 1596 «Я. н. свірэпа: сурэпка, свірэпка, свірэпа...»

Картаграфуюцца назвы свірэпы, утвораныя ад розных каранёў. Адзначаны лакальныя акцэнталагічныя асаблівасці.

Назва *сварі́па* картаграфуецца як *свірэ́па*, назвы *рыдюха́, рыдчэ́к, рэ́дзечка, рюткі́вка, рэдзькоўка* картаграфуюцца як *рэ́дзька.*

*свірэ́па* 18—20, 46 (радзей), 47 *(натта бульбу глушыць)*, 49а, 59, 61, 67, 71, 84, 94, 101, 104, 105, 107, 111, 112, 115, 122, 127, 128 *(як зацвіце, дык аж жоўта)*, 129, 130, 133, 135, 136, 139—142. *сьвірэ́па* 58, 63. *свярэ́па* 53—55, 60, 99. *сьвярэ́па* 50, 51. *сьварэ́па* 106. *свіре́па* 83, 117, 138. *свірêпа* 65, 105. *сьвіре́па* 87. *свере́па* 49а, 100, 102. *свыры́па* 92, 95, 96а, 97, 103. *свыри́па* 132. *свэрі́па* 98, 108, 109. *свэри́па* 94а. *сварі́па* 98.

*свірэпа́* 137. *свіропа́* 134.

*свірэ́пка* 2, 3, 5, 8а, 10, 11, 21—26, 30, 31, 36—38, 43, 45 (жоўтым цветам цвіце) 57, 59, 62, 64, 66—68, 69 *(ліст як рэпа, семяно ў стручкох)*, 70, 72—82, 85, 86, 88, 110, 116, 118, 119, 120а, 121, 123, 124, 125 *(калі яна цвіце, то старэя)*, 126 *(сільна густа расце)*, 129, 130. *сверэ́пка* 62. *сьвірэ́пка* 11. *свярэ́пка* 56. *свюрэ́пка* 6. *свіре́пка* 44, 79, 86, 89. *свырі́пка* 96а. *свэрі̂пка* 109.

*свірэ́піца* 1, 4 *(яна насіваецца)*, 7, 8 *(з яе пчолы мёт бяруць)*, 9, 12—17, 28, 29, 32—35, 48 *(на бульбі многа свірэ́піцы)*, 52а. *свірепіца* 39—42. *свірэ̂піца* 49. *сьвіре́піца* 12—17.

*свінарэ́па* 52. *свірапе́нь* 82. *свінарэ́пка* 120. *сурэ́па* 136. *сурэ́пка* 136, 142.

*рэ́дька* 91. *рыдюха́* 90. рыдчек 92. *рэ́дзечка* 93. *рюткі́вка* 96. *рэдзькоўка* 117.

*гарчы́ца* 27, 52.

*горпа́* 113, 114.

*гару́пка* 93. *гору́бка* 131.

Адведзена: *лебяда́* 46 як назва іншай расліны.

## Карта № 265

# ПАЛЯВЫ ХВОШЧ (Equisetum arvense L.)

№ 1597 «Я. н. хвошч: а) вясною (у выглядзе стаўбункоў з шышкай): таўкачык, таўкачнік...»

Картаграфуюцца назвы палявога хвашчу ў першай стадыі яго росту вясной у выглядзе стаўбунка. Паказаны адрозненні па каранёвых марфемах, словаўтварэнні і націску.

Адпаведныя знакі пастаўлены на падставе форм адзіночнага і множнага ліку.

Назва *хвішчка* картаграфуецца як *хво́шка*, назвы *гігялёк, гіргéль* — як *гігéль, ёлычка* і іншыя варыянты — як *éлка.*

*хвошч* 9, 10, 25, 27 (таўкачыкамі палявы), 28, 30, 31, 34, 45 (палявы), 46—48, 52а, 56, 57, 63, 64, 68, 69, 72, 79, 87, 94, 97, 99, 104, *(стаўбунок з шышкай)*, 105 *(вясной і летам)*, 105, 110 *(вясной і летам)*, 112, 113, 115, 117, 120а, 121, 122 *(полевы)*, 124—126, 128, 129 (палявы), 136, 137, 139—142. *хвôшч* 49, 60, 61, 138. *хвэшч* 107 *(полевэй)*. *хвашчэ́* 55.

*хво́шчык* 67, 73 (вясной), 77 *(вясной шышачка)*, 80 *(с сукаленцамі)*, 119 *(вясной стаўбунчыкам)*, 120, 127.

*хвашча́й* 52. *хвошчэ́й* 101, 103. *хвышчі́й* 90.

*хвашча́йка* 50. *хвошча́йка* 109 *(поляная)*. *хвошчэ́йка* 94а. *хвошчя́йка* 95.

*хвашча́нка* 37 (вясной). *хвошча́нка* 132.

*хво́шка* 51 (палявая). *хво́шка* 93. *хвы́шка* 91. *хвішчка* 92, 131.

*хвашча́р* 3. *хвашчэ́ўнік* 22. *хвошчэ́нка* 108.

*таўка́чык* 11, 17, 27, 36, 53, 54, 57, 82, 83, 88, 116, 123. *тыўка́чык* 85. *таўка́чыкі* 38—40, 57, 58, 59, 65, 66, 70, 71, 74, 75, 100, 118. *тыўка́чыкі* 41, 42, 89. *туўка́чыкі* 32, 35, 43, 44, 84.

*таўкачы́* 20. *туўкачы́* 78.

*гігéль* 5, 12—14, 19, 24. *гіргéль* 8а. *гігялёк* 3, 18. *гігялі́* 1, 2, 7.

*гу́гель* 4, 9. *гу́гіль* 6, 8. *гу́галь* 21, 25а. *гу́гыль* 15, 33. *гу́кыль* 15.

*гугéль* 1.

*гуго́ль* 10 (з самай вясны), 26 (на полі). *гугы́ль* 29.

*éлка* 57, 62, 102. *ёлачка* 10, 25а. *ёлычка* 89. *ёлачкі* 81. *ёлыцкі* 16.

*хво́йка* 106.

*сосо́нка* 97. *сосо̂нка* 96. *сосу́нка* 98. *со́сынка* 92.

Адзінкавыя: *кала́чыкі* 23. *стаўбуно́чык* 49а. *пупя́лькіс* 52. *пупя́лькі* 52. *росо́ха* 108. *дзядо́к* 111. *стырч* 134. *бугайчыкі* 135.

## Карта № 266

# АСАКА (Carex L.)

№ 1599 «Я. н. асака: асака, асока, сака...»

Картаграфуюцца назвы асакі. Паказаны адрозненні словаўтваральнага і фанетычнага характару.

Не картаграфуюцца назвы: *круглéц* і *сытня́к*, якія адносяцца да іншых відаў раслін. Мы ўлічвалі агульную назву асакі.

*асака́* 1, 2 *(рэжыць рукі і ногі)*, 4 *(шырокая, вуская, палявая, вадзяная)*, 5, 6 (другой назвы не ведаюць), 7, 8, 9 *(бываіць цвітушчая і не цвіцець)*, 10, 11 *(асакой паліц парэзала)*, 14, 17, 19—33, 36, 37, 38, 42, 45 *(расце па лугах)*, 47 *(рэска трава, можна руку парэзаць)*, 48, 49а *(не высокая)*, 50, 51, 52а—56, 57 *(пахожа на аер, але рэзкая)*, 58—65, 66 *(яна плятучая, пляцецца за рукі)*, 67, 68, 69 *(балацяная)*, 70—73, 74—77, 80, 82, 93, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—121, 123, 124, 125 *(яна войстрая як брытва)*, 126, 127, 128 *(у вадзе расце)*, 129, 130, 135, 139—142. *асъка́* 8а, 12, 13. *асыка́* 15, 16, 34, 35, 39, 40 *(можыць парэзаць)*, 41, 85. *ôсôка́* 90 *(сывôвата, скотына̂ ны хочэ ісцы)*. *осока́* 91, 94, 96, 96а, 101, 102, 103 (рэдк.), 106, 107 *(по лугыйх росце)*, 108 (новае, рэдк.). 114, 117, 131—134, 136—138. *усука́* 92 (новае). *вусука́* 98 (новае, рэдк.). *вусока́* 106.

*сака́* 81—84, 86. *сока́* 92, 122. *сыка́* 41, 43, 44, 78, 79, 85 (трад.), 87—89.

*асянчы́на* 8а. *асо́чнік* 54. *аса́чнік* 54. *осо́к* 113.

*іксва́* 3 *(па балотах найскарэй расцець)*. *віксва* 18.

*раза́к* 23 *(войстрая, нядобрая)*, 54, 126 *(больш дэбьёлая)*, 135. *різа́к* 98. *рыза́к* 95, 96 (рэдкае), 97, 101, 132. рэза́к 103, 108, 109.

*разака́* 49, 53.

*разу́ха* 6. *рызу́ха* 90 *(шырока і рызкая, як станыш рваты, то пальці поріжыш)*. *рызуха́* 92.

*рэ́ская трава́* 52.

Адведзены: *круглéц* 13. *рі́чка* 92. *сытня́к* 97.

## Карта № 267

# ЯЖДЖАЛЬ

№ 1600 «Я. н. асака светлазялёнага колеру, якая пачынае расці ранняй вясной (добра ядуць коні, каровы): ляжджай, нюнькі...»

Картаграфуюцца назвы яжджалю. Паказаны адрозненні па каранях і некаторых фанетычных асаблівасцях.

У выніку падабенства асок нярэдка пад адной народнай назвай аб'ядноўваюцца розныя расліны.

У адказы на пытанне № 1600, відаць, трапілі назвы асакі берагавой (Carex riparia), а таксама чароту ляснога (Scirpus sylvaticus), зрэдку асакі чорнай (Carex nigra). Да апошняй, відаць, адносяцца назвы з коранем *сін-* (*сінюха* і інш.), а таксама назвы *чарнагалоў, чарнагалоўка, дуброва.*

Не картаграфуюцца назвы, якія, на наш погляд, адносяцца да нейкіх іншых раслін (*мячэўнік, хвошч* і інш.).

*асака́* 8—9, 19, 21, 22, 24, 25а, 50, 51, 53, 55, 57, 60, 61, 63, 66, 67 *(рана вясной праскакае)*, 69, 80, 104, 105 *(гэта асака салатавенька)*, 118, 119 *(маладая, ядуць коні і каровы)*, 130, 139, 141. *осока́* 106—108, 134, 137. *усука́* 98. *асо́чка* 85. *маладая асака́* 125. *мылыдая сыка́* 40, 41, 43. *плаву́ча асака́* 116. *рачна́я асака́* 69. *сіня асака́* 135. *сьветлая асака́* 6. *шыро́кая асака́* 4 *(як пліснік, расце па берагах, ядуць каровы)*. *асъка́* 5, 41. *асыка́* 40.

*я́жджар* 1, 7, 8 (пераважна), 8а. *я́жджыр* 35. *ко́нські яжджа́р* 14.

*я́жджаль* 10 *(коні добра ядуць; самая первая трава)*, 11 *(я́жджаль конім даюць)*, 31, 37 (трад.), 73. *я́жджъль* 33. *я́жджыль* 32. *я́жджэль* 117. *я́жэль* 74.

*ляжджа́й* 47, 49а, 51, 100.

*ля́жай* 70, 72 *(самы першы вырастая)*, 77.

*ляча́й* 121 *(расьце ранняй вясной)*, ечэ́й 112. *ля́чай* 127.

*ляжджо̂ўнік* 49. *хляшча́й* 54. *ляча́й* 106. *лячая* 122. *ляча́* 122.

*сінюха́* 93, 94. *сынюга́* 94а, 95 *(до рызаку похожэ)*, 106, 108.

*сыня́вка* 92. *сіню́шка* 94.

*смы́чка* 2, 20, 45 *(смычка расьце больш за асаку і мае шырокія сцяблэ)*, 57 *(ранння трава)*, 59 *(мякка асака)*. *смо́чка* 75.

*смычаўка* 58 *(вылезла с пат сьнегу)*. *смуча́й* 114. *смыча́ль* 124.

*раза́к* 126, 135. *рыза́к* 132.

*разу́ха* 138. *рэ̂зуха́* 113. *рэзу́ха* 131. *разуха́* 138.

*нюнькі* 16 *(осока заячья)*, 17, 39, 42, 44, 71, 79, 81, 83, 84, 86, 88, 89, 123.

*чо̂рно̂го̂ло́в* 90, 95. *чърнъгало́ў* 15. *чэрноголо́ў* 101. *чарнагало́ўка* 23.

*дубро́ва* 96, 101.

Адзінкавыя: *іксва́* 3 *(па балотах найскарэй расцець)*. *ячме́нка* 4 *(яна мяккая)*. *куню́тка* 23. *аблаву́ха* 36. *паплаўня́* 38. *цыбу́лька, цыбу́льнік* 54. *ячме́нка* *(первая травіца)* 65, 99. *скоросьпе́йка* 102. *поплаву́ха* 103. *поплаву́шка* 103. *плавуха́* 110. *даўгуне́ц* 111. *молодзіцы* 120. *молодзі́чнік* 120. *поплаву́ха* 132. *бабро́ўнік* 142.

Адсутнасць назвы: 18, 26—30, 34, 46, 48, 52, 64, 68, 76, 91, 96а, 97, 115, 126, 128, 133, 136.

Адведзены: *мя́кацiна* 52а. *плясьня́* 56. *ляпясьню́х* 62. *мячэ́ўнік* 78. *плюшня́к* 82. *хвошч* 87. *тонкону́* 140 *(разам з асакой росце)*.

## Карта № 268

# РАЗАК (Stratiotes L.)

№ 1605 «Я. н. разак (расце на ціхай вадзе): разак, парэз...»

Картаграфуюцца назвы разаку Stratiotes L. На карце паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах, некаторых фанетычных рысах. Назва *разакі* картаграфуецца як *раза́к*, назвы *мута́рэз, мударэ́з* — як *матарэ́з*, назвы *вадзяны́ асо́т, азёрны асо́т, рачны́ асо́т* — як *асот*, назвы *вадзяна́я асо́та, азірна́я асо́та* — як *асо́та*. Адводзяцца ад картаграфавання назвы: *маўра́, асака́, асака́-рязу́ха, асака́ дзікая, асака́ рэ́зкая, рэ́зкая трава́, вадзяна́я трава́, плюшча́й, плюсня́к, тро́снік, плаву́шка, бадзя́га* (не адносяцца да тэмы карты).

*раза́к* 2 *(разакі цягалі, ён як альвас, расце у рацэ)*, 3 *(расце на дне возера, не паднімаецца)*, 19 *(асака дзікая, рукі рэжа, на рудзе расце)*, 21, 23, 24 *(расце у балоці)*, 25 *(падобны да альясу)*, 28, 30, 31, 36, 38, 49а, 50, 52а *(па далінах, па возеры, гострая трава)*, 54 (у в. Харашкі), 59 *(асака рэзкая)*, 61, 65, 67, 74—76, 77 *(у рацэ расце)*, 88, 99, 101, 104, 106, 115, 116, 120, 122, 125, 126 *(разак як і асака, толькі более дэбёлая)*, 128 *(расце у вадзе, сільна рэжа ногі)*, 130, 138 *(до чорта е разаку на балоці)*, 139, 142. *рiза́к* 16, 83. *рыза́к* 8а, 9 *(пальцы рвець, а каровы як язык парэжыць, бальшы такі с лісцямі)*, 40, 73 *(у балоці, парэжам руку, як нажэм)*, 85, 97, 103, 132. *рэза́к* 94, 98, 102, 107, 108, 113.

*парэ́з* 10, 11, 42, 43, 78. *парэ́з* 10. *паре́з* 79.

*матарэ́з* 110. *матарэ̂с* 110. *мутарэ́с* 49. *мударэ́с* 55, 58. *мытаре́з* 79, 86.

*рэ́знік* 68, 69 *(на альяс падобны)*, 118, 124, 129.

*серпарэ́знік* 123, 140. *сірпарэ́знік* 82.

*рязу́ха* 14. *різу́ха* 17.

*рызы́й* 90, 131.

*казарэ́с* 6. *(казарэ́знік* 6. *разагу́с* 29. *рэ́зка* 119.

*асо́т* 13. *осо́т* 114. *вадзяны́ асо́т* 1, 51 *(падобны да кактуса)*, 111. *выдзянэ́й асо́т* 16 *(шырсткая трава)*. *азярны́ асо́т* 8, 29. *озірный осо́т* 94а. *рачны́ асо́т* 66 *(калючы, яго свіням не збіралі)*.

*асо́та вадна́я* 4. *асо́та азірна́я* 4.

Адзінкавыя: *пласку́ха* 93 *(вадзяная)*. *лэшча́й* 94а. *купа́к* 96. *лучэй* 109.

Адсутнасць назвы: 5, 7, 12, 15, 20, 25а, 27, 35, 39, 41, 44, 45, 62, 70, 71, 81, 84, 89, 91, 92, 96а, 120а 127, 133, 134, 141.

Адведзены: *маўра́* 18. *асака́* 48, 57, 117. *асака́-рязу́ха* 117. *асака́ дзікая* 19. *асака рэ́зкая* 37, 80. *асака́ рэ́ская* 59. *рэ́ская трава́* 22, 52. *вадзяна́я трава́* 46. *плюшча́й* 53. *плюсня́к* 60. *тро́снік* 54. *плаву́шка* 105 *(засцеліцца на вадзе, яе коні вельмі любяць)*. *бадзя́га* 139.

## Карта № 269

# БАБОЎНІК (Menyanthes trifoliata L.)

№ 1601 «Я. н. бабоўнік: бабок, баброўнік, бобрык, бобка, бобік, трылiснік...»

Картаграфуюцца адрозненні па каранёвых марфемах і суфіксах у назвах бабоўніку.

Назвы *бабо́ўнік тавáрачы, бабо́ўнік глухі* і інш. картаграфуюцца як *бабо́ўнік.*

*бабо́ўнік* 1, 2, 3 *(тры лісты у яго)*, 4 *(горкі, п'юць ад жывата)*, 5—7, 8а, 9 *(кругла лісцейка)*, 10 *(белым цвіціць)*, 11—18, 21, 24 *(дзікі, лугавы)*, 27 *(ліст як у жаўтушкі)*, 28—30, 32, 33 *(у балоці расцець)*, 34—36, 38, 39, 40 *(пу балотах расцець)*, 41—44, 63, 70, 72 *(на балоце расце)*, 73 *(у балоце)*, 75, 77—79, 80 *(тры лісцікі)*, 81—85, 86 *(пахожый на боб)*, 87, 89, 110—112, 115, 118, 120—124, 126 *(на нізах расце)*, 127—129, 130 *(на балоце расце)*, 140. *бобо́ўнік* 113 *(трохлісны)*, 114, 117, 134, 136, 137 *(трохлістовы)*, 138. *бубо́ўнік* 106. *бобызу́нік* 107 *(по лугызь росце)*. *бобі́вныk* 96а, 108, 131, 109 *(балотная расліна)*. *бобу́внык* 132 *(болотня рослiна)*. *бобо́внык* 97. *бубі́внік* 98. *бобэ́внік* 101. *бобэ́ўнік* 102, 103. *бабо́ўнік таварачы* 135 *(тры лісты)*. *бабо́ўнік глухі* 119 *(косяць рагатай худобе)*.

*бабо́ўняк* 94. *бобі́вняк* 97, 103. *бобу́вняк* 94а (у болоце). *бобы́вняк* 95 *(болотная расліна)*. *бобовнык* 91, 96.

*бабо́к* 19, 20, 22, 23, 25, 25а, 26, 31, 37, 45 *(расце каля рэчкі ў тры лісточкі кругляньнкія)*, 47 *(лекаво зеле; скаціна, катора бабок есць)*, 49—50, 51 *(калісь курылі мужчыны бабок, як махорка была дарагая)*, 52—56, 57 *(ад сухотаў, ад язвы жалудка)*, 58, 59 *(трохлістовы, расце на балоце)*, 60, 61, 62 *(горкі)*, 64, 66, 67 *(горкі, тры лісты, расце ў твані, лечаць ад сухот)*, 68, 69, 71, 74, 76, 93 *(ад кашля)*, 99, 100, 104 *(горкі, п'юць ад кашлю)*, 105 *(цвяткі беленькія)*. *бабо́к* 94а, 106 *(на болоці)*, 116, 117. *дзікі бабо́к* 65.

*бабо́ва трава́* 65. *бо́бок* 90. *бо́бык* 92.

*трылíснік (цвіце як кукалькі)*, 53, 88.

*казя́тнік* 8, 9 *(на тры лісты)*, 28 *(ад кашлю вараць, горкі што палын)*.

Адзінкавыя: *во́баратнік* 26. *бабро́ўнік* 142.

## Карта № 270

# ДЗЕДЗВЕЛЬ (Sonchus paluster L.)

№ 1602 «Я. н. расліна, якая расце кустом каля балоцістых месц (з шырокімі зубчастымі лістамі, ужываецца на корм свінням): хробуст, храбуст, дзедзьвіль, дзядзеўнік, асот...»

Картагра́фуюцца назвы бадзяка. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і некаторых фанетычных асаблівасцях.

Назва *грабу́ст* картаграфуецца як *храбуст*, назва *хро́пуст* — як *хро́буст*, назвы *дзя́дзеўнік, дзя́дзельнік* — як *дзядзе́ўнік*, назвы *лясны́ асо́т, бало́тны асо́т* — як *асо́т*.

Не картаграфуюцца назвы, якія, на наш погляд, адносяцца да нейкіх іншых раслін.

*хро́буст* 20, 27, 50, 52а, 56—58, 60, 61, 64, 65, 77 *(расце у балацянках, у мокрых мястах)*, 100, 105. *хро́пуст* 66 *(ён крохкі, пры бары ў балоце расьце)*, 77 *(расце ў балацянках, у мокрых мястах)*. *хро́баршч* 22 *(па балатах, па крынічках расце, як бацьвінны ліст, рэзаны толькі; халаднік робяць)*. *хро́бушч* 111.

*храбу́ст* 45 *(расьце на балотах, у мокрум месьці, сьвіням даюць храбуст)*, 46 *(па храбу́ст хадзілі)*, 51 *(расце па лугох, лісьце шыроке, вырэзанэ; свіней каліcь кармілі)*, 53, 54, 59 *(шырокія лісты з зубамі)*, 90, 93, 94. *хробу́ст* 91, 96, 131. *хрубу́ст* 92. *грабу́ст* 52.

*храбу́сьнік* 20, 27. *храпу́шнік* 121.

*хро́пытнік* 82. *хро́пасьнік* 116.

*дзядзе́ўнік* 2, 6, 10, 11, 24, 25а. *дзя́дзельнік* 9. *дзя́дзеўнік* 9 *(вясной на корм ідзець, расьцёць каля берагоў у балоце, цьвіцець белым цветам)*.

*дзядо́ўнік* 1 *(сьвіням збіралі)*, 7.

*дзе́дзьвіль* 28—33, 35 *(ліст як у храноўніка)*, 42 *(лісьця длінныя, зубчатыя)*, 74. *дзе́дзьвель* 70. *дзе́дзвіль* 37, 73 *(кармілі свіней)*.

*дзе́дзвір* 14, 17.

*лесавы́я дзяды́* 69. *дзед* 86. *дзяды́* 87. *дзе́дзьва* 68.

*дзя́гіль* 10. *дзя́гъль* 43. *дзягі́ль* 20.

*асо́т* 13, 23, 36 *(лісце разное, крохкае, свінням рвуць)*, 48, 49а, 63, 75, 78, 79, 82, 83, 85, 87, 88, 94, 96а, 106, 107, 114, 120, 128, 130, 136, 141, 142. *асо́т азярны́й* 7. *асо́т выдзянэ́й* 16. *лясны́ асо́т* 8 *(яго збіралі і секлі свінням)*. *дзікі асо́т* 9. *сот* 89, 122. *отцо́т* 101.

*лагасі* 3. *лаге́сь* 3 (адз. л.), 4 *(нарвала лагасёў і накарміла свіней)*.

*скрыпе́ль* 36 *(разное, крохкае свінням рвуць)*.

Адсутнасць назвы: 5, 12, 15, 18, 19, 25, 26, 34, 39, 44, 55, 67, 71, 72, 76, 80, 81, 84, 95, 97, 99, 104, 110, 112, 113, 115, 119, 123, 125, 129, 134, 137, 140.

Адведзены: *храбу́ст* 19 *(назва другой расліны — баршча)*, *хро́буст* 105 *(у вагародзе расьце, у гурці кладом, сьцеблялец вішневаты, маленькі лісток)*. *гу́скі* 21, 40, 118. *раза́к* 38. *асо́т* 41 *(высокій, калючый, у жыці расьцецъ)*, 128 *(пад плотам расце)*. *осо́т* 126 *(у поле расце)*. *мяду́ніца* 40 *(каля балот расьцецъ)*. *па́раднік* 47. *бу́хвіца* 49. *во́барацень* 53. *бабо́к двайны* 62. *гу́ска* 76. *глуха́я гу́ска* 76. *пары́ла* 72 *(цвет пахучы)*. *куба́ркі* 81. *петушкі* 81. *трылісні́к* 85. *капту́р* 86. *смоктуны́* 94а. *мулуче́й* 98. *молочэ́й* 103, *ля́скаўка* 102. *жывокіст* 108. *лопу́х* 109. *бабо́ўнік* 113. *тру́йнык* 113. *тру́йнык* 132 *(мае тры лісты)*. *гавэ́с* 133. *бабо́ўнік сьвіня́чы* 135. *лапу́пішнік* 138 *(лілія)*. *до́кат* 139. *ла́пкі* 139.

## Карта № 271

# РАСКА (Lemna minor L.)

№ 1603 «Я. н. раска: раска. жабурэнне, шалягі...»

Картаграфуюцца варыянты назваў раскі. Паказаны ўтварэнні ад розных каранёў, словаўтваральныя і некаторыя акцэнталагічныя адрозненні.

Формы адзіночнага і множнага ліку картаграфуюцца аднолькава. Як *ра́са* картаграфуецца *раса́*, як *каро́ста — вадзяна́я каро́ста*, як *нацíна — вацíна*.

*ра́ска* 9 *(маленькія лісточкі і маленькі белы цвет, а корні бальшыя; яе сушаць і п'юць жэншчыны)*, 10, 11 *(у вадзе плаваіць)*, 28, 31, 36, 42, 44, 70, 71, 74, 75, 81, 82, 85 *(расце ў рэчцы)*, 88, 116, 119 *(паверх вады плавае)*, 120, 121 *(па канавах расце)*, 122—124, 125 *(у крыніцах было многа, свінням яе давалі)*, 126, 128, 129 *(засцілае ваду ў балоце)*, 130, 132, 139, 140, 142. *ря́ска* 41, 79, 84, 86, 87. *ра́зка* 43.

*ра́са* 24 *(расцець у вадзе)*, 30. *раса́* 51, 66, 108, 112. *роса́* 109. *ръса́* 73 *(у расу́ уплыў і упутаўся)*.

*жабу́р* 67. *жабуры́* 52.

*жабурэ́нне* 45 *(у стаялуй вадзе больш, у азёрах дзе па краях)*, 46, 65, 98, 106, 115, 117. *жабурэ́ньe* 101, 135. *жабурэ́не* 94, 138. *жабурэ́ння* 67, 98, 104, 126, 136, 142. *жабурэ́ня* 54, 59 *(дробная зелень)*. *жабурэ́ннё* 99. *жабурэ́нё* 50, 53, 60, 62. *жабуры́нне* 92, 97, 98. *жабуры́ння* 63, 70. *жабуры́ньe* 107. *жабурызе́нне* 93 *(бы лучка на вадзе)*. *жобуры́нне* 96а. *жабори́нне* 90. *жабурíнне* 97. *жубурíнне* 91. *жаборíнне* 103. *жэбурэ́нне* 137.

*жабуры́на* 20. *жабурэ́йка* 120.

*жа́бернік* 53. *жабурны́к* 131.

*цíна* 1, 2, 4 *(граблямы насцягаюць і свіней кормюць, курам даюць)*, 5—7, 8 *(цíну любюць вуткі, свіням яе даюць)*, 15, 17, 24 *(на паверхні вады)*, 25а, 32, 33, 35, 40 *(яна поверху стаіць на вадзе)*, 68, 69.

*ціна́* 13, 14.

*нацíна* 21. *нацíня* 3 *(качкам збіраюць)*. *вацíна* 26.

*пуплаве́нь* 34. *плаву́шка* 96. *паплаву́шка* 100. *поплаву́шка* 102. *поплаву́ха* 107. *плавуне́ц* 111. *пла́ўня* 118. *плаўкí* 134.

*каро́ста* 37, 49а, 58, 75 (трад.), 80. *вадзяна́я каро́ста* 58.

Адзінкавыя: *бусло́ва рэ́па* 47. *зе́ліва* 54. *жа́біна капу́ста* 56. *кракацíнне* 57. *бало́тная цень, жа́біна ікра́* 69. *плесня* 77. *маўра́* 83. *плíсня* 94а. *сачэ́віца* 102. *сачэ́ўка* 102 *(шо плавае)*. *жуко́к* 113. *жучкі* 113. *ра́пчыкі* 118. *ладо́шнік* 141.

Адсутнасць назвы: 8а, 12, 16, 18, 19, 22, 23, 25, 29, 48, 49, 72, 76, 89, 105, 110, 133.

Адведзена: *маўра́* 25 *(расце на дне ракі, доўгія канцы)*. Відаць, нейкая іншая расліна.

## Карта № 272

# АЕР (Acorus calamus L.)

№ 1606 «Я. н. аер: аер, аір, яер, явар, явер...»

Картаграфуюцца назвы аеру. На карце паказаны адрозненні па каранях асноўных фанетычных рысах і суфіксах. Назвы *аíр, яíр, гае́р* картаграфуюцца як *ае́р*, назва *аві́р* — як *аве́р*, назвы *я́гар, агí р* — як *аге́р*, назва *я́рый* — як *я́рай*, назва *арыннік* — як *арэ́йнік*, назвы *я́рнік, йі́рнік, і́рнік, ве́рнік* — як *е́рнік*, назва *пле́шнік* — як *плíшнік*, назва *сво́йскі плю́шнік* — як *плю́шнік*, назвы *плышня́к свíйськый, плысня́к свы́йськый* — як *плешня́к*, назвы *сво́йская лепеха́, своя́ лепеха́* — як *лепеха́*, назвы *па́нны, па́ны* — як *па́нна*. Адводзіцца назва *я́вар* у п. 110 (абазначае іншую расліну).

*ае́р* 17, 39, 49, 52а, 53, 55, 56, 61, 62, 100, 107. *а́ер* 4, 19, 20, 25а, 57. *а́яр* 18, 40 *(на сухім не расце, йдзе такое балотца ня топкыя)*, 63. *аíр* 1, 2 *(у аіры бычкі бываюць доўгія, шылаваценькія атожылкі)*, 4, 5, 7—9, 10 *(даўней аір па чыстаму памосту слалі)*, 11 *(аіру на пол наслала)*, 12—15, 21, 22, 29, 32—36, 41, 45, 51 *(пахучы натта)*, 54, 67, 85, 88, 99, 139. *а́ір* 28, 30, 87, 89. *яе́р* 3, 53, 60, 101. *я́ер* 23, 80. *яíр* 37 *(душысты корань, лісты як у касача)*, 79. *ее́р* 102. *гае́р* 48, 94.

*я́вер* 57 *(душыстыя карэнні)*, 59, 80. *я́вір* 26, 31, 36, 38, 42, 74, 75, 78—81, 82 (нов.), 84.

*аве́р* 49а, 57. *аві́р* 47 *(на падлогу пасыпалі, кап у хаці пахло харашэ)*. *а́вяр* 130.

*я́вар* 24, 25, 27, 58, 64, 66 *(духмяны)*, 68, 69 *(кідалі на падлогу)*, 86, 88, 123. *я́вор* 136. *я́вып* 43, 44, 83, 85—87.

*аге́р* 46 *(агеру накасіў, падсцёл будзя)*, 48. *агí р* 6. *я́гар* 3, 20 (трад.). *я́гар* 3.

*я́рай* 70, 71, 76, 77, 124, 126, 128 *(на вадзе расце, яго ядуць)*. *я́рый* 125 *(на вокны ставяць перат Тройцай)*.

*гарый* 94а. *харíй* 96 *(ны цвытэ, на насінне — як палэць, зылёный)*.

*арэ́й* 104 *(на сёмуху кідаюць на палы)*, 111.

*арэ́йнік* 72. *арыннік* 116.

*е́рнік* 117, 120а, 127, 137. *я́рнік* 77, 119 *(духмяны, каля кораня ружовае)*. *йí рнік* 117, 120. *і́рнік* 141. *ве́рнік* 127.

*йір* 16, 67 *(душысты розавы корань)*, 140.
*плюшнік* 65 *(аеровы корань, а верх — плюшнік)*, 67, 105, 111, 139, 141, 142. *свóйскі плюшнік* 122 *(сільно пах мая)*.
*плі́шнік* 66. *плішны́к* 91. *плышны́к* 86а. *плешні́к* 114.
*плэшня́к* 94а. *плэ́шняк* 132 *(свытлішый за куньськый, хліб пыклы)*. *плышня́к свійськый* 97. *плы́сня́к* 95. *свыйськый плы́сня́к* 95.
*плюшня́* 113.
*лэ́пэх* 103, 109.
*лепеха́* 114. *лэпэха́* 131. *лэпэ́ха* 98. *лапэ́ха* 98. *лепеха́ свóйская* 134, *своя́ лепеха́* 134.
*па́нна* 118. *па́нны* 81. *па́ны* 133. *паху́шча па́нна* 135 *(пахне корэнь, не цвіце)*.
*бапкі́* 90. *бабны́к* 92.
*пі́шчыкі* 93. *пі́каўкі* 102 (адз. *пі́каўка*). *пішчэ́* 106 *(пахнючые)*.
*ню́нькі* 77 (переважна так называюць), 80 *(найбольш гаворацъ, як тройца, то кідалі па двару, у хатах)*, 82 (трад.).
*тата́рнік* 133, 137, 138.
Адзінкавыя: *а́лер* 52. *каро́ўкі* 72 *(душысты розавы корань)*. *кардо́ўнік* 87. *кыса́цікі* 89. *рэбрэ́й* 108.
Адсутнасць назвы: 112, 115.
Адведзена: *я́вар* 110 *(расце на бярозя кублом, зялёныя лісточкі)*.

## Карта № 273

# ПЛЮШЧАЙ (Sparganium L.)

№ 1608 «Я. н. расліна падобная да аера: плюснёг, плюшня, плюшнік...»
У варыянтах назваў плюшчаю на карце паказаны адрозненні па каранях, фанетычных рысах і суфіксах. Азначэнні ў складаных назвах пры картаграфаванні не ўлічваюцца. Назвы *плішнік, плешнік, блюшнік* картаграфуюцца як *плюшнік*, назвы *плюснік, плеснік* — як *плі́снік*, назвы *плэшняк, плюсняк, плышняк жебськый* — як *плісняк*, назва *ядір* — як *я́джыр*, назва *мычэўнік* — як *мячэ́ўнік*, назва *веха* — як *вех*.
Не картаграфуюцца назвы: *блёкат, раса́, трасні́к, ячме́нка, ярэ́й* у п. 93, *рагаза́, рагажа́* (абазначаюць іншыя расліны).
*плюшч* 1, 46, 84, 86, 89.
*плюшча́й* 23, 31, 43, 46, 51, 53, 54, 58 *(жоўтым цвіце)*, 59 *(лісце, як касачэ, шышка чырвоная, цёмна-карычневая)*, 61, 63, 64, 69 *(падобны да явара)*, 74, 119 *(як ярнік, корань белы і не пахне)*, 121, *плюшша́й* 76.
*плюшчэ́й* 70, 73 *(падобны на явір, ад яго вельмі дохлі каровы)*, 74, 75, 77, 79—81.
*плю́шнік* 11, 28, 36, 38, 65, 82, 83, 88, 110, 115, 116, 120, 122, 123, 125, 138 *(падобны да аеру)*, 140. *плюшні́к* 67 *(падобны на явер)*, 135 *(без запаху, цвіце жоўтым)*, 136. *плюшнык* 92. *ко́нскі плюшнік* 111. *блюшны́к* 90. *плі́шнік* 66. *плышны́к* 96 *(цвытэ жовтым, сывый, в болоты)*, 96а. *плэ́шнык* 108.
*плі́снік* 37 *(як яір, лісты вузей, няма шышак, корань белы, не пахне)*. *плісні́к* 72, 104. *ко́нскі плі́снік* 31. *пле́снік* 107. *плесні́к* 135. *плюсні́к* 30. *плю́снік* 124.
*плюшня́к* 82, 118, 126 *(як я́рай, толькі мяккі)*, 127, 128 *(высока расце, пуская краскі, пухоўкамі называюць)*, 130.
*плі́сня́к* 23. *плысня́к* 95. *кынськый плы́сня́к* 95. *плюсня́к* 60. *плэшня́к* 94а *(ны цвітэ)*. *плы́шняк жéбськый* 97. *ку́ньськый плэ́шняк* 132.
*плюха́* 137. *плюха́ боло́тна* 105.
*плюшчэ́ўнік* 34. *пло́шчай* 47 *(плошчай пашці не адлічыш ад авіра, толькі што плошчай цвіце, а авір — не)*. *плюсня́* 56. *пляснюшо́к* 62. *плюшча́йнік* 71. *плюснёк* 85 *(падобны явару, толькі белыя лісты)*. *плышчына́* 92. *ко́нская плюшня́* 113. *плюс* 120а.
*лепеха́* 100. *лэпэ́ха* 98. *лапэ́ха* 98. *ко́ньська лепеха* 114. *кі́ньска лэпэха́* 131. *кі́ньска лэпэха* 98.
*ляпаснюх* 62. *лепса́* 94. *лепяшня́к* 99. *лэпэшні́к* 133.
*глухі́й аéр* 17. *а́ір* 87. *глухі́й аір* 14.
*ко́нскі я́вар* 25 *(расце ў балоце, жоўтым цветам цвіце)*. *ко́ньскі авéр* 49а. *па́нны е́рнік* 117. *па́нны йі́рнік* 117. *ко́нскі е́рнік* 137.
*я́джыр* 29 (руск. *ежеголовник*). *ядір* 109 *(цвэтэ жовтым цвітом, есця стручкы, на стручках колісця, гэто чортовы грошы)*.
*каса́ч* 20, 24, 52 *(жоўтым квітня)*.
*каса́чнік* 2, 22.
*каснікі́* 4. *ко́ньськія касакі́* 6.
*пі́каўкі́* 101. *кэ́ньськие пі́каўкі* 102 *(бі огурэчкі ростуць зелёные)*.
*пішчэ́ ко́ньскіе* 106.
*мячэ́ўнік* 5, 8 *(корні — лякарства ат шалу, маладзіком корань пішчыць)*, 21 *(на ім растуць кіе́ўкі)*, 26. *мычэ́ўнік* 32.
*вех* 4. *веха́* 120.
Адзінкавыя: *смы́чка* 19. *гры́знік* 27 *(шырокія лісця, корань у вадзе)*. *за́йцовы гуркы́* 103. *смела́* 134.
Адсутнасць назвы: 40, 45, 57.
Адведзены: *блёкат* 4. *раса́* 9 *(як аір, яна ў вадзе, мяхкая, тоненькія лісты, вада яе гоніць; рэчка ўся расою зарасла)*. *трасні́к* 35. *ячме́нка* 50. *ярэ́й* 93 *(бы пух)*. *рагаза́* 129, 142. *рагажа́* 139.

## Карта № 274

# РАГОЗ (Typha latifolia L.)

№ 1609 «Я. н. болотную расліну з чорнымі шышкамі: кіяшнік, лепеснік, лепеха...»
Картаграфуюцца назвы рагозу. Паказаны адрозненні па каранёвых марфемах, суфіксацыі і некаторых фанетычных рысах.
Назва *кія́ўкі* картаграфуецца як *кіе́ўкі*, назва *кіякі́* — як *кіяхі́*, назвы *кіяшкі́, кія́ш* — як *кіяшэ́*, назвы *чарот, ачарот, чэрэ́т, очэрэ́т* — як *чаро́т*, назвы *траснік, трыснёх, трысцё* — як *трасня́к*, назва *шышка* — як *шышкі*, формы адзіночнага ліку — як формы множнага. Адрозненні па націску не ўлічваліся.
*кіе́ўкі* 5, 6, 25а, 70. *кіе́ўка* 21. *кіеўкі* 21. *кія́ўкі́* 3. *кія́ўкі* 23.
*кіяхі́* 106, 110, 112, 115, 141. *кыяхы́* 108. *кіюхі́* 93. *кыя́х* 108. *бало́тныя кіяхі́* 141. *кіякі́* 72 *(чорныя качалкі* на ім).
*кіяшэ́* 47 *(канава сплош кіяша́мі зарасла.)* *кіяшкі* 139, 142. *кія́ш* 66, 111.
*кія́шнік* 57, 66, 67, 83, 88, 89, 104, 117.
*кіёвачнік* 2. *кію́шнік* 48. *кіёўнік* 86.
*рого́з* 114. *рогі́з* 109.
*рагаза́* 76, 119 (назву ведаюць толькі старыя людзі), 124, 127, 129. *рогоза́* 102, 107 *(росце по выжэрэ)*. *рого́за* 113, 120.
*раго́жа* 120а. *рого́жа* 94а, 96, 103, 122, 134, 135, 138. *руго́жа* 98. *рогожа́* 140.
*була́ўкі* 51, 52. *во́дная була́ўка* 51.
*була́ўнік* 20, 46 *(чорныя булаўкі на вярху растуць)*, 52а.
*бу́лахі* 49. *булашні́к* 94.
*мячэ́ўнік* 7—9. 10 *(лісты як меч і шышкі растуць)*, 11, 24, 29, 30, 33, 36, 37, 40, 43, 68, 73 *(ствалы ўжывалі ў хамутах)*, 74, 75, 77, 79, 81, 82, 118. *мічэ́ўнік* 1. *мычэ́ўнік* 32.
*пухо́ўкі* 4, 13, 14, 28, 78, 80, 85, 87, 123. *пухо́ўка* 35 *(трысніковыя)*, 125, 130.
*пухо́ўнік* 37, 74.
*пу́шкі* 124.
*каты́* 69 *(с катоў падушкі рабілі)*. *катэ́* 56, 60.
*катахе́* 65. *коцяхі́* 101.
*кача́лкі* 71. *качэ́лкі* 131.
*таўкачэ́* 49а, 54. *таўка́чыкі* 55.
*чаро́т* 63, 64, 96 (рэдк.), 105, *(на ім къяшы)*. *чоро́т*, 126. *ачаро́т* *(на балоце бывае ш чорнымі шышкамі)*, 125. *чэрэ́т* *(на чэрэту́ вырастае пушок)*, 133. *очэрэ́т* 137. *чырэ́т* 92.
*чырытя́нка* 90.
*трасня́к* 17, 18. *тры́снік* 14. *трыснёх* 26. *трасцё* 61.
*глухі́ аі́р* 15. *глухі́ аéр* 17. *глухе́й аéр* 39. *дзі́кій аі́р* 14.
*камы́ш* 12. *комі́ш* 137.
*шы́шка* 31. *шышкы́* 96а *(в Жджары наросло много шышо́к)*.
Адзінкавыя: *ню́нькі* 16. *сьці́на* 19. *ванжэ́ўнік* 22. *сі́тнік* 38. *пералётнік* 45 *(чорныя*

*шышкі растуць на чорных стаўбунах). мездрá* 52 *(дзе мéздры растуць, натта топка). плывакé* 54. *ляджáй* 58. *плющáй* 59. *пляснюх* 62. *кардóўнік* 84. *гáлкі* 116. *лучэ́й* 132. *авéчачкі* 139.

## Карта № 275

# КАТАХІ РАГОЗУ

№ 1610 «Я. н. чорныя шышкі на балотнай расліне: катахі, кіяхі...»

Картаграфуюцца назвы катахоў рагозу. Паказаны адрозненні па каранях, словаўтваральных элементах і некаторых фанетычных асаблівасцях.

Назвы *кіякі, кіюхі, кіях, кіюх* картаграфуюцца як *кіяхі*, назвы *кіяшкі, кіяш* — як *кіяшы*, назва *кіеўка* — як *кіеўкі*, назва *пухóўка* — як *пухóўкі*, *пурхóўка* — як *пурхóўкі*, назва *каткі* — як *каты*, назвы *кітяхі, кытяхы, кэ́тяхі, костяхы, кытя́х* — як *кацяхі*, назва *таўкачыкі* — як *таўкачы*, назва *качáлачкі* — як *качáлкі*.

Адводзіцца ад картаграфавання назва *кіехі* (не адносіцца да тэмы карты).

*кіяхі* 57, 67, 102, 104, 106, 110, 112—113, 115, 117, 120, 120а, 122, 133, 135—137, 141. *кыяхі* 107. *кыяхы* 108, 109, 132. *з кыяхыэў* 107. *кіюхі* 48, 93. *кіякі* 115. *кія́х* 67 *(з кіяхоў рабілі падýшкі, хамуты)*, 102, 116, 135. *кыя́х* 108, 109. *кію́х* 48, 93.

*кіяшы* 66, 67. *кіяшэ́* 47. *кыяшы* 105. *кіяшкі* 142. *кія́ш* 66, 111. *кыя́ш* 105.

*кія́ўкі* 23, 25, 57. *кіяўкі* 3.

*кіяўкі* 22. *кіеўка* 21.

*кіёўкі* 2, 6, 8а, 24, 25, 25а, 70, 84, 89. *кіёўка* 5, 21, 25а, 86.

*кіяшнік* 66. *кіёўнік* 68. *кійкі* 83.

*пухóўкі* 4 *(збіралі на падýшкі)*, 9, 13, 14, 30, 32, 36, 43, 77, 79—83, 87, 123, 124. *пухóўка* 17, 31, 35, 37, 73, 75, 78, 125, 130.

*пурхóўкі* 1, 8. *пурхóўка* 1.

*пушкі* 125 *(чорныя шышкі з ачарота)*. *пýшкі* 124.

*пухóўнік* 28.

*каты* 119, 121, 126. *катэ́* 59, 62 *(чорныя)*, 64, *катэ̂* 60, 61.

*катахі* 85 *(чорныя шышкі)*, 100. *катахé* 45, 46 *(коцікі чорныя)*, 65.

*кацяхé* 98. *коцяхі* 101. *кітяхі* 134. *кытяхы* 103. *кэ́тяхі* 131. *кытя́х* 103. *котяхы* 96.

*кóцікі* 56, 59, 80, 111, 127, 129.

*булáўкі* 51, 52 *(як апарыш руку — пушком прысыпаюць, добра гоіць)*, 58. *булáўка* 51, 52, 58.

*булáўнік* 20, 52а. *бульдóўкі* 82. *булдóўкі* 88.

*бýлахі* 49. *булашнік* 94.

*таўкачы* 57, 118. *таўкачэ́* 49а, 54, 55. *таўкáчыкі* 27, 50.

*качáлкі* 26, 68, 69 *(с катоў)*, 71 *(етымі качалкамі, пухам засыпаюць раны, пух прыкарэў, а тады аблузаяцца і корычка сыходзіць)*. *качалкі* 90. *качáлачкі* 72.

*шышкі* 8а—10, 12, 18, 32—34, 40 *(на мячэўніку растуць, некаторыя з етых шышык падушкі насыпаюць)*, 42, 63, 137. *шышкы* 96а. *шышка* 11, 17, 33, 127.

*гáлкі* 116. *гáлкы* 96.

*качаны* 94а, 97.

*мячэ́ўнік* 28, 79.

Адзінкавыя: *ваўцкі* 16. сьціна 19. *паннýшкі* 29. *калатóўкі* 70. *бóйкы* 95. цыганы 97. *казакі* 99. *буяхі* 114. *головачэ́* 137. *балáбушкі* 138 *(чорныя шышкі)*. *авечачкі* 139.

Адведзена: *кіехі* 126 *(насенне кукурузы, куры кіехі поклевалі)*.

## Карта № 276

# ЧАРОТ (Phragmites communis Trin.)

№ 1612 «Я. н. чарот: чарот, трыснёг, трысцё, траснік...»

Картаграфуюцца назвы чароту. Акрамя лексічнага проціпастаўлення *чарот* — *траснік*, на карце паказаны некаторыя фанетычныя рысы: наяўнасць пратэтычных галосных, характар рэалізацыі націскных галосных.

Як *трыснік* картаграфуецца *трóснік*.

*чарóт* 8а, 10 *(чарот шуміць)* 11 *(насек чарóту)*, 27 *(чулі слова чарот)*, 31, 36, 47 *(возера чаротам зарастая больш і больш)*, 49, 54, 56, 61, 63, 64, 66 *(пры рацэ расце кругом)*, 67 *(крылі хаты)*, 68, 69 *(уверху мяцёлка)*, 70—72, 74—76, 77 *(жалі чарот і крылі крышы)*, 80 *(вялікі, з мяцёлкай як брыца, крылі стрэхі)*, 81, 82, 100, 102 *(чаротóм пошывалі стрэ́ху)*, 104 *(расце дзеля рэчкі)*, 105 *(а на ім мяцёлка)*, 111, 112, 115, 116, 118, 119 *(крылі ім крышы, стаялі па 50 лет)*, 120а, 121—123, 124 *(жыто як стосьць, стаіць чаратом)*, 125 *(і чарóтам крыюць)*, 126, 127, 128 *(чароту колькі хочаш пад рэчкай)*, 135, 136, 139, 141, 142. *чарôт* 65, 93, 110. *чарёт* 86, 87, 89. *чырóт* 95, 96, 97, 103, 132, *чэрóт* 94, 94а, 101, 103, 108, 109, 136. *чярёт* 117. *чорóт* 140.

*ачарóт* 54, 62, 106, 125, 126 *(высокі, з лапкамі, з асакою умесце расце)*, 130. *очарóт* 138 *(во это очарот порос — з два мэтра будзе)*.

*чарэ́т* 92. *чірэ́т* 90. *чырэ́т* 92. *чэрэ́т* 107, 113, 114, 133, 134, 137.

*очэрэ́т* 131.

*чырíт* 91, 92, 95 (рэдк.). *чірíт* 96а.

*чарóта* (ж.) 98. *чэрóта* 98. *чэ́рат* 129.

*трось* 1, 4 *(яго жнуць, карой кормюць)*, 12.

*трасцё* 53, 60, 61. *трысцё* 21, 24, 50, 59 *(высокую і з мяцёлкай называюць пальмай)*. *трассё* 16.

*траснік* 5, 6, 8а, 9, 15—17, 25а, 28, 29, 31—36, 37 *(балотная расліна да двух метраў даўжыні)*, 38, 39, 40 *(ён кыла возіра і па берагу, а то пу балоту)*, 41 (слова вядома з песні), 42—44, 45 *(траснікý на балоці нарвалі)*, 46 *(яна с траснікá выскачыла)*, 48 *(тут траснік расце)*, 53, 55, 73, 78, 79, 83 *(расце ў балоце, высокая трава з шырокімі лісцямі)*, 84, 88. *тріснік* 89 *трыснік* 3, 8, 30, 37. *тряснік* 32.

*трасня́к* 18, 52 *(калісь трасняком пакрыты дамы былі)*. *тріснáк* 52.

*трасня́х* 19, 23. *трысня́х* 22, 58 *(у балоце расце, крылі страху)*.

*траснёх* 57. *трыснёх* 25, 26. *трыснягý* (Р. скл.)

*тры́снік* 2 *(расце вялікі)*, 8 *(ім крышы крылі)*, 14, 20. *трíснік* 85. *трóснік* 52а.

*трасцінá* 50 (часцéй), 51 *(жалі і крышы пакрывалі)*, 99. *трысціна* 24 *(адна)*.

## Карта № 277

# КАПЫТНІК (Calla palustris L.)

№ 1615 «Я. н. капытнік: белакапытнік, петушкі, какошнік, вуха...»

Картаграфуюцца назвы балотнай расліны — капытніку. Паказаны ўтварэнні ад розных каранёў.

Як *бабóўнік* картаграфуюцца назвы *балóтны бабóўнік, свіня́чы бабóўнік*.

Адведзены ад картаграфавання назвы *вóдная лілія, рóжа*, бо, відаць, яны абазначаюць іншыя расліны.

*капытнік* 3, 5, 6, 10, 11, 13, 38, 47 *(расьце на ніскіх мястах, каля Карчоўкі ёсьць, на Грýдзі)*, 50, 57, 61—65, 66 *(на балóце расьцé, яго рвалі сьвіням)*, 67 *(белы цвет, свіней кармілі раней)*, 70, 71, 72 *(сьвіням сабіралі)*, 77, 85, 93 *(у лесе расце)*, 104 *(свіням давалі, ідóм рваць на балóта капытнік)*, 110, 111, 116, 125, 130 *(у капытніка лісце, як капыт, капытнік свіням рвуць)*, 131. *копітнік* 137. *копытнік* 102, 106, 107, 113, 134. *кôпытнік* 113. *кôпытнык* 90. *копытнык* 96, 96а, 103. *капýтнік* 112, 117, 136. *копýтнік* 140.

*белакапытнік* 18, 40, 46, 88. *белокопытнік* 97.

*кóнскія капыцікі* 14. *кóньскі капыцік* 17. *чóртавы капыцікі* 14.

*петушкі* 9, 28, *(як вуха расце)*, 86, 100, 123, 128 *(петушкі на лугах растуць)*. *пітушкі* 41, 42 *(сьвіньні харашо ядуць)*, 43, 79, 81, 83 *(бувала сьвіньням рвалі)*, 84, 85, 87, 89. *пятушкі* 21. *пэтушкі* 107.

*пéўнікі* 80 *(лісты круглыя як капыт, круглыя шышкі, у балоце расце, на корм свіням)*, 139.

*какóшнік* 26, 30, 31, 33, 35, 36, 37 *(шышка і белы цвет)*, 68, 74, 78, 92, 120.

*бабóўнік* 1 *(даўней свіней кармілі бабóўнікам)*, 8, 120а, 122 *(свіня едзяць)*. *бобóўнік*

106 *(рвуць свінням у лузе)*, 126 *(на нізах расце, здаравенныя лісце)*, 137. *бубо́ўнік* 137. *дзікі бабо́ўнік* 2. *свіны́ бабо́ўнік* 2 *(нада зьезьдзіць у бабо́ўнік для свіней)*. *бабо́ўнік сьвіня́чы* 4 *(нягоркі, сьвіням збіралі, добра елі)*, 135. *бабо́ўнік рачны́* 24. *бабо́ўнік свойскі* 119 *(круглы ліст, белы цвяток, на сярэдзіне цвятка шышачка, свіням на корм пацаць)*. *бобі́вник лэсовы́й* 109. *бубо́ўнік* 137.

*бабо́к* 56, 57 *(збіралі свіням)*, 69, 105.

*гу́скі* 25, 69, 70, 73, *(гускі свіням давалі)* 75, 77, 82, 124, 129.

*гусі́ньнік* 114. *гу́сачкі* 118.

*ву́ха* 49а, 142. *мядзьве́жая ву́ха* 76. *мядзве́чча ву́ха* 123.

*ву́шкі* 46, 54. *у́шкі* 19. *за́йі́чыя ву́шкі* 15.

Адзінкавыя: *жа́біно мыло* 51. *свіны́я агуркі* 52. *во́ўчыя агуркі* 52. *дзікая капу́ста* 58 *(трэба ехаць па дзікую капусту сьвіням)*. *кубáркі* 81. *качы́ньнік* 94. *чэрэвы́чкы* 94а. *лупу́х* 98. *тро́ўнік* 101. *ра́лнык* 108. *за́йцова горі́лочка* 132. *сырдэ́чнык* 132. *сьвінячэ зе́льве* 138.

Адсутнасць назвы: 12, 16, 23, 25а, 27, 29, 32, 34, 39, 44, 45, 48, 52а, 53, 55, 59, 60, 91, 121, 127, 133, 141.

## Карта № 278

# ВІШ

№ 1630 «У якім значэнні ўжываецца слова віш (вішар): а) няскошаная трава, б) старая сухая трава...» № 1631 «Вішэць: сохнуць на пні, засыхаць (аб сенажаці, балотнай траве)...»

Картаграфуецца значэнне і пашырэнне назваў з коранем *-віш-* (і *-вех-*). Супроцьпастаўлены назвы са значэннямі: 1) старая трава, 2) назва расліны, 3) засыхаць на пні (пра траву). Пры картаграфаванні назоўнікаў з коранем *-віш-* паказаны адрозненні па словаўтваральных элементах. Назвы з іншымі каранямі не картаграфуюцца.

Старая няскошаная трава:

*віш* 11, 56, 69, 72, 100, 106, 107, 111, 113, 114, 122, 133—135, 137, 138, 140. *выш* 108.

*віша́* 67, 105, 110, 112.

*віша́р* 10, 66, 75, 93, 116, 120а, 121, 126, 127, 141, 142. *выша́р* 94а, 103, 108, 109, 132. *вышя́р* 95, 96, 103. *выше́р* 97, 98.

*вы́шар* 92. *вы́шчар* 96а. *вы́жар* 90.

*вішэ́й* 99, 101. *віше́й* 133. *вышэ́й* 102, 103, 108. *вышы́й* 131.

*вішуга́* 135, 137.

Адведзены: *асянчу́к* 66, 69. *асянчы́на* 24. *асянчэ́ць* 58. *ваўчы́ца* 58. *на́жур* 98. *нэ́жур* 98. *не́кась* 4, 21, 25, 124. *не́кысь* 35, 84, 85. *не́каш* 52. *не́кош* 94, 124, *нэ́кош* 103. *па́суш* 12, 15, 29, 35, 44, 47, 82, 84, 118, 124. *по́суш* 19, 30, 62. *сухалле̑* 16. *сухасто́й* 85. *суш* 39.

Назвы раслін:

*вех* 1 *(едавітая трава, каля вады расцець, кароў раздуваіць)*, 4 *(трава, якая шкодзіць каровам)*.

*віша́р* 126 *(на нізкіх местах расце, як ярай, толькі кучкамі)*.

№ 1631 засыхаць на пні (пра траву):

*вішэ́ць* 46, 62, 99, 100, 101, 104, 105, 107, 112—115, 137. *вішава́ць* 56. *вішы́ць* 106. *вышíты* 108. *вішарава́ць* 116. *вішэ́ть* 134.

Адведзены: *састо́іцца* 25. *пе́трачь* 50. *жары́ты* 90 *(трава пожаріла на пні)*. *гранну́ты* 92.

## Карта № 279

# БАРАВІК (Boletus edulis Fr.)

№ 1632 «Я. н. баравікі: пашанцэвікі, шчырыя грыбы, дабракі, баравікі, белыя грыбы, справядлівыя грыбы, праўдзівыя грыбы... Адз. лік: баравік, пашанцэвік, шчыры грыб, справядлівы грыб...» АЛА № 450 'белый гриб' (Boletus edulis.) боровик.

На карце супрацьпастаўлены назвы баравіка, белага грыба. Дадаткова выкарыстаны матэрыялы з 1633 і 3312 пытанняў праграмы ЛАБНГ. Адведзены ад картаграфавання, як не адпавядаючыя тэме карты, назвы баравіка, якія абазначаюць яго колер, час і месца росту, таварную якасць, памяншальна-ласкальныя формы тыпу *бэ́русь* 48. *бо́рька* 81, 85 і новую запазычаную назву *бе́лы грыб*.

Назвы *барві́к, барвя́к* картаграфуюцца — як *бараві́к;* назва мн. ліку *до́брыя грыбэ̂* — як *до́бры грыб; праўдзівы* — як *праўдзівы грыб; справядлівыя грыбы́* — як *справядлівы грыб; шчырыя грыбы́, шчыры* — як *шчыры грыб, харо́шы* — як *харо́шы грыб; настоя́шчыя грыбы́* — як *настоя́шчы грыб; бара́вікі* — як *бараві́к;* эліпс *баравы́я* (з *баравы́я баравікі*) — як *бараві́к; до́брыя грыбы́* — як *до́бры грыб*.

№ 1632: *бараві́к* 1—4, 6—8, 10, 11, 17—20, 22—24, 25а, 26, 27, 36, 38, 45, 52, 52а, 53, 57—62 (нов.), 63, 64, 66—72, 75—77, 81, 82, 86, 88, 93, 104, 110—112, 115, 116. 120а, 121—123, 126, 135, 138 (нов.), 139, 142. *быраві́к* 13, 16, 35, 39, 40, 42, 44, 78, 79, 82, 84, 85, 87, 89. *бъраві́к* 5, 8а, 9, 12, 15, 32, 33, 34, 41, 43, 73, 79. *борови́к* 96а, 107, 113, 133, 135 (нов.), 137. *борові́к* 95 (рэдк.), 108, 109, 132. *біраві́к* 25, 82 (трад.). *барвя́к* 21. *бараві́кі* 14, 31, 37, 47, 48, 74, 119, 129. *барві́к* 29. *быраві́кі* 17, 30. *бырыві́кі* 30, 83. *бъраві́кі* 80, 113. *бъръві́кі* 5, 12, 15, 33, 34, 43. *борові́кі* 106, 117, 138. *барві́кі* 6. *бърві́кі* 8а. *баръві́кі* 9.

*грыб* 90 (трад.), 94а, 95, 102, 103, 108, 109, 114, 127, 132, 134, 135, 140. *грып* 50, 55, 133. *гріб* 113, 138. *грэ̂б* 98. *грыбы́* 141. *грыбу́* 115, 117, 136.

*до́бры* грыб 93, 126, 127. *до́бры грып* 65, 69. *до́брыя грыбэ̂* 61.

*дабра́к* 127, 130. *дабракі́* 125, 126, 129.

*до́брык* 119, 124.

*праўдзівы грыб* 21, 94, 107. *праўдзівы грып* 4, 53, 99, 105. *праўдзівый грыб* 90. *праўдзівы гріб* 113. *проўдзівы грып* 51, 133. *праўды́вый грыб* 108. *праўдзівыя грыбы́* 51, 77, 104. *праўдзівыя грыбэ́* 54. *праўдзівые грыбэ̂* 55. *праўдзівы* 53, 54, 62 (трад.), 104.

*праўдзі́вік* 56, 77, 100.

*правды́вэць* 96, 97.

*справядлівы грыб* 67, 92, 120а. *справядлівы грып* 110, 111. *справыдлы́вый* 97. *справэдлэ́вы грэб* 98. *справэдлы́вый грыб* 109. *справэдлівый грыб* 91. *са́мы справядлівы* 137. *справядлівыя грыбы́* 49а. *справэдлы́вы грыбы́* 96а. *шчы́ры грып* 49, 60. *шчы́рыя грыбы́* 46.

*харо́шы грыб* 142. *харо́шы* 127.

*настоя́щі грып* 133. *настоя́шчыя грыбы́* 93.

Адведзены: *падлі́павікі* 37. *вясёлка* 42. *падду́бнікі* 45. *казяке́* 50. *выплыва́ннік* 54. *расава́льнік* 54. *крушы́навік* 74. *козлякі́* 102. *чарнагало́вікі* 127. *жні́ўнік* 135. *міко́льнік* 135 *(Міко́ла не ся́дзе абе́даць без грыба, міко́льнік — ра́нні грыб)*, 140. *чарнагало́вік* 139.

1633: *бараві́кі* 136.

3312: *бараві́к* 60, 118, 140.

*грыб* 94, 107 *(гры́ба нашла́ чы́стого, біе́лого)*.

*до́бры грыб* 118.

*дабра́к* 118 (трад.).

*шчы́ры грыб* 140. *шчы́рый грыб* 94, 108.

Адзінкавыя: *бяро́завік* 118. *шчы́рэнькі до́брык* 124.

АЛА 450: *бараві́к* 2А, 3А, 10А—14А, 16А, 17А, 19А, 21А, 26А, 28А. 30А—35А, 37А, 40А, 44А, 46А, 50А, 55А, 59А, 60А, 61А, 65А, 70, 115 (рэдк.). *быраві́к* 1А, 2А, 4А, 5А, 9А, 20А, 23А—25А, 36А, 39А. *бъраві́к* 7А, 8А, 38А, 41А, 42А. *барві́к* 6А, 18А, 20А. *бырыві́к* 22А. *борові́к* 52А, 56А, 65А. *барвя́к* 15А. *бураві́к* 29А. *борові́к* 52А.

*грыб* 47А, 64А, 51А, 115. *грып* 53А. *гріб* 54А.

*до́бры грыб* 58А, 61А—63А. *до́брыя грыбы́* 30А.

*справэ́длівый грыб* 45А. *справедлівый грыб* 48А.

*шчы́ры грып* 27А, 29А.

*настоя́шчый грыб* 48А.

Адзінкавыя: *чы́сты грыб* 64А.

## Карта № 280

# СМАРЖОК ЗВЫЧАЙНЫ

№ 1635 «Я. Н. першыя веснавыя грыбы: б) раскідзістыя: страчкі, храпачы, вясёлкі...» Адз. лік: страчок, храпач, вясёлка...»

*шчу́ка* ў падобных выпадках — вялікі шчупак (самка), а *кажу́шок* — меншы (самец). Адзначаецца таксама і ўжыванне радам з назоўнікам *кажу́шок* назоўніка жаночага роду *кажу́шка* з падобным размежаваннем у іх канкрэтнай прадметнаснай аднесенасці.

*Сіне́ўка* паводле звестак з іншых крыніц — невялічкі шчупачок (а не агульная назва).

У некаторых выпадках замест адказу на пытанне паведамляецца аб тым, што паблізу няма вадаёма (рэчкі, возера).

**шчупа́к** 1, 2 (у адказе *шчупа́к, шчупакі́*), 3, 4 (трад.), 5, 6, 8 (чулі і такую назву), 8а, 9 (*шчупа́к* большы, а *шчу́ка* малая), 12 (пра малога), 18, 19, 20 (у адказе *шчупа́к, шчупакі́*), 21—23, 24 (у адказе *шчупа́к, шчупакі́*), 25, 25а, 26, 27, 29 (малая рыбіна), 31, 32, 35 *(шчупа́к пыд ваду́ хо́дзіць)*, 38, 40 (самец, ён меншы), 43 (невялікая рыбіна), 45—49, 49а, 50, 51 (у адказе *шчупа́к, шчупакі́*), 52, 52а, 53 (у адказе *шчупа́к* мн. л. *шчупаке́*), 54—61, 62 (вялікі самец), 63—65, 66 *(шчупа́к, шчупаке́)*, 67—71, 73, 75 (невялікая рыбіна), 77, 79 (невялікая рыбіна), 80, 81 (малая рыбіна, самец), 82 (невялікая рыбіна), 83—85, 86 (малая рыбіна), 90—94, 94а, 95, 96, 96а, 97—100, 102 (*шчупа́к* з малаком), 103—106, 108, 109 (рэдка), 111, 112, 113 *(у шчупака́ — кра)*, 118 (меншая рыбіна), 120а, 124, 126, 127 (меншая рыбіна), 131, 132 (нов.), 135 (рэдк., часам для абазначэння самцоў), 136, 141 (самец), 142 (рэдк.). *шчупачо́к* 70 (меншы), 77.

**шчу́ка** 7, 8 (пераважна), 9 (*шчупа́к* большы, а *шчу́ка* малая), 10—15, 17, 21, 28, 29 (агульная назва, вялікая рыбіна), 30, 33, 34, 35 *(шчу́ка па ве́рсі хо́дзіць)*, 36—39, 40 *(са́мка, ана́ бо́льшы)*, 41, 42, 43 (большая), 44, 62, (самка), 67, 72—74, 75 (вялікая рыбіна), 79 (вялікая рыбіна), 80, 81 (агульная назва), 82 (вялікая рыбіна), 83, 84 (самец), 85, 86 (вялікая рыбіна), 87, 88, 89 *(у Бе́сідзі шчу́кі ёсць!)*, 90 (рэдк.), 94—96, 96а, 97, 98 (рэдк.), 101, 102 *(шчу́ка з ікро́ю, бальшэ́йша)*, 103, 107, 108 (рэдк.), 109 (вельмі рэдка), 110, 115—117, 118 (вялікая рыбіна), 119, 120, 120а, 122 (нов.), 123—125, 126 *(шчук бага́то ў нас)*, 127 (вялікая рыбіна), 130, 131, 132 (рэдк., нов.), 133 (вялікая рыбіна), 134 (самка), 135—140, 141 (самка), 142 (часцей). *шшу́ка* 16, 76. *шчу́чка* 102 (меншая), 125 *(за цэ́лы дзень тры шчу́чкі)*, 129.

**кожу́шок** 109, 113 *(у кожу́шка — молоко́)*, 114, 132, 133 (невялікі, сярэдні шчупак), 134 (самец).

**кожу́шка** 107.

Адведзена: *сіне́ўка* 122 (трад.), 134.

АЛА: **шчупа́к** 3А, 8А — 19А, 22А, 25А (самец), 26А — 32А, 34А, 43А, 44А, 49А, 50А, 52А, 53А, 62А, 64А, 50, 61, 70, 115 (самец). *шчыпа́к* 51А. *шчупачо́к* 49А.

**шчу́ка** 1А — 10А, 18А, 20А — 25А, 29А, 31А, 32А, 33А, 35А — 43А, 45А — 50А, 53А, 55А — 63А, 65А — 67А, 70, 115 (агульная назва).

**кожу́шок** 52А, 54А.

**кожу́шка** 54А.

### Карта № 321

## МЯНТУЗ (Lota lota L.)

№ 1782 «Я. н. мянтуз: мянтуз, мень, мянёк, калека, балаба...»

На карце паказана пашырэнне ўсіх адзначаных назваў ментуза, за выключэннем назвы *верацёнь*, якая, магчыма, выступае тут як абазначэнне *меньќа* выпадкова (назвамі з такім коранем абазначаюць звычайна лічынак міног і іншую дробную рыбу).

Як *мянту́з* картаграфуецца *манту́с* 52а, *мату́з* 93, як *мяк — мняк* 49а, як *вя́гал — вя́гул* 6, *вя́гіл* 2, *вя́гъла* 5, *вя́гяла* 3.

*мянту́з* 14, 41, 42, 45 *(мянтузэ́ былі даўне́й у нас, а цяпе́р пазво́дзіліса)*, 46 *(мянтузэ́ ко́шыкам усё лавілі)*, 48, 57, 75, 77 (трад.), 85, 97, 101, 118, 130, 139. *мянту́с* 1 (мн. *мянтузы́*), 3 (нов.), 4, 7, 8 (мн. *мянтузы́*), 8а, 12, 18, 19, 20 (мн. *мянтузы́*), 21, 22, 25, 25а, 26, 27, 30, 31, 39, 40, 49, 51 (мн. *мянтузы́*), 52 (мн. *мянтузы́*), 54, 71 (малая рыбіна), 83. *менту́з* 17, 94, 94а, 102 *(менту́з головаты)*, 107, 109, 113, 122, 138. *менту́с* 62, 140. *мынту́з* 90, 95, 96, 96а, 97. *манту́с* 52а. *мату́з* 93.

*мінту́з* 44, 91. *мінту́с* 13 *(мінту́с*, р. скл. *мінтуса́)*, 32.

*мень* 16, 67, 75, 77 (сучасн.), 83—86, 88, 89, 123 *(мяні́ ёсць у нас)*, 124—126, 128 *(мені́ пад карча́мі і ў я́мах во́дзяцца)*, 129, 141.

*мянёк* 23, 24 *(мянёк, мянькі́)*, 25, 25а, 28, 36, 50, 53 (мн. л. *мяньке́*), 55, 56 *(мяньке́, мянёк)*, 57, 58 *(мянёк, мянькі́)*, 59—61, 63, 64, 66, 67, 68 *(мянёк бяс лускі, касцей мала)*, 69 *(мянькі сядзяць у пячо́рах, рука́мі ло́вяць)*, 70 *(мянькі́* мн. л.*)*, 71 (вялікая рыбіна), 72, 76, 80, 87, 99, 100, 104, 105, 110—112, 115—120, 120а, 125, 127, *мянёк* 98, 108, 113, 133—136, 137 *(сом з усамі, а менёк без усоў)*. *мынёк* 90, 92, 103, 131, 132.

*мінёк* 43, 91.

*мяк* 47 *(мяк — така́я ры́ба, што пішчы́ць на патэ́льні)*, 49а. *мняк* 49а.

*кале́ка* 10, 11, 15, 25, 29, 33—35, 37, 73, 74, 79, 83, 85, 86, 89.

*вя́гал* 6 (мн. *вя́галы*). *вя́гул* 6 (мн. *вя́гулы*). *вя́гіл* 2 *(вя́гіл біз лускі)*. *вя́гъла* 5. *вя́гяла* 3 (трад.). *вя́гъл* 9.

Адзінкавыя: *бала́ба* 81. *ро́пуха* 114.

Адведзена: *вірацёнь* 40.

### Карта № 322

## ЁРШ (Acerina cernua L.)

№ 1785 «Я. н. дробная вельмі слізкая рыба з калючым хібам: а) звычайная: ерш, жгір, ажгур...»

Карта паказвае пашырэнне назваў *ёрш, ёршык, ерш (ірш), ерж, ершу́н, е́ршык (іршык), жэ́ршык* і тэрытарыяльныя адносіны іх да назваў *яжгу́р, яджгу́р, ажгу́р, ужгу́р, аджгі́р, жгір, яжджэ́й, іжджа́, яжту́р, яжга́р*. Паказана таксама лакалізацыя некаторых малапашыраных назваў. Малаверагоднымі назвамі ярша з'яўляюцца словы *курме́ль* і *ваўчо́к* (гэта звычайна назвы дробных рыбак іншых відаў). Нельга таксама лічыць за назву ярша спалучэнне слоў *о́кунь калю́чый*. Гэта, безумоўна, вельмі спрошчанае апісальнае абазначэнне ўяўлення аб яршы. У шэрагу выпадкаў адказы на пытанне не дадзены або дадзены адмоўныя адказы з тлумачэннем аб адсутнасці паблізу вадаёмаў (рэчкі, возера).

Як *ерш* картаграфуецца *ірш* і *ерж*, як *е́ршык — іршык*, як *слю́нька — слюнця́й*.

*ёрш* 1 (мн. *яршы́*), 7, 8 (мн. *яршы́*), 8а, 9, 12 (зусім малы — *клапо́к*), 13—15, 17, 19, 20 (мн. *яршы́*), 24 (мн. *яршы́*), 25а, 26, 28—31, 32 (нов.), 34—36, 39, 40 (мн. *яршы́*), 43, 44, 46, 47, 50, 52а, 55, 57, 59, 61—64, 66, 67, 70, 72—76, 79—85, 87, 89 *(ёрш ко́ліцца)*, 90—93, 94а, 95, 96, 96а, 97, 99, 100, 104, 105, 109—112, 116, 117, 119, 120, 120а, 123, 124, 126—132, 135, 136, 138—140, 142.

*ерш* 54, 58 (мн. *яршэ́*), 68, 69 (мн. *яршы́*), 71 *(ерш — плаха́я ры́ба, яе ні аскрэ́пці, такі́ шо́рсткі)*, 92, 94 (мн. *ершы́*), 101—103, 106, 107, 114, 117, 122, 125, 134, 141. *ірш* 49а, 113. *ерж* 51 (мн. *ержы́*).

*ёршык* 52 (мн. *ёршыкі*), 97, 120а. *ёршыкі* 56.

*е́ршык* 102. *іршык* 49а.

*жэ́ршык* 98. *ершу́н* 137.

*яжгу́р* 3, 4 *(калю́чы, як яжгу́р)*, 6 (мн. *іжгуры́*), 9, 21, 22, 25. *іжгуры́* 33.

*яджгу́р* 10 *(ні люблю́ чы́сціць яджгуро́ў)*, 11 *(яджгу́р ду́жа калю́чы)*.

*яжту́р* 2. *ажгу́р* 3. *ужгу́р* 18. *іжджа́* 34. *яжджэ́й* 37. *жгір* 46. *яжга́р* 47. *аджгі́р* 65. *сапліве́ц* 125. *соплі́вец* 133. *саплю́к* 77 (мн. *саплюкі́*). *сопля́к* 137.

*слю́нька* 85, 86. *слюнця́й* 126.

Адзінкавыя: *пу́ўка* 29 (трад.). *курме́ль* 32 (трад.). *ваўчо́к* 53 *(ваўчо́к,* мн. л. *ваўке́)*. *калю́чык* 54. *калю́чка* 60.

Адведзена: *о́кунь колю́чый* 94 (спарадычна з *ерш*).

### Карта № 323

## УЮН (Misgurnus fossilis L.)

№ 1787 «Я. н. уюн: уюн, сліж...»

На карце паказана лакалізацыя ўсіх назваў уюна і пашырэнне іх асноўных нерэ-

гулярных фанетычных і словаўтваральных варыянтаў. Некаторае сумненне ў адносінах сапраўднасці такога свайго значэння выклікае назва *сліж (сліш)* і яе варыянт *сліжык*, якая, магчыма, адносіцца да *сліжа* (галеня) і тут з'явілася ў выніку зблытвання яго з уюном.

Як *уюн* картаграфуецца *оюн*, як *юн* — *юнь*.

*уюн* 1 *(уюн цёмны і многа меншы піскуна)*, 2 *(уюны ў гразі жывуць)*, 4 *(уюн да угорыча падобны)*, 6—8, 8а, 9, 17, 25 *(сучасн.)*, 25а *(уюн называюць піскун яшчэ, яго ловяць, а ён пішчыць)*, 28—31, 33, 36, 37, 43, 46, 50, 52а, 53 (мн. *уюнэ*; *уюн — даўжэйшы і цёмны ў пасачку, а сліш — карэтшы і таўсцейшы*), 54—56, 58, 60, 61—65 *(уюн у гразе жыве)*, 66 *(уюн падобія гадзюкі)*, 67, 68 *(уюны як гадзюкі, пішчаць)*, 69 *(уюн, уюны)*, 71—76, 77 *(уюны чорныя, як вужака, лускі німа)*, 80—83, 85—89, 93, 94, 97, 99, 100, 102 *(уюн прудкі)*, 104, 106, 107, 110—112, 115, 116, 118, 119 (мн. *уюны*), 120, 120а, 123—125, 126 *(уюноў рукамі лавіць можна)*, 127—130, 134, 135, 137, 138 *(багато уюноў накідала ў юшку)*, 139, 140 *(колісь я стольки уюноў ловаў, што свіней корміў)*, 141, 142. *в'юн* 20, 58, 70, 90, 91, 92, 94а, 95 (рэдк.), 96, 96а, 98, 103, 105, 106, 108, 109, 113, 114, 117, 131—133, 136. *вьюн* 14, 18, 45 *(вьюнэ, як гадзіны, у нас пазводзіліса)*, 49а, 101, 117, 131. *оюн* 97.

*віюн* 3, 19, 22 *(сліжык — маленячкі, а віюн большы, у зямлі)*, 52 *(віюн, віюны)*.

*ваюн* 79, 82, 84. *вуюн* 79. *выюн* 79.

*вілюн* 122.

*юн* 23, 57—59, 95. *юнь* 51 (з пытальнікам).

*піскун* 1, 5, 7, 10 *(у лужыні піскуны водзяцца, дзеці рукамі лавілі. Піскун уецца, як вужака)*, 11—13, 15, 16, 25а (гл. *уюн*), 33, 35, 39, 62.

*піскур* 47 *(круціса, як піскур на гарачуй патэльні)*, 49.

*піскіш* 34. *піскуж* 44. *пішчаль* 24 *(пішчалі, што змія такая рыба)*.

*сліж* 42, 85. *сліш* 26, 27, 32, 46, 61.

*сліжык* 21, 22 (гл. *віюн*).

Адзінкавыя: *кроўж* 25 (трад.).

## Карта № 324

# ВУГОР (Anguilla anguilla S.)

№ 1788 «Я. н. вугор: вугор, вугорыч, вангор...»

Карта паказвае галоўным чынам лакалізацыю лексічных варыянтаў традыцыйнай назвы вугра *(вугор, вугар* і *вугорыч)*, а таксама трансфармацый яго запазычанай назвы *(вангор, вэнгар, выгыр)*. Памылкова трапілі, відаць, у адказы на дадзенае пытанне праграмы назвы *вугрыца, вугрык* (звыч. лічынка рачной міногі), *уклейка, піскун* (відавочна, уюн).

Як *вугорыч* картаграфуецца *угораш*. Адным знакам картаграфуюцца таксама варыянты назвы *вугорыч*, якія адрозніваюцца ў запісах транскрыпцыяй галоснага гука ў суфіксе.

*вугор* 7, 8а, 18, 25а, 29, 35, 36, 45, 46 *(вугрэ)*, 50, 55—57, 60, 61, 64 *(вугор у нас ні водзіцца)*, 68 (мн. *вугры*), 70, 71, 74—76, 80, 88, 96а, 119, 122 (мн. *вугры*), 123, 126, 130, 136, 138 *(вугроў у нас не едзяць, вельмо воны проціўны)*, 140—142. *угор* 24 (мн. *угры*), 28, 29, 47 *(угра злавіць цяжко, ён слізкі)*, 54, 60, 77, 79, 91, 92, 94а, 97, 101, 103, 107, 115, 116—118, 124, 125 *(угор пахожы на ўюна, такі страшны)*, 127, 128, 131, 135—137. *угорь* 16, 17, 83, 120. *ўугор* 9, 93 (мн. *вугры*). *выгырь* 83.

*вугар* 10, 11, 31, 37, 59, 67, 73. *угырь* 84. *вугърь* 86, *угар* 126. *вугрь* 85.

*вугорыч* 4 *(вугорыч жывець у бузе)*. *вугоръч* 8а. *угорач* 6. *вугорач* 6. *угоръч* 5, 12, 13. *угораш* 2. *угоріч* 32. *угорыч* 1, 7, 8 *(угорыч у гарох ходзіць)*, 15. *угореч* 14. *бугор* 82 *(чулі бугор)*.

*вангор* 3, 19—22, 25, 45, 49а, 52 (мн. *вангоры*). *ангор* 52а. *венгор* 98. *вынгор* 97. *вэнгор* 90, 96, 108, 109, 113. *вэнгер* 133. *вэнгош* 51 (мн. *вэнгожы*).

*выгырь* 83.

Адзінкавая: *дайгар* 18.

Адводзіцца: *вугрыца* 65 *(вугрыцы нападобіе уюна, патонша)*. *вугрык* 46 *(вугрыкі)*. *уклейка* 43. *піскун* 42.

## Карта № 325

# ЖАБРЫ

АЛА 103 'жабры рыбы' (Npl)

На карту нанесены асноўныя назвы. Паказана іх адрозненне па корані і некаторыя нерэгулярныя гукавыя асаблівасці.

*Зёбры* картаграфуюцца як *зібра*, як *вушы* — *вушкі, завушніцы*.

*жабры* 1А, 4А, 6А, 9А, 10А, 12А, 16А, 18А, 20А, 23А, 25А, 26А, 31А — 36А, 39А, 40А, 42А, 45А, 47А, 49А — 51А, 55А, 56А, 58А, 61А, 63А, 67А, 70. *жабра* 50А, 64А.

*жэбры* 11А, 14А, 15А, 37А. *жэбра* 7А, 46А.

*зябры* 4А, 8А, 21А, 22А, 24А, 38А, 39А, 42А *(зябрі)*, 60А — 62А, 115. *зябра* 43А.

*зёбры* 41А, 70. *зебра* 53А, 59А, 65А, 66А.

*зібра* 52А, 54А. *зёбры* 27А.

*жабракі* 57А.

*вушы* 13А, 17А, 30А, 44А. *вушкі* 29А. *завушніцы* 29А.

Адзінкавыя: *зявы* 10А. *зява* 28А. *шчокі* 3А. *патшчынкі* 5А. *шчэлепі* 19А.

## Карта № 326

# ПУХІР У РЫБЫ

№ 1793 «Я. н. унутраны паветраны мяшок у рыбы: пузыр, пухір...»

Карта прысвечана паказу тэрытарыяльных адносін да назвы *пузыр (пузырь)* іншых найбольш пашыраных назваў.

Як *пузыр* картаграфуецца *пузырок*, як *пухір* — *паўхір, панхір*, як *таўкач* — *таўкачык*.

*пузыр* 1—6, 8 (сучаснае), 10, 11, 14, 15, 17, 18, 21, 24, 25а, 27, 28, 30, 31, 33—37, 40, 42, 43, 45, 55, 59, 61, 64, 65, 67—70, 73—77, 80—82, 88, 91, 94, 101, 106, 108, 110, 113, 117, 119, 120, 120а, 123—127, 129—132, 136, 139, 142. *пузырь* 12, 13, 16, 32, 39, 41, 44, 79, 83—87, 89. *пузэр* 46. *пузырок* 94, 96а.

*пухір* 50, 59, 100, 111. *паўхір* 50. *панхір* 22.

*пухло* 94а, 109.

*дух* 19, 20, 47, 49, 49а, 52а, 56, 58, 63, 66, 69, 72, 90, 98, 99, 102 *(дух рыблячы)*, 103, 114, 134.

*душок* 69, 103.

*душа* 20 *(душа рыб'я)*, 21, 29, 48, 53, 54, 57, 62, 93, 94а, 104, 105.

*душовык* 94а.

*плавук* 51, 95.

*плывунок* 8 (трад.). *паплаўкэ* 60. *плавок* 96.

*таўкач* 25, 26. *туўкач* 5, 8а. *талкач* 9. *таўкачык* 22.

*капшук* 116, 118, 122, 135, 137, 141.

Адзінкавыя: *бінючок* 112. *каўбушок* 82. *коўбічэк* 140 *(коўбічэк у серэдзіне рыбы, як у скоціны)*. *лопуўка* 5. *мудзік* 71. *мэхір* 92. *мяшочак* 115, 138. *пердун* 107. *пляскун* 52. *пукало* 108. *стралок* 65. *стрэлка* 23. *бэнзыль* 97.

## Карта № 327

# НЕРАСТ У РЫБЫ; РЫБА НЕРАСТУЕ

№ 1797 «Я. н. перыяд, калі рыба пускае ікру і малако: нераст, нораст...» і № 1798 «Рыба пры нерасце трэцца, б'ецца»

Карта адлюстроўвае пашырэнне слова *нераст* у яго варыянтах, а таксама пашырэнне падобных па аснове абазначэнняў адпаведнага дзеяння (паводзін рыбы ў час

адкладвання ікры). Для гэтага выкарыстаны два паралельныя наборы знакаў, якія адрозніваюцца паміж сабой памерам. Наяўнасць іншых дзеясловаў адзначаецца толькі агульным адсылачным знакам.

Як *нэраст* і *нэрастýе* картаграфаваліся ў сувязі з іх гукавой аднастайнасцю формы з нерэгулярным цвёрдым пачатковым зычным у гаворках паўночнага захаду і аналагічныя формы з цвёрдым пачатковым зычным, наяўнасць якога абумоўлена рэгулярнай фанетычнай асаблівасцю заходнепалескіх гаворак.

Акрамя таго, як *нерастýе* картаграфуюцца *нерасцíцца, нерэсцíцца, нераставáя,* як *нэрастýе — нырыстэ́цца,* як *нерасýе — расýя.*

*нéраст* 6, 9, 10, 11, 20, 22, 23, 25а, 26, 27, 30, 31, 36, 37, 45, 46, 47 *(вяснóю ўсéнка рыба ідзé на нéраст),* 48, 49, 49а, 50—57, 59—61, 63—72, 74—76, 80, 81, 82, 86, 88—89, 93, 99, 101, 102, 110—112, 115, 116, 118—120, 123, 125, 126, 129, 135, 137, 139, 141, 142. *нéрыст* 40, 42, 83, 85. *нéрíст* 41, 44, 79, 85, 89. *нéръст* 35, 43, 73. *нéрост* 102, 106, 126, 138. *нéрэст* 107, 117, 136. *нерêст* 113.

*нóраст* 2, 4, 7, 14, 21, 28, 29, 32, 33. *нóрьст* 5, 8а, 13, 15, 34. *нóрыст* 12, 16.

*нáраст* 1, 8, 17. *нáрьст* 13, 39.

*нэ́раст* 3, 24, 25, 52. *нэ́рост* 90, 94а, 95, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *нэ́рыст* 91, 92. *нэ́рэст* 133. *нэ́ᵃруст* 98.

*нэ́росць* 94, 96, 96а.

*нéрас* 53, 82, 105, 119, 122. *нéрэс* 134.

рас 62. *нерастóўка* 77. *нераставáння* 124. *нэ́ра* 132 (рэдк.).

Адзінкавыя: *бóйла* 114.

*нерастýе* 125. *нірастýе* 75, 119. *нерастýя* 66, 68, 69. *нярастýя* 49. *нерастýіць* 45. *нірастýіць* 9. *нерасьцíцца* 135. *нерэсцíцца* 140. *нераставáя* 50.

*нарастýя* 25. *нарастýіць* 1, 2, 4, 6, 8, 24. *нърастýіць* 8а. *нърьстýіць* 8а.

*нэрастýе* 19. *нэростýе* 94, 108, 109. *нэᵃрастуеᵃ* 98. *ныростýе* 90, 94а—96, 103. *нырыстэ́цця* 131.

*нерасýе* 53, 105. *нерасýя, нэросýя* 122. *расýе* 62.

Іншыя назвы: *пускáе нэ́росць* 94. *б'éцца* 10, 11, 83, 88, 114, 127, 136. *трэ́цца* 45, 54, 62, 84, 86, 92, 93, 130, 136. *трéцца* 79, 83, 85, 87, 89, 96а, 107, 133. *цярэ́цца* 84. *гуляя* 82. *ігрáе* 90. *мятáецца* 127. *пляскóчыць* 97. *пускáя íкру* 87, 93.

## Карта № 328

# ЛУСКА Ў РЫБЫ

АЛА 102 «чешуя рыбы»

На карце паказана супрацьпастаўленне слоў, якія абазначаюць луску ў рыбы, па кораню.

Як *лускá* картаграфуецца *лýска, люскá,* як *лупá — лупына,* як *шалухá — шалýшкі,* як *шкарлупá — лушпáйкі,* як *слíнь — слень, свень.*

*лускá* 1А—6А, 8А, 11А—20А, 22А, 23А, 26А—33А, 35А—40А, 42А, 43А, 46А, 47А, 49А—51А, 53А, 55А, 56А, 58А, 59А, 61А—67А, 115. *лýска* 52А, 61А. *люскá* 10А.

*шулухá* 7А, 9А, 29А, 41А. *шылухá* 21А, 25А. *шалýшкі* 9А.

*лупá* 48А, 51А. *лупына* 48А.

*скурлупá* 24А. *лушпáйкі* 43А.

*слінь* 54А. *слень* 60А. *свень* 57А.

Адзінкавая: *корá* 53А.

## Карта № 329

# РЫБУ ЛАВІЦЬ

№ 1826 «Як кажуць: рыбу трэба лавіць, лаваць, лапаць...»

На карце паказана пашырэнне розных слоў у адзначаным значэнні і варыянтаў дзеяслова з коранем *лов-* у адносінах тэматычнага галоснага.

*лавíць* 1—8, 8а—11, 13—37, 39—44, 47—49, 49а—51, 52а—57, 59, 60, 62—65, 67—77, 79, 80, 83—89, 93, 98, 100, 101, 104, 105, 110—112, 115, 116, 118—120, 123—126, 128—130, 136, 139, 141, 142. *ловíць* 106, 107, 113, 114, 117, 133—135, 138. *ловíці* 94, 102. *ловыты* 90, 94а—96, 96а, 97, 103, 108, 109, 131, 132. *лувéтэ* 98.

*ловáць* 113, 120а, 122, 127, 135, 137, 140. *лавáць* 20, 126, *ловáты* 108.

*лáпаць* 45, 46, 48, 52, 54. *лáпаты* 91, 92.

## Карта № 330

# НІЗКА (рыбы)

№ 1824 «Я. н. нізка рыбы на шнурку, дубчыку: метка, нізка...»

На карце паказана ўжыванне слоў у адзначаным значэнні, якія маюць найбольш пашыраныя карані. Агульны адсылачны знак указвае на ўжыванне ў дадзеным значэнні слоў з іншымі каранямі.

У некаторых выпадках адказы на пытанне адсутнічаюць і замест іх падаюцца толькі звесткі аб упарадкаванні злоўленай рыбы: 2 на дубец начапаў і панёс, а як многа налавіў — у торбу можна класці. 3 *на вíтку.* 5 *нъчъпáў нъ дубéц.* 18 *на дýпчык наніжа.* 20 *знізáў рыбу на дубéц.* 26 *насіляць рыбу на дубéц ці нíтку.* 46 *ніжуць рыбу на шнюрóк.* 52 *знізáў рыбу на жыльбуць.* 57 *не вяжуць, перакладаюць лістом.* 65 *налыгáлі рыбу на дýпчык.* 96а *на прут нанызáв.*

*нíзка* 43, 44, 49а, 67, 79, 82—87, 107, 114—116, 119 (любой рыбы), 120, 120а, 122—129, 137, 138, 142. *нíска* 12, 56, 60, 63, 64, 66, 69—72, 74. *нызка* 92, 131.

*нізáнка* 16. *нізáлка* 99, 137. *нізлó* 111. *нызáло* 97.

*вя́зка* 14, 37, 82, 104. *вя́ска* 15, 31, 32, 49, 88. *в'я́зка* 108, 137. *уя́ска* 94. *в'я́ска* 90. *вáска* 93.

*візáнка* 7, 37. *вязáнка* 54, 91. *везёнка* 17. *свя́ска* 35.

*вяслó* 24, 60, 77, 104. *васлó* 93.

*вя́сла* 27, 37, 41 (і грыбоў, абаранкаў), 68, 73, 75, 80, 82.

*мéтка* 98, 101—103, 107, 117, 118, 119 (нанізаныя на дубчык уюны), 133—136, 139—141. *м'ётка* 105.

*матóк* 7—11, 30, 40. *матýшка* 4 (матушка рыбы), 13. *мэтэ́чка* 94а, 108. *мытэ́чко* 132. *матýха* 8а. *матырка* 8а.

Іншыя назвы: *вíтка* 4 (вітка рыбы). *чоп* 13. *тýзін* 21. *шнурóк* 22, 47, 62. *тýзень* 23. *кукáн* 25. *пýта* 26. *вілачкі* 29. *нацэ́пка* 31. *пачóпка* 32. *бунт* 55, 113. *шнюр* 45. *вінцерка* 52а. *сіля́ўка* 59 *(насіля́ў сіля́ўку рыбы).* *маніста* 63, 64. *нóшка* 89. *ванóк* 93. *вынóк* 96. *вéшалко* 97. *рожóн* 106. *óсылка* 109.

## Карта № 331

# ЧЫСЦІЦЬ (рыбу)

№ 1834 «Як гавораць: рыбу трэба чысціць, скрэбці, часаць...»

Адзначаныя абазначэнні не зусім суадносныя. Агульнавядомы дзеяслоў *чысціць* мае значэнне працэсу поўнай апрацоўкі свежай рыбы для наступнага прыгатавання ці захавання. Дзеясловы *скрэ́бці (шкрэ́бці), часáць* — гэта абазначэнні аднаго з працэсаў апрацоўкі рыбы, у прыватнасці, працэсу ачысткі яе ад лускі.

Картаграфуюцца найбольш пашыраныя абазначэнні.

*чысціць* 3—5, 6 (нов.), 7, 8, 8а, 9—13, 15—17, 18 *(спачатку скрабýць, а потым чысцяць),* 19, 20, 22 *(скрабýць луску, потым чысцяць),* 24, 25 *(вытрыбушыць),* 26, 28—37, 39—44, 45 (ачышчыць луску), 46—48, 49 (трыбушыць), 50—52, 52а—57, 58 (здымаць луску), 59—62, 67, 68, 69 (нов.), 70, 73—76, 79, 80, 82, 84—89, 93, 99, 100, 102, 104—107, 110 *(скрапці, а патом чысціць),* 111, 112, 116, 117 (патрашыць), 118, 119 (вычышчаць нутро), 120,

120а, 123—126, 128—130, 132, 133 (выкідаць нутро), 136, 137, 141, 142. *чысціці* 94. *чыстыты* 90—92, 95, 96, 96а—98, 103, 108 (аг. назва), 109, 131.

*скрэ́бці* 59, 67, 101, 105 *(скрабо́м, а пато́м чысціім)*, 107, 115, 119 *(здымаць луску)*, 136, 137, 142. *скрэ́бті* 134. *скрэ́пці* 53, 63—65, 66 (стар.), 69, 71, 111, 113, 117 (луску). *скрэ́сці* 35. *скрэ́сць* 1, 3, 14, 18 (спачатку скрабуць, потым чысцяць), 22 (скрабуць луску, а патом чысцяць). *скрабці* 49а, 62, 135, 140. *скрапці* 25а (луску здымаць), 27, 54, 110 (здымаць луску). *скрабсці* 83. *скраба́ць* 49 (здымаць луску).

*шкрэ́бці* 77, 102, 116, 127, 138. *шкрэ́бсці* 81. *шкрэ́псць* 74. *шкрапці* 72. *шкрэбты* 108 (здымаць луску).

*скабліць* 1, 23 (нов.), 25 (скабліць луску).

*чэса́ть* 134. *чэса́ць* 133 (здымаць луску). *чэса́ты* 94а.

*патрашы́ць* 23 (стар.,), 58 (выкідаць нутро), 69 (трыбушыць). *потрошы́ты* 91 (выкідаць вантробы).

*перабіра́ць* 6, 25 (патрашыць).

Адзінкавыя: *чыніць* 77 (патрашыць), 122. *спраўля́ць* 52а. *дарыня́ць* 52. *поро́ты* 131 (патрашыць). *хорошы́ць* 114.

Адведзены: *плата́ць* 2. *крапа́ць* — начыняць 8.

## Карта № 332

# РЫБАЛОЎНАЯ КРЫГА

№ 1809 «Я. н. ручная лавушка з сеткі, нацягнутай паміж двума «палазамі»: крыга, кломля, комля...»

На карце адлюстравана пашырэнне назвы *кры́га* і шэрагу іншых назваў падобнай прылады ў іх словаўтваральных і іншых лексічных варыянтах.

Як *ко́мля* картаграфуецца *ко́мяль, ко́мла, кімля.*

*кры́га* 1, 7, 8а, 9—14, 16, 17, 23, 29, 30, 31, 33—37, 39, 40, 42, 43, 49 (метры тры), 58 *(го́хты* — палазы ў крызе), 63—65, 68, 71—76, 80, 82, 88, 101, 111 *(с палаза́мі)*, 112, 116—118, 119 (ловяць два-тры чалавекі), 120, 120а, 124, 125 (цягаюць трое), 126 (каля берагоў ловяць, сетка паміж двума «палазамі»), 129, 136, 138, 140, 141 (ловяць утрох). *кріга* 32, 83—85. *кры́гіна* 1.

*кло́мля* 49а, 50, 55, 90, 91, 93, 94, 96, 99, 100, 102, 104, 106, 107. *клу́мля* 141.

*кло́мня* 92, 94а, 96, 103. *клу́мня* 108, 132.

*кло́вня* 94а, 95, 98, 113, 131.

*ко́мля* 67, 105, 111 (на раме), 114, 122, 133, 135. *ко́мла* 110. *кімля* 109. *ко́мяль* 115.

*брэ́дзень* 25а, 28 (цягаюць утрох), 125 (калі ўдвох). *бре́дзень* 86. *брэ́дзянь* 49 *(брэ́дзянь бо́льшы за кры́гу)*, 54, 60, 69 (на крывых палазах), 126.

*бро́дзень* 52а. *бро́дзянь* 18, 20 (з палазамі), 25, 47. *бро́дзінь (у бро́дні ёсць карма́ і дзве кукашы́ны — калкі)*.

*браднік* 86, 123. *броднік* 133 (на палазах сетка, ловяць утрох). *бряднік* 89. *брэднік* 70. *брот* 52а.

*трайнік* 2 (з двумя *ге́гнямі, ге́гню* выкопваюць у лесе, яна ў выглядзе полаза), 5. *трайча́к* 22 (трое цягалі), 47 (ловяць утрох: два уперадзе, а трэці — ззаду папіхае). *ге́гні* 3 (гл. *трайнік*). 4. *ге́глі* 21.

Адзінкавыя: *двайнік 2* (з адной *гегнюй* у выглядзе полаза). *са́ні* 26, 82. *палазэ́* 48 (ловяць утрох), 53. *крыву́ля* 137. *руге́ля* 134. *пъзвало́ка* 5. *валаку́ша* 28 (цягаюць удвох). *сак* 6 (ловяць удваёх, з палазамі, дзед у канцы), 77. *калы́ска* 93.

Адводзяцца: *буч* 24 (з лазы). *мерожа* 28 (на рацэ ставяць). *падвало́чак* 45 (ручная лавушка з сеткі з адным абручом унутры, лавіў ім адзін чалавек). *трыгу́біца* 28, 57 (сетка, цягаюць два-тры чалавекі). *се́тка* 56 (ловяць удвох, утрох, адзін боўтам заганяе рыбу). *ва́тка* 61. *кош* 66 (малыя ловяць, звычайны кошык). *ко̂ш* 133 (з лазы). *хабатня́* 24. *хабо́тня* 8 (з лазы плятуць хаботню). *падса́ка* 142. *куль* 133 (з ценета). *таптýха* 123.

## Карта № 333

# ВЕНЦЕР

№ 1810 «Я. н. невялікая стаўная лавушка з сеткі або лазы з вузкім уваходам без крыл: нерат, венцер, яцер...»

Лексічны матэрыял, сабраны ў адпаведнасці з гэтым пытаннем, сведчыць аб двух асноўных рэгіянальна супрацьпастаўленых лексічных тыпах назваў: для паўднёвага захаду характэрна пераважна назва *ве́нцер* (*ве́нцяр* і г. д.), а для паўночнага ўсходу — *не́рат* у разнастайных фанетычных (і лексічных) варыянтах. Гэтыя назвы, відавочна, найбольш адпавядаюць адна адной па прадмету абазначэння.

У адносінах іншых зарэгістраваных назваў трэба сказаць наступнае:

*ве́рша (е́рша, ве́ршка)* — відавочна, таксама тое ж, што і *не́рат* або *ве́нцер*, або блізкае да іх.

*жак* — звычайна гэта стаўная лавушка з крыламі.

*кош* — тое ж, што і *не́рат (ве́нцер)*, але толькі выплецены з дубцоў.

*буч* (бу́ча) — магчыма таксама тое ж, што і *не́рат (ве́нцер)*.

*чуб* — звычайна лавушка ў жаку (жак з адным чубам, жак з двума чубамі).

Сумніцельнымі адпаведнікамі да *ве́нцера* з'яўляюцца назвы: *ко́шык, скры́пка, гірка, стру́га, куль, кабе́нь, прутня́, мяро́жа, міро́га, чарпло́, хабо́тня.*

Зусім не суадносяцца па прадмету абазначэння з назвамі *не́рат (ве́нцер):*

*са́чык, сак, падса́ка* — гэта стаўная лавушка ў выглядзе сачка з кармой, у якую заганяюць рыбу ганцом.

*ва́та* — стаўная сетка невялікіх памераў.

*на́стаўка* — прыстасаванне для лоўлі рыбы з лодкі (ці ўброд), падобнае да бочкі без дна; ім накрываюць невялікі ўчастак у вадзе, і рыба аказваецца як бы ўнутры «бочкі», дзе яе палохаюць, пакуль яна не заблытаецца ў сеткавых сценках настаўкі.

*рашо́тцы* — прылада ў выглядзе рэшата з дзіркай у сярэдзіне для лоўлі рыбы з палонак зімой.

*баўту́н* — паводле заўвагі ў адказе, ручная лавушка; тое ж, напэўна, і *баўту́ха*. *таптýха* — тое ж, відаць, што і *баўту́ха*

*не́раст* картаграфуецца, як *не́рат* (апіска?), *няро́ты* картаграфуецца, як *няро́та* (але магчыма, што гэта мн. ад *няро́т), няро́тка* — як *няро́та.*

*не́рат* 10, 11, 36, 37, 46, 64 (без крыл), 65, 66 (у нераце пасярэдзіне рыла і два абручы), 67 (ставяць на сажалках), 68 (нерат рабілі і з лазы, і з нітак, і з чаго папала), 69 (з абручамі, вока ў нераце, у вока лезе рыба), 75, 76 (з лазы, сеткі), 80—82, 107, 111. 112, 117, 118, 119 (з сеткі або лазы), 125, 126, 128—130, 141. *не́раст* 63. *не́ръът* 43. *не́ріт* 44, 79, 83, 84, 85, 89. *не́рот* 115 *(на плотку ставяць)*. *нэ́рот* 90.

*няро́т* 116. *няро́д* 120.

*неро́та* 56, *нэро́та* 108, 109. *няро́тка* 49а.

*ме́рет* 86 (з нітак). *ме́ріт* 44. *ме́рыт* 87.

*но́рат* 2 *(го́рла ёсь, як сачо́к)*, 6, 7, 8 (сетка нацягнута на абручы, *журало́ бальшо́я)*, 9, 21, 22 *(нараты́)*, 28, 29 (трад.), 32. но́рыт 39, 40 *(із ні́тык і з лазы́ быва́яць)*. *нърато́к* 8а, 9.

*наро́т* 1, 13, 33.

*ве́нцер* 7, 57 (плецены з нітак пянькі, у ім горла, крылы), 59 (устар.), 61, 62, 67 (з крыламі), 74, 100, 104, 106, 111, 120а, 122, 136, 138 (лавушка з сеткі без крыл), 139. *ве́нцяр* 20, 24 *(тры ду́шкі, прыро́блены кры́лля, а па канца́х ко́лікі, адзі́н ззаду ў карме́, а два ў кры́ллях, ро́бяць з пру́цікаў)*, 25 *(кры́ллі і куле́к і мно́га абручо́ў)*, 30 *(ве́нцяр з адны́м крыло́м)*, 50, 52а, 53 *(ве́нцяр абавязкова з крыламі, а се́тка на каблуку́, не з лазы), 54,* 55, 58, 60, 64 (з крыламі), 65 (з крыламі), 71, 99 (з крыламі і заднім крылом), 105, 110 (з крыламі). *ве́нцір* 35, 41. *вэ́нтэр* 90, 94 *(з ніто́к)*, 94а, 103.

*вінцір* 4. *вінцяр* 18 (з крыламі).

*я́тэр* 96, 96а.

*ве́рша* 134. *вэ́рша* 91, 93, 97.

*ве́ршка* 92. *е́рша* 42.

*жак* 17, 73, 85 (жак без пол), 98 (рэдк.), 113, 131, 132.

*кош* 111 (з лазы), 114 (з лазы), 135, 137, 140 *(кош без кры́льей, вон плеце́цца з лозы́, а ў сере́дзіну ўплёетваецца ву́сцьве)*. *кыш* 107.

*буч* 3, 5, 18 (буч з лазы), 26, 27, 52 (плеценая з дубцоў лавушка).

*бýча* 47 (бучу ставяць на рыбу ў нераст), 48.
Адзінкавыя: *хабóтня* 5. *мірóга* 7. *чуп* 12. *прутня́* 14. *куль* 23. *кýлік* 23. *сак* 29 (трад.). *чарпло́* 31. *мярóжа* 34. *кабéнь* 42. *нáстаўка* 54. *рашóтцы* 67 (ставяць зімой, б. ч. на ўюноў). *вáта* 72. *скрыпка* 76 (з *сінюхі* — тонкіх дошчачак, надраных з дрэва). *патсáка* 77. *кóшык* 98. *сáчык* 101, 102. *таптýха* 31, 116. *стрýга* 86 (з дубцоў). *баўтýн* 110 (кош, у які заганяюць рыбу, топчачы). *баўтýха* 116, 142. *падсáка* 123. *гірка* 124.

### Карта № 334

## КРУЧОК У ВУДЦЫ

№ 1802 «Я. н. кручок у вудзе: кручок, гачок, зазубень...»
Матэрыялы па гэтаму пытанню сведчаць аб агульнапашыранасці ў сучасным ужыванні ў беларускіх гаворках назвы *кручóк (крючóк)*. Іншыя назвы кручка ў вудзе, якія былі пашыраны, відаць, у некаторых рэгіёнах раней (паўночны захад, Палессе), адзначаны зараз фактычна толькі як спарадычныя (іншы раз як старыя, напрыклад, 84, 104).
Як *кручóк* картаграфуецца *кручóчак, кручéчок,* як *зáзубэц* — *зазýбчык,* як *гачóк* — *гáчак,* як *вýдка* — *вýдачка, вýда.*
*кручóк* 1—3, 4 (з *зáзурбам*), 5—8, 8а—13, 15, 17—22, 24, 25, 25а—31, 33—38, 40, 42, 43, 45—49, 49а, 51, 52, 52а, 53—70, 71 (у кручку быў *зáзубень*), 72—82, 88, 90, 93, 94, 94а, 96а, 99—102, 104—107, 110—113, 115—120, 120а, 122—131, 134—139, 140 (на кручкý е *застóй*), 141, 142. *крючóк* 14, 16, 32, 39, 41, 44, 65, 79, 83, 84, 89, 117. *кручóчак* 102. *кручэ́чок* 132.
*зáзубень* 54, 85 (трад.), 104 (стар.), 114 (стар.). *зáзубэнь* 94а, 103.
*зáзубэц* 108, 109, 133. *зáзубчык* 133.
*гачóк* 46, 90—92, 96—98, 102. *гáчак* 46.
*вýдка* 86. *вýтка* 19. *вýдачка* 23 (малы кручок). *вýдачка* 58 (на дробную рыбу). *вýда* 23 (вялікі). *вýда* 25 (вялікі кручок).
Адзінкавыя: *зачэ́п* 94а.

### Карта № 335

## ЖАК

№ 1813 «Я. н. нерат з крыламі: жак...»
На карце адлюстроўваецца пашырэнне слова *жак,* а таксама некаторых іншых слоў у падобным значэнні.
Як мярóжа картаграфуецца *мірóжа, мірэ́жа, мярóга, мірóжка, мірóш.*
*жак* 5, 6, 8 *(с крыльямі, два крылá),* 8а, 14, 16, 32, 36, 39, 43, 47, 73 (крылы з нітак), 74, 75, 77 *(з крылушкамі; у жакáх куль ёсць, сéтка і абручы крýглыя),* 79, 80, 82—84, 86, 87, 89, 90—93, 96, 97, 98, 100, 103, 107, 108 (*двойчáк* — з двума крыламі, *аднокрылец* — з адным крылом), 109, 113, 114, 118—120, 120а, 122—134, 136—142.
*вéнцяр, вéнцер* 23, 24 *(с крыллямі),* 25 (жак чулі, але тут *вéнцяр*), 25а (з вузкім уваходам і з крыламі), 27, 28, 31, 48, 49а, 52а (аднакрылы і двухкрылы), 54, 64, 65, 68, 71, 72, 99, 104 (с крыламі), 110 (с крыламі), 111, 112, 116, 117, 139. *вэ́нтэр* 94.
*мярóжа* 12 (с чубамі г. зн. два венцяры на канцах сеткі), 30, 34, 39. *мірóжа* 13 (сетка с двумя чубамі г. зн. венцярамі па канцах), 17, 29. *мерóжа* 94а (два венцяры на адным крыле). *мірэ́жа* 18. *мярóжка* 43. *мярóга* 7. *мірóш* 21.
*нéрат* 10, 11 (с крыламі), 46, 63, 66 (з нітак, абручы чатыры і горла), 67 (с крыламі). *нéріт* 85.
*нарóт* 1 (ставілі каля *заéскаў; дýжкі далявыя і крýглыя,* абцягнуты сеткай). *нóрат* 32 (з крыламі).
Адзінкавыя: *крылач* 94а (з адным крылом). *буч* 22. *сáчык* 102 (з прывершнікам).

### Карта № 336

## АБРУЧ У ВЕНЦЕРЫ

«Я. н. абручы ў жаку, нераце і іншых рыбацкіх прыладах: каблук, камлук, казаблук, калач...»
Матэрыял паказвае супрацьпастаўленне гаворак заходняй часткі Беларусі, якім характэрны назвы *каблýк (закаблýк, камлýк* і інш.) і *лук,* усім іншым гаворкам на тэрыторыі краіны, дзе пашырана ў падобным значэнні слова *абрýч.* У шэрагу выпадкаў картаграфаваліся рэканструяваныя формы адзіночнага ліку назваў на падставе форм у множным ліку.
*абрýч* 3, 4 *(абручы́ ў вінцяры́),* 6 *(абручы́),* 8 *(абручы́),* 8а, 10, 12—14, 16, 23, 24 *(абручы́),* 25 *(абручы́),* 25а, 27, 31, 33, 35—37, 39, 40 *(абрýч для жáка, абручы́ для нóрыта),* 43, 49а, 57, 67—69 *(абручы́),* 71, 72, 74—76, 77 *(у жаку абручы́ і рэ́бры),* 79, 82—86 *(абручы́),* 89, 90, 91 (жалезны), 99, 104—106, 110, 111, 116, 118—120, 123, 125, 126, 129, 133, 135 (мн. *абручы́*), 139, 141. *абручы́* 5, 11, 17, 18, 22, 26 *(абручы́ ў сачкý),* 32, 34, 44, 63, 65, 66 *(у нéраце два абручы́),* 70, 73, 80, 124. *абручэ́* 61. *обрýч* 94 (мн. *обручі*), 101—103, 117, 131, 132 (мн. *обручы́*), 134, 136, 137 (мн. *обручэ́*). *вобрýч* 138. *обручы́* 107.
*бруч* 122, 134. *бручы́* 87.
*óбруч* 133, 140.
*каблýк* 28, 45, 46, 47 *(каблук гнуць бóльшу часць з ёлкі),* 53, 54, 62, 83, 90 *(каблукі* — мн.), 91 (драўляны), 92 *(каблукы́),* 93, 94 (мн. *каблукі*), 94а (мн. *каблукы́*), 96 (мн. *каблукы́*), 96а, 97, 98 (мн. *каблукé*), 99, 100, 102, 103. *коблýк* 107.
*камлýк* 18, 50.
*закаблýк* 48 *(у нéраце за закаблукé зачаплялі сéтку),* 49, 56.
*каблýч* 108 (мн. *каблучі*), 109 (мн. *каблучі*).
*калáч* 113, 114 *(калачы́).*
*лук* 19, 20, 51, 52 (*лучóк* — меншы), 58 (круглы лук). *лукá* 52а (у мн. *лýкі*).
*дугá* 7, 28, 29.
*дýжка* 42. *дýшка* 1 (мн. *дýшкі*), 2 (мн. *дýшкі*), 24. *дýшкі* 21, 30.
Адзінкавыя: *кальцó* 7, 54. *кóльцы* 125. *кóльбы* 17.

### Карта № 337

## РЫБАЛОЎНАЯ ПРЫЛАДА БУЧ, БУЧА

№ 1821 «У якім значэнні ўжываецца слова буч (буча)?»
Карта адлюстроўвае пашырэнне слова *буч (бýча)* у значэнні «рыбалоўная прылада». Ужыванне гэтага слова ў іншых значэннях фіксавалася чамусьці не ўсюды (хаця яно, трэба думаць, з'яўляецца агульнапашыраным).
Як *бýча* картаграфуецца *бýчка.*
*буч* — 'рыбалоўная прылада' 1 (*буч* робяць з лазы, *усéнак* у бучы, г. зн. горла), 2 (*буч* пахожа на *норат,* к хвасту звужаецца), 3, 4 (*буч* робяць з лазы), 5, 6 (*буч* плялі з лазы ці з ляшчынніку, ставілі на глыбокім месцы), 8а (ручная лавушка з лазы ў выглядзе конуса), 9 (яго плялі з лазы), 18 (*буч* з лазы), 19 (лавушка, плеценая з лазы), 20 (снасць, сплеценая з вітак) 21—23, 24 (плеценая з лазы лавушка), 25а (як невылівайка), 26 (робіцца з лазы), 27 (прыстасаванне для лоўлі рыбы з лазы ці нітак), 40,

46 (буч плецены з дубцоў з двумя днамі, як мухалоўка, туды рыба залезе, а назад — не), 47, 52 (плеценая з *жылбуцёў* лавушка на рыбу, *у бучў два лўкі* — большы і меншы, ставілі зімой), 54 (ручная лавушка ў выглядзе конуса), 57 (лавушка для рыбы, плеценая з лазы, без крыл, мае горла, ставяць на ноч), 65.

*бўча* — 'рыбалоўная прылада' 7 (буча робіцца з лазы), 25 (рыбалоўная снасць, сплеценая з пруццяў), 45 (буча длінная з лазы плеценая, у яе рыба ўваходзіць, а назад не патрапіць), 48 (сетка-лавушка), 49а (кошык для злоўленай рыбы), 51 (кашэль такі з грубых нітак; загароджваюць раку і ставяць *бўчу*), 55 (мяшок з лазы на жывую рыбу). *бўчка* 49.

*бўча* — 'сварка, калатэча' 10, 71, 75, 79, 82, 84, 86, 90, 92, 94а, 95, 98, 102, 103, 108, 109, 124, 127, 132, 135, 137—140, 142.

*бўча* — 'вір, глыбокая завадзь на рацэ' 60.

## Карта № 338

# ПАЛАТНО ДЛЯ РЫБАЛОЎНЫХ СЕТАК

1816 «Я. н. сеткавае палатно: сятно, ценета...»

З зарэгістраваных назваў лексічнымі адпаведнікамі з'яўляюцца *сець, сётка (сітно, сётнішча), палатнó, цéнета.* Назвы *рэдзь, рэзь, рэж* адносяцца да спецыяльнага сеткавага палатна з буйнымі вочкамі, якое выкарыстоўваецца ў двухслойных або трохслойных сетках.

Як *сётка* картаграфуецца *сётка, ценетó* — як *цéнето, рэ́жа* — як *рэж.*

*сець* 16, 31, 70, 93, 102, 116, 120а (густая), 123, 132, 138, 141.

*сётка* 1 *(сётку візáлі),* 2 *(сётку іглíцай вязáлі),* 3, 4 (густая), 5, 6, 8а, 9—12, 18—23, 25—27, 30, 32—34, 43—45, 48, 49, 49а, 52, 54—57, 59, 61, 63—65, 67, 68, 72, 77, 84, 85, 92, 94, 96, 98—101, 104—106, 110, 111, 117, 119, 120, 127, 129—131, 135, 139. *сытка* 91. *сíтка* 90. *сёткa* 89.

*сётнішча* 13. *сíтно* 60.

*палатнó* 17, 24 *(палатно на сеткі),* 25а *(сетачнае палатно),* 28, 29, 31, 46 *(сяцяста палатно, палатно для сеткі)* 50, 51, 52а, 53 *(сеткавóё палатно),* 62, 66, 69, 71, 75, 86, 111, 118, 124—126. *пълатнó* 39, 73, 80 *(сéткавае пълатно).* *пылатнó* 79, 82, 83, 87, 89 *(брéдніва пылатно).* полотнó 96, 96а *(сéтково полотно),* 134, 138.

*цéнето* 107, 114. *тéнето* 103, 108, 109. *цéнято* 47, 113. *цéнета* 116. *ценетó* 133, 136, 137, 140.

*редзь* 14, 28. *рэдзь* 36, 120а (рэдк.). *рэць* 4 *(рэць* — редкая сетка), 74, 122. *ріць* 96. *рэзь* 31 (з вялікімі вочкамі), 37, 82 (сець з тоўстых вяровачак). 129.

*рыж* 94а. *рэ́жа* 31 (з вялікімі вочкамі).

## Карта № 339

# ПАЛОНКА

№ 1828 «Я. н. палонка, прабітая ў лёдзе для лоўлі рыбы: пелька, палонка, пролубка...» № 1827 «У якім значэнні ўжываецца слова пель (пелька): а) прасечаная палонка на рэчцы зімой б) нізкае месца, нізіна сярод поля...»

Зарэгістраваныя дыялектныя назвы з'яўляюцца пераважна дастаткова дакладнымі лексічнымі адпаведнікамі. Але сэнсавы аб'ём большасці назваў, відаць, шырэйшы за значэнне, сфармуляванае ў пытанні. Яны абазначаюць наогул прасечаную палонку або прамыіну ў лёдзе.

Як *прóлуб* картаграфуецца *прóлуба,* як *пáнеўка* — *пáнаўка.*

№ 1828 *палóнка* 25 (нов.), 42, 44, 48, 55, 56, 60—62, 65, 67, 83, 85, 87, 88, 93, 99, 100, 104, 105, 111, 120, 142. *полóнка* 90, 94, 96а, 97, 101, 107, 113, 114, 131, 133, 134, 137, *пулóнка* 92, 98.

*палóмка* 60.

*апалóнка* 67. *ополóнка* 96, 108, 109, 132. *ополўнка* 94а.

*болóнка* 90. *полóнька* 95, 103, 106, *полéнька* 102.

*пéлька* 44 (рэдк.), 66, 69—72, 75 (нов.), 77, 115—119, 122—127, 129, 130, 135—139, 141, 142.

*пéля* 122, 140.

*прóлубка* 40, 42, 44 (палонка, якая ўтваралася натуральна, скрытая пад снегам), 57, 59, 89. *прóлупка* 2, 4, 8а, 10, 11, 18, 20, 23—25, 25а, 32, 50, 68. *прóлапка* 1, 2, 22, 74. *прóлъпка* 5.

*прóлуб* 9. *прóлуба* 3, 19.

*прóлумка* 35, 51, *прóламка* 26, 36, 52а, 58, 63.

*пралóнка* 45.

*пралóмка* 46, 47, 49а, 53, 54, 64.

*прóрупка* 26 (нов.), 27, 73, 83, 102.

*прóруб* 90, 93 (нов.), 136.

*лўнка* 7, 8, 12, 14—16, 25а, 29—34, 36, 37, 39, 75, 79, 91.

*лўнька* 28.

*прадўха* 25. *прóдух* 24. *прадўхвіна* 84. *духí* 80, 110.

*пáніўка* 84. *пáнеўка* 86. *пáнаўка* 75. *пáныўка* 43. *цюшка* 6, 7,

№ 1827. *пéлька* — «палонка» 44, 69—72, 75 (нов.), 76, 77, 82, 85 *(пель),* 112, 115, 117—119, 122 (і *пéля*), 123—131, 135—137 (і *пéля*), 139, 140 *(пéля),* 141, 142. *пéлька* — «невялікае круглае балотца» 116 *(пель),* 120 *(пéля).* *пéлька* — «пустэча, неўрадлівае поле» 69. *пéлька* — «адтуліна, у прыватнасці, рот, вузкі праход» 96. *пéлька* — «частка ў рыбалоўных прыладах» 80.

Адзначаны іншыя назвы ва ўказаных значэннях: 1 *прóлапка* — прабівалі пешняй у лёдзе. 2 *прóлупка* (знач.?). 3 *прóлуба* — у знач. а, *нізíна* — у знач. б. 4 *прóлупка* — прасякаюць зімой на возеры. 6 *нáда прасячы цюшку* (у знач. а). 7 *лўнка, цюшка* — у знач. а, *лахчына, балацíна* — у знач. б. 8 *лўнка, прóлупка* — у знач. а. 10 *прóлупка* — у знач. а, *лўжок* — у знач. б. 13 *пълъня́* — прамыіна ў лёдзе, рыба *аттушыла.* 14 *лўнка* — у знач. а, *лашчына* — у знач. б. 14 *пълъння́* — прамыіна, *лўнка* — прасечаная пелька (у лёдзе). 16 *лўнка* — у знач. а, *нізíна, лашшына* — у знач. б. 17 *лўнка* — у знач. а, *нізíна, лашчына* — у знач. б. 18 *прóлупка* (знач. ?). 20 *прóлупка* (знач. ?). 21 *лóнка* — прасечаная палонка. 22 *прóлапка* — у знач. а, *нíската* — у знач. б. 24 прасякаюць *прóлапку, прóдуя* (знач. ?). 25 *прóлупка, палóнка* прасечаная — у знач. а. 28 *лўнька* — у знач. а. 29 *лўнка* — у знач. а, *нізíнíа* — у знач. б. 35 *прóлымка, прóлумка* — у знач. а, *лахчына, нізíна* — у знач. б. 37 *лўнка* — у знач. а. 40 *палóнка* — у знач. а. 47 *пралóнка* — у знач. а. 48 *далíна* — у знач. б. 49 — *пралóмка* — у знач. а, *далíна* — у знач. б. 51 *прóлумка,* прасякаюць *прóлумку.* 57 *прóлубка* — у знач. а. 58 *прадўха, прóламка* (у знач. ?). 59 *прóлубка* — у знач. а. 60 *палóнка* — у знач. а. 66 *пéлька* — прасякаюць *пéшняй, як лёт тóўсты.* 67 *апалóнка* — у знач. а, *нізíна* — у знач. б. 68 *прóлупка* — у знач. а, *нізíна* — у знач. б. 75 *пáнаўка* (трад.), *лўнка* — у знач. а, *нізíна, лагчына, вадастой* (нов.). 80 *пáнеўка* (знач. ?). 83 *пáныўка* — у знач. а. 84 *прадўхвіна, пáнюўка* — у знач. а, *балóцьвіна* — у знач. б. 85 *пáніўка* — у знач. а. 86 *пáнеўка* — у знач. а, *лашчына* — у знач. б. 90 *прóруб, полóнка, болóнка* — у знач. а, *долíна, нізíна* — у знач. б. 94 *полóнка* — у знач. а, *лотчына* — у знач. б. 94а *ополўнка* — у знач. а, *луговына, долына* — у знач. б. 95 *палóнка* — у знач. а, *ныз, лошчына* — у знач. б. 98 *пулóнка* — у знач. а. 98 *палóнка* — у знач. а. 102 *полэ́нька* — у знач. а, *долына* — у знач. б. 104. *палóнка* — у знач. а. 107 *палóнка* — у знач. а. 108 *ополóнка* — у знач. а, *лошчына* — у знач. б. 108 *ополóнка* — у знач. а, *долына* — у знач. б. 110 *дух у нас прасякаюць* (у лёдзе). 132 *ополóнка* — у знач. а. 133 *полóнка* — дзірка ў лёдзе.

## Карта № 340

# ГАДЗЮКА

№ 1838 «Я. н. ядавіты гад: гадзюка, вужака...»

Пры картаграфаванні дыялектнага матэрыялу карнявыя адрозненні на карце супрацьпастаўляюцца фігурамі, а словаўтваральныя — унутраным напаўненнем фігур. У п. 134 адказ *гад* «самец» не картаграфуецца, паколькі не адносіцца да тэмы карты.

Адказ *гадзюк* нанесены тым жа знакам, што і *гадзюка.*
*гад* 57, 96, 96а, 98, 127. *гат* 8а.
*гадзюка* 2, 4, 12, 16, 17, 21, 25а, 29, 31, 32, 35 (рэдк.), 38, 40—43, 45, 48, 51, 53, 54, 57, 59—64, 66—78, 80—88, 89 (рэдк.), 93, 96, 99—102, 104—106, 110—130, 135—138, 140—142. *гадзюк* 92. *гадюка* 90, 91, 94а, 95, 97, 98, 103, 108, 109 (рэдк.), 131—134. *гад$^{дз}$юка* 94.
*гáдзіна* 2, 3, 18—20, 22, 23, 47, 49а, 52, 52а, 53, 57—59, 66, 69, 107, 135 (рэдк.). *гáдына* 90 (рэдк.), 94а, 95 (рэдк.), 98, 103, 108, 109, 132 (рэдк.).
*гадзюга* 4, 52.
*гáдыня* 21, 24, 25.
*гáдыўка* 16.
*змяя* 47, 49, 50, 51, 55, 88, 89. *змія* 4, 8а, 9, 12—14, 16, 17, 36, 39, 90 (рэдк., нов.), 98. *змея* 113, 135 (рэдк.).
*жмея* 51.
*вуж* 46. *вуш* 33, 54, 56.
*вужáка* 1, 5—11, 13, 15, 26—31, 34, 35, 37, 38, 40, 44, 66, 67, 79, 81, 83, 84, 89 (рэдк.), 127, 136.
Адзінкавыя: *вереце́нніца* 14. *кóмля* 139.
Адведзены: *гад* (самец) 134.

## Карта № 341

# ГАДЗЮКА ШЫПІЦЬ

№ 1841 «Гадзюка шыпіць, сіпіць...»
Адказ *кусáіць* не картаграфавалі, паколькі ён не адносіцца да тэмы карты.
57, 59—65, 67—69, 71, 75, 78—88, 99, 100, 104—107, 110, 112, 115—117, 123—125, 128, 129, 135—139, 142. *шыпы́ць* 92. *шыпíт* 93, 102. *шыпы́т* 91. *шыпы́ть* 95 (рэдк.), 96а, 97, 103, 108, 132. *шыпэ́ть* 131.
*сіпíць* 4, 7—12, 14—16, 25а, 29, 30, 32—35, 38, 39, 41, 42, 44, 46, 70, 73—77, 81—83, 85, 87, 89, 101, 118—122, 126 *(сіпіць як гусь, пачуеш іздалёку),* 127, 130, 141, 142.
*сыпíць* 56, 72, 140.
*сычы́ць* 51. *сычы́т* 90. *сычíт* 94. *сычы́ть* 94а, 95, 96. *сычэ́ть* 98. *сíчіць* 113.
*сы́кае* 23, 133, 134. *сы́кая* 50—52, 66, 111. *сы́каіць* 1.
*шы́кае* 103, 107, 109, 114. *шы́кая* 56, 58.
*свíшча* 19, 52, 58, 64. *свы́шчэ* 109, 133.
Адзінкавыя: *съпíць* 5. *сьніпíць* 18. *шчыкоціць* 107. *жы́кае* 109. *кудáча бы кýра* 122. *пшычэ́ть* 131.
Адведзены: *кусáіць* 7.

## Карта № 342

# ВУЖ

1842 «Я. н. неядавіты гад: вуж, вужак, гужак...» АЛА 79 Qzь // gQzь уж — диал. guž — wąż.
Супрацьпастаўленне дыялектнага матэрыялу праведзена па гуку, які вымаўляецца ў пачатку слова (в, г, й) і на карце гэта адлюстравана розным напаўненнем унутры фігур. Супрацьпастаўленне па фігурах паказвае словаўтваральныя адрозненні. Адведзены ад картаграфавання як неадпавядаючыя тэме карты адказы *гáдзіна, гадзюкі, гадзюка, ужáха* (саміца).
*вуж* 10, 11, 14, 35—37, 42—46, 48, 49а, 59, 61, 67, 73, 75, 77—79, 81, 82, 84—88, 92, 94а, 98, 101, 102, 104, 106—109, 113—124, 127—130, 133.142. *вуш* 4—8, 12, 13, 15, 16, 21, 24, 25а, 27, 29, 32, 34, 35, 38, 39, 50 (р. *вужá),* 52а—56, 60—63, 65, 66, 68, 69, 71, 72, 76, 83, 89, 98—100, 105, 111, 112, 125. *ўуж* 9. *вуж$^{ш}$* 70. *вуш$^{ж}$* 110.
*гуж* 47, 59 (трад.), 95, 131—133. *гуш* 23, 49, 53, 58, 64.
*уж* 17, 90, 91, 93, 94, 96, 96а, 97, 103. *уш* 18, 20, 51.
*вужáка* 3, 8а, 26, 28, 33, 35, 40, 41, 53, 57, 73, 74, 80, 98, 104, 125, 126, 134, 135.
*вужáк* 21, 85.
*ужáка* 25.
*ужáк* 19.
Адзінкавыя: *заскрóнец* (трад.) 57.
Адведзены: *гáдзіна, гадзюкі* 22. *гадзюка* 40. *ужáха* (саміца) 133.
АЛА: *вуж* 1А, 2А, 4А, 6А—8А, 10А—14А, 17А, 18А, 20А, 23А, 25А—28А, 39А—42А, 47А, 51А, 53А, 54А, 56А, 57А, 59А, 60А — 63А, 65А—67А, 70, 115. *вуж$^{ш}$* 58А. *вуш* 9А, 21А, 22А, 24А, 29А, 33А, 34А, 36А, 44А, 46А, 49А, 50, 53А, 61А. *вудж* 38А.
*гуж* 30А, 45А, 48А, 64А. *гуш* 35А, 37А, 50А. *гуш$^{ж}$* 55А.
*уж* 43А, 52А.
*юж* 45А, 64А.
*вужáка* 3А, 5А, 16А, 20А, 23А, 31А, 32А, 63А, 70. *вуджáка* 38А.
*вужáк* 14А.
*ужáка* 19А.

## Карта № 343

# ЯШЧАРКА

АЛА № 83 'Ящерица' (Lacerta) ящерица — gŭstěr, gŭsterica — jaszczurka.
Для складання карты дадаткова выкарыстаны сабраныя толькі часткова матэрыялы па пытанню ЛАБНГ № 1843 «Яшчарка, яшчурка, яшчарыца...» Запаўненнем унутры круга паказаны словаўтваральныя супрацьпастаўленні картаграфуемых назваў.
*я́шчарка* 3А, 6А, 11А—20А, 22А, 29А—34А, 37А, 40А, 41А, 46А, 49А, 50, 50А, 51А, 55А—58А, 60А, 61, 61А, 63А, 66А, 67А, 70, 115. *я́шчырка* 1А, 2А, 4А, 5А, 9А, 21А, 23А, 25А, 36А, 38А, 39А, 42А, 52А, 62А. *я́шчэрка* 45А, 47А, 53А, 54А, 59А, 65А. *я́шчурка* 39А, 43А, 50А, 64А. *я́шчърка* 7А, 8А. *е́шчэрка* 48А.
*я́шчарыца* 22А, 26А, 27А, 29А, 44А, 60А. *я́шчараца* 28А, 50. *я́шчырыца* 10А, 35А.
Адзінкавыя: *я́шчур* 25А.
№ 1843: *я́шчарка* 4, 9—11, 19, 54, 60, 69, 130. *я́шчурка* 83, 92, 96А, 131. *я́шчэрка* 107, 133, 136. *я́шчырка* 78, 79, 83, 85, 87, 89, 93. *я́шчърка* 8а. *е́шчурка* 98.
*я́шчарыца* 54, 58, 62. 88. *я́шчырíца* 79, 85, 87.

## Карта № 344

# П'ЯЎКА

№ 1845 «П'яўка, п'явіца, п'яга...»
Фігурамі на карце супрацьпастаўляюцца словаўтваральныя адрозненні, а фанетычныя — унутраным напаўненнем фігур. Словы *упівáлка, апівáлка* і *півáўка* картаграфавалі тым жа знакам, што і *півáлка:* адказы *п'е́ўка* і *п'я́ўкі* на карту наносілі тым жа знакам, што і *п'я́ўка.* Адведзены ад картаграфавання адказ *смоўж,* паколькі не адносіцца да тэмы карты.
*п'я́ўка* 1—6, 8—16, 18—38, 40—45, 48, 50, 52, 52а, 54, 56—59, 60 (рэдк.), 62—73, 75—87, 89, 93, 94, 88, 100, 102, 104, 105, 107, 110—112, 115—121, 123—130, 135—139, 141, 142. *п'я́вка* 90, 91, 92, 94а, 96, 96а, 97, 107, 131. *п'е́ўка* 122. *п'е́вка* 98. *п'е́ўка* 66 (трад.), 74. *п'я́ўкі* 140.
*пля́ўка* 53, 61, 106. *пля́вка* 95, 103.
*пія́ўка* 7, 60, 88.
*півáлка* 16, 17. *апівáлка, упівáлка* 16. *півáўка* 39.
*п'яўгá* 133. *п'явгá* 113, 132. *п'еўгá* 114, 134.
*п'я́віца* 47, 49, 49а, 51, 55, 101, 102.
*пля́віца* 46. *пля́выца* 109.
Адведзены: *смоўж* 69.

## Карта № 345

# ЖАБА (Rana)

№ 1846 «Я. н. жаба зялёнага колеру, якая жыве ў вадаёмах: жаба, лягушка, лягуха, люгашка...» АЛА 85 'лягушка' (Rana).

